ГАРАДЗЕНСКІ СОЦЫУМ

# Чалавек у прасторы горада. XV–XX стст.

Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі
(Гародня, 7–8 лістапада 2014 г.)

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2015

УДК 947.6
ББК 63.3(4Беи)
Г20

Пад рэдакцыяй *А. Ф. Смаленчука* і *А. К. Краўцэвіча*.

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук З. В. Шыбека,
кандыдат гістарычных навук А. Ф. Вялікі.

Г20 **Гарадзенскі** соцыум. Чалавек у прасторы горада. XV–XX стст. : Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 7–8 лістапада 2014 г.) / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука і А. К. Краўцэвіча. – Мінск : Зміцер Колас, 2015. – 380 с.
ISBN 978-985-6992-72-1.

Матэрыялы зборніка прысвечаныя сацыяльным аспектам гісторыі Гародні ды іншых гарадоў Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны. Галоўным героем зборніка з’яўляецца гараджанін як суб’ект лакальнай гісторыі, а таксама гарадскі гісторыка-культурны асяродак.

Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гістарычная ўрбаністыка і сацыяльная гісторыя.

**ББК 63.3(4Беи)**
**УДК 947.6**

**ISBN 978-985-6992-72-1.**



*Памяці беларускага гісторыка і архівіста*
*Віталя Скалабана (1947–2011)*
*прысвячаецца.*

# ЗМЕСТ

ДЫСКУСІЯ

# CONTENT

DYSCUSSION

# Прадмова

У Гародні працягваюцца даследаванні сацыяльнай гісторыі горада ў кантэксце мінулага іншых гарадоў Беларусі і ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Аб’ектам увагі застаецца гараджанін як суб’ект лакальнай гісторыі, а таксама грамадска-палітычны, канфесійны і культурны асяродак, у якім праходзіла яго жыццё.

Канферэнцыя, якая адбылася падчас святкавання Дзён святога Губерта ў лістападзе 2014 г., сабрала беларускіх, украінскіх, польскіх і літоўскіх даследчыкаў. Тэматыка рэфератаў аказалася надзвычай багатай і датычнай самых розных аспектаў сацыяльна арыентаванай гістарычнай урбаністыкі.

Аляксандр Краўцэвіч (Гародня) прааналізаваў этнічныя, рэлігійныя і палітычныя працэсы ў гарадах Панямоння ў X–XI стст. і адзначыў ролю славянаў-язычнікаў у станаўленні гэтых гарадоў. Альбіна Семянчук (Гародня), засяродзіла ўвагу на гарадзенскіх вальных соймах XVI ст., якія засведчылі паступовы рост значэння Гародні як адміністрацыйнага цэнтра ў ВКЛ. Ролі мяшчанаў у сістэме абароны Любечскага староства (Кіеўскае ваяводства) у другой палове XVI – першай палове XVII ст. прысвяціў сваё даследаванне гісторык з Чарнігава Ігар Кандрацьеў. Менская даследчыца Ірына Ганецкая зазірнула ў жыццё жыхароў прыватнага мястэчка Глуска-Дубровіцкага (Наваградскае ваяводства) у XVIII ст. Аб’ектам даследавання Цімафея Акудовіча (Менск) стала рэформа гарадскога самакіравання і правоў мяшчан, якая распрацоўвалася Камісіяй на чале з канцлерам ВКЛ Яўхімам Храптовічам падчас працы Вялікага сойму Рэчы Паспалітай 1788–1792 гг.

Ужо традыцыйнай тэмай гарадзенскіх навуковых сустрэчаў стала асвятленне крымінальнай хронікі жыцця Гарадзеншчыны. Віталь Галубовіч (Гародня) на падставе судовых матэрыялаў паказаў спецыфіку цяжкіх злачынстваў сярэдзіны XVI ст. Алесь Радзюк (Гародня) і Таццяна Вароніч (Менск) зазірнулі ў гарадзен-

скія «Ведамасці аб здарэннях», якія мясцовы губернатар двойчы ў месяц прадстаўляў імператару.

Вячаслаў Швед (Гародня), працягаючы даследаванне гісторыі паўстання 1863 г., знаёміць чытача з жанчынамі – ўдзельніцамі паўстання ў Гарадзенскім ваяводстве. Тэматыка змагання «за волю нашу і вашу» спалучаецца з гісторыяй «аднаго вераадступніцтва». Вольга Сабалеўская (Гародня) у жыцці Майсея Гурвіча ўбачыла ў нечым тыповы працэс ператварэння габрэйскага «рэвалюцыянера побыту» ў рэнегата і вераадступніка. Габрэйскую тэматыку працягнула Любоў Зорына (Гародня), якая распавяла пра габрэяў-будаўнікоў праваслаўных цэркваў на Гарадзеншчыне ў другой палове XIX ст.

Валянціна Лебедзева (Гомель) на прыкладзе лёсу мешчаніна мяст. Баркулабава Афанасія Рыка і яго сыноў, якія стварылі дынастыю купцоў і прадпрымальнікаў, паказала працэсы сацыяльнай мабільнасці рэгіянальнай гарадской эліты ў XIX ст. – пачатку XX ст. Нелегальныя камерцыйныя практыкі віленскага купецтва XIX ст. сталі прадметам даследавання Аэліты Амбралевічутэ (Вільня).

Горад і гараджане перыяду рэвалюцый 1917 г. і грамадзянскай вайны апынуліся ў цэнтры ўвагі ўкраінскіх даследчыкаў Вольгі Зубко (Вінніца) і Уладзіміра Бойкі (Чарнігаў). Першая засяродзілася на гумары як вельмі важным элеменце гарадской штодзённасці гэтага надзвычай складанага перыяду гісторыі. Уладзімір Бойка грунтоўна прааналізаваў тактыку розных нацыянальных палітычных сіл Украіны ў выбарчай муніцыпальнай кампаніі 1917 г. Дзейнасці Гарадзенскага школьнага інспектарату падчас савецка-польскай вайны 1919–1920 гг. прысвяціла свой артыкул Алена Трубчык (Менск).

Асобны блок утварылі даследаванні міжваеннай Гародні 1921–1939 гг. Юры Мілеўскі (Беласток) засяродзіўся на праблеме міжнацыянальных стасункаў у горадзе, які ён ахарактарызаваў як «малую Вавілонскую вежу». Адам Дабраньскі (Беласток) знаёміць чытача з апісаннем Гародні і павету 1931–1932 гг., складзеным вайскоўцамі III корпуса, штаб якога знаходзіўся якраз у Гародні. Ларыса Міхайлік (Гародня) прааналізавала сістэму вайскова-

га душпастырства ў II Рэчы Паспалітай і распавяла пра лёс тых прадстаўнікоў гарадзенскага духавенства, якія павінны былі забяспечваць права свабоды веравызнання для жаўнераў Войска Польскага. Фёдар і Галіна Ігнатовічы (Гародня) падрабязна ахарактарызавалі дзейнасць мясцовага музычнага і драматычнага таварыства «Муза». Андрэй Вашкевіч і Віктар Саяпін (абодва Гародня) засяродзіліся на «смаках Гародні» і распавялі пра свет рэстаранаў і кавярняў міжваеннага горада.

Вусная гісторыя стала галоўным даследчым метадам для Андрэя Вашкевіча і Таццяны Касатай (Гародня), якія на падставе вусных успамінаў гарадзенцаў знаёмяць чытача з жыццём горада падчас Другой сусветнай вайны.

Спроба Лаўрэнція Цанавы арыштаваць першага сакратара Гарадзенскага абкама КП(б)Б і сфабрыкаваць у Гародні ў 1949–1950 гг. «справу КПЗБ» стала прадметам даследавання Андрэя Кіштымава (Менск). На ролі беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка ў адраджэнні польскага культурнага і палітычнага жыцця на Гарадзеншчыне ў перыяд «перабудовы» засяродзіў сваю ўвагу Тадэуш Гавін (Гародня).

У рубрыцы «Дыскусія» змешчаны адказ Аляксандра Краўцэвіча (Гародня) на рэцэнзію выкладчыка ЕГУ Сцяпана Стурэйкі на выданне «Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам» (пад рэд. А. Смаленчука. Гародня, 2014), якая была апублікаваная на старонках часопіса ARCHE (2014, № 7–8).

Выданне гэтай кнігі стала магчымым дзякуючы падтрымцы *Orsa Pomano Cultural and Educational Foundation*. Рэдактары і аўтары зборніка выказваюць шчырую ўдзячнасць сп. Але Орса-Рамана.

*Алесь Смалянчук*

*Аляксандар Краўцэвіч,*
*доктар гіст. навук (Гародня)*

# Этнас, рэлігія і палітыка ў раннесярэднявечных гарадах Панямоння

Перыядызацыя сярэднявечнай гісторыі Беларусі не цалкам супадае з еўрапейскай. На беларускіх землях Сярэднявечча пачалося і закончылася пазней, чым у Заходняй Еўропе. Паводле прынятай еўрапейскай схемы гэтая эпоха падзяляецца на тры перыяды: ранняе сярэднявечча – V–X стст.; развітае ці высокае XI–XII стст. І позняе – XIV–XV стст. Адносна Беларусі ў падручніках і сінтэтычных працах прынятая такая ж схема, якая, аднак, падвяргаецца апраўданай, на мой погляд, крытыцы[1]. Верагодна, перыяд ранняга сярэднявечча ў беларускай гісторыі належыць аднесці да VIII–X стст. (пачаткаў працэсу дзяржаваўтварэння на Полаччыне і Тураўшчыне). Перыяд высокага сярэднявечча Беларусі супадае з заходнееўрапейскім – XI–XIII стст., бо ў канцы X ст. закончылася Вандроўка народаў, і на беларускіх землях, як і па ўсёй Еўропе, пачаўся дэмаграфічны і, адпаведна, гаспадарчы ды культурны ўздым. Этап позняга Сярэднявечча, які пачаўся ў XIV ст., на Беларусі можна працягнуць прынамсі да канца XVI ст.

У гэтым артыкуле гаворка пойдзе пра самы ранні перыяд гісторыі гарадоў Панямоння ад часу заснавання галоўных з іх (канец X ст.) да пачатку высокага Сярэднявечча з прыцягненнем дзеля параўнання матэрыялаў XII ст.

Паводле археалагічных даных менавіта ў канцы X ст. былі закладзеныя пачаткі галоўных гарадоў Панямоння (Наваградка, Гародні, Ваўкавыска). Усяго ў пісьмовых крыніцах XII–XIII стст. упамінаецца шэсць панямонскіх гарадоў: Горадзен, Новагарадак, Ваўкавыск, Услонім, Турэйск, Здзітаў. Пра раннесярэднявечны перыяд іх гісторыі пісьмовых вестак увогуле няма. Адно ў гістарыяграфіі можна сустрэць меркаванне пра верагоднае за-

снаванне Наваградка ў 1044 г. У прыватнасці «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» падае: «*Першае верагоднае ўпамінанне Наваградка ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1044 г. і звязана з паходам Яраслава Мудрага на Літву*»[2]. Аднак гэтая дата аспрэчваецца, бо па-першае, археалагічныя раскопкі паказалі існаванне неўмацаванага паселішча на паўстагоддзя раней; а, па-другое, запіс у летапісе пра заснаванне нейкага «Ноўгарада» яўна не звязаны са звесткай пра паход у Літву. («В лѣто 6552. … Ходи Ярославъ на Литву, **а на весноу** заложи Новъгородъ, и сдѣла и.»[3] (выдзяленне маё – *А. К.*, паход аддзелены ў часе ад закладкі горада).

Пісьмовыя крыніцы па сярэднявечнай гісторыі Панямоння вельмі нешматлікія і бедныя на інфармацыю. Горад Горадзен, а найперш, гарадзенскія князі некалькі разоў згадваюцца ў Іпацьеўскім летапісе ў запісах за XII ст. Іншыя панямонскія гарады як Наваградак, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў упершыню ў пісьмовых крыніцах сустракаюцца толькі ў сярэдзіне XIII ст. у запісе пад 1249/1250 г. пра паход на Панямонне галіцка-валынскіх князёў[4].

Асноўныя звесткі пра раннесярэнявечны перыяд гісторыі гарадоў Панямоння здабытыя праз шматгадовыя археалагічныя даследаванні другой паловы XX ст. Буйныя археалагічныя раскопкі праводзіліся ў Наваградку, Ваўкавыску, Гародні, Слоніме[5], у меншых маштабах даследаваліся і іншыя названыя паселішчы. Сабраныя калекцыі артэфактаў дазволілі высветліць не толькі характар матэрыяльнай культуры тагачасных гарадоў, але прынеслі шмат інфармацыі па тапаграфіі паселішчаў, этнічным складзе, рэлігіі іх жыхароў, а таксама палітычных адносінах у рэгіёне.

На сённяшні дзень найбольш вывучанае тапаграфічнае развіццё Ваўкавыска і Наваградка. Даследчыкі ўстанавілі, што першапачатковыя паселішчы, ад якіх пачыналіся названыя гарады, узніклі ў канцы X ст. на пагорках, дзе раней ніякіх пасяленняў не існавала. У Ваўкавыску, у адрозненне ад Наваградка, акрамя двух пачаткова неўмацаваных паселішчаў існавала яшчэ маленькая крэпасць (сённяшняя назва пагорка, дзе яна знаходзілася – Муравельнік)[6].

Табліца 1. *Засяленне пагоркаў старажытных Наваградка і Ваўкавыска.*

| Дата | Наваградак | | Ваўкавыск | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Замкавая гара | Малы Замак | Шведская гара | Замчышча | Муравельнік |
| Другая палова – канец X ст. | - | Неўмацаванае паселішча | Неўмацаванае паселішча | | Сховішча |
| Першая палова XI ст. | Неўмацаванае паселішча | Тое ж | Неўмацаванае паселішча, пазней агароджанае валам | Неўмацаванае паселішча | Умацаванае паселішча |
| Другая палова XI ст. | Дзядзінец | Пасад | Дзядзінец | Пасад | - |
| XII–XIII ст. | Дзядзінец | Вакольны горад | Дзядзінец | Вакольны горад | - |

**Крыніца**: Гуревич Ф. Д. О формировании городов Чёрной Руси по данным археологии // Советская археология. 1983. № 3. С. 64.

Раннесярэднявечную гісторыю гарадоў Панямоння даследчыкі падзяляюць на два перыяды: дагарадскі, працягваўся з канца X да сярэдзіны XI ст. і гарадскі – пачаўся з сярэдзіны XI ст. Асноўнай прыкметай перарастання ўсходнеславянскага паселішча ў горад з'яўляецца фармаванне трохкампанентнай планіровачнай структуры: дзядзінец – вакольны горад – неўмацаваны пасад[7]. Не ўсе дагарадскія паселішчы на Панямонні перараслі ў гарады, што выяўлена на прыкладзе Індуры (сёння мястэчка за 18 км на поўдзень ад Гародні).

## *Этнас*

Кім былі заснавальнікі панямонскіх гарадоў? Якім быў этнічны склад іх жыхароў у раннім Сярэднявеччы? Адказы на гэтыя пытанні таксама здабытыя праз вывучэнне матэрыялаў археалагічных раскопак. Галоўным метадам даследавання стала параўнанне розных атрыбутаў матэрыяльнай культуры (найперш, характэрных асаблівасцяў керамічнага посуду), знойдзеных на тэрыторыі панямонскіх гарадоў, з аналагічнымі артэфактамі таго ж часу з суседніх тэрыторый, на якіх жылі дакладна ідэнтыфікаваныя этнасы. У масавых керамічных вырабах з Наваградка вылучаюцца формы ўласцівыя для дрыгавічоў. У Ваўкавыску на пачатковым этапе існавання паселішча дамінуе тып гаршчкоў, вядомы з Паўднёва-Заходняй Валыні. Асобныя групы керамікі складаюць мазавецкі посуд і гаршчкі з Падляшша г. зв. драгічынскага тыпу[8].

Галоўная выснова даследчыкаў – гарады на Панямонні запачаткаваныя каланістамі з усходнеславянскіх земляў, якія прыйшлі на рэдка заселеную тэрыторыю балцкіх плямёнаў, менавіта яцвягаў, а ў басейне Віліі – аўкштайтаў. Заснавальнікамі і асноўнымі насельнікамі панямонскіх гарадоў былі ўсходнія славяне з племяннога саюзу дрыгавічоў. Акрамя таго, у фармаванні гарадскога насельніцтва прымалі ўдзел невялікія групы іншых славян (крывічы, валыняне, жыхары Падляшша і Мазовіі), а таксама выхадцы з мясцовых балцкіх плямёнаў. Толькі ў Ваўкавыску асноўнай групай насельніцтва былі валыняне, ды зафіксаваная таксама прысутнасць нарманскіх воінаў (на Муравельніку, дзе паселішча існавала да сярэдзіны XI ст.)[9].

Этнаграфічныя даследаванні паказалі, што сучасная Гарадзеншчына была зонай сутыкнення дрыгавічскай і крывіцкай плыняў каланізацыі. Мяжа іх сустрэчы вызначана на паўночны ўсход ад Гародні па лініі Радунь-Воранава-Ашмяны-Астравец і ўяўляе сабой паласу змешаных гаворак, пераходную ад паўднёва-заходняй да паўночна-ўсходняй групы беларускіх гаворак[10]. Спецыяльнымі даследаваннямі выяўлена, што Барысаглебскую царкву XII ст. у Наваградку будавалі віцебская і полацкая будаўнічыя арцелі[11].

Матэрыялы з даследаванняў пахаванняў паказалі, што гарадскія могільнікі былі агульнымі для ўсіх жыхароў рознаэтнічнага паходжання. У пахавальным абрадзе і інвентары выяўленыя як агульныя рысы, так і захаванне пэўных уласных асаблівасцяў. Археолаг Клаўдзія Паўлава, якая даследавала курганныя могільнікі пад Наваградкам, прыйшла да высновы: «*Прыйшоўшыя сюды славянскія плямёны знаходзіліся ў цесным кантакце з жыўшымі тут, відавочна, невялікімі групамі балцкімі плямёнамі, узаемна ўзбагачаючы сваю матэрыяльную і духоўную культуру*»[12].

## *Рэлігія*

Археалагічныя матэрыялы дакладна засведчылі, што гарады Панямоння заснавалі ўсходнія славяне-язычнікі. Аўтары археалагічных даследаванняў гарадоў Панямоння Фрыда Гурэвіч і Яраслаў Звяруга звярнулі ўвагу на адсутнасць у раннесярэднявечных культурных наслаеннях панямонскіх гарадоў прадметаў хрысціянскага культу да другой паловы – канца XI ст. У прыватнасці, адносна Наваградка Ф. Гурэвіч лічыць: «*Да канца XI ст. насельніцтва было язычнікамі*»[13]. Я. Звяруга ўдакладніў знаходкі, звязаныя з хрысціянствам: «*Першыя прадметы хрысціянскага культу – літыя нацельныя крыжыкі – з'явіліся ў панямонскіх гарадах не раней другой паловы XI ст.*»[14].

Ф. Гурэвіч першай выказала версію пра прычыну захавання язычніцтва ва ўсходнеславянскіх насельнікаў Панямоння яшчэ даволі працяглы час пасля афіцыйнага хрышчэння Русі ў 988 г.: «*Магчыма, што прыхільнасць да язычніцтва таксама была адной з прычын, спрыяўшых з'яўленню тут насельніцтва, якое імкнулася пазбегнуць хрысціянізацыі*»[15]. Аўтарка прыйшла да гэтай высновы, заўважыўшы храналагічнае супадзенне ў часе – канец X ст. – узнікнення панямонскіх гарадоў і правядзення гвалтоўнай хрысціянізацыі ўсходнеславянскіх земляў, якая, верагодна, і выклікала адыход часткі насельніцтва і хвалю славянскай каланізацыі Панямоння[16]. Хрысціянства ў праваслаўнай форме пранікала ў панямонскія гарады паступова, эвалюцыйным шляхам і без заўважнага ўжыцця гвалту.

## *Палітыка*

Гісторыкі і лінгвісты, якія вывучалі працэс рассялення ўсходніх славян на балцкіх землях, сцвярджаюць агульны мірны характар славянскай каланізацыі[17]. Калі і адбываліся нейкія сутычкі каланістаў з тубыльцамі, то яны не былі масавымі і не ўплывалі на агульны характар адносінаў. Пра мірны прыход славянаў сведчыць ужо сам факт, што іх паселішчы засноўваліся на незаселеных пагорках (для параўнання, напрыклад, сталіца Германіі Берлін быў заснаваны на месцы знішчанага славянскага паселішча). Другі факт – Наваградак, як і Ваўкавыск больш паўстагоддзя з канца X – да сярэдзіны XII ст. не мелі патрэбы ў абарончых збудаваннях і заставаліся неўмацаванымі паселішчамі.

Іншая справа Гародня, якая ўзнікла на беразе буйной ракі, па якой плавалі не толькі мірныя купцы, але і ваяўнічыя вікінгі ды рознапляменныя разбойнікі. Менавіта таму паселішча на сённяшняй гарадзенскай Замкавай гары, якая з трох бакоў мела натуральныя ўмацаванні – берагі рэк і яр, ад пачатку мела патрэбу ва ўмацаваннях.

Першыя абшчыны, у прыватнасці, у Наваградку былі вясковымі і арганізоўваліся традыцыйным племянным ладам. Пра Гародню з летапісаў вядома, што ў XII ст. яе князі знаходзіліся ў палітычнай залежнасці ад вялікіх князёў кіеўскіх. У Наваградку ў пачатку XII ст. Замкавая гара пераўтварылася ў дзядзінец – рэзідэнцыю князя. Ад гэтага часу пачало афармляцца Наваградскае княства. Верагодна, яно стваралася незалежна ад ўзнікнення Гарадзенскага княства. Выяўленыя археолагамі актыўныя гандлёвыя кантакты Наваградка з Кіевам, магчыма, сведчаць і пра палітычныя сувязі. Палітычнай спецыфікай Наваградка была наяўнасць дзвюх групаў прывілеяванага насельніцтва: феадала з атачэннем на дзядзінцы і жыхароў «багатага квартала» (купцоў, рамеснікаў-златнікаў) на вакольным горадзе (Малы замак)[18].

Такім чынам, дзякуючы археалагічнай навуцы ўстаноўлена, што асноўныя гарады ў басейне Нёмана былі заснаваныя ўсходнімі славянамі-язычнікамі прыблізна ў канцы X ст. На працягу прыблізна стагоддзя першапачатковыя дагарадскія

паселішчы выраслі ў гарады, а іх насельнікі паступова перанялі хрысціянства паводле ўсходняга (праваслаўнага) абраду. У пачатку XII ст. панямонскія гарады сталі цэнтрамі феадальных дзяржаў-княстваў.

---

[1] Сагановіч, Г. У пошуках Сярэднявечча // Беларускі гістарычны агляд. 1997. Т. 4. Сш. 1–2. С. 3–18.

[2] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 5. М – Пуд. Мн.: БелЭн, 1999. С. 254.

[3] ПСРЛ. Т. 4. Петраград, 1915. С. 116.

[4] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815–816.

[5] Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14-18 стст.: Планіроўка, культурны слой. Мінск: Навука і тэхніка, 1991. С. 4–24.

[6] Гурэвіч Ф. Д. Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак). Санкт-Пецярбург, 2003. С. 260.

[7] Седов В. Начало городов на Руси // Труды V международного конгресса славянской археологии.Т. 1. Вып. 1. Москва, 1987. С. 12–31.

[8] Гурэвіч Ф. Д. Летапісны Новгородок… С. 259.

[9] Тамсама. С. 257.

[10] Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 90–91.

[11] Раппопорт П. А. Зодчество Древней Руси. Ленинград: Наука, 1986. С. 87–88.

[12] Павлова К. В. Население Верхнего Понеманья по материалам курганных могильников окрестностей Новогрудка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 47.

[13] Гурэвіч Ф. Д. Летапісны Новгородок… С. 261.

[14] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманьев 9–13 вв. Мн., 1989. С. 196.

[15] Гуревич Ф. Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // ActaBaltico-Slavica. Białystok, 1969. R. VI. S. 222.

[16] Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14–18 стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 60–61.

[17] Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток, 2008. С. 90–95.

[18] Гурэвіч Ф. Д. Летапісны Новгородок … С. 265–266.

*Альбіна Семянчук,*
*канд. гіст. навук (Гародня)*

# Гарадзенскія вальныя соймы ў XVI ст.

У гістарыяграфіі даволі часта згадваецца факт, што з 1673 г. Гародня стала соймавым горадам, і што кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай павінен быў адбывацца ў гэтым горадзе. Аднак для такога рашэння меліся падставы з больш ранняга часу. Яшчэ да Люблінскай уніі ў Гародні праходзілі соймы Вялікага Княства Літоўскага, што ўздымала яе на ўзровень палітычна-адміністратыўнага цэнтра ўлады. Звычайна соймы ВКЛ адбываліся ў Вільні, Берасці і ў Гародні, часам у Бельску Падляскім ці іншых мясцовасцях.

Не лічу сябе даследчыкам соймаў і парламентарызму ў ВКЛ, хаця мне і даводзілася ўжо займацца соймам 1752 г. у сувязі з публікацыяй дзённіка В. Шлямюлера[1], аднак мяне цікавяць сацыяльна-палітычныя працэсы ў ВКЛ, асабліва ў XV–XVI стст., якія адбіваліся на фармаванні грамадскай свядомасці. Гаворка таксама пра тыя працэсы, якія мы прымітыўна называем «паланізацыяй».

Адным з механізмаў паланізацыі была ўніфікацыя прававой сістэмы Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага, пачынаючы з XVI ст. На гэта звярнуў увагу адзін з першых даследчыкаў г. зв. «літоўска-рускага сойма» Мацвей Любаўскі[2]. Дарэчы, соймавай тэматыкай займаліся шматлікія рускія, польскія, літоўскія і беларускія даследчыкі, працы якіх аналізуюцца ў апошняй значнай манаграфіі па дадзенай праблеме Анджэя Рахубы[3].

Паколькі нас цікавяць толькі гарадзенскія соймы XVI ст., то асноўныя нашыя крыніцы – ухвалы соймаў ВКЛ да Люблінскай уніі – утрымліваюцца ў Метрыцы Літоўскай, у т. л. у пятай кнізе публічных спраў, якая публікавалася ў томе 30 «Русской исторической библиотеки»[4].

Як дзяржаўная ўстанова, «літоўска-рускі сойм» зараджаецца ў эпоху пасля Крэўскай уніі, дакладней з 1401 г.[5] Усе даследчыкі так ці іначай звязваюць узнікненне інстытуцыі вальнага сойму з уніяй ВКЛ і Польшчы[6]. Гісторыя соймаў шчыльна звязана з унутры- і знешнепалітычнай дзейнасцю ВКЛ. Ва ўхвалах і пастановах соймаў адлюстраваны найважнейшыя працэсы і падзеі тагачаснага грамадства.

У XV ст. усялякія *conventiones, consilia, etc.* уяўлялі сабой пераважна акты добрай волі гаспадара, сходы, якія ён склікаў, калі яму патрэбная была парада баяраў. Традыцыя склікання ўсяго рыцарства на нарады, веча ці соймы існавала значна раней, аднак яна не мела арганізаванай формы і не абавязвала князя лічыцца з іх меркаваннем. Толькі прывілей Казіміра Ягелончыка 1447 г. накладаў на гаспадароў абавязак склікання шляхты на сойм для збору сродкаў на вядзенне вайны, што надавала шляхце характар прывілеяванага саслоўя.

Найважнейшае месца ў дзяржаўных структурах, у т. л. у соймах, мела Вялікакняская рада. Як адзначаў Ежы Ахманьскі, у другой палове XV ст. яна ператварылася ў самастойны орган, які дзейнічаў незалежна ад асобы ўладара, меў права кіраваць ад імя вялікага князя, калі яго не было ў краіне (напрыклад, знаходзіўся ў Польшчы). У яе склад уваходзілі біскупы віленскі і жмудскі, усе дзяржаўныя дыгнітары, а таксама скліканыя гаспадаром ўраднікі земскія і дворскія. Кампетэнцыі паноў-рады санкцыянаваў прывілей Аляксандра Ягелончыка 1492 г., які абвяшчаў, што без згоды Рады не будзе ўводзіць ніякіх новых законаў. Гэты прывілей пацвердзіў Жыгімонт I у 1506 г.[7]

Мітрафан Доўнар-Запольскі ўслед за Іванам Маліноўскім народзіны вальнага сойма таксама звязваў з выданнем земскага прывілея 1492 г. Аляксандра Ягелончыка і неабходнасцю змагання з Масквой і татарамі[8]. Аднак да 1566 г. гэтыя соймы не мелі дакладнай арганізацыйнай структуры[9].

*«Станы, сойму належачие»* – гэта ўсе духоўныя і свецкія дастойнікі, якія складалі гаспадарскую раду Вялікага Княства, маршалкі і іншыя ўраднікі земскія і дворныя, а таксама ўся землеўладальніцкая знаць – князі і паны харугвыя, г. зн.

тыя землеўладальнікі шляхецкага звання, якія падчас вайны не станавіліся з сваімі атрадамі пад агульнаю харугваю павета, а вялі свае «почты» пад уласнай харугваю[10].

Як адзначаў М. Любаўскі, да моманту Люблінскай уніі ў ВКЛ склалася прадстаўнічая ўстанова, як паводле сваёй кампетэнцыі і значэнні, так і паводле складу, даволі блізкая да польскага сойму. За гэтай установай таксама, як і за польскім соймам, было прызнана права *«вольного обранья»* гаспадара, і яна *de jure* і *de facto* зрабілася галоўным носьбітам вярхоўнай ўлады ў дзяржаве і вырашала яе лёсы.

Менавіта таму, як падкрэсліваў Любаўскі, і сталася магчымай тая самая ўнія, якую Вялікае Княства заключыла з Польшчай у 1569 г., і якая паводле сваёй сутнасці была парламентарнай уніяй. Літоўска-рускі вялікі вальны сойм, які зрабіўся больш-менш блізкім да польскага па сваім складзе і дзяржаўным значэнні, лёгка мог зліцца з польскім у адну ўстанову. «*Якім вялікім ні быў у дадзеным выпадку ўплыў вайны з Масквою, якая штурхала Літву ў абдымкі Польшчы, але без гэтай ўнутранай умовы, без гэтых поспехаў асіміляцыі з Польшчай у дзяржаўным ладзе і быце, Вялікае Княства наўрад ці злучылася б з Польшчай настолькі шчыльна, як гэта сталася ў 1569 годзе*»[11]. Любаўскі вельмі дасціпна акрэсліў гэтую сітуацыю: «*Шчыльнае і трывалае злучэнне Літвы з Польшчай стала магчымым толькі тады, калі і ў гэтых адносінах, а не толькі ў знешніх інтарэсах, Літва так наблізілася да Польшчы, што ліцвін у Польшчы пачаў знаходзіць тое ж самае, што і дома, а дома, тое ж самае, што ў Польшчы*»[12].

Былі ліквідаваны адрозненні не толькі Літоўска-Рускай дзяржавы ад Польшчы, але і ўнутры самога Княства сціраліся адрозненні паміж землямі ўласна літоўскімі, якія дамінавалі ва ўладзе, і рускімі, прадстаўнікі якіх, як вядома, паводле Крэўскай і Гарадзельскай уній, былі пазбаўлены многіх правоў, барацьбу за якія яны вялі яшчэ з 30-х і 40-х гг. XV ст.

У XVI ст. **першы сойм адбыўся ў Гародні ў жніўні 1501 г.**[13] Да гэтага моманту Гародня ўжо пяць год мела прывілей на магдэбургскае права і была адным з буйных гарадоў ВКЛ і вялікакняскай рэзідэнцыяй, дзе і без таго ў часы Казіміра Ягелончыка звыклі

збірацца паны-рада. Аднак пачатак XVI ст. быў вельмі складаным для ВКЛ. Увесну 1500 г. маскоўскія войскі захапілі шматлікія гарады, а літоўскае войска было разбітае на р. Ведрашы. 17 чэрвеня 1501 г. памёр кароль польскі Ян Ольбрахт, брат вялікага князя літоўскага Аляксандра. Каб дасягнуць больш сціслага саюзу з Каралеўствам Польскім і сумеснымі намаганнямі бараніцца ад Масквы, Аляксандр павінен быў узысці на польскі прастол.

Вальны сойм 1501 г., які сабраўся ў Гародні, адправіў у канцы жніўня таго ж году паслоў на Пётркоўскі сойм дзеля падтрымання кандыдатуры Аляксандра і з паўнамоцтвамі на заключэнне новай уніі[14]. Як пісаў Мацей Стрыйкоўскі, палякі хацелі абраць каралём іншых братоў Яна Ольбрахта – альбо караля венгерскага і чэшскага Уладзіслава, альбо князя Апаўскага і Глагоўскага Жыгімонта[15]. Аднак у кастрычніку 1501 г. у падляшскім Мельніку каралём быў абвешчаны вялікі князь літоўскі Аляксандр.

Польскі даследчык Віктар Чэрмак налічыў з 1507 па 1568 г. каля 40 розных з'ездаў, якія называліся *conventus, conventiones, sojm,* з якіх большасць (каля 30) прыпала на панаванне Жыгімонта I (да 1544 г.), і толькі 10 на часы Жыгімонта Аўгуста[16].

Першым соймам *conventio generalis*, на якім побач з сябрамі Рады прысутнічала таксама шляхта, адбыўся ў 1507 г. Ён паклаў пачатак шэрагу соймаў, дзе можна заўважыць актыўны ўдзел шляхты, што не належала да Вялікакняскай рады[17]. Паводле меркавання М. Любаўскага, гэты сойм адбыўся ў Вільні, як і большасць соймаў XVI ст. Аднак у манаграфіі Анджэя Рахубы можна сустрэць звестку, што сойм адбыўся ў Гародні. Відаць, гэтая памылка вынікае з таго, што выдаўцы Актаў Заходняй Расіі (Т. II, № 17) аднеслі гэты акт да 1507 г. на той падставе, што ён носіць дату 10 індыкта, не звярнуўшы ўвагу, што акт упісаны ў кнігу Літоўскай Метрыкі сярод актаў 1522 г., калі таксама быў 10 індыкт. У першыя месяцы 1507 г. (са студзеня па май уключна) Жыгімонт знаходзіўся ў Кракаве і, значыць, ніяк не мог выдаць акружную грамату, у якой гаворыцца: «*тымі разы, будучі на сойме в Городне*»[18].

Вялікі вальны сойм збіраўся амаль кожны год, часам нават два-тры разы на год, часцей за ўсё ў Вільні альбо ў Берасці, зрэдку ў Гародні.

**У 1522 г. сойм збіраўся два разы: першы раз у Гародні ў лютым і сакавіку**, пазней у чэрвені – снежні – ў Вільні[19].

Як адзначаў Любаўскі, да пачатку 1522 г. каралю ўдалося зрабіць усе галоўныя справы ў Польшчы. З магістрам Прускім быў заключаны мір яшчэ ў сакавіку 1521 г. Туркі адкаціліся з Венгрыі і больш не турбавалі палякаў. Для абароны ад татараў сойм, які збіраўся ў Пётркове ў лістападзе і снежні 1521 г., вызначыў даць каралю падатак з мяшчанаў і сялянаў дастатковы для утрымання 4 000 жаўнераў. Нарэшце, трэба было ўладкаваць справы Вялікага Княства, і кароль прызначыў вялікі сойм усім станам Вялікага Княства ў Гародні, куды і сам прыбыў 2 лютага 1522 г.[20]

Першае пытанне, якое абмяркоўвалася на гэтым сойме, тычылася ўпарадкавання спраў з Масквой. Было прынятае рашэнне выслаць туды пасла з прапановай вечнага міру ці перамір'я. Паколькі адказу не было, то вялікі князь на ўсіх наклаў сярэбшчыну. Як свецкія, так і духоўныя землеўладальнікі павінны былі з кожнай сахі валовай даць 15 грошаў, ад конскай – удвая менш, ад людзей, не маючых сох, але трымаючых зямлю – па 6 грошай з чалавека, ад агароднікаў – па тры грошы[21]. Аднак сярэбшчына, ухваленая на сойме, не магла пакрыць дзяржаўныя расходы і папоўніць пусты скарб ВКЛ. Тады некаторыя паны дзяржаўцы, якія трымалі ў заставе гаспадарскія маёнткі, прынеслі патрыятычныя ахвяры, менавіта аддалі гаспадару свае заставы, так што даходы з іх павінны былі паступаць у скарб. Такім чынам вярнуліся да гаспадара даходы з Уцены, Дарсунішак, Мазыра, Мельніка, Эйшышак, Вілкаміра, Мерачы, Пуні, Жыжмар, Ліды і Беліцы, Онікштаў, Прывалкі, Астрыны, Крэва, Любашан, Магілева, Крычава, Ушпаля і Пенян[22].

Таксама на гарадзенскім сойме 1522 г. была пададзена просьба аб дараванні Статута. Незадоўга да гэтага на Пётркоўскім сойме 1519 г. палякі аб тым жа прасілі Жыгімонта. Ліцвіны не жадалі адставаць ад палякаў, і Статут быў прадстаўлены на разгляд ужо ў гэтым самым годзе на Віленскім сойме[23].

Акрамя папаўнення скарбу вялікаму гарадзенскаму сойму 1522 г. давялося прымаць меры супраць павальнага ўхілення ваеннаслужылых землеўладальнікаў ад вайсковай службы. Ім па-

гражала канфіскацыя маёнтку. Яна ж прадугледжвалася за захоп гаспадарскіх земляў. Гэтая норма ўвайшла ў Статут 1529 г.

**Прайшло больш за 40 год, перш чым сойм зноў сабраўся ў Гародні – 1 снежня 1566 г. і працягваўся да 6 студзеня 1567 г.** Месцам сойму 1566 г. спачатку прызначалася Берасце, аднак з прычыны маскоўскай пагрозы ён быў склікан ы ў Гародні. На яго прыбыло не многа дастойнікаў, бо была эпідэмія.

**У 1568 г. вялікі вальны сойм збіраўся таксама ў Гародні і працягваўся каля двух з паловай месяцаў (з 25 красавіка да 12 ліпеня**). Наступным быў апошні «літоўска-рускі сойм», які сабраўся 10 снежня ў Любліне, працягваўся 8 месяцаў (па 12 жніўня 1569 г.)[24]

На ўказаных соймах вырашаліся шматлікія пытанні, звязаныя з Інфлянцкай вайной, уніяй і іншымі важнымі пытаннямі ўнутранай і знешняй палітыкі краіны. Але Гарадзенскія соймы 1567 і 1568 гг., як адзначыў М. Любаўскі, вылучаюцца нават на фоне важных праблем, разгледжаных на іншых соймах[25]. Справа ў тым, што сойм 1566–1567 гг. склікаўся пасля прыняцця Статуту ВКЛ 1566 г. На падставе гэтага Статуту ён і функцыянаваў як інстытуцыя, падобная да існуючай у Кароне з аналагічным аб'ёмам уладных кампетэнцый. Статут, напрыклад, зафіксаваў інстытуцыю павятовых соймікаў, якія мелі права выбіраць паслоў на вальны сойм і даваць ім інструкцыі[26], прызнаваў, што сойм можа быць скліканы «*коли колко того будеть потреба*»[27], што ён складаецца з трох станаў (вялікі князь, вялікакняская рада і пасольская палата), а таксама надаваў сойму заканадаўчую моц.

Аб важнасці гарадзенскіх соймаў ускосна сведчыць факт адлюстравання горада на гравюры Адэльгаўзэра-Цюндта (першы падобны вопыт ва Усходняй Еўропе), якая знаёміла заходнееўрапейскую публіку з палітычнымі падзеямі на ўсходніх рубяжах. Яна была выраблена ў 1568 г. у Нюрнбергу і сведчыла аб сустрэчы ў Гародні паслоў маскоўскага князя на чале з Фёдарам Умным-Колачавым з гаспадарскім маршалкам Іванам Валовічам 24 ліпеня 1567 г.[28] Вядома, што Ганс Адэльгаўзэр зафіксаваў яшчэ тры пасольствы, якія знаходзіліся ў гэты час у Гародні – татарскае, турэцкае і валашскае[29]. Усё гэта сведчыць аб тым, што Гародня ў апошняй трэці XVI ст. была цэнтрам не толькі ўнутрыпалітычнага, але

і знешнепалітычнага жыцця ВКЛ і стаяла на парозе далейшага ўмацавання свайго значэння.

Асноўныя пастановы гарадзенскага сойму 1566–1567 г. адлюстроўвае рэцэс 6 студзеня 1567 г., у якім адлюстраваліся галоўныя пытанні, што разглядаліся на сойме.

1) Арганізацыя соймавання і меры супраць спазнення да пачатку сойма яго членаў. У дадзенай пастанове адзначалася, што «*водлугъ звычаю въ томъ стародавного и статуту (1566 г. – А. С.), за радою радъ нашихъ здешнихъ зложили есмо съемъ великій вальный тому панству въ месте нашомъ Городенскомъ, а вси станы, такъ рады наши духовные и светскіе, яко тежъ князи, панове и врядники земъскіе и дворные и послове земъскіе, на часъ и местцо отъ насъ зложоное, зъехали ся и местца свои заседши, о томъ зо всякою хутью, пильностью а згодливостью спольне а згодливе намовляли и становили и ку намъ, господару, доносили, а за тымъ з волею и призволеньем нашимъ вси тые речи и потребы, на своей мере постановивши, ухвалили и скончили и на пісме своемъ до насъ донесли и подали, яко то зъ стародавна бывало и им належало. Мы то, господаръ, моцью звирхности нашое тое постановенье и ухвалы таковые соймовые утвержаем, а такъ, яко черезъ всих становъ, сойму належачихъ, ухвалено, то тому жъ от всих моцно, безъ жадного уменшенья и уближенья а наменшое образы и отмены маеть быти держано и выполнено, почавши отъ персоны нашое господаръское, за радою радъ наших, князей, пановъ, врадниковъ земъских и дворныхъ и шляхты-рыцерства, и ажъ до наменшого стану и особы, подъ тыми жъ арътыкулы и обовязки, яко в артыкулех и написехъ своих, нижей положоныхъ, поменено, доложоно и описано*»[30].

Гэта значыць, што ў соймах удзельнічалі біскупы, ваяводы, у т. л. староста жмудскі, кашталяны, маршалкі земскі і дворны, гетман, падскарбі земскі і іншыя вышэйшыя ўраднікі земскія і дворныя, менавіта падчашы, крайчы, стольнік, падстолі, мечнік, харужы земскі і дворны, маршалкі і пісары; з другасных – старосты, дзяржаўцы, цівуны, харужыя, а затым – княжаты, паняты і шляхта рыцарства. Напярэдадні Люблінскай уніі месца на сойме атрымалі і мяшчане стольнага горада Вільні па прыкладзе мяшчан найважнейшых гарадоў Кароны[31].

Пастанавілі таксама, што спазніцца на сойм можна было не больш 3 дзён, «*и колько дней або недель по ономъ третемъ дню омешкалъ, толко зась дней або недель вотовати не маеть и, што ся безъ него и въ молчанью его постановить и урадить, противъ тому быти и мовити вжо о то не будеть мочи*»[32].

2) Аб удзеле ўраднікаў і шляхты ў павятовых сойміках.

Такая пастанова была згодная з рашэннем ад 30 снежня 1565 г., калі вялікі князь па просьбе шляхты выразіў згоду на тое, каб ў кожным павеце на ўзор каронных устанавіць інстытуцыю малых соймаў альбо соймікаў, якія б склікаліся за чатыры тыдні перад вальнымі соймамі. Адна з найважнейшых пастаноў гарадзенскага сойму 1566–1567 г. сцвярджала: «*Шляхтичу вольно быти которого кольвекъ [...] соймику*», канешне, калі ён меў там свае маёнткі.

Падставай грамадзянства ў тыя часы было валоданне зямлёй, з якой была звязаная вайсковая служба, так што шляхта без маёнтку (г. зв. галота) была пазбаўлена права ўдзельнічаць у сойміку і ўвогуле ў публічным жыцці краіны[33]. У гэтай пастанове адзначалася, што біскуп, ваявода і кашталян «*на соймикохъ маютъ бывати кождый у своемъ у воеводстве и на вряде – Виленъские у Вильни, Троцькие у Трокахъ, и такъ же и иные вси врядники, кождый у своемъ вряде и повете*»[34]. Таксама пастанавілі «*на кождую особу съ пановъ радъ неприбылыхъ пять копъ грошей, на врядниковъ земъскихъ и поветовыхъ две копе грошей*» (с. 408).

3) Аб рассылцы соймавых і ваенных лістоў у паветы да гродскіх ураднікаў, стараст або іх наместнікаў праз возных павятовых да паноў-рады, да князей, ураднікаў земскіх і павятовых і іншых станаў. Каб да кожнага шляхціца дайшла дадзеная інфармацыя «*въ домы ихъ маютъ носити; а для шляхты на торгу, при костелехъ обволывати*».

4) Аб пакіданні на час паходаў па тры возных пры кнігах павятовых судоў.

Наступны блок пастаноў называўся «О способе обороны вальки потужное». Тут адзначалася, што «*причина и потреба зложенья теперешнего сойму набольшая такая была и есть, абы се вынашла и постановила потужная оборона и валька противко неприяте-*

*лю нашому Московскому*» (с. 410). Адпаведна наступныя артыкулы былі прысвечаныя пытанням абароназдольнасці дзяржавы.

5) Адказ на просьбу аб знаходжанні вялікага князя пры земскім войску ВКЛ падчас дадзенай вайны: «*Отъ всихъ становъ прозбы сойму належачихъ до насъ были, жебыхмо сами парсуною нашою господаръскою противъ тому неприятелю нашому валъчили, будучи у войску межи народомъ рыцерскимъ того панъства Великого Князьства, и не лежали въ томъ панстве нашомъ, але въ земли неприятелской, з ними воюючи*» (с. 410).

6) Аб павелічэнні для дадзенай вайны памераў земскай вайсковай павіннасці з маёнткаў: «*[…] на два годы, теперъ идучие, шестдесять семый и шестдесять осмый, поступують з десети служобъ Литовскихъ и индей, где въ томъ панъстве суть службы, такъ же з десети волокъ, людми оселых, порезаных и поморкгованыхъ, конь одинъ, а где волокъ нетъ, а службы не ровны суть Литовскимъ, яко на Руси и на Полесьи и въ земли Киевской и у волостьяхъ Поднепръскихъ, такъ же и въ земли Волынъской, людей тяглыхъ службами не называють и на волоки техъ кгрунты не есть помероны, одно дворищами або следами менують, которые дворища выносять лепшие пожитъки, нижли Литовские службы албо волоки, и людей на тых дворищах есть не мало, про то обователи тыхъ краевъ або земль пречоных Рускихъ, Волынскихъ и Полескихъ мають не з служобъ ани з дворищъ, але з дымовъ двадцати ку службе земъской ставити конь одинъ*» (с. 411).

У гэты перыяд валочная памера яшчэ не была скончаная. З дадзенай пастановы можна даведацца, дзе яшчэ рэформа не праводзілася («*на Руси и на Полесьи и въ земли Киевской и у волостьяхъ Поднепръскихъ, такъ же и въ земли Волынъской*»), і на валокі тыя землі не былі падзеленыя. Сялянскія надзелы да валочнай памеры называліся «*дворышчам або следам*». Гэтыя найбольш старажытныя формы абшчынных аб'яднанняў налічвалі ад двух да дзесяці і нават больш дворшчыкаў[35].

7) Аб той жа павіннасці для «убогай» шляхты: «*Кождый шляхтичъ отделный з дыму водлугъ преможенья своего на войну ехати маеть […] А по томъ, по войне вси кгрунъты токовое убогое шляхты, у которихъ людей своихъ нетъ, мають быти помероны*

*а моркгованы тымъ способомъ, жебы з десети волокъ оселыхъ конь одинъ ку служьбе земъской военной ставень былъ отъ всихъ тыхъ, колько их на десети волокахъ будеть […]*» (с. 412).

8) Аб той жа павіннасці для падляшан: «*Подляшане тежъ ровно з Литвою войну служити мають и такъ же з десети волокъ оселыхъ, а где бы еще службы были, ино з десети служобъ конь одинъ ставити*» (с. 412).

9) Аб павелічэнні памераў «почтаў» з прычыны прысутнасці ў войску вялікага князя.

10) Аб выстаўленні ваенных сіл з гарадоў княжацкіх, панскіх і зямянскіх, духоўных і свецкіх – з дзесяці дымоў аднаго пешага з ручніцаю і мечам і г. д.

11) Аб жадаючых служыць ваенную службу добраахвотна і аб цыганах. Як адзначаў беларускі даследчык Андрэй Янушкевіч, «*шляхта імкнулася прыцягнуць да нясення падатковага цяжару як мага большае кола плацельшчыкаў*»[36]. «*А хто ся з нихъ мужъне въ службе военной покажеть, таковому ласкою и детькомъ от насъ, господара, нагорожоно будеть*» (с. 414).

У сувязі з тым, што на сойме разглядалася больш за 40 пытанняў, не ўяўляецца магчымым у адным артыкуле пракаментаваць усе рашэнні, якія таго заслугоўваюць. Аднак хаця б узгадаць іх трэба, каб зразумець, чаму М. Любаўскі лічыў гарадзенскія соймы важнейшымі за іншыя ў дадзены перыяд. Як бачым, большасць рашэнняў тычылася вайсковых справаў і фінансава-матэрыяльнага забеспячэння войска, што адзначаў таксама згаданы А. Янушкевіч[37].

12) Аб прадстаўленні вялікаму гетману рэестраў выстаўленых «почтаў».

13) Аб падатку на наём шасці тысячаў конных і чатырох тысячаў пешых наёмных воінаў.

14) Аб выдачы гэтага падатку ў паветах.

15) Аб дзейнасці павятовых (прыводзяцца іх імёны) і галоўных паборцаў пры зборы гэтага падатку і аб іх ўзнагароджанні.

16) Аб тэрмінах выдачы гэтага падатку.

17) Аб пакаранні за яго нявыдачу.

18) Аб адказнасці за ўтойванне населеных маёнткаў, з якіх павінны плаціцца падаткі.

19) Аб рэестрах і аб справаздачы павятовых бірчых.

20) Аб галоўных бірчых (іх імёны), іх дзейнасці і справаздачах.

21) Аб займе ў сувязі з тым, што падатковыя грошы паступяць не адразу.

22) Аб судзе над тымі, хто не служыў земскай ваеннай службы.

23) Адказ на просьбу аб служэнні ваеннай службы з маёнткаў духавенства.

24) Аб абавязку для ўсіх грамадзян ВКЛ асабіста з сваімі почтамі з'яўляцца на вайну.

25) Аб ваеннай службе дваран гаспадарскіх, з дваром і з паветамі.

26) Аб лічбе дваран, якіх пакідаюць для рассылак, і аб адпраўленні ўсіх астатніх дваран, а таксама ляснічых і рэвізораў з іх почтамі на вайну.

27) Аб адпраўленні на вайну ўсіх, хто валодае маёнткамі ў ВКЛ, якім бы спосабам гэтыя маёнткі не былі набытыя.

28) Аб судзе над тымі, хто не адбывае земскіх павіннасцяў з маёнтку, заслужаным на вялікіх князях літоўскіх.

29) Аб пакаранні тых, хто не з'явіўся на дадзеную вайну і не выслаў на яе сваіх почтаў.

30) Адказ на заяву аб пасылцы да палякаў з просьбай аб дапамозе і аб неад'ездзе вялікага князя падчас дадзенай вайны ў Польшу па яе справах.

31) Аб зборы пагалоўшчыны, устаноўленай ў 1566 г. на Віленскім сойме.

32) Аб неаддзяленні Жамойці, Завілейскіх паветаў, кіеўлян, падалян і валынцаў ад галоўнага войска і ад вялікага гетмана ў ваенным зборы.

33) Адказ на просьбу аб забароне жыдам арэнды мыта і паборaў.

34) Аб уставе на тавары і для рамеснікаў і аб мерах для хлеба.

35) Адказ на просьбу аб шляхце, якая падалася са сваімі маёнткамі панам на службу.

36) Адказ на просьбу аб раздачы родзічам Княства вакантных урадаў дворнага гетмана, крайчага, падкаморыя, кухмістра, падстолія, канюшага і лоўчага.

37) Адказ на просьбу аб даходах земскіх урадаў, якія адышлі да скарбу, дзякуючы валочнай памеры.

38) Адказ на просьбу аб устанаўленні урадаў ваяводы і кашталяна ў Гародні і Коўне.

Апошняя просьба не знайшла разумення ў вялікага князя літоўскага, які адказаў на яе наступным чынам: «*Еще тежъ чинечи къ намъ прозбы отъ всихъ становъ, абыхмо, прикладомъ першое ласкавое учинности нашое около прибавленья достоенствъ, подали тежъ до замъковъ нашихъ Городна и Ковна воеводы и каштелянеи. То съ причинъ певныхъ зоставуемъ при воли нашой господаръской*» (с. 432). Памятаем, што гэта быў перыяд адміністрацыйна-гаспадарчых рэформаў. Відаць, шляхта гарадзенская і ковенская вырашыла скарыстаць момант дзеля ўмацавання пазіцый гарадоў ва ўнутрыпалітычным жыцці краіны. Аднак сітуацыя не спрыяла разгляду ўнутраных праблем падчас складаных знешнепалітычных абставінаў.

Таксама захаваўся *status quo* ў адказ на наступную просьбу аб далучэнні да Ваўкавыскага шляхецкага павету баяр мсцібогаўскіх, волпенскіх, лыскаўскіх і межырэчскіх (39).

40) Адказ на просьбу аб далучэнні клецкіх зямян да Наваградскага шляхецкага павету.

41) Адказ на просьбу па справе аб далучэнні Ліфлянскай зямлі да ВКЛ.

На дадзеную просьбу вялікі князь адказаў, што «*тая земля Лифлянтская по увесь тот час от прижатья ее под оборону звирхности нашое господарское аж до сих мест была и есть боронена от всих небеспечностей и налог неприятелских ни через кого иного, одно через них, родичов и обователей того славного панства Великого Князьства, где немало не одно крови народу их шляхетского выливало ся, але и голов братьи их полегло, а великою утратою маетностей их, так же и нашого господарьского скарбу того ж панства Великого Князьства. А так за волею и росказаньем нашим пан староста Жомойтский (Ян Геранімавіч Хадкевіч – А. С.) постановенье около земли Лифлянтское нам господару, паном радам нашим, княжатом, панятом, врядником земским и дворным и послом земским на теперешнем сойме Городенском ознаймил, оповедил и оказал, што коротко тут в той уфале соймовой толко суть того припомнена, иж вси, сполне с паны обователи земли*

*Лифлянтское зволивши ся, доброволне приступили с тою землю ку Великому Князьству Литовскому и стали ся частью того панства, поддаными нашими всяким способом, и нас, господара, приняли суть за зверхнего и дедичного пана»* (с. 433–434).

42) Аб прыбыцці ўсіх грамадзян Княства паспалітым рушаннем па лістах гаспадарскіх альбо вялікага гетмана для вайны з Масквою, калі і куды прызначыць збор іх вялікі гетман.

Прайшоў год, і сойм зноў сабраўся ў Гародні, «*в замку нашом Городенском*», ў красавіку – ліпені 1568 г. Рэцэс Гарадзенскага сойму 1568 г. адлюстраваў яго пастановы і адказы вялікага князя Жыгімонта Аўгуста на просьбы станаў. Колькасць пытанняў «павесткі дня» даходзіць да 60, г. зн. яшчэ больш, чым на папярэднім сойме.

1) Устанаўленне падатку на наём войска для абароны Княства.

2) Аб выплаце гэтага падатку літоўскаю і падляшскаю «ўбогаю» шляхтаю. Пад «убогай» шляхтай разумелася тая, якая «*людей своих не мели, а на волоках тягненых або моркгованых сами мешкали и их пахали*» (с. 444).

3) Аб выплаце яго духавенствам.

4) Адказ на просьбу аб далучэнні Інфлянт да ВКЛ і аб іх зліцці. Пацверджана пастанова папярэдняга Гарадзенскага сойму аб тым, што «*обыватели оное земли стали ся з нами, поддаными нашыми, одным телом*» (с. 446).

5) Аб выплаце пастаноўленага соймам падатку татарамі Княства.

6) Аб выплаце яго гарадамі князёў, паноў і шляхты.

7) Аб выплаце яго сідзячымі на «волях».

8) Аб выгнанні з Княства цыган з дазволам застацца толькі тым цыганам, якія асядуць на землях гаспадарскіх, княскіх ці шляхецкіх і будуць несці павіннасці з сёламі.

9) Аб выплаце падатку жыдамі.

10) Вызваленне абываталяў Княства ад абавязку ехаць у гэтым годзе на вайну земскім войскам, калі не будзе крайняй небяспекі для Княства, у выпадку якой яны павінны спяшацца, хто як можа па лістах гаспадарскіх і апавяшчэнні вялікага гетмана, забеспячэнне таго, што пастаноўленыя дадзеным соймам абавязкі па абаро-

не Княства не пойдуць «в пошлину», аб справаздачы аб падатках, пастаноўленых папярэднім Гарадзенскім соймам, аб выпраўленні Статуту і аб аднаўленні парушаных правоў і вольнасцяў.

11) Аб тэрмінах для збору пастаноўленых дадзеным соймам падаткаў.

12) Аб парадку збору падатку павятовымі паборцамі (іх імёны).

13) Аб расходаванні гэтага падатку павятовымі паборцамі і аб іх адказнасці за адыход ад дадзеных пастаноў; аб памерах «почтаў» ротмістраў і іх аплаце.

14) Аб справаздачнасці павятовых паборцаў.

15) Аб адказнасці не даўшых падатку.

16) Аб адказнасці павятовых паборцаў за адмову прыняць падатак ад жадаючых яго ўнесці.

17) Аб узнагароджанні павятовых паборцаў; аб іх абавязку сабраць у сваіх маёнтках падатак, згодна з усімі, зробленымі адносна яго пастановамі.

18) Аб зборы падатку з маёнткаў духавенства.

19) Аб невыданні «на роты» ваяводам, кашталянам, старостам і дзяржаўцам «украінным».

20) Адказ на просьбу аб прызначэнні ротмістрамі людзей, аселых у паветах для забеспячэння адказнасці іх і іх жаўнераў за гвалт і шкоды.

21) Аб адказнасці самавольна, без лістоў гаспадара і вялікага гетмана жаўнерам станавіцца на пастой.

22) Забеспячэнне таго, што падаткі, пастаноўленыя на апошніх соймах (Віленскім, Берасцейскім, Гарадзенскім), павінны прызнавацца добраахвотнымі і часовымі, а не *«за якую повинность, пошлину и обычай звыклый»* (гэта асабліва важна было ў час падрыхтоўкі ўніі ВКЛ з Польшчай, да якой абодва народы павінны былі прыступіць аднолькава свабодна і добраахвотна).

23) Адказ на просьбу аб выданні даходаў манетнага двара на патрэбы абароны Княства і аб кіраванні ім земскім падскарбіем.

24) Адказ на просьбу ад дастаўленні гаспадарскімі гарадамі і мястэчкамі артылерыі і наёмных драбаў войску.

25) Аб зысканні з тых, хто не служыў, папярэдняга збору на вайну; аб пакаранні тых, хто не выедзе на вайну без грунтоўных пры-

чын; аб зборы і прызначэнні падатку з тых, хто не быў на вайне.

26) Адказ на просьбу аб вызваленні «убогой» шляхты Падляшша ад уплаты залатога.

27) Адказ на просьбу аб выпраўленні Статуту (выпраўляюць выбраныя камісія і шляхта, з унясеннем выпраўленых артыкулаў на з'езд Княства перад агульным з палякамі соймам).

28) Адказ на просьбу аб памеры земляў «убогай» шляхты камісіямі з 2 асобаў у кожным павеце. (Відавочна, што нават у складаных ваенных умовах працягвала рэалізоўвацца гаспадарчая рэформа).

29) Аб рэвізіі паборцамі маёнткаў, рэвізія якіх яшчэ не зроблена ў выкананне пастановы папярэдняга Гарадзенскай сойма.

30) Перанос неадбытых у дадзеным годзе (у сувязі з соймам) троіцкіх роках земскіх судоў на новы тэрмін (шэсць тыдняў *«по выволанью сойму теперешнего»*).

31) Адказ на просьбу аб непарушнасці соймавых пастановаў (асабліва аб *«пропозыцыі»* соймавай).

32) Адказ на просьбу аб устанаўленні ва ўсіх паветах Княства гродскага суда ў поўным яго складзе,

33) Адказ на скаргу аб зборы некаторымі гродскімі ўрадамі сваіх даходаў *«по давному»*, а не згодна Статуту.

34) Адказ на скаргу аб забароне гродскімі ўрадамі возным ездзіць на асведчанне без урадавых «квітоў».

35) Адказ на просьбу аб непрыцягненні шляхты старастамі і дзяржаўцамі да свайго суду ў мясцовасцях, дзе не ўведзены новыя суды.

36) Адказ на просьбу аб узнагароджанні тых, хто служыў мінулую вайну з павялічанымі «почтамі» на гаспадарскую «ласкавую обетніцу».

37) Адказ на просьбу аб парадку збору войска і яго паходу, а таксама аб тым, каб пры роспуску войска шляхта не павінна была браць «квітоў».

38) Адказ на просьбу аб раздачы вакантных урадаў *«родзічам»* Вялікага Княства Літоўскага.

39) Адказ на просьбу аб неаддачы гаспадарскіх замкаў і маёнткаў у залог чужаземцам.

40) Адказ на просьбу аб раздачы староставаў, дзяржаў і аселасцяў у Інфлянтах выключна *«родзічам»* ВКЛ.

41) Адказ на просьбу аб далучэнні да Княства гаспадарскіх маёнткаў, якія трымаў памерлы прускі герцаг.

42) Адказ на выпраўленне межаў Княства з Прусіяй, Інфлянтамі, Мазовіяй і Польшчай і аб аднаўленні на межах правоў на тое, што каму належала.

43) Адказ на просьбу аб тым, каб жыды не займалі ўрадаў і збіралі пабораў.

44) Адказ на просьбу аб увядзенне праз гаспадарскіх дваран «уставы» на тавары і меры для хлеба ва ўсіх гарадах Княства; аб тым, каб не збіраўся пабор з «люнскіх» і іншых танных сукнаў, *«кгды ж того шляхте для выправ военных напилней потреба»* (с. 474).

45) Адказ на просьбу аб тым, каб на партовых рэках не перашкаджалі руху судоў ставамі, млынамі і язамі. (Дзе гэта робіцца, там трэба выправіць недахоп).

46) Адказ на просьбу аб непабіранні гаспадарскага і панскага мыта з хлеба шляхецкіх гумнаў (калі мытнік ці пaборца такое мыта ўзяў, ён павінен падлягаць суду замкавага ўрада).

47) Адказ на просьбу аб захаванні ў моцы неперанесеных абывателямі Княства з гродскіх ў земскія кнігі купчых, дароўных і іншых запісаў. (Гэтага пераносу ў гадавы тэрмін патрабаваў Статут).

48) Адказ на просьбу аб кампенсацыі за шкоду, учыненую польскімі жаўнерамі, і аб судзе па нанесеным імі гвалце, аб тым, каб наперад жаўнеры не стаялі ў шляхецкіх маёнтках, бо зараз яны стаяць у іх, у цэнтральных частках Княства, а не на яго межах, чыняць шкоды і забіраюць правіянт без выплаты за яго.

49) Адказ на просьбу аб парадку рассылкі соймавых лістоў і аб устанаўленні штрафу з шляхцічаў, якія не прыязджаюць на павятовыя сеймікі.

50) Адказ на просьбу аб прызнанні за кожным шляхціцам права заснавання на сваёй зямлі мястэчак і будаўніцтва корчмаў пры вялікіх гасцінцах без гаспадарчых лістоў. На гэта вялікі князь адказаў: «*Мы то подле статуту и старого обычаю зоставуем*» (с. 477).

51) Адказ на просьбу аб праве для шляхты, якая жыве каля гаспадарскіх пушчаў, браць з іх дрэва на дровы і будаўніцтва «без поклонов» ляснічаму.

52) Адказ на просьбу аб захаванні адвечных правоў на «уходы» ў гаспадарскіх пушчах. (Пры гэтым паступіла скарга віленскай шляхты на ўціск і гвалт з боку ўраднікаў і ляснічых гаспадарскіх).

53) Адказ на просьбу аб выдачы беглых людзей отчызных і нявольнай чэлядзі з гарадоў, з воль і з маёнткаў гаспадарскіх, княскіх і панскіх.

54) Адказ на просьбу аб заснаванні калегіума ў Вільні ці Коўне. Гэтую просьбу вялікі князь пастанавіў пакінуць на *«час покою»*. Яна тычылася дзейнасці ордэна езуітаў у ВКЛ. Аднак, як вядома, ужо ў 1569 г. ім удалася заснаваць свой калегіум у Вільні і распачаць шырокамаштабную душпастырскую і культурна-асветніцкую дзейнасць па ўсёй Рэчы Паспалітай.

55) Адказ на просьбу аб прадстаўленні земскім паслам «господ» падчас сеймаў.

56) Адказ на просьбу аб шэрагу абмежаванняў правоў татар на хрысціян-нявольнікаў, на хрысціянак-мамак, на дзяцей хрысціянчэлядзі «закупнай» і на палонных.

57) Адказ на просьбу аб выкананні артыкула Статута, які патрабуе жоўтага колеру для галаўных убораў жыдоў і іх жонак з пазбаўленнем іх права насіць на сабе каштоўнасці, а таксама аб забароне жыдам мець для сваіх дзяцей мамак хрысціянак.

58) Адказ на просьбу аб справаздачы аб сабраных земскіх падатках і аб іх расходаванні.

59) Адказ на просьбу аб прызначэнні павятовых соймікаў і з'ездаў на межах Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага для іх «сполнага» сойму (згодна пастанове 1567 г., у Лебядзеве) (с. 436–441).

Далей у Кнізе пятай публічных спраў прыводзяцца адказы вялікага князя Жыгімонта Аўгуста на просьбы, прадстаўленыя яму на Гарадзенскім сойме 1) ад княжат, панят, земскіх і дворных ураднікаў і паслоў земскіх (3 адказы); 2) ад мітрапаліта (8 адказаў); 3) ад ваяводства Віленскага (2 адказы); 4) ад ваяводства Трокскага (2 адказы); 5) ад зямлі Валынскай (6 адказаў); 6) ад ваяводства

Навагародскага (аб рамонце заняпалага «окольнаго» замку Навагародка тымі, хто абавязаны яго будаваць, і аб устанаўленні і прызначэнні гараднічага, які б за гэтым назіраў; аб гаспадарскіх лістах да тых, чые продкі былі навагародскімі гараднічымі з загадам прадставіць новаму гараднічаму спісы дамоў, абавязаных будаваць замак; аб выпраўленні «вышняга» замка Навагародка і забеспячэнні яго «стрелбою» на сродкі гаспадарскага скарбу; 7) ад ваяводства Менскага (5 адказаў); 8) ад павета Гарадзенскага (3 адказы); 9) ад павета Ашмянскага (2 адказы); 10) ад павета Лідскага (3 адказы); 11) ад павета Упіцкага (4 адказы); 12) ад ваяводства Падляшскага (2 адказы); 13) ад павета Драгіцкага (2 адказы); 14) ад павета Бельскага (6 адказаў); 15) ад павета Пінскага (аб забароне мяшчанам і жыдам пінскім перашкаджаць пінскай шляхце купляць соль у іншых гарадах); 16) ад земян ляхавіцкіх (аб вызваленні іх з-пад улады Уладзіміра (Сямёнавіча Забалоцкага, «маскоўскага прыхадня», старосты ляхавіцкага) і далучэння да Навагародскага шляхецкага павета); 17) ад татар літоўскіх (аб скасаванні артыкулаў Статута, якія парушалі правы татар, і аб ураўнанні іх са шляхтаю); 18) ад горада Вільні (5 адказаў); 19) ад зямян, якія жывуць на мяжы з Інфлянтамі, і ад іншых асобаў (4 адказы) (с. 481–518).

Пасля Люблінскай уніі, у выніку якой ВКЛ пазбылася ўласнага сойму на карысць парламенту новай федэрацыі Рэчы Паспалітай, і ў варунках крызісу «бескаралеўя», якое наступіла хутка пасля падпісання ўніі, узнікла новая інстытуцыя – з’езд станаў. Ён замяніў «літоўска-рускі сойм», таму што трэба было прымаць жыццёва важныя для Вялікага Княства рашэнні ў адсутнасць караля і вялікага князя[38]. Увасаблялі гэтую інстытуцыю спачатку найбольш уплывовыя ў Літве сенатары, перш за ўсё ваяводы – віленскі і трокскі, кашталяны – віленскі і трокскі, стараста жамойцкі, якія часта выконвалі таксама міністэрыяльныя функцыі канцлера, гетмана, падскарбія. Аднак тыповы сенатарскі з’езд ужо на пачатку першых двух «бескаралеўяў» 1572–1576 гг. паступова ператварыўся ў з’езд станаў, які злучаў як сенатараў, так і прадстаўнікоў шляхты. У гэты перыяд важную дзяржаўную функцыю выконваў таксама соймік Віленскага, ваяводства.

**Першы сенатарскі з'езд пасля смерці Жыгімонта Аўгуста пачаўся 13 жніўня 1572 г. у Гародні**. На ім быў выстаўлены ліст літоўскіх сенатараў да сенатараў малапольскіх, у якім гаварылася аб скліканні супольнага з'езду 24 жніўня ў Кнышыне, каб прызначыць «*час і месца выбараў новага гаспадара*»[39]. Падпісалі ліст ваявода віленскі Мікалай Радзівіл, ваявода трокскі Стэфан Збараскі, стараста жамойцкі і маршалак земскі ВКЛ Ян Геранімавіч Хадкевіч (у арыгінале Ян Катковіч), ваявода мсціслаўскі Ежы Осьцік, ваявода полацкі Станіслаў Давойна, ваявода берасцейскі Ежы (Георгі) Тышкевіч, кашталян трокскі Астафей Валовіч, кашталян смаленскі (у арыгінале жамойцкі) Дамінік Пац, кашталян менскі Ян Глябовіч, кашталян жамойцкі (у арыгінале смаленскі) Мікалай Тальваш, падскарбі земскі ВКЛ Мікалай Нарушэвіч, падчашы і гетман дворны ВКЛ Кшыштаф Радзівіл.

На той момант у Кароне было два канкуруючыя палітычныя лагеры – «малапольскі» (на чале з кракаўскім ваяводам Янам Фірлеем) і «вялікапольскі» (на чале з прымасам Якубам Уханьскім). Прадстаўнікі апошняга сабраліся ў Ловічы (16–23 ліпеня). Ліцвіны вырашылі сабрацца 13 жніўня ў Гародні на свой сенатарскі з'езд, каб абмеркаваць, да якога лагера далучыцца[40]. На ім прысутнічалі як мінімум 12 магнатаў, у тым ліку ваяводы, кашталяны, падскарбі земскі, гетман дворны, канцлер і падканцлер, маршалак земскі. Афіцыйна яны падтрымлівалі кантакты з абодвума бакамі.

У той жа дзень, 13 жніўня ў Гародні быў выстаўлены ліст літоўскіх сенатараў да сенатараў вялікапольскіх, які таксама падпісалі некаторыя іншыя дыгнітары, напрыклад, ваявода навагрудскі Павел Сапега, ваявода смаленскі Грыгоры Валовіч, ваявода і староста менскі Гаўрыла Гарнастай, кашталян віцебскі Павел Пац, маршалак дворны ВКЛ Мікалай Кшыштаф Радзівіл[41].

Кароткі перыяд панавання французскага электа Генрыка Валуа скончыўся чарговым *interregnum*.

**8–20 красавіка 1576 г. у Гародні зноў адбыўся з'езд станаў ВКЛ**, на якім разглядалася кандыдатура пераемніка трона. Як і чатыры гады таму, у Кароне зноў паўсталі два асноўныя лагеры, якія на гэты раз называліся «цэсарыяне» і «батарыяне». Зноў прымас Якуб Уханьскі ўзначальваў тую частку шляхты, якая бачыла сваім

кандыдатам прадстаўніка дынастыі Габсбургаў. Малапольскі лагер сваім кандыдатам абвясціў Стэфана Баторыя. Мікалай Радзівіл «Руды» ў сакавіку 1576 г. навязаў кантакты з абодвума кароннымі лагерамі. У ВКЛ былі прыхільнікі як Габсбургаў, так і семіградскага князя Стэфана Баторыя. У ліку першых можна назваць Радзівілаў («Рудога» і «Сіротку»), падканцлера Валовіча. На чале літоўскіх «батарыян» стаялі Хадкевічы, менскі кашталян Ян Глябовіч і інш.

Каранацыя Баторыя без папярэдняй дамоўленасці з літоўскай элітай была б для ліцвінаў раўназначна ліквідацыі ўніі, без розніцы да якой фракцыі – радзівілаўскай («цэсарыян») ці хадкевічаўскай («батарыянскай»), яны належалі[42]. Трэба было ўрэгуляваць забеспячэнне інтарэсаў ВКЛ падчас наступных элекцый.

Напярэдадні гарадзенскага з’езду палякі ўжо выбралі Баторыя сваім каралём, але і Максімільян выказаў згоду заняць трон на Вавэлі. У Кракаве пагадзіліся адкласці каранацыю Баторыя на 29 красавіка 1576 г. Неабходнай умовай выбару караля для ліцвінаў была ўсеагульная згода ў абедзвюх частках дзяржаўнага арганізма – ВКЛ і Кароне.

Гарадзенскі з’езд распачаўся ў вельмі напружанай атмасферы, дзейнасць яго зацягвалася. Нягледзячы на шматлікае прадстаўніцтва, з’езд не здолеў выпрацаваць паразумення па прынцыповым пытанні. У выніку нейкай незразумелай формы галасавання перавага аказалася на баку трэцяй кандыдатуры, якая ўзнікла калі дзве асноўныя не праходзілі, менавіта маскоўскага князя[43]. Гэта не задавальняла літоўскі палітычны бамонд, падзелены на два лагеры. У выніку на гарадзенскім з’ездзе ўтварылася канфедэрацыя. Удзельнікі яе прапаноўвалі склікаць новы вальны сойм, падчас якога можна было б перш за ўсё знайсці паразуменне ў польска-літоўскіх адносінах, а потым супольна вылучыць кандыдата на караля, які б прадставіў найбольш карысныя ўмовы для інтарэсаў Рэчы Паспалітай. Сойм павінен быў адбыцца ў Варшаве на шосты тыдзень пасля Вялікадня, г. зн. пасля 27 мая. У супрацьлеглым выпадку ліцвіны абяцалі склікаць з’езд у Мсцібаве, дзе зрабіць асобную элекцыю вялікага князя літоўскага. Усім тром кандыдатам на трон канфедэраты паслалі лісты з папярэджаннем устрымацца ад якіх бы ні было рашучых крокаў да склікання сойму ў Варшаве.

Падрабязнае апісанне абставінаў гарадзенскага з'езду, як і прынятых на ім дакументаў, можна знайсці ў публікацыях выбітнага польскага даследчыка Генрыка Люлевіча («Ліст літоўскіх сенатараў да прымаса Якуба Уханьскага», 19.04.1576 г., «Ліст станаў літоўскіх да «цэсарыян» каронных», 20.04.1576 г., «Універсал гарадзенскага з'езду», 20.04.1576 г., лацінамоўны «Ліст літоўскіх станаў, сабраных на з'ездзе, да Стэфана Баторыя», а таксама «Ліст станаў літоўскіх з'езду гарадзенскага да станаў каронных (батарыян), сабраных у Кракаве», 20.04.1576 г., «Інструкцыя літоўскага пасольства, высланая са з'езду ў Гародні да Стэфана Баторыя, электа польскага, і да батарыян, сабраных на сойме каранацыйным у Кракаве», 20.04.1576 г., «Ліст станаў літоўскіх да Івана IV Грознага», 20.04.1576 г., лацінамоўны «Ліст станаў літоўскіх, сабраных на з'ездзе гарадзенскім, да камісараў імператара ў Рэчы Паспалітай, якія знаходзіліся ў Варшаве на з'ездзе цэзарыян», 20.04.1576 г.).[44]

Нарэшце, апошні ў XVI ст. сенатарскі з'езд адбыўся ў Гародні 6–12 студзеня 1587 г., хутка пасля смерці (12.12.1586 г.) Стэфана Баторыя ў Гарадзенскім замку. Падчас яго былі прынятыя «Універсал сенатараў літоўскіх да шляхты аб скліканні павятовых соймікаў і з'езду станаў», «Ліст сенатараў літоўскіх і каронных да цара Фёдара Іванавіча» (паведамлялі аб смерці караля і пераносе перамір'я), лацінамоўны «Ліст сенатараў літоўскіх да сенатараў і шляхты ваяводства Пазнанскага».

У цэлым, гісторыя гарадзенскіх соймаў XVI ст. арганічна знітаваная з усёй гісторыяй ВКЛ. Яна канкрэтызуе як ваенныя падзеі і становішча краіны на міжнароднай арэне, так і сацыяльна-культурныя працэсы (правядзенне адміністрацыйнай рэформы, валочнай памеры, прыняцце Статутаў 1529 і 1566 г. ды інш.).

За пастановамі, ухваламі і рэцэсамі соймаў стаялі канкрэтныя асобы, якія часта заставаліся ананімнымі. На жаль, мы не можам назваць імёнаў маршалкаў гарадзенскіх вальных соймаў. Як развівалася палітычная культура ў ВКЛ напрыканцы XVI ст., можна меркаваць па матэрыялах гарадзенскіх з'ездаў перыядаў бескаралеўяў. Аднак важнейшым уяўляецца той факт, што на працягу ўсяго XVI ст. умацоўвалася роля і значэнне шляхецкага саслоўя, у інтарэсах якога прымаліся пастановы соймаў. У той жа час роля

караля змяншалася. Пасля смерці апошняга прадстаўніка дынастыі Ягелонаў кароль-элект ператварыўся ў выразніка інтарэсаў той групоўкі, якая прывяла яго да ўлады. Асаблівасці перадвыбарчай палітычнай барацьбы, якую можна ахарактарызаваць як «каранацыйная бура», адлюстроўваюць дакументы з'ездаў станаў перыядаў бескаралеўя (1572, 1576 і 1587 г.), што адбываліся ў Гародні.

Мэтай дадзенага артыкула быў агульны аналіз колькасці, храналогіі і значэння гарадзенскіх вальных соймаў XVI ст., што не дазволіла заглыбіцца ў даследаванні па ажыццяўлення пастаноў соймаў. Гэта задача канкрэтных гістарычных даследаванняў. Нам важна было паказаць праз аналіз соймавых пастаноў, якое месца Гародня займала ў сацыяльна-палітычным жыцці ВКЛ. Мы прыходзім да высновы, што пачынаючы з 1501 г., калі адбыўся першы вальны гарадзенскі сойм, да канца XVI ст. значэнне Гародні як адміністрацыйнага цэнтра ўзрасло, дасягнуўшы найвялікшага значэння ў часы панавання Стэфана Баторыя.

---

[1] Семянчук, А. А. Эпізод гарадзенскай гісторыі сярэдзіны XVIII ст. // ARCHE Пачатак. Мн., 2010. № 1–2 (88–89). С. 20–37.

[2] Любавский М. Литовско-русский сейм. Опытъ по исторіи учрежденія въ связи съ внутреннимъ строемъ и внешнею жизнью государства. Москва, 1900.

[3] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. Warszawa, 2002.

[4] Литовская Метрика. Книги публичных дел // Русская историческая библиотека (РИБ). Т. 30. Юрьев, 1914.

[5] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 10.

[6] Тамсама. С. 169.

[7] Ochmański J. Historia Litwy. Poznań, 1990. S. 105.

[8] Довнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 82–84.

[9] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie… S. 15.

[10] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 2.

[11] Тамсама. С. 5–6.

[12] Тамсама. С. 6.

[13] Радаман А. Сойм // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2: Кадэцкі корпус – Яцкевіч / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. Мн.: БелЭн, 2006. С. 611.

[14] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 143.

[15] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Zmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. II. S. 315.

[16] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie… S. 13.
[17] Тамсама. S. 13.
[18] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 225.
[19] Радаман А. Сойм… С. 611.
[20] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 224.
[21] Тамсама. С. 224.
[22] Тамсама. С. 225.
[23] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. Первый Литовский Статут (1529 г.). Вильнюс: Margi rastai, 2004. С. 58.
[24] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 3; Радаман А. Сойм… С. 611.
[25] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 4.
[26] Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / Т. І. Доўнар, У. М. Сатолін, Я. А. Юхо. Мн., 2003. С. 79.
[27] Статут Вялікага княства… С. 80.
[28] Салей С. Гравюра Адэльгаўзэра/Цюндта «Vera designatio urbis in Littavia Grodnae» як крыніца па гісторыі Гародні: сучасны стан і перспектывы вывучэння // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зб. навук. арт. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 189–194.
[29] Тамсама. С. 193.
[30] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т. 30. С. 405–406.
[31] Любавский М. Литовско-русский сейм. С. 5.
[32] РИБ. Т. 30. С. 407.
[33] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie… S. 48.
[34] РИБ. Т. 30. С. 408. Далей спасылкі на РИБ у тэксце.
[35] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн., 1993. С. 21–24; Беларусы. Т. 6. Грамадскія традыцыі / В. Ф. Бацяеў, В. М. Бялявіна, А. У. Гурко і інш.; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Мн., 2002. С. 10–13.
[36] Янушкевіч А.М. Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг. Мн., 2007. С. 221.
[37] Тамсама. С. 211-270.
[38] Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. I: okresy bezkrólewi (1572–1576, 1586–1587, 1632, 1648, 1696–1697, 1706–1709, 1733–1735, 1763–1764). Opracował H. Lulewicz. Warszawa 2006. S. 7.
[39] Akta zjazdów stanów …. S. 19
[40] Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy. Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588. Warszawa 2002. S. 85
[41] Akta zjazdów stanów…S. 21–22.
[42] Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy… S. 251.
[43] Тамсама. S. 258.
[44] Akta zjazdów stanów… S. 163–178.

*Віталь Галубовіч,*
*канд. гіст. навук (Гародня)*

# Злодзеі, разбойнікі і забойцы на Гарадзеншчыне (*паводле спраў гарадзенскіх судовых установаў 1539–1565 гг.*)

Злачынцамі нараджаюцца ці становяцца? Гэта прафесія ці пакліканне? (як мог бы запытацца Макс Вэбэр?) Што ўплывае на фармаванне чалавека схільнага да злачынства? Гісторыя адказвае на гэтыя пытанні сыходзячы з уласнай метадалогіі, дзе першаступенную ролю адыгрывае прычынна-выніковая працэдура даследавання гэтай непрыемнай з'явы грамадскага жыцця: злодзей, бо скраў; разбойнік, бо ўчыніў разбой; забойца, бо забіў. Усё астатняе (асяроддзе, матывацыя, умовы) лічыцца фактарам спрыяння. Лагічна, але, здаецца, недастаткова. Злачынства – гэта акт гвалту не толькі ў адносінах да такой абстракцыі, як усё грамадства, але і кожнай яго асобнай адзінкі. Акт, які паўтараецца з няспыннай сілай і сведчыць пра тое, што ў нашай чалавечай прыродзе злачынства хутчэй норма, чым выпадковасць. Калі гэта так, то ці не варта пашукаць спосаб мінімалізацыі гэтай нормы? Адзіны слушны шлях да гэтага – пагадзіцца з тым, што прыроду злачыннасці немагчыма зразумець, калі яе не вывучаць, паколькі нельга перамагчы невядомае. Зрэшты, як і немагчыма зразумець грамадства ў цэлым, калі, як адзначыў Пітэр Бэрк, «*не ўлічваць аўтсайдэраў*»[1]. Менавіта пра іх і будзе весціся гаворка ніжэй.

У дадзеным артыкуле аналіз злачыннасці свядома абмежаваны трыма відамі замахаў: на маёмасць, на асобу і маёмасць, на жыццё асобы. Крыніцай фактычных звестак сталі дакументы з актавых кніг Гарадзенскага замкавага суда за 1539–1542 гг. і Гарадзенскага земскага суда за 1555–1565 гг., апублікаваныя ў XVII і XXI тамах «*Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі*»[2].

## *Злодзеі*

Зладзейства належыць да ліку невылечных заганаў чалавецтва, і вядомае яно спакон веку. Пра памер гэтага віду злачынства ў першай палове XVI ст. яскрава сведчыць першы Статут Вялікага Княства Літоўскага, дзе вылучаецца асобны, трынаццаты па ліку, раздзел «*О злодействе*»[3].

**Як стаць злодзеем?**

Слушны адказ – трэба нешта скрасці. Але гэта не заўсёды так. Злодзеем можна было «стаць» і пасля наўмыснага абгавору. Так, баярын Казак Іванавіч адмыслова падкупіў сведкаў, каб яны пацвердзілі яго ілжывае абвінавачанне найміта Петка ў крадзяжы каня, за што Казак быў пасаджаны «*на замок*»[4]. Хаванне злодзея таксама абарочвалася непрыемнасцю. Так, у чэрвені 1539 г. у замкавую турму трапіў гаспадарскі мукавоз Янка за прыманне злодзея Мікалая[5].

Дарэчы, у XVI ст. слова «*злодей*» мела не толькі крымінальнае вымярэнне. Выкарыстанне яго ў зняважлівым сэнсе магло стаць падставай звароту ў суд[6].

**Час зладзейства**

Важнай акалічнасцю, якая вызначала поспех злачыннага мерапрыемства, быў выбар адпаведнага часу. Найбольш спрыяльнай для злодзеяў была ноч, што досыць часта фіксуецца ў судовых актавых кнігах: «*в ночи кгвалтом*»[7], «*с пятницы на суботу в ночи*»[8], «*ночным обычаем*»[9]. Падкоп пад кузніцкую царкву зладзеі, натуральна, не маглі зрабіць днём, але ўдалося сцяну падкапаць «*дня вчерашняго у ночи*»[10]. Згадваюцца і іншыя сітуацыі. Так, гарадзенскага залатара Даменіка абкралі «*в тот час, кгды ми и хлопица отвабено*»[11]. Як прызнаўся адзін з пацярпелых, яго пазбавілі маёмасці, пакуль ён адпачываў: «*я-м пил сегодня у корчме*»[12], іншага небараку абкраў яго ж сабутэльнік «*у беседе в дому одной мещанки тут у Городне*»[13]. Пільным належала заставацца ў Гародні і на вуліцы, дзе маёмасць маглі скрасці «*тут у месте на влици з воза*»[14].

**Што кралі на Гарадзеншчыне?**

***Што пад руку трапляла.*** Напрыклад, бортнік пана Міхайлы Макаровіча ў сваёй заяве ў жніўні 1539 г. сведчыў, што злодзеі скралі «*з коморы панской шаты, масла, сыры и иные многие речи домовые […] и сад потрасли*»[15]. У заможных асобаў асартымент патэнцыйных прапажаў быў значна шырэйшы. Абкрадзены ў красавіку 1558 г. гарадзенскі зямянін Станіслаў Пескі заявіў, што сын Сярпейкаў Пётр «*взял дей у мене аркабуз, вставши рано и поехал, который аркабуз стоял чотырох таляров, рукавицы чорного замшу, однорадок пурпурьяну шерого с кнафлями позлотистыми, убране чорного замшу и иных речей немало*»[16].

***Ежа.*** Вабілі злодзеяў розныя харчы. Так, у ксяндза Яна «*каплана святого Миколая*» невядомы спрабаваў «*из свирна мясо старое полти выбрати*», але быў пачуты і ўцёк, кінуўшы нож[17].

***Каштоўнасці.*** Магчымасць дакрануцца да чужога багацця магла зняраўнаважыць слабую чалавечую псіхіку. Відавочна, што па такім сцэнары адбывалася навяртанне ў злодзеі Янкі, які скраў у свайго пана Глеба Сапегі «*скрынку з многими речми важными*», дзе між іншым быў залаты ланцуг[18].

***Царкоўнае начынне.*** Мэтай арганізаванага ў траўні 1556 г. крадзяжу ў кузніцкай царкве былі прадметы, якія выкарыстоўваліся ў набажэнстве. Саўку Сцепановіча, злоўленага падчас крадзяжу, паўсюль прад'яўлялі з рэчавымі доказамі «*з лицом, свечами двема, вгарки*»[19].

***Саджанцы.*** Кралі і ў дзяржавы. На пасяджэнні гарадзенскага земскага суда 21 чэрвеня 1541 г. разглядалася справа пра знікненне грушы і вішні з каралеўскага саду ў Лунінцы. Праўда, злодзея так і не знайшлі[20].

***Сена.*** Абставіны крадзяжу сена вядомыя з заявы жараслаўскага і квасоўскага дзяржаўцы Юрыя Зеляпугі, які пакінуў паведамленне пра тое, што «*две стирте сена взято на Жидомли*»[21].

***Авечкі, каровы, коні.*** Заявы пра скрадзеных авечак звычайна складалі сяляне, яны ж былі і галоўнымі выканаўцамі такіх злачынстваў. Кралі па-рознаму, але часам памеры стратаў лічыліся дзясяткамі[22]. Факт крадзяжу каровы вядомы з заявы гаспадарскага шындзельніка Чыжа Юшкевіча[23]. Крадзеж коней быў вельмі папулярным

заняткам. У адной з судовых заяваў захавалася нават эмацыйная рэпліка скідзельскага дзяржаўцы Івана з гэтай нагоды: «*Милый брате! У мне вкрадены из стайни два кони, а вждым ся их не доискал*»[24].

***Сабака.*** Абвінавачанне ў крадзяжы было дзейсным спосабам вяртання «вельмі рухомай» маёмасці. Падобным чынам паступіў гарадзенскі ляснічы Пётр Міцута, каб вярнуць ад Андрэя, слугі жонкі Івана Валовіча, «*выжла рудого*»[25].

***Тканіна.*** Уласна за крадзеж сямі локцяў палатна быў пасаджаны ў турму злодзей Крот Дуда, злоўлены жонкай селяніна Касцюка Багданцовіча[26].

Асартымент пакражаў значна перавышаў пералічаны спіс, але і з яго відаць, што для злодзеяў не існавала ніякіх абмежаванняў.

**Рынак скрадзенага**

Лёс скрадзенай ды іншай незаконна здабытай маёмасці быў дастаткова трывіяльны. Тое, што можна было з'есці ці ўжыць адпаведным чынам выкарыстоўвалася, а некаторая частка рэчаў трапляла на рынак у Гародню ці прадавалася ў бліжэйшай мясцовасці. Досыць паказальная ў гэтым сэнсе гісторыя селяніна Алтуха Дзецяловіча, якога вінавацілі ў тым, што ён скрадзеных авечак прадаў «*на торжку Сопотковом*»[27]. Падобны лёс чакаў і тыя рэчы, што былі здабытыя разбойным шляхам. Падданы гаспадарскі Сязюта Івановіч, абрабаваны яшчэ на трэцім тыдні пасля Вялікадня напрыканцы верасня 1540 г., «*на торгу*» у Гародні пазнаў «*узду свою*» у гарадзенскага муляра Багданца Навумовіча, які спужаўся і кінуў не толькі саму «*узду*», але і каня[28].

Можна канешне палічыць выпадковасцю інфармацыю пра продаж скрадзеных рэчаў «*двум жидом Городенским*», але сумнеўна, каб яны не ўсведамлялі, адкуль у панскіх слуг, адзін з якіх называў сябе «*убогим чоловеком*», маглі ўзяцца такія дарагія рэчы, як «*ланцуга золотого неколькось кольцей*»[29].

**Злодзеі**

Вельмі складана рабіць нейкія агульныя назіранні, бо пра злодзеяў-рэцыдывістаў крыніцы не паведамляюць, але нешта агульнае ў злачынцаў усё ж было. Адсутнасць маральных бар'ераў –

несумненна, іначай не растлумачыць абкраданне царквы. Уменне карыстацца чужой дабрынёй. Так, падвёз Станіслаў Пескі на сваім возе Пятра Сярпейкава, а той яго абакраў у знак падзякі[30]. Хлусня. Напрыклад, Саўка Сцепановіч, каб заблытаць следства, свядома называў розных шляхціцаў сваімі гаспадарамі[31]. Адчуванне часу: злавіў момант – скраў, як татарын Янчура[32].

***Невядомыя.*** Крадзеж на тое і крадзеж, каб пра яго абставіны і арганізатараў было як найменей вядома. Складальнікі заяваў, адпаведна, сведчылі, не пазначаючы імёнаў, што напад здзейснілі «*злодей*», «*злодеев шесть*»[33]. Але большасць выпадкаў абвінавачання ў крадзяжы мела канкрэтную адрасацыю.

***Сяляне.*** *Прыгонныя.*Такіх злоўленых на месцы злачынства злодзеяў ведалі не толькі па імені, але і па імені гаспадара, як затрыманага «*з лицом*» на полі з чужым бараном селяніна Мікіту, падданага пана Богуша Дарашкевіча[34]. *Пахожыя.* 17 траўня 1540 г. «*до замку*» быў пасаджаны селянін Юрка за крадзеж калёсаў з гасподы Паўла Едкавіча[35].

***Слугі.*** Найманне на працу нячыстых на рукі асобаў магло скончыцца катастрафічнымі стратамі. Гарадзенскі кравец Сенка Івановіч паплаціўся за сваю неразборлівасць у людзях, акрамя грошай, чапцамі, наміткамі, сарочкамі, ручнікамі, сякерамі, півам ды шапкай, і ўсё гэта прыўласціла прыслужніца Марюха Андэйкавая[36]. Падобным чынам абышоўся са сваім гаспадаром, азерскім карчмаром Гарасімам, нейкі Паўлюк[37].

***Жыды.*** Паводле заявы гарадзенскага жыда Ігудкі Аўрамовіча, яго супляменнік Крывоня Мошэвіч зрэзаў у яго «*калиту з пенезьми с полчетверты копами грошей и вынемши дей тыи пенези, калиту покинул*»[38].

***Татары.*** Захавалася справа пра абвінавачанне ласосненскага татарына Янчуры ў крадзяжы ў гарадзенскага залатара «*цатки*» альбо срэбнай падвескі да іконы[39].

***Дзеці.*** У лютым 1556 г. каралеўскі «*маштарель*» Мацей Івановіч скардзіўся ў судзе на гарадзенскага баярына Стася Яновіча і яго сына Мікулку за крадзеж плоту. Пры гэтым ён распавёў узорную гісторыю пра спробу начнога затрымання Мікулкі, які здолеў пабіць Мацея Іванавіча і ўцячы[40].

***Жанчыны.*** Жанчынам былі ўласцівыя тыя ж жарсці, што і моцнай палове чалавецтва. Падобныя абвінавачванні не былі ўнікальнымі для Гарадзеншчыны. Напрыклад, паводле заявы баярына Грыгорыя Міхайлы, яго цівуна Грынца абкрала «*жонка пана Василья Котовича*»[41].

**Лёс злодзея**

Жыццё злодзея каштавала ў тагачасным грамадстве не шмат, і працэдура пакарання не зацягвалася, асабліва, калі кралі прастакі. Так, Радца, які быў прыгонным пана Богуша Тарусы, за крадзеж каня павесілі[42]. У выпадку злоўленага сялянамі злодзея Мікіты, якога даставілі да Лабенскага двара, дзе ён «*через немалый час у везеньи там у дворе господарском седел*», фактар часу адыграў рашаючую ролю. Паколькі яго гаспадар не пажадаў з'явіцца на разгляд справы, і не адказаў пісьмова, то Мікіта, скарыстаўшыся нагодай, уцёк[43]. За крадзеж сямі локцяў палатна парабка Крата Дуду ледзь не прысудзілі да смяротнага пакарання пасля таго, як на судзе сведка заявіў: «*Тот дей паробок его вже не однокроть при лице был и лицо платил и вже есть годен шибеницы, а не пуг*». Не маючы дакументальных пацвярджэнняў рэцыдыву, суддзі «*у статут прав земских углянули и то з артыкул знашли, где бы паробки крали, у статуте описует, естли лицо полтины не стояло, мает пугами карати (а шкода с бонды мает быти) плачона*»[44].

Асуджаны да смерці за саўдзел у крадзяжы Цімаш Раманавіч у адказ за змякчэнне прысуду з боку сваёй гаспадыні, княгіні Палубенскай, паабяцаў вярнуць усе каштоўнасці[45].

## *Разбойнікі*

Між розных відаў злачыннай дзейнасці, здаецца, найбольш пашанцавала разбойніцтву, якому народная традыцыя надала станоўчы контрвобраз (напрыклад, абаронца бедных Робін Гуд)[46]. На жаль, прыкладаў самаахвярнага змагання за справядлівасць праз гвалт на шляхах і сцяжынах захавалася у нашай гісторыі не так шмат. Падаўляючая большасць звестак пра разбойнікаў у эпоху «*залатога стагоддзя*» пакідае сумнае ўражанне.

У прававой літаратуры існуе не вельмі дакладнае размежаванне тэрмінаў разбойніцтва і рабаўніцтва, сутнасць якіх аднолькавая: пазбаўленне людзей маёмасці з ужываннем сілы з той розніцай, што прыкметай разбою было ўчыненне злачынства «*на дорозе*»[47]. Вызначыць дадзены від злачынства, накіраваны супраць асобы і яе маёмасці, сыходзячы з апошняй прыкметы, дастаткова проста. Але і самыя крыніцы часам больш дакладна характарызуюць супрацьпраўнае дзеянне, калі называюць спосаб яго здзяйснення праз формулу «*розбойным обычаем*»[48].

Разбойнікі выбіралі зручны час для нападу, асабліва падпільноўваючы тых, хто вяртаўся з рынку. Так здарылася з Васкам Радкавічам, які ехаў «*з Ындури з ярмарку до дому своего*», альбо з Селівонам Іванавічам у час вяртання з Гародні «*торгового дня*»[49].

Сама працэдура разбойнага чыну ў пачатковай фазе звычайна прадугледжвала «паляванне» на ахвяру. Разбойнікі пераймалі падарожных «*догонивши их на добровольной дорозе*», што не выключала некалькі этапаў пераследавання. Часам падарожнікаў наўмысна чакалі на дарозе, нават не хаваючыся[50].

Неад'емным спадарожнікам злачыннага замаху было ўжыванне сілы. Так, Ян Андрэевіч з кампаніяй «*первей розбойным обычаем нас бити почали*», скардзіліся пацярпелыя гарадзенскія баяры[51]. Іншы пацярпелы Мацка Грынкавіч сведчыў, што 5 ліпеня 1555 г. яго «*на добровольной дорозе […] збил и зранил и с коня збил*» гарадзенскі баярын Мацей[52]. Але часам збіццём разбойнікі не абмяжоўваліся, і справа даходзіла да забойства. Так, у выніку нападу пана Ленарта Клочкі ў лютым 1556 г. на падарожных адзін чалавек быў забіты, а іншы, ледзь «*втекши з того розбою […] был весь збит, а в голове рана тятая*»[53].

Пасля выкарыстання такіх пераканаўчых аргументаў наступала асноўная частка злачыннай акцыі: пазбаўленне ахвяраў маёмасці, паколькі ў разбоі пры ўсіх гвалтоўных сродках яго здзяйснення пераважаў элемент маёмаснага замаху[54]. Разбойнікі бралі самае каштоўнае: грошы, вопратку, вупраж, зброю, каня з возам і г. д.[55]

Разбойны напад, напэўна, мог здзейсніць і адзін чалавек, аднак у большасці выпадкаў злачынства ажыццяўлялася завадата-

рам «*с товаришми*» альбо « *омочники своими*»[56]. Але пры гэтым абвінавачванні ў разбоі звычайна высоўваліся супраць адной канкрэтнай асобы, а яе памагатыя выступалі як ананімная маса.

Нельга таксама не заўважыць, што разбой у вялікай ступені быў «манапалізаваны» такой сацыяльнай групай, як мясцовае баярства. Адметнасцяў у іх, відаць, было столькі, што пацярпелыя, нават не ведаючы імёнаў разбойнікаў, разумелі, з кім яны сутыкаліся, калі сведчылі, што напад здзейснілі «*бояре господарские о колко особ*». Баярства было адносна скансалідаванай часткай грамадства, якая магла і за сябе пастаяць, і арганізоўвацца дзеля незаконных дзеянняў. У чэрвені 1557 г. такая «баярская» банда ля Гародні злупіла «*на добровольной дорозе*» гарадзенскага жыда Еску Мошавіча[57].

Значна радзей фіксуюцца ў якасці рабаўнікоў зямяне, якія таксама ведалі, каго трэба абіраць. Так, Марцін Талачкевіч Цалюта невыпадкова здзейсніў напад на жыдоў, якія ехалі з Гародні да Новага Двара, бо акрамя рэчаў, адзін з пацярпелых меў пры сабе нават «*пять сот коп перел*»[58].

### *Забойцы*

Нягледзячы на напоўненасць гарадзенскіх актавых кніг сведчаннямі пра гвалтоўныя дзеянні, факты забойстваў сустракаюцца дастаткова рэдка.

#### **Пагрозы аб забіцці**

Слова ў тагачасным грамадстве мела свой кошт. Нават пагроза забіць з’яўлялася дастатковай падставай звярнуцца ў суд. Так, гарадзенскі баярын Мікіта Паўловіч склаў заяву ў судзе на пана Міхайла Кунцэвіча, які нібыта яго папярэдзіў: «*Будеш ли ты по нашим сеножатем ходити, або где инде, я тебе забити кажу, або сам забью*»[59].

Падобныя заявы не адзінкавыя, таму можна дапусціць, што да іх ставіліся сур’ёзна і прымалі папераджальныя меры. Так, у адказ на заяву гаспадарскага асочніка Берташа Стэцэвіча на саленіка Бучэля Міковіча, які, са словаў асочніка, «*чинит ми он похвалки и*

*отповеди, хотячи ми забити або зарезати и шкоду ми вчинити, для чого ж небезпечон есми от него горла своего*», суд абавязаў Бучэля спыніць пагрозы і пастанавіў: «*Естли бы ся за тою похвалкою его што тому Бертошу стало, он маеть ему то офяровати*»[60].

**Суб'екты злачынства**

***Панскія слугі.*** Сярод забойцаў пэўны адсотак складаюць асобы з невысокім сацыяльным статусам. Залежнымі людзьмі заўсёды лёгка маніпуляваць, а самі яны нярэдка паўтараюць мадэлі паводзінаў сваіх гаспадароў. Адзін з такіх выпадкаў быў зафіксаваны ў судзе 27 верасня 1540 г. З справы вынікае, што Петранец, слуга пана Лукаша Грынкавіча, забіў Стася, слугу яго брата Міхайлы Грынкавіча, пасля чаго «*з дому своего втек прочь*». Злоўлены Міхайлам Грынкавічам пазней «*тут в месте на торгу*» у Гародні забойца быў перададзены свайму гаспадару, за што Міхайла павінен быў атрымаць галоўшчыну, але замест гэтага быў збіты сваім жа братам[61].

***Гаспадарскія сяляне.*** Так, пасля праведзенага Якубам Акімовічам, братам збітага ў верасні 1540 г. недалёка ля Гародні татарына Таўчука следства, высветлілася, што яго смяротна збіў «*на дорозе*» гаспадарскі падданы Шымон Янковеч, якога выдаў суду яго брат Марцін, які за паўкапы грошаў дапамог «*злочинцу […] навести*»[62].

***Мяшчане.*** Забойцам можна было стаць пры досыць незвычайных абставінах. Гарадзенскі стрыхар Аляксей пасля абвінавачання свайго прыслужніка Андрэя ў прычыненні шкоды шляхам крадзяжу, «*выдавши* [Андрэя] *до ратуша на муку, до смерти замучил, а шкод ся своих в него не допытал*», за што яму, ужо як злачынцы, па законе належала выплаціць галоўшчыну, калі б сваякі нябожчыка звярнуліся ў суд[63]. Падобным чынам ражанскі мешчанін Ян Горскі ў кампаніі з Янам Младзяноўскім так вымучылі гожскую мяшчанку Ягнешку, калі везлі яе на допыт у Гародню, што яна «*змерла с той муки у везенье у замку*»[64].

***Службовыя асобы.*** Злоўжыванне сілай з боку службовых асобаў – з'ява нярэдкая. Часамі такія чыны заканчваліся смерцю. Так, у жніўні 1555 г. быў арыштаваны «*на горачой крви*» Павел,

ураднік пана Размуса Пескага, за забойства на дарозе з Новага Двара каралеўскага млынара Грышкі Якаўцовіча[65].

***Баяры.*** Вельмі красамоўны выпадак перамогі справядлівасці быў зафіксаваны ў гарадзенскім судзе ў красавіку 1540 г. Абвінавачаны ў здзяйсненні і арганізацыі забойства жанчыны гаспадарскі баярын Ян Унучка на першым пасяджэнні суда цалкам адмовіў віну, але пасля правядзення следчай працэдуры і прад'яўлення бясспрэчных доказаў злачынства ён «*дался винен*»[66]. Іншы гаспадарскі баярын Гарадзенскага павета Шчасны Навіцкевіч абвінавачаны «*о наеханье квалтовное на дом и о забитье на смерть*», замест сябе паслаў на разгляд справы жонку, якая ў судзе «*сама доброволне подвезала, што мает того мужа своего у права поставити*»[67].

***Зямяне-шляхта.*** Свядома прадуманыя і больш таго публічна ўчыненыя забойствы былі дастаткова рэдкай з'явай і мелі характар своеасаблівай маніфестацыі беспакаранасці. Такі выпадак быў зафіксаваны ў гарадзенскіх земскіх актавых кнігах 20 красавіка 1560 г., калі ў суд звярнулася зямянка Марыя Сідараўна з заявай пра смерць свайго мужа Рыгора Тарусы, забітага падчас прыёму гасцей ва ўласным доме. Злачынца, а ім быў брат нябожчыка Іван Таруса, застрэліў сваяка «*зрадливе про окно з ручницы*», абабраў і зацягнуў да сваёй хаты, а потым знік у невядомым накірунку[68]. Пасля агляду цела Рыгора Тарусы было канстатавана: «*видели есмо горло з ручницы простреленое, которая кулька выскочивши с горла небожчиковского и увошла ажу в ушак против покутного окна у той светлицы, которую кульку тые вижи из ушака вырубавши и нам* [суддзям] *оказывали*»[69].

Шляхціцы былі не толькі здзяйсняльнікамі, але і ў некаторых выпадках галоўнымі інспіратарамі масавых крывавых злачынстваў. Шакіруючы па сваіх наступствах выпадак меў месца ўвесну 1561 г. у Лунна. Звада паміж братамі Сцяпанам і Дзмітрам Сапегамі[70] скончылася гвалтоўным наездам на Лунінецкі двор, дзе былі забітыя пяць чалавек: Дзмітр Сапега, яго тры слугі і шляхціц Сасноўскі. У гэтай гісторыі хіба найбольш ураждае ўзровень звярынай зацятасці забойцаў і апісанне прадчування смерці Дзмітра Сапегі, які «*вельми ся злякнувши*» да прыезду брата

паспеў паспавядацца, звярнуўшыся да святара: «*Милый ойче, чому ся мне вельми тоскно прошу тебе, жебысь ми исповедь повшедную проговорил*»[71]. Калі на двары абодва Сапегі ўхапілі адзін аднаго «*за горло*», Сцяпан, які не здолеў сам адужаць брата, загадаў сваім слугам дапамагаць і тыя бязлітасна да смерці збілі Дзмітра «*кийми, дугами, секерами, хто чим мел*». Агляд эксгумаванага пазней трупа сведчыў, што злачынцы імкнуліся не проста забіць Дзмітра, але прычыніць яму максімум пакутаў, бо білі з такой лютасцю, што «*очи его з бою великого выпадли*»[72].

Што адчуваў забойца? Тое, што ўласціва чалавеку, які звыкнуўся не цаніць жыццё іншай асобы, перамагаць не сваёй сілай, а чужымі рукамі: спачатку радасць, а потым страх за сваё ўласнае жыццё. Інакш не хаваўся б Сцяпан Сапега і не ўцякаў далей ад месца злачынства.

***Бацькі і дзеці.*** Некаторыя абвінавачванні ў забойстве мелі досыць «меладраматычны» кантэкст. Так, у 1556 г. гаспадарскі дваранін Богуш Кошчыц звінаваціў у забойстве сваёй ключніцы Ганіцы, якую ён «*собе за жону мел*», уласных сыноў Цішку і Пятра, якія нібыта падчас ад'езду бацькі ў Вільню напалі на маёнтак Свіслач, схапілі ключніцу «*спячую у лазни*», пасля чаго Пётр адвез яе да Нёмана, дзе і ўтапіў. Справа скончылася тым, што Багуш Кошчыц урэшце адмовіўся ад сваіх паказанняў і дасягнуў паразумення з сынамі[73]. У выніку забойства ключніцы стала толькі другасным эпізодам сямейнага канфлікту, нязручным фактам, які дзіўным чынам страціў усю актуальнасць.

***Калектыўныя чыны.*** Некаторыя звесткі з гарадзенскіх судовых кніг іначай як зводкай пра ваенныя дзеянні не назавеш. Масавыя злачынствы ўчыняліся, несумненна, арганізавана і павінны былі давесці, што перавага на баку больш моцнага. Суд у дадзеным выпадку мог толькі канстатаваць факт здзейсненага. Падобная крывавая акцыя адбылася ў жніўні 1540 г., калі арганізаваны намеснікам князя Андрэя Кашырскага Іванам Масквіціным напад на сялян Бобрынскага сарака скончыўся забойствам шасці чалавек[74]. Злачынцы добра ўсведамлялі тое, што рабілі, бо пахавалі трупы забітых, каб не было прамых сведчанняў іх учынкаў.

У іншым выпадку, зафіксаваным у судзе 23 лютага 1540 г.,

брыгада «*ковалей Веретейских*» навяла «парадак» у воласці шляхам ужывання сілы, вынікам чаго стала смерць скідзельца Сянюты «*рогатиною колотого*»[75]. Злачынныя групы ўтваралі, як адзначалася, і мясцовыя баяры, як гэта здарылася ў жніўні 1555 г., калі гарадзенскія баяры Габяцічы «*и з многими помочники своими*» напалі на крынскіх сялянаў, з якіх двух потым знайшлі забітымі. Гэта засведчыў віж: «*Видел есми у забитого Лукаша рану колотую у боку левом назкрозь пробитую, а в другого ж забитого у Стаселя рану колотую под левою цыцкою*»[76].

**Матыў забойства**

Суд спрабаваў высветліць прычыны, якія штурхалі людзей на злачынствы, але зрабіць гэта было складана. Празаічныя матэрыяльныя прычыны, відаць, не стаялі на першым месцы пры здзяйсненні гэтага злачынства. Здараліся выпадкі, калі забойцам ці шанцавала, ці яны дзейнічалі вельмі «прафесійна», таму высветліць абставіны справы не ўдавалася[77]. Падаўцы скаргаў нярэдка сцвярджалі, што чалавека забілі «*безвинне*», а абвінавачаныя прыводзілі досыць няўцямныя аргументы, як у выпадку з гаспадарскім баярынам Янам Унучкам. Апошні за тое, што сялянка Дарота «*докучала ми упившися*» у Кузніцы на рынку, спачатку сам яе пабіў посахам, а потым загадаў сваім служэбнікам адлупцаваць кабету, у выніку на аглядзе трупа было канстатавана, што збіта яна была «*от головы, аж до ног*»[78].

Калі ва ўсім шукаць жаночы след, то можна вельмі далёка зайсці ў высновах, хаця, сапраўды, здараліся выпадкі крывавых канфліктаў з-за прыгожай паловы чалавецтва. Так, у 1555 г. спрэчка «*о жонку невольную*» паміж баярынам Анціпам Лучычам і баброўніцкім войтам Богушам Міхнавічам скончылася крывавым сутыкненнем, у выніку якога быў забіты Яроцкі, служэбнік крайчага ВКЛ Юрыя Хадкевіча. Следства ледзь паспела высветліць абставіны злачынства, бо пакуль віж дабраўся да месца здарэння, «*псы тело внутре все выели*»[79]. Адметна, што гэтая справа добра ілюструе тагачасныя норавы. Так, у фокусе заяўніка была не смерць чалавека, а лёс страчанага ў час бойкі майна.

Наўмысна спланаваныя забойствы, вядома ж, адрозніваліся

ад выпадкаў, якія з'яўляліся непажаданым вынікам іншага злачынства, напрыклад, збіцця і рабавання.

**Пакаранне альбо кошт смерці**

Стаўленне да смерці ў тагачасным грамадстве адрознівалася ад сучасных стандартаў. Жыццё мела свой кошт, які залежаў ад месца ў сацыяльнай стратыфікацыі злачынцы і ахвяры, ступені цяжкасці злачынства ды абцяжарваючых абставінаў. Натуральна, калі за забойства можна было адкупіцца, а не страціць свабоду ці жыццё, стрымаць эмоцыі мог далёка не кожны, асабліва, калі той, хто выконваў ці замаўляў забойства быў чалавекам заможным. Сама працэдура кампенсацыі за гэты від злачынства наўпрост выглядала як звычайная гандлёвая аперацыя, дзе віталіся бартарныя здзелкі. Прызнаны вінаватым у забойстве жанчыны Ян Унучак, мусіў аддаць яе мужу дваццаць коп грошай галоўшчыны, але ў выніку працы пасрэднікаў – «*едначов*» дамовіўся разлічыцца «*за то чотырма копами грошей готовыми, а трима бочками жита, а двема бочками ячменя, а к тому полоть мяса*»[80]. Невядома, як тое мяса пайшло ў горла. Інстытут галоўшчыны спрыяў адпаведнаму стаўленню да жыцця і ў асоб простага стану. Так, вазніца Езур, абвінавачаны ў красавіку 1557 г. у забойстве Шымкі Князевіча, прызнаўся ў здзейсненым «*добровольне*», але пры гэтым цынічна і з разлікам «*поведил, иж ведь де не один я того Шимка Князевича бил и не один теж заплачу*»[81].

Рэзанансная для Гарадзеншчыны справа пра забойства «*мечем штыхом*» Васіля Валовіча, які належаў да ўплывовага мясцовага клану, скончылася пакаяльнай сцэнай, падчас якой злачынца Матыс Кунцэвіч, «*падши крыжем*» прасіў літасці ў сваякоў нябожчыка, што стала падставай для змягчэння прысуду. Забойца быў перададзены Валовічам з наступнай фармулёўкай «*волен будет пан Иван и з братом своим Остафьем, што хотячи над ним, яко винным, вчинити, то будет на ласце и милосердьи их*»[82].

***

Злачыннасць была неад'емным элементам жыцця Гародні і ваколіцаў у XVI ст. Натуральным спадарожным фактарам,

які спрыяў «прагрэсу» гэтай «чалавечай хваробы», быў досыць стракаты сацыяльны, нацыянальны і маёмасны склад мясцовага насельніцтва. Пры адсутнасці статыстычных дадзеных цяжка казаць пра памеры таго ж зладзейства, але фіксацыя ў праве жорсткіх нормаў пакарання не сведчыць пра яго ўнікальнасць, хутчэй наадварот. Усе прадстаўленыя віды злачынстваў у іх скрайніх формах караліся пазбаўленнем жыцця, што дазваляла тагачаснаму грамадству ажыццяўляць нейтралізацыю найбольш псіхічна няўстойлівых асобаў.

---

[1] Бэрк П. Народная культура Эўропы ранняга Новага часу. Мн., 1999. С. 193.

[2] Акты Виленской археографической комиссии. Т. XVII. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890; Акты Виленской археографической комиссии. Т. XXI. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894.

[3] Статут Великого Княжества Литовского 1529 г.: Текст, перевод и словарь-комментарий. Мн., 1960. С. 124–131.

[4] АВАК. Т. XVII. С. 97–98.

[5] Тамсама. С. 5.

[6] Тамсама. Т. XXI. С. 13–14.

[7] Тамсама. Т. XVII. С. 34.

[8] Тамсама. С. 70.

[9] Тамсама. Т. XXI. С. 119.

[10] Тамсама. Т. XVII. С. 403.

[11] Тамсама. С. 62.

[12] Тамсама. С. 105.

[13] Тамсама. С. 325.

[14] Тамсама. С. 300.

[15] Тамсама. С. 34.

[16] Тамсама. Т. XXI. С. 307.

[17] Тамсама. С. 70.

[18] Тамсама. С. 12–13.

[19] Тамсама. Т. XVII. С. 403.

[20] Тамсама. С. 348.

[21] Тамсама. С. 52.

[22] Тамсама. С. 244.

[23] Тамсама. С. 5.

[24] Тамсама. С. 52.

[25] Тамсама. С. 325-326.

[26] Тамсама. Т. XXI. С. 258.
[27] Тамсама. Т. XVII. С. 244.
[28] Тамсама. С. 176–177.
[29] Тамсама. Т. XXI. С. 12–13.
[30] Тамсама. С. 307.
[31] Тамсама. Т. XVII. С. 403.
[32] Тамсама. С. 62.
[33] Тамсама. С. 34.
[34] Тамсама. Т. XXI. № 526. С. 344 (394).
[35] Тамсама. Т. XVII. С. 105.
[36] Тамсама. С. 375.
[37] Тамсама. Т. XXI. С. 39–40.
[38] Тамсама. Т. XVII. С. 325.
[39] Тамсама. С. 62.
[40] Тамсама. Т. XXI. С. 119.
[41] Тамсама. Т. XVII. С. 396.
[42] Тамсама. С. 217.
[43] Тамсама. Т. XXI. № 526. С. 344 (394).
[44] Тамсама. С. 258.
[45] Тамсама. С. 12-13.
[46] Бэрк П. Народная культура Эўропы ранняга Новага часу. С. 193–194.
[47] Доўнар Т. І. Развіццё асноўных інстытутаў грамадзянскага і крымінальнага права Беларусі ў XV–XVI стагоддзях. Мн., 2000. С. 165.
[48] АВАК. Т. XXI. С. 117, 229.
[49] Тамсама. С. 229, 327.
[50] Тамсама. С. 229.
[51] Тамсама.
[52] Тамсама. С. 22.
[53] Тамсама. С. 117-118.
[54] Доўнар Т. І. Развіццё асноўных інстытутаў грамадзянскага і крымінальнага... С. 165.
[55] АВАК. Т. XXI. С. 22, 117, 229, 241.
[56] Тамсама. С. 22, 229.
[57] Тамсама. С. 241.
[58] Тамсама. Т. XVII. С. 158–159.
[59] Тамсама. С. 13.
[60] Тамсама. С. 39.
[61] Тамсама. С. 176.
[62] Тамсама. С. 159-160.
[63] Тамсама. С. 289.
[64] Тамсама. Т. XXI. С. 201–202.
[65] Тамсама. С. 60–61.

[66] Тамсама. Т. XVII. С. 86–87.
[67] Тамсама. Т. XXI. С. 87.
[68] Тамсама. Т. XVII. С. 420–421.
[69] Тамсама. С. 421.
[70] Пра адносіны братоў Сапегаў гл.: Семянчук Г. Чарлёна – двор Сапегаў над Нёманам у XVI–XVII стст. // Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне (XV–XVIII стст.): зборнік навуковых прац. Мн., 2014. С. 379–383.
[71] АВАК. Т. XVII. С. 432.
[72] Тамсама. С. 432.
[73] Тамсама. Т. XXI. С. 158–161.
[74] Тамсама. Т. XVII. С. 137.
[75] Тамсама. С. 281–282.
[76] Тамсама. Т. XXI. С. 52–53.
[77] Тамсама. С. 138.
[78] Тамсама. Т. XVII. С. 86-87.
[79] Тамсама. Т. XXI. С. 85–86.
[80] Тамсама. Т. XVII. С. 87.
[81] Тамсама. Т. XXI. С. 217.
[82] Тамсама. Т. XVII. С. 280.

*Ігор Кондратьєв,*
*канд. іст. наук (Чернігів)*

# Любецьке міщанство в системі оборони староства *(друга половина XVI – перша половина XVII ст.)*

Любецький замок відігравав важливу роль в системі оборони Київського воєводства Великого князівства Литовського, а від 1569 р. – Речі Посполитої. Фактично Любеч замикало головну транспортну артерію Східної Європи – Дніпро з притоками Сожем, Березиною та Прип'яттю, захищаючи з півночі землі Середнього Подніпров'я. Саме це зумовило специфіку розвитку міста не як торгівельного чи ремісничого центру, а як центру військової організації краю. Важливу роль в системі оборони Любецького староства відігравало замкове міщанство, хоча Любеч за свою історію так і не здобув магдебурзького права.

Згуртована замкова спільнота в Любечі сформувалася вже у середині XVI ст., причому вона складалася як з міщанства так і з замкового боярства. Ще Статут Великого князівства Литовського 1529 р. зобов`язував міщан до військової служби[1]. Міщанські земські повинності були аналогічні повинностям зем'ян та бояр, різниця полягала лише у засобах їхнього відбування й у тім, що у міщанства вони були важчими[2]. Міщанство брало участь в захисті замків, військових виправах, відправленні «польової сторожі» тощо[3].

У першій половині XVI ст. Любеч знаходився у приватному володінні Ольбрихта Гаштольда та його дружини. В 1542 році О. Гаштольд помер, а його дружина Софія ще сім років володіла Любечем[4]. Одразу після її смерті королівський ревізор Ян Шимкович провів опис Любецького замку[5]. Не зважаючи на те, що текст цієї ревізії не дійшов до нашого часу, вочевидь, що саме у ньому вперше були зазначені обов'язки любецького міщанства. У 1560 р. любецькі міщани, апелюючи до короля, посилалися на матеріали

цього опису[6]. Певне уявлення про обов'язки міщанства в регіоні дають матеріали люстрації 1552 р. сусіднього Остерського замку. До кола обов'язків остерського міщанства, окрім сплати данини і відбування натуральних повинностей на замковий уряд, входив обов'язок будівництва та ремонту острогу та найм замкової сторожи[7]. Якщо остерське міщанство було зобов'язане виїжджати на полювання із остерським старостою, то специфічним для міщанства Любеча було виконання підводної повинності – забезпечення возами діючої армії.

Від 1549 р. Любечем керували намісники київського воєводи, а у 1553 р. старостинський уряд перейшов до родини Кмітів (представники цієї родини були любецькими старостами щонайбільше до 1559 р.). У цей час єдність міщанської та боярської верстви Любеча фіксується у листі Сигізмунда II Августа любецьким міщанам[8].

У 1559 (1560 р.(?)) любецьким старостою став Павло Сапєга. Новий староста намагався звузити права любецьких міщан. У 1560 р. до Сигізмунда II Августа прибула делегація любецького міщанства: «*приходили до насъ подданые наши люди волостные того замку нашого Любецкого старецъ Пронко Занковичъ а Иванъ Олексевичъ*». П. Сапєга був звинувачений у несправедливому оподаткуванні міщанства. Виявилось, що частина міщан не сплачувала гроші на підводи («подводные пенези»), а частина – сплачувала. До того ж, П. Сапєга примусив сплачувати новий податок у додачу до старого: «*здавна повинность тую мели, же за подводы грошми съ кождое службы на годъ по шести грошей плачивали, то пакъ деи ты якъ першые подводные пенези, такъ и тые ново установленые зъ нихъ берешъ и до того ихъ примушаешъ*». За наказом короля були підняті матеріали ревізії Любеча 1549 р. (1550 р.?). Виявилося, що претензії любечан були справедливими: «*то въ тыхъ реистрахъ… же кождый зъ службы повиненъ подводного давати на годъ по шести грошей, одно колькосъ служобъ есть, которые неповинни того давати*». Король «*бачечи на то, же они, мешкаючы пры ономъ замку нашомъ Любецкомъ на небезпечной украине частокроть бывають отъ неприятель нашихъ воеваны сами и зъ маетностью своею забираны и нищоны, не хотячи имъ таковое*

*Іна Соркіна,*
*канд. гіст. навук (Гародня)*

# Дакументы па гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі ў бібліятэках Кракава

Даследчая праца па аднаўленню гістарычнай панарамы гарадоў Беларусі немагчымая без пошуку і вывучэння крыніц у замежных архівасховішчах. Чарговы раз мне пашчасціла пераканацца ў гэтым падчас навуковай стажыроўкі ў Ягелонскім універсітэце ў верасні – лістападзе 2014 г. Перад тым, як перайсці да кароткага агляду выяўленых гістарычных крыніц, неабходна падкрэсліць, што я не з'яўлялася «першапраходцам» сярод беларускіх гісторыкаў у гэтай справе. На лістах выкарыстання дакументаў, якія мне прыносілі супрацоўнікі кракаўскіх сховішчаў, стаялі подпісы Юры Гардзеева, Валянціна Голубева, Наталлі Сліж, Генадзя і Альбіны Семянчукоў, Ірыны Кітуркі, Сяргея Токця ды іншых, а таксама Міколы Улашчыка (!).

У *аддзеле рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі* маю ўвагу прыцягнулі такія дакументы, як інвентар правоў і прывілеяў кравецкаму цэху Гародні 1570–1809 гг. (sygn. 3579), вершаваныя апісанні пажараў, якія адбыліся ў Гародні ў 1753 і 1755 гг. (sygn. 6357), нататкі Якуба Гаркаві з пачатку XIX ст. наконт становішча габрэяў у Гарадзенскай губ. (sygn. 4637), матэрыялы візітацыі Янам Ходзькам школ у беларускіх губернях у 1822–1823 гг. (sygn. 6332 IV, 6333 IV), у якіх утрымліваюцца звесткі пра школы Ліды, Слоніма, Полацка, Віцебска, Гародні. У прыватнасці, ёсць інфармацыя пра настаўнікаў гарадзенскай дамініканскай гімназіі. Так, фізіку і матэматыку выкладаў Ігнацы Пажалевіч; гісторыю, права і нямецкую мову – Дамінік Бяневіч, граматыку – Пётр Петрусевіч; арыфметыку, геаграфію і расейскую мову – Дзмітрый Тамашэвіч (sygn. 6332 IV, k. 34).

З гісторыі мястэчак Беларусі найбольш каштоўнымі знаходкамі сталі прывілей Аўгуста ІІ Аляксандру Яблонскаму ад 25 чэрвеня 1736 г. на заснаванне «на новай слабадзе» мястэчка ў маёнтку Аляксандраў (Менскае ваяводства) з правам праводзіць у мястэчку кірмашы 2 разы на год і таргі 2 разы на тыдзень (sygn. 6407, k. 13–14); копіі ўсіх прывілеяў, дэкрэтаў, уставаў Жыгімонта ІІІ, Яна Казіміра, Яна ІІІ і Аўгуста ІІ, наданых мястэчку Дывін (sygn. 3693). Цікавую калекцыю дакументаў утрымліваюць «Матэрыялы да гісторыі гарадоў і мястэчак Літвы і Жмудзі» са збору Яна Прэкера (sygn. 6320, 6321, 6322). Тут сярод іншага ёсць дакументы, якія дазваляюць аднавіць гісторыю змагання жыхароў м. Янішкі за вяртанне мяшчанскага звання, страчанага пасля далучэння да Расеі.

*У аддзеле рукапісаў навуковай бібліятэкі Польскай Акадэміі Мастацтваў і Польскай Акадэміі Навук у Кракаве (PAU і PAN)* захоўваецца шэраг дакументаў па гісторыі габрэйскіх абшчын (напрыклад, Papiery dotyczące Żydów w Grodnie, Kontrakt zawarty przez Proskurów z Żydami w Grodnie (sygn. 6095), Rachunki i obligi: Żydzi w Grodnie dla Floriana Micuty, 1727 r. (sygn. 6092), Żydzi z Grodno, 1748 r., Żydzi z Indury, 1739–1761 r. (sygn. 5741), Żydzi z kahału grodzieńskiego, 1762 r. (sygn. 5742), Suplika Żydów m. Mira do M. K. Ogińskiego w sprawie podatków, 1781 r. (sygn. 4412), Kwit Michała Woyny dla Żydów Iwia (sygn. 5696) ды інш.). Сярод вялікага масіву маёмасных дакументаў князёў Агінскіх ёсць шмат дакументаў пра мястэчкі, якія належалі гэтаму роду (напрыклад, інвентар м. Лагішын (sygn. 6095), м. Васілішкі (sygn. 5973) ды інш.)

Вельмі інфарматыўнымі з'яўляюцца матэрыялы па гісторыі Віленскага біскупства, парафій Віленскай дыяцэзіі, габрэяў у Польшчы ксяндза Яна Фіялка (Notatki, zapiski i wycinki Ks. Jana Fijałka – sygn. 4886, 5326–5329), сярод якіх ёсць звесткі аб Баранавічах, Івянцы, Ляхавічах, Лагойску, Наваградку, Зэльве, Жалудку, Воўпе ды іншых гарадах і мястэчках. Гэта, як правіла, выразкі з розных польскіх газет пачатку ХХ ст. («Słowo Polskie», «Czas»), а таксама міжваеннага часу («Orędownik», «Kurier Warsawski»).

Пра Гародню міжваеннага часу сустракаюцца звесткі, што датычаць памяці пра Элізу Ашэшку, рэстаўрацыю «Фары Вітаўта», цікавае эсэ на тэму «Гародня – як мініяцюра Вільні», а таксама

статыстыка за розныя часы. Так, прыводзіліся звесткі па забудове і насельніцтву горада ў 1825 г.: мураваная ратуша, узведзеная ў 1784 г., з крамамі, мураваная царква пры гарадскім садзе, каля якой мураваныя крамы абывацельскія з 1816 г., мураваных касцёлаў 7, драўляны – 1, на каталіцкіх могілках капліца мураваная з 1821 г., 2 уніяцкія мураваныя царквы, 1 евангельская мураваная царква; дамоў скарбовых мураваных – 16, драўляных – 1, сярод іх 2 замкі, даўнія каралеўскія рэзідэнцыі, 1 рэзідэнцыяльны палац губернатара; духоўных кляштараў мураваных – 8, драўляных – 2, духоўных дамоў мураваных – 3, драўляных – 2; шляхецкіх дамоў мураваных – 21, драўляных – 60; мяшчанскіх дамоў хрысціянскіх мураваных – 27, драўляных – 281; габрэйскіх мураваных – 35, драўляных – 431; шпіталь хрысціянскі драўляны – 1, шпіталь габрэйскі мураваны – 1; габрэйская грамадская лазня мураваная – 1; гарадскога насельніцтва абодвух палоў (без ваенных, шляхты, духавенства, чыноўнікаў) – 1454 хрысціян і 8422 габрэяў. Па дадзеных на 1856 г. у Гародні было 18386 жыхароў (9532 муж., 8834 жан.), у тым ліку грэка-расійскага веравызнання (былых уніятаў) – 1825 муж., 952 жан.; каталікоў – 3656 муж., 3163 жан.; лютэранаў – 115 муж., 91 жан., магаметанаў – 50 муж., 42 жан.; іўдзеяў – 3896 муж., 4606 жан.

Па звестках на 1905 г. паведамлялася, што пасля абвяшчэння рэлігійнай талеранцыі да касцёльных кніг запісаліся 1471 чал., у тым ліку да фарнага касцёла – 998 асобаў, да бернардынаў – 266, францысканаў – 207. Недзе напярэдадні пачатку Першай сусветнай вайны ў горадзе было 59 340 жыхароў, з якіх 35 213 іудзеяў, 13 626 каталікоў, 9 444 праваслаўных, 510 евангелікаў, 547 магаметан; 4 касцёлы, 14 цэркваў, 1 храм евангелістаў, 2 сінагогі і 38 малітоўных дамоў.

Адна з газетных нататак датычыла сітуацыі ў горадзе падчас нямецкай акупацыі. Між іншым паведамлялася, што насельніцтва засталося каля 25 тыс. чалавек, усе расейцы выехалі; акупацыйныя ўлады правялі спіс хрысціянскага насельніцтва горада паводле роднай мове: 7 609 палякаў, 570 беларусаў, 113 літоўцаў; горад заплаціў 125 тыс. марак кантрыбуцыі; гандаль і прамысловасць у застоі, асвятлення няма: нафты няма, электрычнасць знішчаная;

функцыянуюць нямецкія суды; габрэі першымі пачалі засноўваць пачатковыя школы з нямецкай мовай навучання, пастанавілі адкрыць польскую гімназію (2 класы) і 6 пачатковых школ (па 50 дзяцей у кожнай); дзейнічае танная кухня: для хрысціян 300–400 абедаў, для габрэяў – 500–600 абедаў штодня; стасункі з цывільнымі акупацыйнымі ўладамі добрыя (sygn. 4886).

*У аддзеле рукапісаў бібліятэкі князёў Чартарыйскіх* сустрэліся наступныя дакументы па гісторыі Гародні: Reskrypt do pow. Grodzieńskiego biorący w opiekę Żydów m. Grodna przez poczynaniami Kotowicza starosty grodzieńskiego. 1713 r. Warszawa. (sygn. 2575); List żelazny m. Grodno (sygn. 1951), List-gazeta z Grodno, 8.10.1744 (sygn. 1786). Сярод старадрукаў увагу прыцягнулі дзве брашуры: «Miasta koronne i W. K. L zanoszą prośbę do króla i skonfederowanych stanów Rzptej aby każdy ich obywatel jako człowiek był pewny swojej osoby i swego majątku i był częścią ojczyzny... (1790)»; «Miasta Nasze królewskie Wolne. Prawo uchwalone. Dnia 18.04.1791». Цікава, што зварот гарадоў да караля падпісалі іх дэлегаваныя прадстаўнікі. Ад Гародні гэта былі войт Юзаф Антоні Зялінскі, прэзідэнт горада Юзаф Жылінскі, бурмістр старой Рады горада Казімір Абрамовіч. З выяўленых дакументаў па гісторыі мястэчак найбольш каштоўнымі з'яўляюцца калекцыя інвентароў Валожына, Новай Мышы, Столбцаў, Шклова.

Важнай знаходкай стаў таксама прывілей манарха Рэчы Паспалітай Аўгуста II лідскаму падкамораму Эляшу Міхалу Рымвіду 1713 г. на права заснавання мястэчка ў яго маёнтку Дземброва Лідскага павета[1] (тэкст гэтага прывілея прыводзіцца ў Дадатку).

Мястэчкі вядуць сваю гісторыю з XIV–XV стст. Працэс іх закладання на беларускіх землях актывізаваўся ў XVI – першай палове XVII ст. Гэтыя паселішчы былі вынікам эканамічнай мадэрнізацыі і вэстэрнізацыі беларускіх земляў у складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Яны былі выкліканыя да жыцця таварызацыяй сельскай гаспадаркі і імкненнем стварыць аптымальную сістэму забеспячэння мясцовага насельніцтва прадуктамі рамяства і гандля. Адной з эканамічных асноў мястэчак з'яўляўся транзітны гандаль, а таксама пасрэдніцтва паміж вёскай і горадам. Выпадкі заснавання мястэчак ў другой палове

XVII – першай палове XVIII ст. можна разглядаць як адну з мераў па выхаду з эканамічнага крызісу, у якім апынуўся наш край у выніку разбуральных ваенных ліхалеццяў, ды адным са сродкаў актывізацыі эканамічнага жыцця.

Неабходна адзначыць, што канкрэтныя абставіны і акалічнасці ўтварэння мястэчак на беларускіх землях у большасці выпадкаў застаюцца пакуль невядомымі. Далёка не заўсёды гэты працэс суправаджаўся выдачай каралеўскага прывілея. Заснаванне мястэчка азначала закладанне таргоў, што павялічвала даходы ўладальнікаў. У мястэчках усталёўваліся штотыднёвыя таргі, штогадовыя кірмашы, адчыняліся корчмы. Заснаванне таргу было настолькі моцна звязана з узнікненнем мястэчка, што пры выдачы прывілея на заснаванне мястэчка абумоўлівалася права на адначасовае закладанне таргу і карчом. І, наадварот, права на закладанне таргу з’яўлялася раўнацэнным праву на асаджэнне мястэчка. У прыведзеным ніжэй прывілеі 1713 г. на заснаванне мястэчка Дзембрава агаворвалася права на устанаўленне таргоў, асаджэнне мяшчан, вымярэнне пляцаў, каб уласнік мог бесперашкодна «*паводле ўпадабання свайго прымнажаць усялякія пажыткі*».

Дадатак

## Прывілей Аўгуста II лідскаму падкамораму Эляшу Міхалу Рымвіду 1713 г. на права заснавання мястэчка ў яго маёнтку Дземброва Лідскага павета[2]

*Правілы публікацыі*: пры транслітарацыі тэксту прывілея ў аснову пакладзены прынцып палітарнай яго перадачы, літара «v» перадаецца літарай «u», знакам «|» абазначаецца канец радка. Тэкст разбіты на словы, сказы. Тэматычныя часткі тэксту вылучаныя ў абзацы. Вялікія літары, знакі прыпынку ставяцца адпаведна сучаснаму правапісу. Вялікая літара пакінутая ў словах Бог, Кароль, Наш (у сэнсе каралеўскі). Скарачэнні раскрываюца ў круглых дужках.

Вельмі ўдзячная Герману Брэгеру, Аляксандру Доўнару і Ганне Паўлоўскай за дапамогу ў падрыхтоўцы дакумента да публікацыі.

*August Wtory z Bozey łaski Krol polski, [Wielki Xiąze litewski, ruski pruski, mazowiecki, zmuydzki, kiowski, wołynski, podolski][3] | podlaski, inflanstski, smolenski, siewerski y czerniechowski, dziedziczny Xiąze saski y elector. |*

*Oznaymuiemy ninieyszym listem konfirmacyinym przywileiem Naszym, wszem wobec y kazdemu z osobna komuby wiedziec | nalezało. Supplikowano Nam przez Panow Rad Urzędnikow Naszych, abysmy list przywiley nayasnieyszego antecessora Naszego | swiętey pamięci Jana Trzeciego, niegdys urodzonemu Eliaszowi Michałowi Rymwidowi, podkomorzemu natenczas lidzkiemu, na wolne za |łezenie miasteczka Dziembrowa, na własnym iego dziedzicznym gruncie w powiecie Lidzkim lezące, dany approbowali y konfirmowali.*

*Ja |koz My, KROL, do pomienioney suppliki łaskawie się skłoniwszy, wyz rzeszony list przywiley in omnibus punctis, clausulis et paragraffis ztwierdza|my, umacniamy, konfirmuiemy y approbuiemy. Tak iz successores legittimi y tych dobr possessores od urodzonego Rymwida, podkomorzego lidzkiego, | wolni y mocni będą wyz rzeczone miasteczko zakładac, trzymac, dysponowac, targi ustanowiac, mieszczan osadzac, place wymierzac y wszelkich, według | upodobania swego, przymnazac pozytkow, w czym iz zadney ni od kogo miec nie będą przeszkody, waruiemy y obiecuiemy.*

*Na co dla lepszey wiary | y wagi ręką własną podpisawszy się, pieczęc W(ielkiego) X(iąztwa) L(i)t(ewskiego) przycisnąc rozkazalismy.*

*Dan w Warszawie, roku Panskiego MDCCXIII (1713), m(ie)s(ią)ca[4] | ......... dnia[5] ........., panowania Naszego XVI roku. |*

*Augustus Rex[6] Confirmacya przywileiu na wolne*
*założenie mia|steczka Dziembrowa w*
*powiecie Lidzkim. |*

## *Пераклад на беларускую мову*

Аўгуст II з Божай ласкі Кароль польскі, [Вялікі Князь літоўскі, рускі прускі, мазавецкі, жмудскі, кіеўскі, валынскі, падольскі] падляскі, інфлянцкі, смаленскі, северскі ды чарнігаўскі, спадчынны Князь саскі ды электар

Заяўляем гэтым лістом канфірмацыйным прывілеем Нашым

усім і кожнаму асобна каму ведаць належыць. Суплікавана Нам праз Паноў Рады Службоўцаў Нашых, каб мы ліст прывілей найяснейшага антэцэсара Нашага светлай памяці Яна III, некалі нададзены народжанаму Эляшу Міхалу Рымвіду, падкамораму на той час лідскаму, на вольнае залажэнне мястэчка Дземброва, на ўласнай яго спадчыннай зямлі ў павеце Лідскім ляжачай, апрабавалі ды канфірмавалі.

У сувязі з тым, што Мы, Кароль, да ўпамянутай суплікі ласкава схіліўшы, названы ліст прывілей ва ўсіх пунктах, клаўзулах і параграфах зацвярджаем, умацоўваем, канфірмуем ды апрабуем. Так што правамоцныя спадкаемцы ды ўладальнікі тых маёнткаў ад народжанага Рымвіда, падкаморага лідскага, будуць мець волю і моц названае мястэчка закладаць, трымаць, дыспанаваць, таргі ўстанаўліваць, мяшчан асаджаць, пляцы вымяраць ды прымнажаць усялякія пажыткі паводле свайго ўпадабання, у чым ніводнай ні ад каго не будуць мець перашкоды, зацвярджаем ды абяцаем.

На гэта для лепшай веры ды вагі рукой уласнай падпісаўшы, пячатку Вялікага Княства Літоўскага прыціснуць загадалі

Дадзены ў Варшаве, года MDCCXIII (1713), месяца… дня…, панавання Нашага XVI года.

Прывілей мае подпіс Караля Аўгуста II, які выражаны так: Augustus Rex (Аўгуст Кароль). Confirmacya przywileiu na wolne założenie mia|steczka Dziembrowa w powiecie Lidzkim (канфірмацыйны прывілей на вольнае залажэнне мястэчка Дземброва ў Лідскім павеце).

---

[1] Сёння вёска ў Шчучынскім раёне, радзіма славутага мастака і ўдзельніка паўстання 1863–1864 гг. Казіміра Альхімовіча (1840–1916).

[2] Аддзел рукапісаў бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 2575, k. 127.

[3] Прывілей падшыты ў архіўную справу такім чынам, што дадзены тэкст не бачны. Ён адноўлены па фармуляру тытула манарха Рэчы Паспалітай.

[4] Далей прабел на 9–10 літар.

[5] Далей прабел на 7–8 літар.

[6] Подпіс зроблены манархам больш цёмным чарнілам, іншым почыркам, пячатка адсутнічае.

*Цімафей Акудовіч*
*(Менск)*

# «Рэформа горада» – праект канцлера ВКЛ Яўхіма Храптовіча на Чатырохгадовым сойме 1788–1792 гг.

Чатырохгадовы (Вялікі) Сойм, які праходзіў у Варшаве ў 1788–1792 гг., быў перадапошнім соймам у гісторыі Рэчы Паспалітай і, па сутнасці, апошняй спробай шляхты спыніць разбурэнне дзяржавы шляхам правядзення шырокамаштабных рэформаў. Яны павінны былі закрануць амаль усе сферы жыцця Рэчы Паспалітай – эканамічныя, палітычныя і рэлігійныя. Адной з іх была рэформа гарадскога самакіравання і правоў мяшчан, якая распрацоўвалася на працягу 1790–1791 гг. спецыяльнай соймавай камісіяй на чале з канцлерам ВКЛ Яўхімам Храптовічам.

Сацыяльная праблематыка не ўваходзіла ў лік прыярытэтных на Чатырохгадовым сойме. У павятовых інструкцыях з тэрыторыі ВКЛ гэтая тэматыка была прадстаўлена толькі ў некалькіх пунктах. Так, берасцейская, гарадзенская, слонімская, мазырская і ваўкавыская інструкцыі ў агульных словах звярталіся да паляпшэння адукацыйнага ўзроўню ў краіне[1], а Наваградскі і Ваўкавыскі соймікі турбаваліся рэлігійнымі пытаннямі у сваіх паветах выключна ў дачыненні да ўніятаў[2]. Беларуска-літоўскае рыцарства не вельмі хвалявала становішча ніжэйшых сацыяльных слаёў і рэлігійных груповак ў Рэчы Паспалітай. А ў сітуацыі напярэдадні Вялікага сойма, калі шляхта ўпершыню за шмат год атрымала шанс на рэальныя пераўтварэнні ў краіне, праблемы мяшчанства, габрэяў і іншаверцаў увогуле былі амаль забытыя.

Сацыяльныя праекты, якія ўзніклі на Сойме былі хутчэй ініцыятывай канкрэтных паслоў ці дэпутацый, а не патрабаваннем тагачаснага «палітычнага народу» ВКЛ і Польшчы. Але так сталася, што ў вырашэнні менавіта гэтых пытанняў беларуска-літоўскія паслы праявілі сябе асабліва актыўна.

Першым гэту праблему агучыў адзін з лідэраў рэфарматарскага руху кракаўскі канонік Гуга Калантай. У 1789 г. ён апублікаваў працу «Лісты ананіма», якія сталі па- сутнасці праграмай «патрыётаў» на наступныя 4 гады. Асобны раздзел аўтар прысвяціў становішчу мяшчанаў. Аднак у Калантая гэтае пытанне было далёка не самым істотным, таму на паседжаннях 1788 і пачатку 1789 г. да яго не звярталіся.

Актывізаваць працу вырашылі сілы па-за Соймам. У першай палове 1789 г. у Варшаве з'явіўся ананімны твор «Просьбы літоўскіх гарадоў да найяснейшых станаў Рэчы Паспалітай на сойме» («Prośby miast litewskich do najjaśniejszych stanów Rzeplitej sejmujących»)[3], які ўпершыню з пачатку Сойма ўзняў праблему мяшчан сярод варшаўскай грамадскасці. «Просьба» складалася з 10 пунктаў. Галоўнае, што прасілі мяшчане ВКЛ у караля – спыненне сваволства шляхты. У першую чаргу гэта датычыла тых, хто валодаў зямлёй на тэрыторыі гарадоў, але не збіраўся падпарадкоўвацца ўладзе магістрата. Акрамя гэтага мяшчане прасілі дазволу на права атрымліваць пасады ў войску, а таксама ў скарбовых і асэсарскіх камісіях.

Яшчэ адна просьба гарадоў ВКЛ была надрукавана ў Варшаве ў красавіку-чэрвені 1789 г. Яна называлася «Голас гарадоў і мястэчак літоўскіх да найяснейшых станаў на Сойме» («Głos miast i miasteczek litewskich do najjaśniejszych sejmujących stanów»)[4]. Аўтар твора наракаў на тую сітуацыю, якая склалася пасля 1776 г. у ВКЛ, калі магдэбургскае права было зліквідаванае ва ўсіх беларуска-літоўскіх гарадах, акрамя 11 самых вялікіх (Вільня, Навагрудак, Берасце, Ліда, Гародня, Ваўкавыск, Пінск, Трокі, Коўна, Мазыр, Менск), што прывяло да выезду з малых гарадоў значнай колькасці месцічаў.

«*Усе амаль усюды скардзяцца, што літоўскія гарады ў найгоршым бязладдзі знаходзяцца і нават з вёскамі замежнымі не могуць параўнацца*»[5], – наракаў ананімны аўтар. Прычыну гэтага ён бачыў у адсутнасці заканадаўства, якое б бараніла правы мяшчан, у т. л. і ад шляхты.

Відавочна, што друкавалі свае прашэнні не толькі літоўскія гарады. У 1789 г. у Варшаве было апублікавана некалькі пасланняў

з Кароны, менавіта з Кракава, Варшавы і Любліна[6]. Аднак праблематыка ў пасланнях з ВКЛ і з Польшчы адрознівалася досыць моцна. У першую чаргу гэта было звязана з больш цяжкім становішчам гарадоў ВКЛ пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай і Сойма 1776 г. Размешчаныя на мяжы з Расейскай імперыяй і пазбаўленыя магдэбургскага права, яны моцна цярпелі ад беззаконня, разгулу шляхты і выезду жыхароў у іншыя гарады.

Сёння цяжка сказаць, наколькі такая літаратура ўплывала на грамадскую думку той жа варшаўскай публікі. Непасрэдна на самім Сойме гэта праблема выявілася праз пошук пасламі дадатковых крыніц забеспячэння войска. 12 кастрычніка 1789 г. князь Адам Чартарыйскі прачытаў на паседжанні сойма праект «Павелічэнне даходу з найвялікшых гарадоў каралеўскіх»[7]. Ідэя праекта была ў тым, каб падняць падатак для каралеўскіх гарадоў і ў першую чаргу для Варшавы як горада, што прымае караля, Сойм і мае з гэтага вялікія прыбыткі.

Гэтае пытанне выклікала вялікую дыскусію на сойме. Прычым амаль усе паслы, якія выказваліся па гэтым пытанні, як польскія (Войцех Сухадольскі – хэлмскі пасол, Адам Чартарыйскі і Станіслаў Патоцкі – люблінскія паслы, Францішак Жавуцкі – падольскі пасол, Яцэк Езерскі – лукаўскі кашталян), так і беларуска-літоўскія (Якуб Шырма і Мацей Бутрымовіч – пінскія паслы, Юзаф Вэйсенгоф – віленскі, Юльян Нямцэвіч – інфлянцкі) прытрымліваліся таго, што павелічэнне падатку патрэбнае, аднак разыходзіліся ў меркаваннях наконт яго памераў. У выніку доўгай дыскусіі была прынятая прапанова пінскага пасла Мацея Бутрымовіча стварыць спецыяльную камісію па вызначэнні сумы падатку для каралеўскіх гарадоў Рэчы Паспалітай. Яна так і называлася «Павелічэнне прыбытку з гарадоў нашых каралеўскіх у Кароне і Вялікім Княстве Літоўскім»[8] Ад ВКЛ у гэтую камісію ўвайшлі віцебскі кашталян Адам Фелькежам, а таксама мазырскі пасол Рафал Яленскі і інфлянцкі – Францішак Кубліцкі[9].

У дыскусіі 12 кастрычніка прыцягвае ўвагу яшчэ адзін аспект. З усіх паслоў, якія выступалі ў гэты дзень, толькі два (абодва з Інфлянтаў і прадстаўлялі ВКЛ) звярнулі ўвагу на сацыяльную складовую гэтай праблемы. Так, Ф. Кубліцкі выступіў за міні-

мальнае павелічэнне падаткаў, бо лічыў, што гэта ў першую чаргу адаб'ецца на гарадской беднаце[10]. Ю. Нямцэвіч, як здаецца, першы на Сойме звярнуўся да падзеі, што грымела па ўсёй Еўропе, а менавіта – да Французскай рэвалюцыі. Малады інфлянцкі пасол сцвярджаў, што нельга павялічваць падаткі гораду без ўдзелу ў Сойме саміх мяшчанаў, а таксама нельга збіраць з мяшчан грошы на войска, у якім яны не маюць магчымасці атрымаць пасаду. Усё гэта, як лічыў Нямцэвіч, можа прывесці да сітуацыі, што склалася ў Францыі[11].

Адзіным паслом з ВКЛ, які выступаў супраць павелічэння падатку для Варшавы, быў смаленскі біскуп Адам Нарушэвіч. Ён сцвярджаў, што кароль не часта бывае ў Варшаве, а калі і бывае, то толькі падчас соймаў, калі горад запаланяюць габрэі і пераймаюць увесь прыбытак жыхароў сталіцы[12]. Паводле біскупа, Варшава мае мінімальныя прыбыткі ад правядзення соймаў, і таму павялічваць ёй падатак несправядліва.

Наступны этап актывізацыі мяшчанскага пытання на Сойме звязаны непасрэдна з Калантаем. Разам з прэзідэнтам Варшавы Янам Дэкертам ён склаў ліст ў якім запрашаў двух прадстаўнікоў ад кожнага буйнога горада Кароны і ВКЛ прыехаць у Варшаву, каб сумесна перадаць каралю дакумент, дзе былі б выкладзеныя ўсе просьбы мяшчанства. Сам жа Калантай і напісаў такі дакумент пад назвай «Мемарыял гарадоў»[13].

24 лістапада 1789 г. вялікая працэсія з мяшчан ўсіх буйных гарадоў Рэчы Паспалітай перадала каралю гэты дакумент. Аднак кароль яго адхіліў з-за радыкальнасці ідэяў, прапісаных Калантаем. Як лічыцца, гэтае рашэнне падказаў каралю падскарбі Храптовіч, які баяўся радыкальнасці і фізіякратызму Калантая[14].

29 лістапада прадстаўнікі гарадоў (іх прыбыло каля 200) падпісалі «Акт аб'яднання гарадоў»[15]. Дакумент гэты меў выключна сімвалічнае значэнне, бо ў самім тэксце ёсць запэўніванне, што «Акт» ні ў якім выпадку не прэтэндуе на званне канфедэрацыі, кшталту тых, што былі створаныя на Сойме. Як адзначалася, асноўная задача дакумента *«аб'яднаць памкненні нашы з мэтай узаемнай дапамогі, каб з гэтага часу публічны інтарэс аднаго горада павінен стаць інтарэсам усіх гарадоў як каронных, так і Вялікага*

*Княства Літоўскага*»[16]. Ад ВКЛ «Акт» падпісалі тры прадстаўнікі Вільні і Гародні і па два з Коўна, Менску, Берасця, Пінску, Віцебску, Наваградку, Ліды, Дзісны, Полацку, Камянца і Пружанаў.

Гэтыя ж людзі падпісалі другі варыянт «Мемарыяла», які быў перададзены каралю 2 снежня. Новы варыянт быў менш радыкальны, і кароль яго прыняў. Гэты «Мемарыял» засведчыў жаданне мяшчан мець унармаваныя правы і свабоды, якія падмацоўваліся б законам, атрымаць права займаць пасады ў войску, пераходзіць у шляхецтва і выходзіць з яго, а таксама права набыцця зямлі. Апошняе грунтавалася на тым, што мяшчане ВКЛ здаўна маюць такое права[17].

Асноўныя пункты аналагічныя як у першым, так і ў другім мемарыялах і пераклікаюцца з «Прашэннем літоўскіх гарадоў», што сведчыць пра адзінства поглядаў «патрыётаў» і мяшчанаў у пытаннях рэформы горада. Цікава, што ў першым больш радыкальным «Мемарыяле» поўнасцю адсутнічалі згадкі пра ВКЛ і пра «літоўскія гарады». Паўсюдна дамінавалі словы «Польшча», «польскі» ці Рэч Паспалітая. У другім мемарыяле тэрмін «літоўскія гарады» вярнуўся і ўжываўся поруч з «гарадамі каронными». Гэта сведчыць пра моцнае імкненне Калантая да уніфікацыі дзяржавы, якое заўсёды натыкалася на моцны супраціў паслоў ВКЛ. Хоць цяпер цяжка сказаць, хто прымусіў Калантая дадаць тэрмін «ВКЛ» у дакумент. Гэта маглі быць беларуска-літоўскія мяшчане, якія прыехалі ў Варшаву, або Яўхім Храптовіч, а магчыма гэта было асабістае рашэнне Калантая.

15 снежня пачалося абмеркаванне «Мемарыялаў» на Сойме. Паслы раздзяліліся на два лагеры – прыхільнікаў і праціўнікаў рэформаў. Аснову лагера прыхільнікаў рэформаў складалі паслы Вялікага Княства. У першую чаргу гэта падскарбі Храптовіч, а таксама Кубліцкі, Нямцэвіч, Вэсенгоф, Бутрымовіч, Матусевіч, Гутакоўскі. Дыскусія доўжылася тры дні. 18 снежня Храптовіч выступіў з палымянай прамовай, у якой заклікаў дзеля росквіту Рэчы Паспалітай вывесці мяшчан з таго становішча, у якім яны знаходзяцца, і дзеля гэтага прапанаваў стварыць спецыяльную Камісію[18]. Яго падтрымаў інфлянцкі пасол Нямцэвіч[19]. Мэтаю гэтай прапановы было, з аднаго боку, стварыць пляцоўку для

больш грунтоўнага аналізу мяшчанскай праблемы, а з іншага, мінімалізаваць радыкальныя ўплывы Калантая. У дэпутацыю ад ВКЛ былі абраныя прыхільнікі караля і Храптовіча, а менавіта віцебскі кашталян Фількежамб, паслы – Бжастоўскі (троцкі) і Гутакоўскі (аршанскі)[20]. Акрамя таго, кароль прызначыў у гэтую камісію яшчэ трох сенатараў – Храптовіча, вялікага кароннага маршалка Міхаіла Мнішака і Казіміра Сапегу, які паступова пачаў пераходзіць у патрыятычны лагер, адыходзячы ад свайго дзядзькі гетмана Браніцкага.

13 лютага 1790 г. дэпутацыя ўсклала на Храптовіча справу напісання праекта па мяшчанскім пытанні[21]. Гэта рашэнне было поўнай перамогай каралеўскай партыі. Ад стварэння гэтага дакумента былі адхіленыя як праціўнікі новых мяшчанскіх правоў, так і «якабінцы», як называлі пасля Французскай рэвалюцыі прыхільнікаў найбольш радыкальных мяшчанскіх рэформаў, і ў першую чаргу Калантая. І тут варта заўважыць, што кароль у сваім змаганні за памяркоўныя рэформы абапіраўся ў асноўным на паслоў ВКЛ, прычым як прыхільнікаў сваёй партыі (Гутакоўскі, Храптовіч), так і тых, хто ў яго партыю не ўваходзіў (Сапега, Бжастоўскі).

Храптовіч распрацаваў праект за два месяцы. 17 красавіка ён прадставіў яго на абмеркаванне дэпутацыі. У адпаведнасці з праектам, магдэбургскае права распаўсюджвалася на ўсіх жыхароў горада, незалежна ад іх сацыяльнага статуса (акрамя габрэяў), мяшчане атрымлівалі права набываць зямлю, а шляхта – засядаць у магістраце. Таксама мяшчанству адкрываліся шляхі, каб зрабіць кар'еру ў войску і царкве. Падчас соймаў буйнейшыя гарады краіны (у ВКЛ гэта былі Вільня, Коўна, Гародня, Берасце, Менск, Навагрудак і Пінск) павінны былі прысылаць двух сваіх прадстаўнікоў з правам голасу ў пытаннях падаткаабкладання гарадоў, знешняга і ўнутранага гандлю. Мяшчанам давалася месца ў скарбовых і асэсарскіх, парадкавых камісіях. Палова гарадскіх падаткаў ішла дзяржаве, а другая палова на патрэбы горада[22].

12 мая праект быў надрукаваны і зацята абмяркоўваўся ў Варшаве. Ён насіў досыць памяркоўны характар: даваў шмат новых правоў мяшчанам, але пры гэтым быў пазбаўлены радыкальных

пераўтварэнняў, накшталт прапановы Калантая стварыць асобную ізбу ў Сойме выключна для мяшчан. Магчыма, менавіта таму праект быў прыняты досыць прыязна. Яго крытыкавалі па асобных пунктах, але з агульнай канцэпцыяй Храптовіча пагадзіліся амаль усе[23]. Аднак у гэтай кадэнцыі Сойма дыскусія аб мяшчанскім пытанні не паспела перамясціцца ў залу паседжанняў. Рашэнне было адкладзена да 1791 г.

Калі падсумоўваць тыя дыскусіі, якія адбываліся на Сойме першай кадэнцыі, то можна заўважыць, што паслы ВКЛ занялі ў мяшчанскім пытанні актыўную пазіцыю. Сёння цяжка вызначыць меркаванні ўсіх прадстаўнікоў Вялікага Княства. Аднак падчас паседжанняў з 46 паслоў ВКЛ больш чым 10 засведчылі сваю прыхільнасць мяшчанскай рэформе (Храптовіч, Нямцэвіч, Кубліцкі, Вэйсенгоф, Матусевіч, Сапега, Гутакоўскі, Бжастоўскі, Фількежамб, Шырма і Бутрымовіч). Цікава, што менавіта маладыя паслы ВКЛ Кубліцкі і Нямцэвіч засяроджвалі ўвагу Сойма не на эканамічных момантах у жыцці гарадоў і іх насельніцтва, а на сацыяльных правах мяшчанства.

Актыўнасць паслоў ВКЛ у гэтым пытанні часткова можна патлумачыць дзейнасцю кіраўніка «каралеўскай партыі» падскарбія Храптовіча, які для вырашэння каралеўскіх задач гуртаваў вакол сябе ў першую чаргу сваіх землякоў – беларуска-літоўскую шляхту. Хоць сярод гэтых паслоў далёка не ўсе былі прыхільнікамі каралеўскай партыі, а Сапега ў пэўным сэнсе быў нават яе працiўнікам. Бжастоскі і Шырма стаялі на «патрыятычных» пазіцыях, але выбіраліся на Сойм без падтрымкі Храптовіча, а значыць у гэтай барацьбе маглі падтрымаць Калантая, значна больш аўтарытэтнага чалавека для прыхільнікаў рэформ. Падобна, што памяркоўная пазіцыя караля і Храптовіча найбольш адпавядала ўяўленням прагрэсіўнай часткі шляхты ВКЛ аб вырашэнні мяшчанскага пытання.

У 1790 г. у Рэчы Паспалітай прайшлі чарговыя соймікі для вызначэння пазіцыі шляхты па рашэннях першай кадэнцыі Сойма. Аніводная з інструкцый ВКЛ не згадвала пра мяшчанскую рэформу, хоць відавочна, што шляхта ведала пра існаванне дэпутацыі па гэтай праблеме, якая была створана яшчэ ў канцы 1789 г. А таксама

яны маглі прачытаць праект падканцлера літоўскага Храптовіча, апублікаваны вясной 1790 г. З пэўнай верагоднасцю можна прыняць, што агульнае маўчанне азначала згоду на тыя рэформы, якія праводзіў у Варшаве падканцлер. У адрозненне ад ВКЛ у Кароне было некалькі паветаў, дзе шляхта выказалася супраць надання шырокіх правоў мяшчанам[24], але і там кансерватыўныя настроі былі вельмі слабыя.

29 сакавіка 1791 г. інфлянцкі пасол Нямцэвіч сказаў на Сойме палымяную прамову аб неабходнасці як найхутчэй задаволіць просьбы гарадоў, бо гэта важна для развіцця ўсёй Рэчы Паспалітай: «*Належыць даць ім тое, чаго справядлівасць і карысць краю нашага патрабуюць. Хачу, каб самі сябе судзіць маглі, каб выбавіць іх* (мяшчан – *А. Ц.*) *з-пад абцяжарваючай юрысдыкцыі старастаў*»[25].

Прамова Нямцэвіча аказала ўздзеянне. У пачатку красавіка, калі быў распрацаваны і прыняты закон аб сойміках, і шляхта вагалася да разгляду якога з шэрагу праектаў па канстытуцыйнай рэформе перайсці, на паседжанні 5 красавіка выступіў кракаўскі пасол Станіслаў Солтан, які прапанаваў разгледзець менавіта мяшчанскае пытанне[26].

У гэты ж дзень пачаліся дыскусіі. Праціўнікаў гарадскіх рэформаў было мала. У асноўным гэта былі прадстаўнікі Валыні і Брацлава (адзіныя рэгіёны Рэчы Паспалітай, дзе поўную ўладу над соймікамі трымаў гетман Браніцкі), а таксама старэйшае пакаленне паслоў з розных паветаў. Узроставае размежаванне прасочвалася і сярод прадстаўнікоў ВКЛ. Катэгарычна супраць мяшчанскай рэформы выступілі берасцейскі пасол Віслаух, троцкія паслы Сівіцкі і Платэр. Добра адлюстроўвае пазіцыю старой шляхты прамова троцкага пасла Сівіцкага, які заявіў: «*Не кранайма права народу, не знішчайма законы продкаў [...] Маюць гарады прывілеі і правы, вынік дабрадзейства іх Караля і рыцарства. Але яны самі іх занядбалі. І гэта іх, а не наша віна [...] Рыцарства! Будзьце пільнымі і асцерагайцеся мяккасці сардэчнай, калі да ўсяго новага лёгка хілішся. Трымайцеся даўніх законаў. Праект аб гарадах дае дазвол шляхце на гандаль, рамёствы, купецтва і трыманне шынкоў. Здрада гэта, Рыцарства, трымайцеся зброі і зямлі, пагарджайце тымі подлымі рэчамі [...]*»[27].

Аднак такіх паслоў было няшмат. Большасць падтрымала праект Храптовіча. Дзеля злучэння разам усіх пададзеных праектаў (у першую чаргу Храптовіча і Калантая) 8 красавіка кароль выдаў загад ад аб'яднанні мяшчанскай і канстытуцыйнай дэпутацый[28]. У абодвух камісіях пераважалі прыхільнікі караля, таму праект Храптовіча не зведаў асаблівых зменаў.

Сярод абаронцаў мяшчан, якія прамаўлялі два наступныя дні, з 16 асобаў – 6 было з ВКЛ: Нямцэвіч, Сапега, Храптовіч, Праўжэцкі, Кубліцкі, Трэмбіцкі. Адным з важкіх аргументаў, якія прыводзіліся падчас дыскусіі абаронцамі праекту было тое, што ў ВКЛ мяшчане здаўна мелі права набываць зямлю. Польскія паслы патрабавалі таго, каб і мяшчане іх гарадоў мелі такое права. Трэба адзначыць, што шляхецтва абодвух правінцый вельмі рэзка рэагавала на несупадзенні ў заканадаўстве ці правах Кароны і ВКЛ, калі толькі гэта не тычылася вельмі каштоўных традыцый (напрыклад, Статута 1588 г.). Да ўніфікацыі імкнуліся як першыя, так і другія. На тым і хацелі згуляць абаронцы мяшчан.

І гэта падзейнічала. Абсалютная большасць паслоў падтрымала праект «патрыётаў», хоць яго рэалізацыя мусіла прывесці да амаль рэвалюцыйных зменаў у жыцці тагачаснага грамадства. Ідэі Храптовіча і Калантая істотна змяншалі розніцу паміж шляхецтвам і мяшчанствам, уводзілі яшчэ нядаўна неверагодныя палажэнні, як, напрыклад, удзел мяшчанаў у паседжаннях Сойма. Гісторык XIX ст. В. Калінка звязваў гэта з агульным ростам свядомасці шляхты[29].

На самой справе пры ўсім тым шырокім узроставым і ідэалагічным спектры рыцарства, якое сабралося на другой кадэнцыі Сойма, досыць нязвыкла выглядала тое, што абсалютная большасць паслоў згаджалася з неабходнасцю надання мяшчанам шырокіх правоў. Аднак, з іншага боку, нельга не зазначыць, што большасць шляхты проста патрапіла ў агульную плынь эйфарыі і прагі зменаў, якая намаганнямі «патрыётаў» дамінавала ў Сойме, асабліва ў другой яго кадэнцыі.

У выніку дыскусій праект адправілі на тыднёвую дапрацоўку, пасля чаго 14 красавіка разгарэліся новыя спрэчкі. У дэпутацыі ў той час засядала некалькі кансерватыўных паслоў, якія якраз

і выкраслілі з праекта Храптовіча пункт пра прысутнасць мяшчанскіх прадстаўнікоў на Сойме.

Урачыстую прамову ў гэты дзень сказаў сам Храптовіч, настойваючы на тым, што лёс Рэчы Паспалітай шмат у чым залежыць ад развіцця гарадоў Кароны і ВКЛ: «*Паглядзіце, чым была Рэч Паспалітая у старыя часы свабоды гарадоў, і чым ёсць цяпер пры іх уціску, і адсюль бярыце меру, як зрабіць мусіце*»[30]. Прамова Храптовіча так узрушыла паслоў, што яны нават папрасілі асобна надрукаваць яе і распаўсюдзіць. І тут нечакана свой праект прапанаваў Сойму калішскі пасол Сухаржэўскі. Гэты праект поўнасцю супадаў з тым, які распрацаваў Храптовіч, акрамя таго, што не даваў права голасу мяшчанам па немяшчанскіх пытаннях[31]. Скарыстаўшыся тым, што праект прапанаваў прадстаўнік кансерватыўнага лагера, кароль яго падтрымаў. Тое самае зрабілі і астатнія паслы. 16 красавіка былі прынятыя «Zasady do projektu»[32], а 18 красавіка сам праект «Miasta nasze wolne w państwach Reczypospolitej»[33].

Праект быў падзелены на тры раздзелы «O miastach» (Аб гарадах), «O prerogatywach mieszczan» (Аб прэрагатывах гараджан), «O sprawiedliwośći dla mieszczan» (Аб справядлівасці для гараджан). Як і дабіваўся таго Храптовіч, праект прадугледжваў шэраг прынцыповых зменаў у сацыяльным статусе мяшчанства. Папершае, умацоўвалася пазіцыя мяшчан у самім горадзе. На мяшчан распаўсюджвалася старадаўняе шляхецкае права «Nisi jure victum» (прэзумпцыя невінаватасці) (II, 1). Жыхары гарадоў атрымалі права набываць маёмасць як у горадзе, так і па-за горадам (раней такое права мелі толькі жыхары ВКЛ) (I, 2). Мяшчане выпраўлялі сваіх паслоў на Сойм, дзе тыя размяркоўваліся ў камісіі (скарбовую, вайсковую), у асэсторыі, і мелі права голасу па мяшчанскіх пытаннях. Акрамя гэтага, прадстаўнік мяшчан меў права выступу на паседжанні Сойма (II, 3). Вельмі істотным было тое, што мяшчанства атрымала права на кар'ерны рост і нават атрыманне шляхецтва. У адпаведнасці з праектам, гараджанам адкрываліся дзверы ў войска (II, 8) і цывільныя ўстановы (канцылярыі, цывільна-парадкавыя камісіі, у скарб ці трыбунал) з магчымасцю атрымання новых пасадаў (II, 9). Атрыманне званняў, адпаведна, ў войску – штабс-капітана, а ў цывільнай службе – рэгента, аўтаматычна

надавала мешчаніну шляхецтва. Шляхціцам таксама станавіўся любы мешчанін, які два гады праслужыў у соймавых камісіях (гэта тычылася тых, хто быў накіраваны на Сойм у якасці прадстаўнікоў ад гарадоў), а таксама тых, хто стаў пасэсарам (набыў вёску ці мястэчка ў сваё валоданне).

Праект умацоўваў пазіцыю саміх гарадоў. Па-першае, абвяшчалася, што ўсе гарады становяцца вольнымі (I, 1). Па-другое, гарады вызваляліся з-пад трыбунальскай, земскай, старасцянскай, замкавай і маршалкоўскай юрысдыкцый. Уся ўлада пераходзіла ў рукі гарадскога магістрата, які выбіраўся самімі гараджанамі (III, 1). Такім чынам, гарадскім уладам падпарадкоўваліся ўсе, хто жыў у горадзе, незалежна ад свайго статуса. У кожным горадзе мусіў быць суд, да юрысдыкцыі якога належалі справы коштам да 300 злотых (III, 5). Справы, дзе разглядаліся большыя сумы, пераходзілі ў апеляцыйныя суды, якія ўсталёўваліся ў буйнейшых гарадах (у ВКЛ – гэта Вільня, Гародня, Берасце, Мінск, Пінск, Наваградак) (III, 6).

Гэты праект датычыў таксама і шляхты. Рыцарства атрымала магчымасць пераходу ў мяшчанства без страты свайго шляхецтва. Як вынік, шляхта магла займаць пасады ў гарадскім магістраце (I, 13), займацца гандлем і рамяством, трымаць мануфактуры (I, 11).

29 красавіка 1791 г. на вялікім уздыме дэлегацыя паслоў Сойма накіравалася ў варшаўскую ратушу і запісалася ў мяшчанскія кнігі горада. Што цікава, па нейкіх прычынах самога Храптовіча сярод іх не было. Такія ж працэсіі адбываліся па ўсёй Рэчы Паспалітай. Шляхта, узрушаная рэформай, каб паказаць сваю прыхільнасць пераменам, масава запісвалася ў гарадскія кнігі. Тое ж адбывалася ў ВКЛ. Так, у Браславе ўвесь земскі суд перайшоў у мяшчанства. У Вільні першы гэта зрабіў Сапега разам з чальцамі Цывільна-вайсковай Камісіі. У Коўне ў мяшчанства запісаліся 14 шляхціцаў[34].

Аднак кароль не быў задаволены тым, як беларуска-літоўская шляхта далучаецца да гэтага працэсу. У чэрвені 1791 г. у размове з Міхалам Клеафасам Агінскім кароль наракаў, што ў ВКЛ павялічыўся ўплыў Касакоўскіх, якія тармозяць правядзенне рэформаў у гэтай правінцыі. Менавіта таму, сцвярджаў Станіслаў

Аўгуст Панятоўскі, у адрозненні ад Варшавы, дзе амаль уся багацейшая шляхта запісалася ў мяшчанства, у Вільні гэтага рабіць ніхто не жадае. Ён прасіў Агінскага паехаць у Вільню і падштурхнуць там шляхту да больш актыўных дзеянняў. Агінскі выканаў пажаданне караля. У тым жа месяцы ён накіраваўся ў Вільню і запісаўся там у мяшчанства разам з яшчэ 50 асобамі[35].

Аднак пастанова 18 красавіка ўтрымлівала толькі асноўныя палажэнні. Гэтага было недастаткова, і 27 чэрвеня на Сойме былі прынятыя адразу два дакументы. Праект «Унутранае кіраванне гарадоў вольных у Кароне і Вялікім княстве Літоўскім»[36] прапісваў усю структуру гарадской улады. Прадстаўнікоў у гарадскія ўлады выбіралі на агульных сходах мяшчан, якія называліся цыркулі. Цыркулі складаліся прыблізна са 100 чалавек. Адпаведна, чым большым быў горад, тым больш там было цыркуляў. Таксама на гэтых сходах абіраліся прадстаўнікі ад горада на Сойм. Дакумент таксама прапісваў працэдуру правядзення сходаў і выбараў.

Цікава, што ў адным з працоўных варыянтаў гэтага праекта (на жаль, не датаванага)[37], у яго назве «Унутранае кіраванне гарадоў вольных у Кароне і Вялікім княстве Літоўскім» закрэслена слова «Вялікім Княстве Літоўскім» і зверху напісана «Рэчы Паспалітай». Хутчэй за ўсе гэта былі спробы Калантая і ягоных прыхільнікаў правесці ў Сойм дакумент, які б аналагічна Канстытуцыі 3 мая 1791 г. не згадваў пра існаванне ВКЛ і замацоўваў уніфікацыю Рэчы Паспалітай. Аднак найверагодней, што гэтая прапанова была адхілена яшчэ ў перыяд распрацоўкі праекту, бо ў дакументах ўсюды прысутнічае тэрмін «Вялікае Княства Літоўскае».

У гэты ж дзень па прапанове пасла Нямцэвіча быў прыняты іншы дакумент «Засцярога з прычыны праверкі гарадоў нашых, раней каралеўскіх, а цяпер вольных»[38]. Гэты дакумент абвяшчаў, што гарадское самакіраванне павінна быць выбрана да 1 верасня 1792 г. Таксама да гэтага часу трэба было выбраць прадстаўнікоў гарадоў у Сойм.

Прынясце такога дакумента на фоне тагачаснай Еўропы выглядае незвычайна. Як здзіўлена заўважыў В. Калінка: «*У іншых краінах барацьба мяшчан са шляхтай доўжылася дзесяткі год і каштавала нямала крыві. У нас абвясцілі некалькі брашур, пусцілі*

*саркастычныя вершы, сказалі шмат прамоваў, але не так шмат як у іншых сітуацыях, і на тым завершылі*»[39].

Можна назваць розныя прычыны, па якіх так сталася. Відавочна, вялікае ўздзеянне на шляхту Рэчы Паспалітай зрабіла Французская рэвалюцыя 1789 г. Хоць пра гэта амаль не гаварылася[40], але верагодна, што шмат хто з рыцарства хваляваўся, каб такая ж сітуацыя не паўтарылася ў іх краіне. Істотна і тое, што Сойм адбываўся ў Варшаве, дзе мяшчанства было вельмі актыўнае і патрыятычна настроенае. Рэвалюцыйныя пераўтварэнні папярэдняй кадэнцыі Сойма, маладыя паслы, якія актыўна і ўпэўнена выказваліся за змены – усё гэта разам моцна ўздзейнічала на паслоў, у т. л. і беларуска-літоўскіх, прымушала адмовіцца ад старых уяўленняў і ўжо на самім Сойме станавіцца прыхільнікамі рэформаў.

Гэты праект быў вялікай асабістай перамогай літоўскага падканцлера Храптовіча. Ён распрацаваў дакумент, у якім былі прадугледжаныя ўсе найважнейшыя чаканні мяшчанства таго часу, і пры гэтым не дапусціў «якабінства» або тых радыкальных пераўтварэнняў, на якіх настойваў Калантай. Ён здолеў дамагчыся, што праект прынялі як кансерватары, так і рэфарматары. Адзінае, чаго дабіліся ягоныя праціўнікі – зацягнуць прыняцце праекта амаль на год (ён быў гатовы яшчэ ў красавіку 1790 г.). У гэтым супрацьстаянні Храптовіч абапіраўся ў першую чаргу на паслоў ВКЛ.

Мяшчанскі праект нёс у сабе вельмі істотны сацыяльны пералом для грамадства Рэчы Паспалітай. Па сутнасці, рэформа адкрывала дзверы для ўзаемапранікнення шляхецкага і мяшчанскага саслоўяў, што з часам прывяло б да насычэння рыцарскага саслоўя найбольш актыўнымі прадстаўнікамі мяшчанства і, наадварот, сыход «у гандаль» і вытворчасць часткі рыцарства. Усё гэта вяло да паступовага знікнення мяжы паміж гэтымі саслоў'ямі. І калі б не знікненне самой дзяржавы праз 4 гады, дадзеныя рэформы далі б моцны штуршок развіццю Рэчы Паспалітай у XIX ст.

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 1737, адз. з. 58. Арк. 353; Ф. 1711, адз. з. 70. Арк. 1103.

[2] НГАБ. Ф. 1774, адз.з. 18. Арк. 1236; Ф. 1710, адз.з. 31. Арк. 1415 адв.; Michalski J. Sejmiki Poselskie // Przeglạnd Historyczny. T. 51. Z. 3. Warszawa, 1960. S. 175.

[3] Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. T. II. Opr. Woliński J., Michalski J., Rostworowski E. Wrocław, 1959. S. 94.

[4] Тамсама. S. 109.

[5] «*Wszyscy na to niemal powszechnie się skarżą że miasta litewskie w najgorszym nieporządku znajdują się i nie wyrównywają nawet porządnym zagranicznym wsiom*» (Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. T. II. S. 111).

[6] Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. T. II. S. 225, 241.

[7] «Pomnożenie Dochodów z Miast większych Królewskich». Diariusz Sejmu Czteroletniego. Archiwum Główny Aktów Dawnych (далей – AGAD). Archiwum Sejmu Czteroletniego (далей – ASCZ), sygn. 3. Арк. 619.

[8] «Pomnożenie dochodu z miast naszych Królewskich, w Koronie i w Wielkim Xięstwie Litewskim». Volumina Legum (далей – VL). T. IX. Petersburg, 1860. S. 133.

[9] 1 снежня пасля справаздачы дэпутацыі была прынятая пастанова аб усталяванні для Варшавы падатку ў 400 000 злотых (Kalinka W. Sejm Czteroletni. T. I. Warszawa 1991. S. 444, VL. T. IX. S. 133).

[10] Diariusz Sejmu Czteroletniego, sygn. 3. K. 633.

[11] Тамсама. K. 619, 635.

[12] Тамсама. K. 633.

[13] Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. Tom II. S. 259.

[14] Tracki K. Ostatni kanclerz litewski. Joachim Letawor Chreptowicz w okresie Sejmu Czteroletniego 1788–1792. Wilno, 2007. S. 131.

[15] «Akt zjednoczenia miast» (Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. Tom II. S. 305).

[16] «*Zjednoczyć umysły nasze w celu wzajemnej pomocy, tak iż jednego miasta interes publiczny powinien być odtąd interesem wszystkich miast tak koronnych, jako i Wielkiego Księstwa Litewskiego*». (Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. Tom II. S. 306).

[17] Тамсама. S. 345.

[18] AGAD, ASCZ, sygn. 5. K. 270. Głos Jaśnie Wielmożnego Jmci Pana Joachima Chreptowicza Podkanclerzego Litt: na Sessyi Seymowiej D. 18 grudnia r. 1789 Miany [Warszawa, 1789].

[19] Czaja A. Julian Ustyn Nemcewicz. Fragment biografii 1758-1796. Toruń, 2005. S. 105.

[20] VL. T. IX, S. 156.

[21] Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. Tom III. Opr. Wolinski J., Michalski J., Rostworowski E. Wroclaw. 1960. S. 7.

[22] Materiały do dziejów Sejmu Czteroletniego. Tom IV. Opr. Wolinski J., Michalski J., Rostworowski E. Wroclaw. 1961. S. 209.

[23] Tracki K. Ostatni kanclerz litewski. Joachim Letawor Chreptowicz... S. 136.

[24] Kalinka W. Sejm Czteroletni. T. II. Warszawa, 1991. S. 425.

[25] *«Należy im udzielić to, czego sprawiedliwość i pożytek kraju całego wymaga. Zqdają, ażeby sami przez siebie sądzic się mogli: żeby ich wyłamać z uciążliwey częstokroć starostów juryzdykcyi»* // Gazeta narodowa i obca № 27, 2 красавіка 1791; Czaja A. Julian Ustyn Nemcewicz. Fragment biografii 1758–1796. Toruń, 2005. S. 105.

[26] Gazeta narodowa i obca № 29, 9 красавіка 1791 г.

[27] *«Nietykamy praw narodu, nieznośimy ustaw przodkow. […] Mają miasta przywilejów i praw, skutki dobrodzieystw dla nich, Królów i stanu Rycerskiego. Lecz to od nich samych są zaniedbane: co ich, nie nasza jest wina. Oto stan rycerski, zabiespieczając siebie od przemocy Królów, zabiespieczył równie i mieszczan; bo powiedział nieminem captivabimus. W tym wyrazie niemienem, jest odjęty i mieszczanin [...] Stanie Rycerski! bądź bacznym, i strzeż się tey miękkości serca, iż do każdego nowości łatwo się skłaniasz; trzymay się praw dawnych. Daje potętę projet względem miast, dozwalając szlachcie handle, rękodzieł, rzemiosł, kupectwa i szynku. Zdrada to jest stanie rycerski; trzymay się broni i ziemi; pogardź temi podłącemi rzeczami […]»* // Gazeta narodowa i obca № 29, 9 красавіка 1791 г.

[28] VL. T. IX. S. 213.

[29] Kalinka W. Sejm Czteroletni. T. II. Warszawa, 1991. S. 449.

[30] *«Patrzcie, czym była Rzeczpospolita za dawnej miast wolności, a czym jest dzisiaj przy ich ucisku, a stąd bierzcie miare, jak uczynic macie»* // Gazeta narodowa i obca № 31, 16 красавіка 1791 г.

[31] Такія дзеянні Сухаржэўскага выклікалі найвялікшае здзіўленне шляхты. Калішскі пасол заўсёды прытрымліваўся кансерватыўных пазіцый і вельмі часта прамаўляў на Сойме доўгія пафасныя прамовы пра абарону старой шляхетнай вольнасці. З яго адкрыта смяяліся і часта не ўспрымалі ўсур’ёз. «Рэфарматарскае» памкненне пасла ўсіх моцна здзівіла, і да гэтага часу ягоныя дзеянні застаюцца таямніцай.

[32] «Асновы праекту». VL. T. IX, S. 214.

[33] AGAD, ASCZ, sygn. 20. K. 86. VL. T. IX, S. 215.

[34] Gazeta narodowa i obca № 40, 55, 58 1791 г.

[35] Pamiętniki z XVIII wieku. T. XI. Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach od r. 1788 aż do końca r. 1815. T. I Poznań, 1870. S. 113.

[36] «Urządzenie wewnętrzne miast wolnych Rzeczypospolitey w Koronie i w Wielkim Xięstwie Litewskim». VL. T. IX. S. 291.

[37] AGAD, ASCZ, sygn. 20. K. 225.

[38] «Ostrzeżenie względem exekucyi prawa o miastach Naszych, dawniey Królewskich, a teraz wolnych Rzeczypospolitey» VL. T. IX. S. 297.

[39] Kalinka W. Sejm Czteroletni. T. II. Warszawa, 1991. S. 456.

[40] Выказаць такія думкі на паседжанні Сойма рашыўся толькі аднойчы інфлянцкі пасол Нямцэвіч. Гэта адбылося ў лістападзе 1789 г. (Diariusz Sejmu Czteroletniego. AGAD. ASCZ, sygn. 3. K. 633).

*Вячаслаў Швед*
*доктар гіст. навук (Гародня)*

# Жанчыны ў паўстанні 1863–1864 гадоў на тэрыторыі паўстанцкага гарадзенскага ваяводства

У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве захоўваецца цікавая справа на польскай мове «Жанчыны, замешаныя ў паўстанні 1863 г. у Літве». Яна ўяўляе сабой алфавітны спіс прозвішчаў жанчын, якія ўдзельнічалі ў паўстанні 1863 г. на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Беласточчыны, складзены ў 1927 г. архівістам Польскага архіва ў Вільні Вацлавам Вей…(на жаль, неразборліва напісана).

У спісе 1701 асоба, з іх адна паўторана, а 55 не вядомыя па прозвішчах[1]. З 1645 вядомых асоб з тэрыторыі Беларусі аказалася 521 жанчына. Лідзіравалі паўстанкі з Гарадзенскага (72), Менскага (58), Беластоцкага (52) паветаў.

Наша ўвага прысвечана жанчынам-паўстанкам паўстанцкага Гарадзенскага ваяводства, якое ахоплівала сённяшнія Гарадзенскую і Берасцейскую вобл. Беларусі і Падляскае ваяводства Польшчы. Архіўныя дакументы, а таксама апублікаваныя крыніцы і літаратура дазволілі прадставіць поўную карціну ўдзелу патрыётак у Студзенскім паўстанні. А іх выступленні пачаліся нават раней мужчынскіх – у маніфестацыйны перыяд. Прывядзем некаторыя прыклады з розных частак ваяводства.

4 і 5 чэрвеня 1861 г. у беластоцкім касцёле на вячэрняй службе група гімназістаў, служачыя чыгункі (сярод іх Пёнткоўскі) і некаторыя жанчыны (між іншымі Камінская. Бяліцкая, Лубава) спявала польскі гімн «Boże coś Polske…» («Божа, што Польшчу...»[2]). А 17 чэрвеня дзяўчына Касінская не давала сесці на лаву ў гэтым касцёле жонцы надворнага дарадцы Скрабіцкай, бо яна не была апранута ў жалобны строй[3].

У дакуменце, які выйшаў з канцылярыі ваеннага губернатара

Гародні і гарадзенскага грамадзянскага губернатара, адзначалася: «*[…] С приездом в Гродно помещицы Валицкой началось здесь пение возмутительных гимнов…*»

Леакадзія Валіцкая разам з дачкою была выслана з Вільні ў м. Азёры ў маі 1861 г. «*за неприличные поступки*» пад строгі паліцэйскі нагляд. Па просьбе Валіцкай Віленскі ваенны губернатар і генерал-губернатар Гарадзенскі і Ковенскі 1 ліпеня дазволіў ім жыць у Гародні. 1 верасня гарадзенскі ўезны спраўнік узяў падпіску з Валіцкай, што яна не будзе пакідаць Азёры. Падпіску яна дала, але растлумачыла яму, што маёнтак належыць не ёй, а Леапольду Валіцкаму, а таму знаходзіцца ёй там немагчыма. Пасля чаго, відаць, пайшла ў ход тая папера, якая дазваляла ёй жыць у Гародні. У студзені 1862 г. Валіцкай дазволілі выехаць на два месяцы да дачкі ў Нова-Аляксандраўскі павет Ковенскай губ. У красавіку яна вярнулася ў Гародню і пасялілася на вул. Замкавай у доме «*еврея Соболя*». 22 мая Валіцкая, відаць, без дазволу выехала ў забароненую для яе Вільню[4].

30 чэрвеня 1861 г. у касцёле м. Камянецк-Літоўск жанчыны-памешчыцы спявалі польскія гімны пад акампанемент адной з іх на аргане. Спевы паўтарыліся 4 і 7 ліпеня 1861 г.[5]

Гарадзенскі жандарскі штабс-капітан Е. А. Прасолаў 26 ліпеня 1861 г. даносіў свайму начальству пра патрыятычныя спевы ў Слоніме, Кобрыне, Берасці, Бельску, Беластоку, Саколцы і некаторых мястэчках. Ён пісаў, што «*главными участниками пения бывают дамы дворянского и женщины среднего сословия, носящие траурное платье, и некоторые из молодых обывателей, воспитанников учебных заведений и служащих гражданских чиновников […] Дёрзость и подозрительность некоторых лиц доходит до того, что они заставляют русских и не принимающих участия в пении выходить из костёлов и процессий и кропят серной кислотой платья дам, не носящих траура […]*»[6].

Прыклады падобнай формы выступленняў жанчын можна працягваць (гл. у Дадатку спіс жанчын з Беластоку). Але цяпер лагічна ўспомніць пра іншую – нашэнне жалобнай вопраткі. Наколькі гэта было сур'ёзна, сведчаць афіцыйныя дакументы.

12 чэрвеня 1863 г. выйшаў цыркуляр Мураўёва аб нашэнні жа-

лобы. Яна дазвалялася толькі тым асобам, у якіх сапраўды хтосьці памёр і на тэрмін, усталяваны мясцовымі традыцыямі. Жанчынам забаранялася насіць чорную вопратку і рэвалюцыйныя знакі пад пагрозаю выключэння са службы іх мужоў-чыноўнікаў, штрафаў за першы і другі раз (25 і 50 руб.), арышту ў трэці раз і продажу маёмасці за не аплочаны штраф[7].

22 ліпеня 1863 г. у «Гродненских губернских ведомостях» было апублікавана распараджэнне гарадзенскага губернатара «*О строжайшем запрещении женщинам носить траур, а мужчинам польские национальные костюмы или же другие революционные знаки*»[8]. Відаць, у гэты час Ц. Цэханоўскі напісаў верш «Падзяка полькам», які прывожу ў сваім перакладзе на беларускую мову:

Дзякуй Вам, полькі, што зразумелі
Не час танчыць з маскалямі,
Што калі мае паўстаць з труны народ цэлы,
Вы прыгажэйшыя з малітвай і слязамі…

Бо вусны вашыя, калі малітву вымаўляюць,
І слёзы, калі з вачэй бягуць па кроплі,
Анёлы ў ружовыя бутоны збіраюць
І носяць у дар Бога Нарадзіўшай

А кожная просьба, кожная слязінка
У гэтай апякунцы ў вялікім кошце,
Бо за іх Каралева нябесная
На год наблізіць Айчыны вызваленне[9].

Яшчэ адной формай удзелу жанчын у барацьбе ў маніфестацыйны час былі жалобныя набажэнствы ў памяць пяцёх забітых у Варшаве. 3 (15) сакавіка 1861 г. шэфу жандараў і начальніку III Аддзялення В. А. Далгарукаву даносілі: «*И некоторые лица этих сословий* (дворянство и католическое духовенство – *В. Ш.*) *и даже из служащих чиновников, особенно же ксендзы и дамы, выражают своё сочувствие отправлением панихид по убитых в Варшаве, пожертвованиями в пользу их семейств, отстранением себя от участия в собраниях и от сообщества с русскими, и последние, дамы, нарядами вроде траура, называемыми «гарибальдинками», по примеру носимых в Варшаве*»[10].

Жанчыны былі актыўнымі ўдзельніцамі рэлігійных працэсій. Часта яны ажыццяўляліся з беластоцкага касцёла або да яго з суседніх касцёлаў – Заблудава, Добржынёва, Васількава, Супрасля, Тыкоціна. Працэсіі суправаджаліся спевамі гімна[11]. Шмат жанчын было ў працэсіі, якую зладзіў з Гародні ў Ружаныстко 26 жніўня 1861 г. ксёндз дэкан гарадзенскага Фарнага касцёла Ю. Маеўскі. Ім удалося дайсці толькі да Нёмана, дзе расійскія войскі загарадзілі дарогу, і губернатар угаварыў вярнуцца на плошчу каля касцёла[12].

Жанчыны прымалі актыўны ўдзел у розных патрыятычных мерапрыемствах. Напрыклад, 12 жніўня 1861 г. шырока адзначаўся Дзень памяці аб'яднання Літвы і Польшчы. С. Славуцінскі ўспамінаў, што ў Гародні дэманстранты з жонкамі і дзецьмі хадзілі да губернатарскага дому, дзе «*моцна шумелі і буянілі. Пачаўшы з патрыятычнага гімна, хутка перайшлі да лаянкі супраць губернатара і супраць усякай расійскай улады*»[13].

У Беластоку жанчыны з'явіліся ў касцёл у святочных, каляровых сукенках, зала была ўпрыгожана харугвамі, на алтары запалены ўсе свечы, спявалі некалькі разоў гімн. Шматлюднае свята адбылося ў Друскеніках. Жанчыны апранулі каляровыя бальныя сукенкі і ў галаўных уборах мелі міртавыя галінкі. Дамы высшага свету гулялі з сялянамі пад ручку і завяралі іх, што Польшча ўваскрэсла, а разам з ёю ўваскрэсла «*вольнасць, роўнасць, поўны дастатак*»[14].

Адзін з кіраўнікоў паўстання ў Літве Якуб Гейштар, згадваючы ў сваіх успамінах асобаў, «*займаючых менш значныя ў паўстанцкай арганізацыі становішча*», пісаў: «*Спачатку назаву нашых жанчын, якія, калі ў пачатковых дэманстрацыях можа занадта аддаваліся пачуццям, дык, калі прыйшла хвіліна небяспекі, умелі прысвяціць сябе, працаваць, а трываласцю і кемлівасцю не раз перавышалі сваіх мужоў і братоў*»[15].

Пацвердзім гэтае сцвярджэнне фактамі. У структуры Гарадзенскай ваяводскай арганізацыі існаваў жаночы камітэт, або камітэт апекі. На жаль, вядомыя толькі 4 прозвішчы:

**Андржэйкавіч Гелена** з Керсноўскіх. Захавала для нашчадкаў верш Ц. Цеханоўскага «Падзяка Полькам». Памерла ў Друскеніках у красавіку 1922 г.[16]

**Багатка Юзэфа (Юзэфіна) Алаізаўна**, 42 гады ў 1863 г., жонка гарадзенскага чыноўніка, удзельніка рэвалюцыйнай арганізацыі Ф. Багаткі. У яе абавязкі ўваходзіла збіраць ад памешчыц, якія жылі ў Гародні складкі, сачыць за шыццём бялізны паўстанцам, дапамагаць іх сем'ям. У кастрычніку 1863 г. атрымала білет на выезд у Тамбоўскую губ. да сасланага мужа. Прывезла яго парэшткі на радзіму пасля смерці. Арыштаваная 2 (14) красавіка 1864 г. і зняволена ў гарадзенскім турэмным замку. Вызвалена, але суд пастанавіў «оставить в сильном подозрении»[17].

**Малахоўская Тэафілія**, памешчыца. Выконвала ролю «акрэнговай дамы» (чалец жаночага камітэта) у Пружанскім павеце. Гарадзенскі ваенна-палявы суд прыгаварыў да пасялення ў далёкіх месцах Сібіры[18].

**Ромер Тэадора Фадзееўна,** жонка Северына Ромера, 43 гады ў 1864 г., старшыня Гарадзенскага павятовага жаночага камітэта з абавязкамі збіраць складкі (было сабрана каля 400–500 руб.), сачыць за шыццём бялізны паўстанцам, дапамагаць бедным сем'ям, з якіх дзеці пайшлі ў паўстанцкі атрад. У сваіх паказаннях адмовілася ад таго, што выконвала функцыі старшыні. Высланая разам з мужам у Табольскую губ.[19]

17 жанчын падвергліся пераследу за аказанне дапамогі паўстанцкім атрадам. Мы па праву можам залічыць іх да ўдзельніц паўстання. Мяркуйце самі па іх дзеяннях: збор грошаў – 2 чал., распаўсюд адозваў – 1 чал., прымалі ў сябе паўстанцаў – 2 чал., ажыццяўлялі сувязь і разведку – 2 чал., захоўвалі зброю, порах, кулі – 2 чал., давалі харчаванне – 3 чал. (а па сутнасці ўсе 17 чал.), «садзейнічалі» – 3 чал.

**Ажэшка Эліза Бенедзіктаўна (**1841 г., Мількаўшчына, Гарадзенскі павет – 1910 г., Гародня). Была звязаная з атрадам Р. Траўгута, які дзейнічаў на тэрыторыі Гарадзенскай губ.: дастаўляла харчаванне, лекі, пошту, перадавала звесткі пра дзеянні царскіх войск, шыла канфедэраткі і кашулі. У ліпені 1863 г. спачатку хавала, а потым перавезла ў сваёй карэце Р. Траўгута ў Каралеўства Польскае. Праславіла паўстанцаў у сваім апошнім творы – зборніку навэлаў «Gloria victis (1863)», у рамане «Над Нёманам». Пахаваная на гарадзенскіх каталіцкіх могілках[20].

**Валіцкая Людвіка**, графіня 22 гадоў, пляменніца Леапольда Валіцкага, сувязная ў партызанскім атрадзе Лянкевіча. Дастаўляла яму прадукты, адзенне, гаспадарчыя рэчы. Арыштавана ў верасні 1863 г., высланая ў Варонежскую губ. у лістападзе 1863 г.[21]

**Нарбут Хрысціна** (Крысціна), жонка Тэадора Нарбута, маці паўстанцкіх камандзіраў Людвіка і Баляслава. Разам з вядомым даследчыкам гісторыі ВКЛ яна ператварыла свой дом у явачны пункт і месца захоўвання зброі, амуніцыі, харчавання для паўстанцаў. За агітацыю вучняў Свіслацкай гімназіі ўдзельнічаць у маніфестацыях генерал-губернатар В. І. Назімаў 29 красавіка 1862 г. прадпісаў гарадзенскаму губернатару Галеру выслаць Хрысціну «*у іншыя ўездныя гарады даверанай вам губерні*». Той высяліў яе ў Ваўкавыск пад паліцэйскі нагляд. Генерал-губернатар Мураўёў вырашыў выслаць Нарбутаў у Сібір, маёнтак канфіскаваць, дом спаліць і заараць зямлю, каб і следу не засталося. Але цяжка хворага Тэадора пакінулі пад наглядам паліцыі ў Вільні, дзе ён 15 лістапада 1864 г. памёр, а Хрысціну выслалі ў Пензенскую губ. Яна вернецца ў Шаўры ў 1874 г. і пакіне свет у 1899 г. Пахавана каля сына Баляслава ў Шаўрах[22].

Ніхто з жанчын не браў у рукі зброю і не хадзіў па лясах у шэрагах партызанскага атрада. Ніхто з іх не стаў Эміліяй Плятэр. Але без апісанай вышэй дапамогі жанчын і іх маральнай падтрымкі паўстанне гарэла б не так ярка і згасла б раней. Мы можам лічыць жанчын салдатамі дапаможных сілаў паўстання.

Дадатак

### *Імянны спіс асобам жаночага полу, удзельніц у спяванні гімна «Boże, coś Polska...» у Беластоку*[23]

1. Аземблава, удава палкоўніка, памешчыца, жыве ў Беластоку.
2. Аземблава Ефрасіння, сваячніца ўдавы палкоўніка, жыве ў Беластоку.
3. Акштуль, жонка мяшчаніна Антона.
4. Алдакоўская Браніслава, служанка аптэкара Гансеўскага.

5. Алдакоўская Паўліна з дачкою, памешчыца Бельскага павета, удава прадвадзіцеля дваранства, жыве ў Беластоку.
6. Анасінская, жонка настаўніка гімназіі.
7. Андржееўская, жонка ўрача з дочкай.
8. Апончык Ганна, мяшчанка.
9. Бальбашэўская, жонка настаўніка гімназіі.
10. Бальшая, жонка інспектара гімназіі.
11. Багінская Канстанцыя, дваранка, удава, жыве ў Беластоку.
12. बародзіч, удава.
13. Беліцкая Мар’я, крамніца.
14. Беляўская Аўрэлія, пляменніца калежскай дарадцы Беляўскай.
15. Беляўская, дачка калежскай дарадцы, жыве ў Беластоку.
16. Брандт, дзве дачкі ўдавы чыноўніцы.
17. Буржынская Анэля, жонка мяшчаніна Войцеха Буржынскага.
18. Бялкоўская Марыя, мяшчанка.
19. Бялкоўская Ганна, дачка Марыі.
20. Блажэвічава Вераніка, дачка двараніна.
21. Бернацкая, удава мяшчанка.
22. Бірфрэйнд, мяшчанка.
23. Балбашэўская, жонка настаўніка гімназіі.
24. Бернекер Камілія, мяшчанка.
25. Бернекер Сафія, мяшчанка.
26. Вайткоўсккая Тэафілія, жонка адстаўнога капітана.
27. Вінская, дзевіца, сястра настаўніка інстытута Граўерта.
28. Ваенская, удава з прыюта, жыве ў Беластоку.
29. Вольская жонка акруговага начальніка.
30. Вольская, дзевіца, дваранка.
31. Вайцыцкая Юзэфа, жыхарка горада Варшавы.
32. Вайцыцкая Элеанора, сястра вышэй названай Юзэфы.
33. Вільчынская, мяшчанка, удава.
34. Грынявіцкая Амалія, дваранка.
35. Гарткевіч, памешчыца, удава.
36. Горская Елісавета, удава заседацеля.
37. Граўерт, жонка настаўніка гімназіі.

38. Дашкевіч памешчыца м. Орля.
39. Дамброўская, памешчыца.
40. Желязоўская, дачка памёрлага паштовага чыноўніка.
41. Загорская з дачкою, дваранка Бельскага павета.
42. Ёмеліта, жонка столаначальніка магістрата.
43. Касінская дзевіца, дваранка.
44. Касінская Вікторыя, памешчыца.
45. Касінская, жонка тытулярнага дарадцы.
46. Кашчынская з дачкою, удава.
47. Карповіч Элеанора, сястра памешчыка Беластокскага павета, праваслаўная, жыве ў маёнтку Беласточак.
48. Кабылінская памешчыца Беластокскага павета.
49. Качаноўская Вікторыя, дваранка.
50. Красота Антаніна, мяшчанка.
51. Керсноўская Амалія, пляменніца губернскага сакратара Снарскага.
52. Кардзіналоўская Юзэфа, удава надворнага дарадцы, жыве ў Беластоку.
53. Кардзілоўская Амаліяй, унучка Юзэфы, дзевіца, жыве ў Беластоку.
54. Кржепоўская Амалія, дачка памёрлага чыноўніка.
55. Крас, жонка мяшчаніна.
56. Крас Вікторыя, жонка мяшчаніна.
57. Крапіўніцкая, удава мяшчаніна.
58. Лубава, крамнічніца.
59. Лімнкоўская з дачкой Антанінаю, памешчыца Ваўкавыскага павета.
60. Лясевічавая, жонка Бельскага мяшчаніна.
61. Левковічавая Мар’яна, дачка памёрлага арганіста.
62. Лукашынская Юзэфа, удава мяшчанка.
63. Манюшка Сафія, удава дваранка, утрымлівае ў Беластоку вучняў.
64. Магільніцкая, удава тытулярнага дарадцы.
65. Матушевіч, удава бухгалтара казначэйства, закройшчыца пры Інстытуце благародных дзевіц.
66. Матусевіч, дачка вышэй названай ўдавы.

67. Мергардава, удава, мяшчанка.
68. Навіцкая з дачкою, удава, памешчыца, жыве ў Беластоку.
69. Пенькоўская, удава памешчыка Бельскага павета, жыве ў Беластоку.
70. Піятроўская Юліянна, удава сакратара, жыве ў Беластоку.
71. Павятоўская, памешчыца Ваўкавыскага павета, жыве ў Беластоку.
72. Пекарская Ганна, мяшчанка, кравец інстытута, жыве ў Беластоку.
73. Плюта Соф'я дачка губернскага сакратара, жыве ў Беластоку.
74. Плюта ?, сястра Соф'і, дачка губернскага сакратара, жыве ў Беластоку.
75. Паеўская Юзэфа, дваранка.
76. Пуцята, жонка ўрача гімназіі.
77. Піятроўская Антаніна, дваранка.
78. Пілінчуковая Кацярына, салдатка, служачая ў аптэкара Гансеўскага.
79. Румель, памешчыца.
80. Румель, дачка памешчыцы
81. Румель, дачка памешчыцы
82. Рушкоўская, жонка служачага на чыгунцы.
83. Сыревіч, удава штабс-лекара, жыве ў Беластоку.
84. Сржедзінская, жонка двараніна.
85. Сарнацкая, дачка надворнага дарадцы.
86. Снарская, жонка губернскага сакратара.
87. Снарская, дачка губернскага сакратара.
88. Садоўская Ганна, удава настаўніка, калежскага сакратара, жыве ў Беластоку.
89. Садоўскія дзве дачкі яе.
90. Тачіская Антаніна, дачка настаўніка музыкі.
91. Тапальская Мар'яна, дваранка, жыве ў Беластоку.
92. Трусава, жонка памешчыка Беластоцкага павета.
93. Хухлінская Ганна, дачка тытулярнага дарадцы, жыве ў Беластоку..
94. Хухлінская ?, дачка тытулярнага дарадцы, жыве ў Беластоку.
95. Целятыцкая, дачка двараніна Бельскага павета.

96. Шыманоўская Ганна, дачка падпалкоўніка, жыве ў Беластоку.
97. Шыманоўская Сафія, дачка падпалкоўніка, жыве ў Беластоку.
98. Шымкевіч Амалія, дзевіца, дваранка, утрымоўвае ў Беластоку вучняў.
99. Шукевіч Апалонія, дзевіца, дваранка.
100. Шчыгельская, удава, дваранка, жыве ў Беластоку.
101. Эльснер, удава, дваранка.
102. Элерт, удава, кравец інстытута, жыве ў Беластоку.
103. Юхневічавая, жонка губернскага сакратара.
104. Юхніцкая Мар'яна, мяшчанка.
105. Юхніцкая Пелагая, мяшчанка.
106. Янчэўская, дзевіца, дваранка.
107. Яневіч, жонка маёра.

---

[1] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей – ЛДГА). Ф. 1248, воп. 1, адз. з. 622.

[2] Гімн напісаны ў 1816 г. А. Фелінскім з нагоды ўтварэння Каралеўства Польскага.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гародні (далей – НГАБ у Гародні). Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1241. Арк. 21, 34.

[4] Тамсама. Ф. 3, воп. 3, адз. з. 1. Арк. 256-257 адв.; Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1143. Арк. 1, 6, 10–10 адв.,18, 20, 22.

[5] Тамсама. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1241. Арк. 62–62 адв.

[6] Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. // Восстание 1863 года. Материалы и документы. Москва, Вроцлав: Наука, 1964. С. 438.

[7] Сборник распоряжений графа Михаила Николаевича Муравьёва по усмирению польского мятежа в Северо-Западных губерниях 1863–1864 / Сост. Н. Цылов. Вильна, 1866. С. 353–354.

[8] Гостев А. П., Швед В. В. Кронон. Летопись города над Неманом (1116–1990). Гродно: НВК «Пергамент», 1993. С. 61.

[9] Jodkowski. Rok 1863 w powiecie Grodzieńskim // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 179. S. 3.

[10] Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг… С. 432.

[11] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1241. Арк. 156.

[12] Тамсама. Ф. 3, воп. 3, адз. з. 4. Арк. 29.

[13] Славутинский С. Город Гродна и Гродненская губерния во время последнего польского мятежа (отрывок из воспоминаний) // Исторический вестник. Т. XXXVII. 1889. С. 66.
[14] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1241. Арк. 168, 187, 247 адв.–249 адв., 311–312 адв., 324–324 адв.; Славутинский С. Город Гродна и Гродненская губерния во время последнего польского мятежа… С. 66.
[15] Gejsztor J. Pamietniki z lat 1857–1865. T. 2. Wilno, 1913. S. 214.
[16] Jodkowski. Rok 1863… (notatki i uzupełnienie) // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 174. S. 3
[17] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 34, адз. з. 768. Арк. 7 адв.; Ф. 3, воп. 3, адз. з. 2. Арк. 12, 206, 213–216; адз. з. 1. Арк. 555; адз. з. 4. Арк. 35 адв.
[18] Тамсама. Ф. 3, воп. 1, адз. з. 40. Арк. 287; ЛДГА. Ф. 1248, воп. 2, адз. з. 1320, ч. 1. Арк. 99, 237 адв.
[19] Тамсама. Ф. 3, воп. 3, адз. з. 4. Арк. 39–40 адв.; Ф. 3, воп. 3, адз. з. 2. Арк. 12, 55, 123 адв.,159–159 адв.; адз. з. 1. Арк. 132; Jodkowski J. Rok 1863… // Echo Grodzieńskie. 1921. Nr 173. S. 3.
[20] Гродно. Энциклопедическій справочник. Мн.: БелСэ, 1989. С. 297–298; Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Warszawa, 1964. S. 68.
[21] Jodkowski. Rok 1863 // Echo Grodzienski. 1921. Nr 177. S. 3; Буднік І. Да падзеяў 1863–1864 гадоў на Гарадзеншчыне. Гродна, 2013. С. 80.
[22] Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг… С. 468; Талерчык А., Майсяёнак А. Першы летапісец нашай гісторыі // Пагоня. 1994, 2–8 снежня. С. 5.
[23] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 22, адз. з. 1110. Арк. 8–11, 1241, 201–202.

*Аляксандр Радзюк,*
*канд. гіст. навук (Гародня)*

# Гарадзенскі крымінал 70-х – пачатку 80-х гг. XIX ст.

Асновай праведзенага даследавання сталі «рапарты гарадзенскага паліцмайстра аб надзвычайных здарэннях» за 1870-я – пачатак 1880-х гг. Дадзены тып гістарычнай крыніцы з'яўляецца адным з найбольш масавых (калі не самым масавым пасля метрычных кніг) па гісторыі Гародні і яе жыхароў. Але да гэтага часу ён амаль што цалкам ігнараваўся даследчыкамі.

Першыя з выяўленых намі рапартаў датуюцца 1817 г.[1] Апошнія належаць да пачатку XX ст. За гэты час іх змест і перыядычнасць засталіся амаль нязменнымі. Напрыклад, у 1817 г. рапарт гарадзенскага паліцмайстра, адрасаваны губернатару Станіславу Нямцэвічу, уключаў у сябе наступныя пункты:

*«О случившихся в г. Гродне происшествиях*
*с 16 февраля по 1 марта*
*Пожары – вовсе не случились*
*Умерших нечаянно – вовсе не было*
*Скотские падежы – не случалось*
*Впрочем никаких происшествий как равно града*
*и наводнения не было».*

Падобная накіраванасць паліцэйскіх рапартаў захавалася і ў далейшым. Адзінай і вельмі важнай зменай структуры дадзенага тыпу крыніц стала з'яўленне ў 60-я гг. XIX ст. паведамленняў аб злачынствах.

У выніку захавання пэўнай аднастайнасці і пераемнасці паўстала сапраўдная хроніка жыцця Гародні і яе жыхароў XIX – пачатку XX ст. У ёй адлюстраваныя такія значныя падзеі як знішчальныя паводкі і эпідэміі, разбурэнні (у т. л. Каложы ў 1853 г.) і караблекрушэнні, спусташальныя пажары і разгул прыродных стыхій, смяротныя выпадкі і шмат іншага.

Хаця інфармацыя аб усіх гэтых падзеях сама па сабе ўяўляе вялікую цікавасць і мае значны эўрыстычны патэнцыял, у дадзеным выпадку яна з'яўляецца толькі вонкавым фонам для ілюстрацыі жыцця месцічаў таго часу. Куды больш важна, на нашу думку, убачыць «заплечча», другасны план рапартаў. Менавіта ў іх, як ні ў якім іншым тыпе гістарычнай крыніцы найбольш поўна адлюстраваныя самыя розныя аспекты штодзённага жыцця горада і яго месцічаў XIX ст., менавіта інфраструктура, прафесійна-гаспадарчая дзейнасць, грамадскі і хатні ўклад жыцця, «анатомія» сацыяльных і нацыянальна-рэлігійных адносін і г. д. Усё гэта дае магчымасць прасачыць тыя змены, што адбываліся ў жыцці гарадзенцаў, вылучыць пэўныя заканамернасці на працягу ўсяго гэтага часу ці пэўных яго адрэзкаў. Вывучэнне дадзенага матэрыялу таксама ўзбагачае лакальную гісторыю сотнямі невядомых фактаў і імёнаў, удакладняе і пашырае веды аб Гродні ў цэлым і некаторых яе таямнічых эпізодах мінулага ў прыватнасці.

Чаму менавіта 70-я гг. XIX ст. былі абраныя для дадзенага даследавання? Па-першае, за гэты адрэзак часу паліцэйскія рапарты прадстаўленыя ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ) у Гродні найбольш поўна. А, па-другое, якраз на гэтыя гады прыпадае іх асаблівая інфармацыйная насычанасць.

Важным аспектам, які ўвесь час трэба мець на ўвазе пры апрацоўцы паведамленняў мясцовага паліцмайстра з'яўляецца іх тыпалагізацыя. Выразна вылучаюцца тры *розныя пласты* (*падвіды*). *Першы* – г. зв. «сутачная справаздача» дзяжурнага па горадзе і дзяжурнага па паліцыі. Гэты дакумент складаўся з некалькіх частак і ўтрымліваў статыстычныя звесткі аб колькасці хворых у розных лячэбных установах, аб арыштантах, аб прыехаўшых і пакінуўшых горад.

У гэтым друкаваным фармуляры прысутнічала графа «аб здарэнні» куды памочнік прыстава ўпісваў адпаведную інфармацыю. На падставе гэтых справаздач мясцовы глава паліцэйскага ведамства складаў ужо *уласны рапарт*, які меў больш разгорнутую форму, дэталізаваў, а часам таксама інфармаваў аб папярэдніх выніках следчых мерапрыемстваў. І, нарэшце, усе гэтыя паведамленні траплялі ў адмысловую «*ведамасць аб здарэннях*

*за палову месяца*». Як і ў папярэднім выпадку, яе аўтарам з'яўляўся паліцмайстар.

Галоўным адрозненнем апошняга падвіду крыніц было тое, што ў іх траплялі далёка не ўсе папярэднія рапарты. Чаму гэта так адбывалася, патлумачыць цяжка. Акрамя таго, самі паведамленні ў паўмесячных ведамасцях падвяргаліся далейшаму рэдагаванню, у сувязі з чым яны станавіліся менш інфарматыўнымі. Паколькі ў некаторых выпадках арыгіналы паведамленняў паліцэйскіх чыноўнікаў у справах адсутнічалі, прадметам нашага аналізу з'яўляліся рэдукаваныя ведамасці аб здарэннях. А гэта, у сваю чаргу, прыводзіла да звужэння поля даследавання і, адпаведна, аказала ўплыў на верагоднасць прадстаўленых высноў у цэлым.

Рапарты не з'яўляліся нейкім адмысловым прадуктам мясцовай адміністрацыі. Падобныя паведамленні былі абавязковым атрыбутам бюракратычнай машыны большасці гарадоў і паветаў Расійскай імперыі.

Разам са звесткамі ад гарадзенскага паліцмайстра ў справах аб надзвычайных падзеях прысутнічалі аналагічныя справаздачы берасцейскага, беластоцкага, ваўкавыскага ды іншых «калегаў», а таксама пісьмовыя данясенні земскіх спраўнікаў, міравых пасрэднікаў, наглядчыка суднаходства. Пэўную цікавасць уяўляюць дакументы, якія зыходзілі ад гарадзенскага павятовага спраўніка. У іх можна выявіць досыць цікавую інфармацыю аб злачынствах ды іншых падзеях надзвычайнага характару, што здарыліся ў гарадскіх ваколіцах і мясцовасцях, якія зараз з'яўляюцца часткай Гародні. У прыватнасці, гэта Грандзічы, Дзевятоўка, Фолюш, Гнойніца, Лапенкі ды інш.

Адрасатам рапартаў быў мясцовы губернатар. У далейшым гэтыя звесткі пасля іх рэдагавання і структурызацыі па тыпам падзеяў перасылаліся ў вышэйшыя інстанцыі. У нашым канкрэтным выпадку гэта быў віленскі генерал-губернатар. Але быў яшчэ адзін адрасат – мясцовыя «Губернскія ведамасці». І ўжо адтуль прагная да сенсацый чытацкая аўдыторыя даведвалася аб усім незвычайным, што адбылося ў горадзе над Нёманам і іншых гарадах губерні за апошнія два тыдні. Пры гэтым інфармацыя аб найбольш «рэзанансных» справах перадрукоўвалася як на старонках

рэгіянальных выданняў (напрыклад, «Виленские губернские ведомости»), так і сталічнай прэсы, што рабіла яе здабыткам шырокай публікі.

Завяршаючы характарыстыку паліцэйскіх рапартаў, хацелася б зазначыць, што крымінальныя зводкі, якія ўтрымліваюцца ў рапартах, на жаль, не могуць даць поўнай карціны ўсяго злачыннага свету Гародні таго часу. У першую чагу гэта абумоўлена тым, што дадзены тып крыніц быў накіраваны на выяўленне і, адпаведна, інфармаванне вышэйшых органаў аб розных надзвычайных падзеях. У сувязі з гэтым з поля даследавання «выпалі» некаторыя віды крымінальнай дзейнасці: эканамічныя (растрата, кантрабанда), злоўжыванні па службе, махлярства, ліхвярства, падробка дакументаў і каштоўных папер, незаконны выраб і продаж спіртных напояў і шмат іншага. Усё гэта абумовіла пэўную абмежаванасць дадзенай працы. Аўтарская ўвага сканцэнтраваная галоўным чынам на вулічнай злачыннасці ў розных яе формах і праявах.

### *Колькасныя характарыстыкі злачыннасці і яе структура*

Такім чынам, у якасці зыходнага матэрыялу выкарыстаем рапарты мясцовага паліцмайстра за 1871–1881 гг. За гэты перыяд яны размеркаваны досыць нераўнамерна. За 1871 г. – 17 рапартаў, 1872 – 34, 1873 – 34, 1874 – 31, 1875 – 27, 1876 – 44, 1877 – 64, 1878 – 46, 1879 – 61, 1880 – 76, 1881 – 41.

Як бачым, колькасныя характарыстыкі вар’іруюцца досыць адчувальна. Прычыны падобнага інфармацыйнага дысбалансу абумоўлены некалькімі фактарамі. Па-першае, гэта адсутнасць паведамленняў аб надзвычайных здарэннях за пэўныя перыяды: пяць месяцаў 1871, 1873, 1878 гг., па адным месяцы ў 1872 і 1874 гг. Другая прычына крыецца ў нядобрасумленным выкананні паліцэйскімі чыноўнікамі сваіх абавязкаў па інфармаванні вышэйшага начальства. Гэтая выснова наўпрост вынікае з супастаўлення колькасна-якасных характарыстык паведамленняў гарадзенскага паліцмайстра і яго калегаў з іншых гарадоў губерні. У той час як

ад праваахоўных органаў з іншых рэгіёнаў паступала інфармацыя аб дзясятках здарэннях, з Гародні рапартавалі аб тым, што за азначаны час нічога не адбылося. Супастаўляючы актыўнасць гарадзенскай паліцыі за розныя гады і месяцы, а таксама суадносячы яе з аналагічнымі паказчыкамі іншых мясцовасцей губерні, складваецца ўражанне, што мясцовыя чыноўнікі, адказныя за прадстаўленне адпаведных звестак, проста ленаваліся займацца папяровай работай. Пры гэтым падобная тэндэнцыя выяўлялася без нейкай вонкава зразумелай заканамернасці. У выніку мы атрымалі 475 паведамленняў аб розных здарэннях у Гародні за 1871–1881 гг.

Значна большую цікавасць у параўнанні з колькаснымі паказчыкамі ўяўляюць вынікі аналізу гэтых паведамленняў у адпаведнасці з іх зместам. Структура надзвычайных здарэнняў у Горадне ў вызначаны перыяд размеркавалася такім чынам:

– крадзяжы – 45,2%
– раптоўная смерць – 9,5%
– пажары – 8,7%
– няшчасныя выпадкі – 8,2% (больш за палову з смяротным зыходам)
– патанулі – 6,1%
– самагубствы – 4,4%
– прычыненне цялесных пашкоджанняў – 4,4%
– забойствы, у т. л. дзяцей – 3,6%
– разбой – 3%
– падкідышы – 1,7%
– кантрабанда – 1,1%
– падпалы – 0,8%
– згвалтаванні – 0,6%
– іншае – 2,7%.

Хацелася б звярнуць увагу на тое, што ў выпадках, калі злачынца (ці група злачынцаў) адначасова здзяйсняў два ці болей супрацьпраўных дзеяння, пры іх тыпалагізацыі ўлічвалася толькі найбольш цяжкае. Так, напрыклад, калі пасля згвалтавання ахвяра была пазбаўлена жыцця, падобнае дзеянне кваліфікавалася як забойства з абставінамі, якія абцяжарвалі віну.

Іншай дылемай, з якой сутыкнуўся аўтар, стала праблема наяўнасці ці адсутнасці складу злачыннасці ў тых выпадках, калі некаторыя злодзеі былі заспетыя на месцы злачынства, але самога супрацьпраўнага акту яны здзейсніць не паспелі. Давялося звярнуцца да расійскага крымінальнага заканадаўства той эпохі. Паводле артыкула 175 «Улажэння аб пакараннях крымінальных і выпраўленчых» (1845), «*пошук ці набыццё сродкаў дзеля здзяйснення злачынства прызнаецца падрыхтоўкай да яго*» і за рэдкім выключэннем не падлягае пакаранню. Аднак «*любое дзеянне, якім пачынаецца ці працягваецца прывядзенне злога намеру ў выкананне*» кваліфікуецца гэтым кодэксам як замах на злачынства, «*мера пакарання за якое вызначаецца […] адною ці двума ступенямі ніжэй супраць пакарання, прадугледжанага за самое злачынства*»[2].

Таму няўдалае самагубства ці такая ж спроба пранікнення ў чужое жытло дзеля крадзяжу, улічваліся як адпаведны тып крымінальнага дзеяння. Разам з тым данясенне земскага спраўніка аб тым, што мясцовыя габрэй і селянін, «*якія знаходзяцца на службе на млыне Фолюш у прускай падданай Шарлоты Кураў […] задумалі атруціць Шарлоту і мужа яе, каб скарыстацца іх грашыма, купілі дзеля гэтай патрэбы дзве бутэлькі атруты, але першы з іх сароменючыся выканаць намер […] зрабіў прызнанне*»[3], – не можа быць аднесена да супрацьпраўных дзеянняў.

Зыходзячы з падобнага вызначэння складу злачынства ў далейшым быў праведзены падзел усіх здарэнняў на крымінальныя і некрымінальныя. У першую групу звестак увайшлі паведамленні аб *крадзяжах, самагубствах, прычыненні цялесных пашкоджанняў, забойствах, у т. л. дзяцей, разбоях, падкідышах, кантрабандзе, падпалах і згвалтаваннях*. У другую – раптоўнай смерці, пажарах, няшчасных выпадках, тапельцах ды іншым. У выніку ўдзельная вага першай групы крыніц склала 64,8%, а другой 35,2% адпаведна.

У рубрыку «іншае» таксама трапілі некаторыя паведамленні аб злачынствах, якія цяжка аднесці да той ці іншай групы. Напрыклад, аб выкрыцці падкопу ў турме, збыцці фальшывай манеты, затрыманні збеглых з Сібіры і г. д.

У некаторых выпадках было досыць цяжка вызначыцца, ці нясе ў сябе тое ці іншае дзеянне склад злачынства. Найболь-

шыя складанасці ўзніклі з катэгорыяй «падкідышы». І тут даводзілася звяртацца да заканадаўства Расійскай імперыі XIX ст. У адпаведнасці з ім падобнае дзеянне кваліфікавалася як «*адвольнае пакіданне чалавека ў небяспецы і неаказанні яму дапамогі*». Пры гэтым закон прадугледжваў розныя санкцыі за здзяйсненне дадзенага ўчынку. Адпаведна, можна было атрымаць да трох гадоў турмы за «*падкідванне*» дзяцей[4].

З улікам усіх гэтых нюансаў злачыннасць у Гародні ў 70-я – пачатку 80-х гг. XIX ст., паводле рапартаў паліцмайстра мела наступную структуру:

– крадзяжы – 70%
– самагубствы – 6,7%
– прычыненне цялесных пашкоджанняў – 6,7%
– забойствы, у т. л. дзяцей – 5,5%
– разбой – 4,7%
– падкідышы – 2,6%
– кантрабанда – 1,6%
– падпалы – 1,3%
– згвалтаванні – 1%.

Трэба адзначыць, што рапарты паліцмайстра з'яўляюцца адной з найбольш каштоўных крыніцаў па гісторыі штодзённасці Гародні XIX ст. Па-другое, у 70-я – пачатку 80-х гг. XIX ст. паведамленні паліцэйскіх чыноўнікаў мелі пераважна крымінальную накіраванасць. І, па-трэцяе, у структуры гарадзенскага вулічнага крыміналу ў гэты час выразна дамінавалі маёмасныя злачынствы.

## *Злачынствы і злодзеі*

Зайздрасць да чужога дабрабыту і прага нажывы падштурхоўвалі схільных да крымінальнасці гарадзенцаў і «гасцей» горада да маёмасных злачынстваў. Менавіта гэты матыў стаяў за большасцю правапарушэнняў.

Паспрабуем прааналізаваць розныя аспекты крымінальнага жыцця таго часу. Найбольш прыдатнымі з'яўляюцца крымінальныя дзеянні супраць чужой маёмасці, а менавіта крадзяжы і разбой. Спынімся на іх больш падрабязна.

Крадзяжы і разбой, згодна з рапартамі паліцмайстра, складалі дзве трэці ўсіх злачынстваў Гародні таго часу. Пры гэтым 61,4% з іх раскрываліся «па гарачых слядах». Дзеля параўнання адзначу, што ў сучаснай крыміналістыцы станоўчым лічыцца паказчык у 50%.

Дзякуючы аператыўным зводкам мясцовых праваахоўных органаў, маем магчымасць бліжэй «пазнаёміцца» са злачынцамі. Першае, што кідаецца ў вочы пры аналізе сацыяльна-прафесійнага складу гэтай групы – высокая ўдзельная вага вайскоўцаў і асобаў, тым ці іншым чынам звязаных з гэтай прафесіяй. Улічваючы такія іх катэгорыі як часоваадпускныя і адстаўныя, дадзеная прафесійная група складала ⅓ (33,6%) ад усіх асобаў, абвінавачваных у крадзяжы. Акрамя таго менавіта «служывыя» дамінавалі сярод тых, хто пры гэтым пайшоў на гвалт (9 з 12 выяўленых выпадкаў разбойных нападаў ці 75%).

Іх ахвярамі станавіліся як мясцовыя жыхары, так і прыезджыя, а таксама іх калегі. У апошнім выпадку, здаецца, што падобны крымінал меў апасродкаваны характар у адносінах да горада і яго месцічаў. Напрыклад, «*7-га красавіка 1874 г. ніжнія чыны Гарадзенскай губернскай Зборнай каманды ўцяклі, выкраўшы куфар з казармы шэрагоўца Івана Сакоўскага […] разбіўшы яго вынялі наяўных грошай 170 руб. срэбрам*»[5]. Але нельга трактаваць усіх прадстаўнікоў гэтай групы як «знешні» ці «прышлы» фактар. Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што сярод апошніх былі гарадзенскія месцічы. Асабліва гэта тычыцца катэгорыі адпускных і адстаўных. А былі яшчэ не ўлічаныя вышэй «салдаткі» і «салдацкія дзеці». Да таго ж, калі нават крымінал маёмаснага характару адбываўся выключна ў асяроддзі вайскоўцаў, ён так ці інакш уплываў на розныя аспекты гарадскога жыцця, напрыклад стымуляваў развіццё рынку збыту крадзенай маёмасці і г. д. Грошы, здабытыя такім шляхам, найверагодней асядалі ў кішэнях мясцовых шынкароў і прастытутак.

Вайскоўцы не былі адзінай катэгорыяй «чужынцаў», якія спакушаліся на чужую маёмасць. У данясеннях паліцмайстра ўзгадваюцца асобы з блізкіх і далёкіх рэгіёнаў імперыі: габрэі з Азёр, Крынак, Скідзеля, удава з Беластока, рускія з Віцебскай губерні, сяляне з Каралеўства Польскага, віленскія мяшчане ды

іншыя «гастралёры»: «*29-га траўня 1877 г. а 9-й гадзіне ўвечары за Скідзельскай заставай утраіх напалі на сельскага старасту з вёскі Чарлёны Ф. Шчаснага […] нанеслі яму ўдары, абрабавалі: 5 руб., пячатку і медаль […] Віноўнымі былі селянін Віцебскай губ. Дынабургскага павета П. Гудаеў і мешчанін г. Мітавы М. Хлебапашнікаў*»[6].

Рапарты мясцовай паліцыі даюць падставу сцвярджаць, што гарадзенскі крымінал у той час меў міжнародны ці інтэрнацыянальны характар. На злачыннай глебе ў горадзе над Нёманам актыўна дзейнічалі падданыя іншых краін, пераважна Прусіі і Аўстрыі. Пры гэтым яны часам цесна супрацоўнічалі з мясцовымі крымінальнымі элементамі, а часам ладзілі сольныя «гастролі»: «*13-га верасня 1881 г. у лаўцы з дробязным таварам месціча Высокера на Занеманскім фарштаце аўстрыйскім падданым В. Шрамам быў здзейснены замах на крадзеж з падабраннем ключа […]*»[7].

Міжнародны характар злачыннасці выяўляўся і ў тых выпадках, калі ахвярай злодзеяў станавіліся замежныя госці: «*10 траўня [1874] а 10-й гадзіне раніцы гарадавым Занёманскага фарштату быў дастаўлены ў 2-ю частку аўстрыйскі падданы Восіп Лічко, які гандлюе розным красным і малочным таварам у акрываўленым выглядзе […] З вялікай цяжкасцю Лічко засведчыў, што ў Аўгустоўскім лесе (за 4 вярсты ад горада) яго сустрэў невядомы чалавек […] і нанёс яму, Лічко цяжкія пабоі па галаве, а затым параніўшы яго нажом абрабаваў рэчы і грошы, а сам знік […]*»[8].

Дарэчы, дзякуючы крымінальнай хроніцы, мы сёння маем звесткі аб размяшчэнні ў Гародні ў 1878 г. турэцкіх ваеннапалонных: «*Паведамляю, што габрэйскі хлопчык Шмуль-Герш Мінцнефес 20 траўня ўвечары зайшоўшы з іншым габрэйскім хлопчыкам Й. Маркусам на кватэру палоннага турэцкага падпалкоўніка Хусейн-Хакі-бека выкраў у яго гадзіннік коштам 25 руб. і пайшоў з кватэры, а іншы хлопчык Маркус не паспеў сысці, калі пацярпелы агледзеўся, што знік гадзіннік […] Гадзіннік адшуканы кінутым у рэтыраднае месца ў двары […] Гадзіннік уручаны Хакі Беку*»[9].

Іншай асаблівасцю гарадзенскага крыміналу была даволі высокая ўдзельная вага габрэйскага насельніцтва ў сферы маёмасных злачынстваў. Паводле рапартаў, габрэі складалі 40,5% ад усіх злодзеяў. Пры падліку ўлічваліся асобы іудзейскага веравызнання

розных катэгорый: мясцовыя, прыезджыя, габрэі-салдаты і г. д. Разам з тым можна з пэўнасцю сцвярджаць, што рэальная лічба злодзеяў-габрэяў была большай, бо часам паліцэйскі чыноўнік абмяжоўваўся прафесійнай ці іншай характарыстыкай злачынцы (салдат, шэраговец, гарадскі месціч, муляр), не ўказваючы яго этнічнай прыналежнасці.

Злачынная субкультура Гародні таго часу дэманструе нам прыклад суіснавання і супрацоўніцтва злачынцаў розных нацыянальнасцей. Можна прывесці шмат прыкладаў таго, як хрысціяне і іудзеі дзейнічалі поплеч дзеля дасягнення агульнай мэты – нажывы нячэсным шляхам. Найбольш поўна гэта выявілася ў арганізаваных формах крымінальнага жыцця: «*Оркавіч прызнаўся, што ўчора ён з гарадзенскімі месцічамі габрэямі Каганам і Ліпскім і безтэрміноваадпускным шэрагоўцам Філіпавым дамовіліся красці коней і 28 жніўня (1873 г.) выехалі з горада […] Ён, Оркавіч разам з Філіпавым накіраваліся ў невядомую яму вёску, дзе ў невядомага селяніна скралі двух коней […]*»[10].

Падобнае паразуменне назіралася і падчас здзяйснення спантанных (незапланаваных) супрацьпраўных дзеянняў. Пры гэтым ні ўзроставыя, ні нацыянальныя, ні сацыяльныя адрозненні не маглі стаць перашкодай на шляху іх рэалізацыі: «*16 чэрвеня [1877 г.] увечары габрэй М. Пасеманін аддаў рамізніку Гірше для перавозкі ў м. Друсгенікі 2 скрыні з фуражкамі і 1 скрыню з садавіной і піродожнымі […] На Параднай плошчы былі зрэзаныя вяроўкі, якімі мацаваліся скрыні і такія скрадзены селянінам М. Ройкай і габрэйскім хлопчыкам І. Затуранскім […]*»[11].

У некаторых выпадках паразуменню спрыяў алкаголь: «*Прыставам 1-й часткі выяўлена, што яго* [крадзеж] *здзейсніў габрэй Б. Айзікавіч, а саўдзельнікам быў вартаўнік Я. Блінкоў […], які патлумачыў, што яго Айзікавіч пераканаў гарэлкай на пастарунку і, калі ён захмялеў […] здзейснены крадзеж*»[12].

На жаль, рапарты гарадзенскага паліцмайстра не ўтрымліваюць дастаткова звестак дзеля размеркавання злачынных элементаў па катэгорыям «свае»–«чужынцы». Але з іх можна вылучыць інфармацыю, якая дазваляе казаць аб наяўнасці ў горадзе жаночай і дзіцячай злачыннасці. У агульнай структуры дэвіянтных

дзеянняў супраць чужой маёмасці іх удзельная вага досыць нязначная – 12,2% і 6,9% адпаведна. Пры гэтым у апошнім выпадку мы маем усе падставы сцвярджаць аб пашырэнні ў Горадні хлапчуковай габрэйскай злачыннасці, якая складала 5,3% ад агульнай колькасці супрацьпраўных учынкаў падобнага характару.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што ў парэформенны час разбурэнне традыцыйных каштоўнасцей адбывалася не толькі ў асяроддзі сялянскай грамады ці гарадскога насельніцтва хрысціянскага веравызнання. Паказчык дзіцячай злачыннасці з'яўляецца яскравым індыкатарам тых мадэрнізацыйных працэсаў, што ахапілі тутэйшую іудзейскую супольнасць. Дарэчы, падобныя высновы знаходзяць свае пацверджанне і ў літаратурна-гістарычным творы І. Рабіна, які стварыў сапраўдны летапіс жыцця габрэйскай Гародні XIX ст. Ён адзначаў, што менавіта ў 70-я гг. XIX ст. у габрэйскім асяроддзі адбываліся значныя зрухі эканамічнага, сацыяльнага і свядомаснага характару[13].

Што тычыцца жаночай злачыннасці, то галоўнай яе адметнасцю быў аб'ект пасягальніцтва падчас крадзяжу. У большасці выпадках гэта былі пабытавыя рэчы, радзей невялікія сумы грошай. Зыходзячы з гэтага можна меркаваць, што найверагодней матэрыяльныя цяжкасці і нястача з'яўляліся галоўнымі прычынамі ўзгаданага віду крыміналу. Але паведамленні аб кабетах-узломшчыках, наймічках, што абкрадалі сваіх гаспадароў, і г. д., пераконваюць, што не менш важную ролю тут адыгрываў карысліваспажывецкі матыў, які, магчыма, суправаджаўся рознага кшталту эмацыйнымі рэакцыямі. Напрыклад: «*Данашу, што мяшчанка А. Алешчык 16 чэрвеня [1878 г.] наведваючы лоевую* (сальную) *лаўку А. Грышкевіча пры Сянной плошчы дзеля набыцця халоднага* (квашаніны – А. Р.) *на 5 кап., скрала са скрыні стала 10 руб […] Была абшукана […] 10 руб. знойдзены пад левай груддзю*»[14].

Паведамленні паліцэйскіх чыноўнікаў таксама фіксуюць выпадкі, калі гарадзенкі не прымалі непасрэднага ўдзелу ў крадзяжу, але дапамагалі ў яго арганізацыі і ўкрывальніцтве скрадзенага: «*Купец Э. Разендфельд заявіў, што ўначы з 25 на 26 сакавіка [1880 г.] з яго складу ў доме Бермана з падабраннем ключа быў здзейснены крадзеж сямі бочак селядцоў па 23 руб. кожная […] Выяўлена, што*

*скрадзеныя селядцы знаходзяцца на Школьным двары ў габрэйкі Ч. Бліндаравай […]*»[15].

Усе спробы аўтара намаляваць хаця б прыкладны партрэт злачынцы таго часу скончыліся няўдачай. У рапартах часта адсутнічаюць звесткі аб сацыяльнай, нацыянальнай ці прафесійнай прыналежнасці злодзеяў, месцы іх «прапіскі». Таксама бракуе інфармацыі аб узросце, пісьменнасці ці яе адсутнасці, папярэдніх судзімасцях і г. д. Падобныя дадзеныя ўтрымліваюцца ў крыніцах судовых органаў, якія, на жаль, захаваліся досыць фрагментарна. Вымушаны канстатаваць, што аперуючы наяўным матэрыялам можна выявіць толькі вяршыню велізарнага айсберга пад назвай «свет злачыннасці Гародні». Разам з тым было б памылкова лічыць эўрыстычны патэнцыял рапартаў паліцмайстра па гэтым прадмеце вычарпаным.

Адной з найбольш рэпрэзентатыўных характарыстык правапарушэнняў супраць чужой уласнасці з'яўляюцца сумы, якія станавіліся здабыткам злодзеяў. Паводле паліцэйскіх рапартаў, яны складалі ад аднаго да дзесяткаў тысяч рублёў. Так, найбуйнейшая кража ў гісторыі гарадзенскага крыміналу, якая патрапіла на старонкі паліцэйскіх паведамленняў, адбылася 13 снежня 1881 г. У гэты дзень «*ганаровы грамадзянін*» І. Вінаградаў, які прыбыў у Гародню з Вільні, з дапамогай падкопу і ўзлому замкоў у куфрах скраў з гарадзенскага губернскага казначэйства 18 тыс. руб. срэбранай манетай, білетамі Дзяржаўнага банка і купонамі[16].

Здавалася б, што большасць злачынстваў падобнага віду павінны складаць дробныя крадзяжы. Аднак, калі абраць у якасці крытэрыю ацэнкі нанясення шкоды суму ў 100 руб., аказваецца, што розніцца паміж паказчыкамі невялікая. Колькасць крадзяжоў на суму болей чым у 100 руб. склала 46%, а менш за азначаную суму – 54%. Неабходна ўлічваць і тое, што досыць часта пацярпелы бок завышаў памеры сваіх страт: «*10 студзеня* [1878 г.] *Энта Мейлахоўская заявіла, што дзеўка Цыва Мейлахоўская, якая была ў яе на службе 9 студзеня а 5-й гадзіне апоўдні узламаўшы замок камоду, скрала ў яе грошай і рэчаў на суму 816 руб. 50 кап. і пад відам прыняцця хрысціянскай веры зышла ў жаночы рымска-каталіцкі Брыгіцкі кляштар […]* [Пасля] *Энта Мейлахоўская атрыма-*

*ла назад 125 руб. і рэчаў на 129 руб. 50 кап. і […] заявіла, што да сваячаніцы сваёй Цывы прэтэнзій больш не мае […] З чаго можна зрабіць выснову, што заява Энты аб крадзяжы ў яе […] на суму 816 руб. перабольшана*»[17].

У адрозненні ад грашовых сум усе спробы правесці сістэматызацыю аб'ектаў пасягальніцтва з боку крымінальных элементаў асуджаныя на няўдачу. Кралі ўсё, што толькі трапляла пад руку, менавіта прадукты, жывёлу, інструмент, грошы, вопратку, каштоўнасці і г. д. У некаторых выпадках гарадзенцы самі спрыялі злачынству, праяўляючы нядбайнасць і няўважлівасць пры захоўванні сваіх рэчаў. Напрыклад: «*А 8-й гадзіне ўвечары 19 студзеня* [1881 г.] *жонка гарадзенскага натарыўса Кнаразоўскага Яха Лейбаўна і яе сястра прыехалі з м. Скідзеля на фурманцы, спыніліся […] на Замкавай вул., зайшлі ў кватэру і запрасілі рамізніка, каб пачаставаць гарэлкаю […] Рэчаў з фурманкі не знялі […]*»[18]. За іх гэта зрабіў нехта іншы.

Можна заўважыць пэўную «спецыялізацыю», існаваўшую ў крымінальным асяроддзі Гародні. Тут дзейнічалі кішэннікі (пераважна непаўнагадовыя), канакрады, «гастралёры»-ўзломшчыкі, а таксама групы рабаўнікоў, якія на дробныя справы не разменьваліся. У некаторых прадстаўнікоў злачыннага свету фарміраваўся свой уласны, непадобны да іншых «почырк», які пасля беспамылкова ідэнтыфікаваўся следчымі: «*Па характару здзейсненага злачынства западозраны быў гарадзенскі месціч Барчынскі, які некалькі дзён таму быў вызвалены з турмы […]*»[19].

Складваецца ўражанне, што ў большасці згаданых выпадкаў крадзяжы здзяйснялі асобы, якія станавіліся на шлях канфрантацыі з законам упершыню ў жыцці. Гэта можна патлумачыць безвыходнай жыццёвай сітуацыяй, адсутнасцю сродкаў, адарваннем ад традыцыйнай супольнасці, шкодным уплывам сацыяльна небяспечных элементаў і г. д.

Разам з тым не выклікае сумнення факт існавання ў Гародні ў той час устойлівага крымінальнага асяроддзя, аснову якога складалі злодзеі-рэцыдывісты, асобы зарабляючыя сябе на хлеб праз незаконнае пераразмеркаванне рухомай маёмасці. Напрыклад: «*24 снежня* [1877 г.] *атрымана мною тэлеграма […] што, калі а 8-й*

*гадзіне* [памешчык] *Спінка ўваходзіў у вагон, што адыходзіў у Варшаву, у яго было скрадзена 10 000 руб. […] А 12-й гадзіне ўначы* [акалодачны і гарадавы] *сустрэлі на Падольнай вуліцы натоўп габрэяў. У адказ на пытанне, што за людзі, габрэі кінуліся бегчы ў розныя бакі, але 6 асоб было схоплена […] Карыстаючыся цемраю пачалі скрадзеныя грошы раскідваць па вуліцы […] Дазналіся, што яшчэ два чалавекі з гэтай банды накіраваліся на станцыю Парэчча*»[20].

Трэба адзначыць, што арганізаваныя формы крыміналу былі характэрныя і для папярэдняй эпохі. Але ў адрозненні ад першай паловы XIX ст., калі іх «вотчынай» з'яўлялася пераважна сельская мясцовасць, у 70-я – пачатку 80-х гг. XIX ст. у сферу яе інтарэсаў трапіў таксама горад. Пад арганізаванай злачыннасцю тут трэба разумець групу ці асобных індывідаў, якія аб'ядналіся на пастаяннай аснове для атрымання прыбытку незаконным спосабам.

Як вынікае з рапартаў паліцыі, для некаторых гарадзенцаў жыццё за кошт незаконнай экспрапрыяцыі чужой маёмасці было нормай. Напрыклад: «*Даношу, што ўначы з 7-га на 8-га лютага* [1875 г.] *адбыўся крадзеж з узломам у кватэры надворнага саветніка Кульвіца розных рэчаў на суму 150 руб. Абвінавачаны і выкрыты гарадзенскі месціч К. Бабровіч які быў асуджаны за крадзяжы і перазахоўванне крадзеных рэчаў 7 разоў […]*»[21]. Таксама тут можна прывесці прыклад з шараговым В. Камаровым, які быў затрыманы на гарышчы чужой хаты 15 снежня 1879 г. пры спробе крадзяжу, а на наступны дзень быў схоплены *flagrante delicto* ужо ў іншым раёне горада[22].

Каб заблытаць следчых, майстры крымінальнай справы карысталіся некалькімі прозвішчамі. Так, у 1876 г. мясцовыя следчыя працяглы час шукалі нейкага «Пятра»: «*[…] Пры запыце рабочага І. Кавалёва даведаліся, што згаданы Пётр называецца Фёдарам* [Смірновым] *[…] Смірноў, ён жа Аляксандраў, ён жа Лебедзеў змешчаны ў астрог […]*»[23].

Вядома, што найбольш небяспечныя крымінальныя элементы высылаліся з горада на месца іх сталага жыхарства альбо ў Сібір. Але ў цэлым крымінальная абстаноўка ў горадзе ад гэтага не паляпшалася. На месца старых «аўтарытэтаў» прыходзілі новыя. А першыя пасля адбыцця пакарання або ў выніку ўцёкаў вярталіся

да старога рамяства. Такія рэцыдывісты наводзілі жах не толькі на мірных грамадзян, але і на праваахоўныя органы. Напрыклад, А. Барчынскі, які вярнуўся ў Гародню пасля адбыцця пакарання ў арыштанцкай роце, атрымаў наступную характарыстыку: «*Рабаўнік, злодзей і забойца патрабуе пільнага (паліцэйскага) нагляду*»[24].

## *Месцы злачынстваў*

Карціна злачыннасці ў Гародні не будзе поўнай, калі пакінуць па-за ўвагай такі яе складнік, як месца злачынства. Інфармацыя падобнага характару дапамагае выявіць найбольш крымінагенныя раёны тагачаснага горада.

Калі ўлічваць толькі крадзяжы і разбой, то найбольш небяспечнымі месцамі ў горадзе над Нёманам у 70-я – пачатку 80-х гг. XIX ст. былі Купецкая і Маставая вуліцы (12 і 11 згадак у рапартах паліцмайстра). На трэцім месцы ў гэтай незайздроснай намінацыі апынуліся Сянная плошча і Падольная вул. (9 разоў). Далей ідуць Саборная вул. (7), Мяшчанская, Садовая, Школьны двор, чыгуначны вакзал – па 5. Астатнія ўрбанонімы (спіс уключае 50 пазіцый) згадваюцца не больш за 2 разы. Асобна ў гэтым пераліку фігуруюць назвы прадмесцяў, урочышчаў, мікрараёнаў. Гэта абумоўлена тым, што яны ўключалі ў сябе некалькі вуліцаў і плошчаў і не мелі дакладна вызначаных межаў. У нашым выпадку такімі аб'ектамі гарадской тапанімікі выступалі Занёманскі фарштат (17 згадак) і Аляксандраўская і Салдацкая слабодкі (па 4).

Пасля пазначэння узгаданых вышэй урбанонімаў рознымі колерамі на плане Гародні 1880 г. атрымалася выява, якую пры пэўнай фантазіі можна прыняць за «медузу» – «медузу» гарадзенскай злачыннасці. Ад «галавы» (Парадная пл.) у розныя бакі адыходзяць найбольш атрутныя «шчупальцы»: Купецкая (сёння вул. К. Маркса), Маставая і Саборная (сёння вул. Савецкая). Пры гэтым ад двух апошніх адыходзяць Падольная і Садовая (сёння вул. Элізы Ажэшкі), а апошняя з іх заканчваецца чыгуначным вакзалам. Яшчэ адным «шчупальцам» з'яўляецца Мяшчанская (сёння вул. Стэфана Баторыя). Пад ім размешчана «ротавая» адтуліна (Сянная плошча), куды жывёліна цягне сваю здабычу. Адзінае, што

псуе намаляваную тут карціну – гэта вул. Школьны двор (частка сучаснай вул. Малая Траецкая), якая не злучаецца з арганізмам «медузы».

Вынікі тапаграфічна-крымінальнага супастаўлення цалкам прагназавальныя. Менавіта цэнтральная частка гарадской забудовы, на якой пражывалі заможныя месцічы і знаходзілася значная колькасць крамаў, найбольш прыцягвала аматараў лёгкай спажывы. Чатыры з шасці вуліц, якія вялі на цэнтральную плошчу горада трапілі ў лік найбольш крымінагенных. Разам з тым варта звярнуць увагу, што непасрэдна Парадная плошча згадваецца ў рапартах паліцмайстра за ўвесь гэты час толькі адзін раз, у той час як Сянная – 9. Падобны дысбаланс тлумачыцца, па-першае, тым, што найбольш небяспечныя ў плане злачыннасці Маставая і Мяшчанская вул. фактычна з'яўляліся часткай галоўнай плошчы горада. Па-другое, на Сянной плошчы дамінавалі развозна-разносныя формы гандлю, у той час як на цэнтральнай – стацыянарныя.

Адным з фактараў, які істотна ўплываў на тапаграфію злачыннасці ў горадзе было размяшчэнне гатэляў і заезных двароў. Так, на Купецкай вул. размяшчаліся, як мінімум тры ўстановы падобнага тыпу (Еўрапейскі, Санкт-Пецярбургскі і яшчэ адзін, назва якога не ўказвалася ў рапартах), на Сянной пл. – Бесарабскі. На жаль, не ўдалося лакалізаваць месцазнаходжанне Амерыканскага і Гамбурскага заезных двароў. Не выключана, што яны маглі знаходзіцца на адной з гэтых вуліц/плошчаў.

Акрамя гатэляў папулярнымі месцамі крадзяжу былі храмы, казармы, лазні, майстэрні, публічныя дамы і шынкі, крамы, пераправы, але найчасцей – дамы. Варта адзначыць, што крадзяжы царкоўнай маёмасці кваліфікаваліся як святатацтва і прадугледжвалі больш суровыя пакаранні. Падобных фактаў у Гародні ў той час хапала. У крымінальных зводках фігуравалі Фарны касцёл (двойчы), царква Барысаглебскага манастыра (двойчы), Сафійскі сабор: «*Параста Сафійскага сабору адстаўны маёр Панамароў заявіў, што былы вартаўнік, цяпер прызваны на службу В. Пашкоўскі, здзейсніў крадзеж з скрыні купонаў на 100 руб. […] На кватэры В. Пашкоўскага знойдзеныя царкоўныя свечы, кнігі, лампадка, клямкі ад евангелля […]*»[25] і г. д.

Дзеля таго каб пранікнуць у памяшканне, выкарыстоўваліся падкопы, разбор сцяны, падбор ключа, узлом замкоў і дзвярэй, выбіванне шыбы. Апошнія былі найбольш папулярнымі ў рабаўнікоў. Але былі і больш крэатыўныя варыянты: «*Уначы з 1-га на 2-га сакавіка* [1880 г.] *у домаўладальніцы Н. Зубрыцкай на Занеманскім фарштаце скрадзены з куфра ў сенях 20 руб. Крадзеж адбыўся праз разрыў саламянага даху […]*»[26]. Звяртае на сябе ўвагу факт, што ў большасці выпадкаў ахвярамі станавіліся прыватныя асобы. Дзяржаўныя ўстановы трапілі ў гэты лік толькі тройчы.

Частыя выпадкі пазбаўлення грамадзян іх матэрыяльных каштоўнасцей даюць падставу меркаваць аб існаваўшым у горадзе рынку збыту крадзеных рэчаў. З гэтым у крымінальных элементаў праблем не павінна было быць. У горадзе традыцыйна прадавалася і куплялася практычна ўсё. У крайнім выпадку свой набытак можна было аддаць у заклад: «*Капітан мясцовага батальёна Гартунг падаў заяву на адстаўных прапаршчыка Арыстава і паручніка Ульнінскага па абвінавачванні іх у крадзяжы ў яго нагавіцаў коштам 12 руб. Нагавіцы аказаліся закладзенымі ў залатара Каўфмана за 2 руб.*»[27]

Часцяком крадзеныя рэчы пэўны час захоўваліся ў патаемным месцы (часцей закопваліся ў зямлю), каб трапіць на «чорны рынак» пасля таго як жарсці вакол злачынства супакояцца: «*Уначы з 4 на 5 траўня* [1776 г.] *з павільёна, які належыць купцу Велеру на Купецкай вул. скрадзены медны кацёл, у якім захоўваўся лёд, тры сіфоны для содавай вады, 4 шклянкі і слоік з сіропам, якія […] знойдзеныя за карчмой Пагулянкай за Скідзельскім пастом зарытымі ў зямлю […]*»[28]. Трымаць скрадзенае на ўласнай кватэры было небяспечна. Так, падчасператрусу у адстаўнога штабс-капітана Епанешнікава былі знойдзеныя рэчы, якія знаходзіліся ў вышуку[29].

Можна зрабіць выснову, што крымінальны свет Гародні складаўся з двух асноўных стратаў: прафесіяналаў-рэцыдывістаў і тых, хто станавіўся на гэты шлях упершыню. Найбольш небяспечнымі месцамі з пункту гледжання крымінальнай абстаноўкі ў горадзе над Нёманам з'яўляліся галоўныя вуліцы. Частыя згадкі ў рапартах паліцмайстра чыгуначнага вакзала, гатэляў,

рынкаў сведчаць, што прыезджыя былі адной з найменш абароненых катэгорый грамадзян. Маёмасныя злачынствы стымулявалі развіццё ў горадзе «чорнага рынку».

### *Забойствы*

У адрозненне ад злачынстваў маёмаснага характару, у якасці падстаў супрацьпраўных дзеянняў, якія разглядаюцца ніжэй, ляжаць матывы асабовага характару, што адносяцца да пачуццёвых сфер індывіда. Яны ўключалі ў сябе любоў і рэўнасць, крыўду і зайздрасць. Часта прычынай былі па-за шлюбныя палавыя сувязі і, як вынік, імкненне пазбыцца незаконнанароджанага дзіцяці і г. д.

У рапартах гарадзенскага паліцмайстра за вызначаны час адзначаецца 8 выпадкаў забойстваў народжаных дзяцей, што складае каля паловы (47%) ад усіх выпадкаў прымусовага пазбаўлення жыцця. Гэта быў адзіны від злачынства, які меў у Гародні выключна жаночае аблічча. У ім як у люстэрку адбіліся існаваўшыя ў тую эпоху погляды грамадства на праблему незаконнароджаных дзяцей.

У большасці выпадках следчыя мерапрыемствы па факце дзетазабойства пачыналіся пасля выяўлення цела мёртвага немаўляці: «*Даношу, што 16 лістапада* [1877 г.] *у мясных радах на Школьным двары знойдзены мёртвы нованароджаны мужчынскага полу […]*»[30].

Наступным крокам у расследаванні такіх злачынстваў было правядзенне медычнай экспертызы для ўстанаўлення факта прымусовага пазбаўлення жыцця: «*На Падгорнай вул. 9 верасня* [1872 г.] *[…] у брудзе знойдзена мёртвае немаўля […] На шыі выяўлены сінія адзнакі*»[31]. Заключэнне доктара адыгрывала важную ролю ў вызначэнні складу злачынства і ў тых выпадках, калі парадзіха спрабавала давесці, што дзіця нарадзілася ўжо мёртвым: «*У кватэры месціча Б. Янкоўскага пры Саборнай вул. 25 чэрвеня* [1877 г.] *а 7-й вечара гарадзенская мяшчанка дзеўка іудзейскага веравызнання Х. Зальцберг, якая знаходзілася на службе ў азначанага Зальцберга падчас адсутнасці ўсіх хатніх і без запрашэння павітухі нарадзіла дзіця, па яе сведчаннях мёртвае […] Былі запрошаны судовы следчы і гарадавы лекар […],* [якi] *засведчыў, што*

*дзіцё народжана ў належнай спеласці, жывым, смерць яго наступіла ад задушэння […]*»[32].

Але падобная схема мела выключэнні. У асобных выпадках мясцовым паліцэйскім удавалася ўстанавіць факт злачынства і знайсці віноўнага нават тады, калі не было цела ахвяры: «*На падставе негалосных чутак аб тым, што габрэйская ўдава Цыпа па бацьку Любіч […] праязджаючы праз р. Нёман на пароме нарадзіла незаконнароджанае дзіця і кінула яго праз борт у ваду […] 18 красавіка 1879 г. дазнаннем выяўлены факт здзейсненага Цыпай забойства […]*»[33].

У цэлым раскрывальнасць гэтай групы злачынстваў у Гародні складала больш за 50%, але трэба ўлічваць малую рэпрэзентатыўнасць дадзеных па гэтым прадмеце. Паводле расійскага заканадаўства, дзетазабойства належала да катэгорыі г. зв. «прывілеяваных» злачынстваў. Пры вызначэнні пакарання крымінальнае Улажэнне 1845 г. улічвала эмацыйны стан і верагодныя матывы дадзенага ўчынку. У выніку прадугледжвалася досыць мяккае пакаранне – два гады турэмнага зняволення.

Пачуццёвыя матывы здзяйснення злачынства былі ўласцівы не толькі жанчынам. Чым, як не пачуццямі можна растлумачыць паводзіны губернскага сакратара І. Аглобліна, які перарэзаў горла сваёй утрыманцы А. Цыбульскай 30 жніўня 1877 г.[34]? Што, як не зайздрасць прайграўшага барацьбу за руку і сэрца дзяўчыны сталі прычынамі заўчаснай смерці М. Масленікава ў чэрвені 1879 г.[35]? Аб пачуццёвых матывах, якімі кіравалася Хайка Маршак, падсыпаючы свайму мужу Неваху ў суп атруту, нам застаецца толькі здагадвацца[36].

Сярод 9 выпадкаў забойстваў, звесткі аб якіх утрымліваюцца ў паліцэйскіх рапартах, толькі адно, верагодна, мела карыслівы матыў. Менавіта яно з'яўляецца найбольш рэзанансным за ўвесь азначаны перыяд. Яго ахвярамі сталі як мінімум дзве асобы – тытулярны саветнік Мадзялеўскі і яго кватарант адстаўны паручнік Кітляш. Ім абодвум былі нанесены несумяшчальныя з жыццём траўмы галавы. Акрамя таго злодзеі не пашкадавалі служанку Ганну, якая з аналагічнымі пашкоджаннямі ў цяжкім стане была дастаўлена ў акруговую лячэбніцу. Ці ачуняла яна, невядома.

Пра асаблівую жорсткасць забойства можна меркаваць па той карціне, якая адкрылася перад следчымі 3 студзеня 1876 г. у доме ахвяры на Падольнай вул.: «*У сенях ляжаў непрытомны Мадзялеўскі з раструшчаным чэрапам на падлозе ў крыві, сцяна і дзверы былі абляпаныя крывёю, на кухні ляжала служка Направічова з ранай на галаве, і […] у спальні на падлозе ляжаў сам Кітляш […]*»[37]. Аб тым, што напад меў карыслівую мэту, можна меркаваць па складзе абвінавачаных, якія былі досыць аператыўна выяўленыя і арыштаваныя мясцовай паліцыяй. Імі аказаліся два мясцовыя габрэі, якія ўжо адсядзелі некалькі тэрмінаў у гарадзенскай турме за крадзяжы, а таксама «турэцкападданы» Хаім Розэнберг, які двойчы прыцягваўся да крымінальнай адказнасці ў горадзе над Нёманам, і яшчэ адзін рэцыдывіст, што ўцёк з Сібіры – Лейба Бонка. Дадзены выпадак з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем існавання ў Гародні ўстойлівага крымінальнага асяроддзя і арганізаваных формаў злачыннасці.

Устанаўленне матыву злачынства станавілася адным з прыярытэтных накірункаў следства тады, калі злодзей не пакінуў ніякіх зачэпак і яго не ўдалося выкрыць па «гарачых слядах». Руплівую працу мясцовых сышчыкаў па выяўленні верагодных матываў забойства дэманструе выпадак з забойствам 18-гадовага габрэйскага юнака, якога пазбавілі жыцця падчас уласнага вяселля: «*24 снежня* [1877 г.] *а 12-й гадзіне ўначы паблізу дома доктара Тамашэвіча каля плота ў канаве знойдзены мёртвым габрэй Бенецыян Юдман, 18 гадоў. Падчас агляду трупа высвятлілася, што смерць наступіла ад задушэння, шыя абмотаная дзягай. Следствам выяўлена, што Юдман таго ж 24 снежня ўвечары знаходзіўся ў піцейнай установе М. Гершуна на Паліцэйскай вул., дзе меў намер даць вясельную вечарыну і, пакінуўшы нявесту, гасцей і музыкаў, а 11-й гадзіне выйшаў, а праз гадзіну знойдзены задушаным […]*»[38].

Сярод іншых матываў забойстваў адзначым боязь злачынцы перад верагодным прыцягненнем да адказнасці, імкненне пазбавіцца сведкі (і адначасова ахвяры). Так, адбылося ў выпадку з забойствам 13-гадовай Машы Зайко шараговым 101-га Пермскага пяхотнага палка. Пасля згвалтавання ён перарэзаў горла сваёй ахвяры[39].

Безматыўнасць у здзяйсненні забойстваў выяўлялася ў тых

выпадках, калі яны былі здзейсненыя ненаўмысна ці ў стане псіхічнага расстройства. Што тычыцца першага з іх, то ў мясцовай крымінальнай хроніцы 70-х гг. XIX ст. ён прадстаўлены здарэннем у публічным доме Кухарскай на Жандарскім завулку. П'яны пакрыўджаны наведвальнік кінуў у адну з прастытутак газніцу, а ў выніку пажару загінулі дзве асобы. У другім выпадку, па прызнанні спраўцы гэтага злачынства былога памочніка прыстава Берасця П. Львова, ён зрабіў гэта безматывавана «*будучи в нездравом разсудке*». Дарэчы, першапачаткова, ахвяра гэтага забойства селянін Т. Ёда быў залічаны паліцэйскімі ў лік пацярпелых ад няшчаснага выпадку (нібыта конь на стайні ўдарам капыта раструшчыў таму галаву). І толькі пасля прызнання П. Львова справа была перакваліфікаваная ў крымінальную[40]. З 9 адзначаных забойстваў 6 былі аператыўна раскрытыя, што складае 66,6%.

### *Самагубствы*

У Расійскай імперыі да пачатку XX ст. крымінальнае заканадаўства кваліфікавала самагубства як злачынства. Няўдалая спроба звесці рахункі з жыццём прыводзіла да турэмнага зняволення і царкоўнага пакаяння. Самазабойцу пазбаўлялі хрысціянскага пахавання, а яго духоўныя тастаменты прызнаваліся нядзейснымі[41].

Куды больш за крымінальныя, нас цікавіць сацыя-культурныя аспекты гэтай дэвіянтнай з'явы. Ваганні паказчыкаў самазабойства – вельмі чуллівы індыкатар таго стану, у якім знаходзіцца грамадства, яго дабрабыту і стабільнасці або іх адсутнасці.

Як звычайна, пачнём з колькасных характарыстык. За 10 гадоў у рапартах паліцмайстра зафіксаваныя 24 суіцыдальныя спробы, г. зн. У сярэднім 2,4 самазабойствы ў год. Для параўнання адзначым, што ў канцы XIX ст. у Расійскай імперыі ў сярэднім рэгістравалася 3 самагубствы на 100 тыс. Насельніцтва[42]. Калі ўзяць у разлік звесткі аб колькасці жыхароў горада зафіксаваныя перапісам 1897 г. – 46,9 тыс. чалавек, атрымоўваецца, што колькасць самагубстваў у Гародні была амаль у 2 разы вышэйшая, чым па імперыі. Але да ўзроўню цяперашняй ёй было далёка.

На пачатку XXI ст. у Беларусі ён сягаў 33,2 выпадкаў на 100 тыс. жыхароў.

Навукоўцы выявілі заканамернасць сезонных ваганняў суіцыдаў. Іх пік прыпадае на вясну-лета, а ўвосень і ўзімку адбываецца спад. Але гарадзенская статыстыка не ўпісваецца ў дадзеную схему. Зімовая актыўнасць асобаў, што вырашылі звесці рахункі з жыццём, не саступала (і нават перавышала) іншыя сезоны. Так, на лета прыпадае 8 зафіксаваных фактаў, на зіму – 7, вясну – 6, восень – 3. Пры гэтым трэба адзначыць адсутнасць паліцыйнай статыстыкі за 8 зімовых і 8 веснавых месяцаў. Можна сцвярджаць, што асаблівасцю гарадзенскай суіцыдальнасці быў яе высокі зімовы ўзровень у параўнанні як з агульнымі заканамернасцямі, так і з сітуацыяй у цэнтральных рэгіёнах імперыі[43].

Спосабы, якімі гарадзенцы і госці нашага горада здзяйснялі самазабойства, залежалі ад іх сацыяльна-прафесійнага статуса, гендэрнага фактара ды інш. Гародня і тут мела сваю спецыфіку. Так, у адрозненні ад агульнаімперскай статыстыкі на першым месцы было выкарыстанне агнястрэльнай зброі – трацiна ўсіх выпадкаў. На другім месцы было павешанне (29,2%). Далей ішлі ўтапленне – 16,7%, атручванне і выкарыстанне халоднай зброі (перарэзванне горла) – па 8,3% і падзенне з вышыні – 4,7%.

Дамінаванне агнястрэльнай зброі было абумоўлена значнай вайсковай прысутнасцю ў горадзе і ваколіцах, адноснай даступнасцю такой зброі для цывільных асоб (нават гімназістаў) і вельмі малой доляй жаночага суіцыду ў гэты час. Натуральна, што факт наяўнасці хуткаплыннага Нёмана стаў прычынай даволі высокага адсотку тых, хто абіраў раку, каб развітацца з жыццём. Акрамя таго не апошнюю ролю ў гэтым выбары адыгрываў чыгуначны мост праз раку (19 сажняў або каля 40,5 м вышыні). Як мінімум двое скарысталіся ім для звядзення рахункаў з жыццём, а яшчэ адзін, мяркуючы па пакінутай ім перадсмяротнай запісцы, таксама меў падобны намер: «*На паратунак няма надзеі, абраў я смерць пэўную – пад мост у Нёман! Бывай*»[44].

За ўвесь гэты час у Гародні быў зафіксаваны толькі адзін выпадак спробы жаночага суіцыду. Так, у траўні 1872 г. падчас перасылкі па этапах з Берасця ў Сібір у гарадзенскім астрозе 40-гадовая Ган-

на Балабанюкова спрабавала перарэзаць сябе горла, але была выратавана.

Даследчыкі гэтай праблематыкі звяртаюць увагу на тое, што прыезджыя падвяргаліся большай рызыцы самагубства, чым мясцовыя. Гэтая тэза знаходзіць сваё пацверджанне ў гарадзенскай статыстыцы. З 24 спробаў самазабойства як мінімум 10 (41,7%) былі здзейсненыя, асобамі, якія не з'яўляліся жыхарамі горада. У сувязі з гэтым даволі часта ў якасці месца здзяйснення суіцыда імі абіраліся гатэлі («Парыжскі», «Варшаўскі», «Казанскі»). Напрыклад: «*29 снежня 1877 г. а 11-й гадзіне ў нумары Казанскай гасцініцы знойдзены павесіўшымся паліцэйскі надзірацель горада Слоніма Р. Александровіч […]*»[45].

У «групе рызыкі» таксама знаходзіліся асобы, якія былі вымушаныя змяніць свой сацыяльны статус. У прыватнасці, гэта салдаты (асабліва ў першыя месяцы службы), адстаўныя афіцэры, асобы, трапіўшыя пад арышт і г. д.[46] Кантынгент гарадзенскіх самазабойцаў цалкам адпавядаў выяўленай заканамернасці, менавіта вайскоўцы (у т. л. былыя) складалі траціну ад іх агульнай колькасці. Сярод іх былі тыя, хто лічыў сябе несправядліва пакрыўджанымі заўчаснай адстаўкай, хто не хацеў служыць у войску, хто не паспеў асэнсаваць свайго далейшага лёсу пасля свайго арышту. Напрыклад: «*16 снежня* [1873 г.] *а 6-й гадзіне казённы дзяншчык генерал-маёра Дзяконьскага А. Эйсмант здзейсніў замах на самазабойства, стрэліўшы з сваёй паляўнічай стрэльбы і прабіўшы рашпілем горла […] Эйсмант за крадзеж кішэннага гадзінніка аддадзены пад ваенны суд і за некалькі хвілін да замаху яму было загадана накіравацца на гаўпвахту*»[47].

У рапартах гарадзенскага паліцмайстра адзначаны толькі адзін выпадак, калі суіцыдальная спроба адбылася пад уздзеяннем алкаголю, у той час, як у цэнтральных рэгіёнах Расіі п'янства адыгрывала важную ролю ў пашырэнні гэтай дэвіянтнай з'явы[48].

Можна вылучыць некалькі асноўных прычынаў і матываў, якія штурхалі жыхароў і гасцей Гародні на падобны крок. Сярод іх былі:

– матэрыяльна-бытавыя цяжкасці, фінансавыя праблемы – 16,7%

– псіхічны стан – 16,7%

– сітуацыі, якія ўспрымаліся як несправядлівыя – 12,5%
– боязь судовай адказнасці, вайсковай службы – 12,5%
– незадаволенасць працай – 4,2%
– няўдалае каханне – 4,2%
– стан здароўя, фізічныя пакуты – 4,2%
– не выяўлены – 29,1%.

Хацелася б адразу адзначыць адносную рэлятыўнасць гэтых дадзеных. Прырода суіцыду досыць складаная, каб яе можна было растлумачыць рацыянальна. Сапраўдныя прычыны тых выпадкаў, якія пазначаныя ў рэляцыях паліцыі як «затлумленне розуму», невядомыя. Магчыма, падобным тлумачэннем паліцыя спрабавала выратаваць няўдалага самагубцу ад крымінальнай адказнасці. Улажэнне 1845 г. вызваляла ад судовай адказнасці тых, хто здзейсніў спробу самазабойства ў стане афекту.

Акрамя таго ў некаторых выпадках да падобнага ўчынку асобу падштурхоўваў цэлы комплекс унутраных і знешніх прычын. Так, напрыклад, было з вучнем 4 класа мясцовай гімназіі Я. Ясінскім, у перадсмяротным пасланні якога адчуваюцца адгалоскі сямейнай трагедыі, пачуццё крыўды, крушэнне надзей, а таксама юнацкая бескампраміснасць: «*Тата! Вы хацелі аддаць мяне ў Лысіна, а ў гімназіі мне нельга было заставацца. Вы сказалі, каб я рабіў што заўгодна, а не з'яўляўся больш да Вас дахаты. У пісары пайсці мне не дазваляла самалюбства, а заставацца на вуліцы прасіць міласціну я не хацеў. Я хітрыкамі здабыў сябе ...* (нрзб) *і забіў сябе. Прабачце мне, а Вам я прабачаю…*»[49].

Перадсмяротныя пасланні пакінуў кожны чацвёрты гарадзенскі самагубца. Адзначым, што за гэты час не было зафіксавана аніводнага выпадку суіцыду сялян у горадзе. Габрэі фігуравалі ў падобных звестках двойчы. Дадзеная тэма патрабуе далейшага даследавання шляхам супастаўлення статыстычных звестак з іншымі гарадскімі цэнтрамі, а таксама правядзення параўнаўчага аналізу з дадзенымі папярэдняга і наступнага перыядаў. Магчымыя вынікі дазволяць казаць аб ступені «камфортнасці» пражывання ў горадзе, сацыяльных ды іншых «хваробах», уласцівых часу і рэгіёну, узростава-палавых і нацыянальных адметнасцях самагубцаў ды інш.

## *Згвалтаванне ды іншыя формы фізічнага гвалту*

Згвалтаванне як прымусовы палавы акт у адпаведнасці з паліцэйскімі рапартамі знаходзіцца на апошнім месцы сярод крымінальных злачынстваў у Гародні. Але не трэба цешыць сябе тым, што ў горадзе не было з гэтым праблемаў. Хутчэй за ўсё паліцэйская хроніка не адлюстроўвае сапраўднай карціны гэтага віду супрацьпраўных дзеянняў, паколькі ў ёй фігуруюць выпадкі сексуальнага гвалту выключна над непаўналетнімі асобамі 7–14 гадоў. Акрамя таго яшчэ адзін выпадак згвалтавання быў кваліфікаваны як забойства з абцяжарваючымі абставінамі і згаданы вышэй.

Малая колькасць зафіксаваных фактаў гвалту сексуальнага характару, іх слабая інфармацыйная насычанасць робяць гэты від злачынства фактычна непрыдатным для яго далейшага аналізу. Адзначым толькі, што ў адным з гэтых выпадкаў раскрываецца схема спакушэння гарадзенскіх непаўналетніх дзяўчат: «*19 траўня* [1877 г.] *утрымальнік аптэкі Несцяровіч заявіў, што 14-гадовая дзяўчынка Казіміра Дэгумб, якой ён апекаваўся, выкрадзена. Выявілася, што разносчыца апельсінаў Мішко Кузніцкая звабіла і завяла яе на кватэру паручніка Фалькерзама […] Дэгумб засведчыла, што[…]* [той] *частаваў яе цукеркамі і гарбатай, а пасля […] згвалціў*»[50]. Можна з пэўнасцю казаць, што падобным спосабам спакушэння карысталіся таксама пастаўшчыкі «жывога тавару» для публічных дамоў. З іншага боку, разгалінаваная сістэма па аказанні інтымных паслуг таксама ўплывала на статыстыку дадзенага віду злачынства ў горадзе над Нёманам.

На старонкі рапартаў амаль не траплялі звесткі аб бытавым гвалце і бойках, якія без сумнення былі з'явай досыць распаўсюджанай у тагачаснай Гародні. Адзінае выключэнне з гэтага правілу складае інфармацыя аб збіцці, вынікам якога станавіліся заўчасныя роды ці выкідыш у цяжарных кабет. Напрыклад: «*5 кастрычніка* [1873 г.] *пражываючая на Занеманскім фарштаце на Ласасянскай вул. габрэйка Ш. Фраўман скінула нежывое дзіця […] ад збіцця нанесенага ёй габрэйкаю Т. Мелічынскай, якая жыве тамсама на Казацкай вуліцы*»[51]. Дарэчы, прыведзены тут прыклад з'яўляецца адзіным зафіксаваным выпадкам, калі вінаватай у збіцці была жанчына.

Галоўная ўвага ў паліцэйскіх данясеннях акцэнтавалася на найбольш рэзанансных і шматлюдных канфліктах або тых, дзе ў якасці пацярпелых выступалі самі паліцэйскія: «*21 траўня* [1877 г.] *габрэйскія хлопцы Ш. Адаман і А. Лідзер, парушыўшы цішыню, а 11-й гадзіне ўначы на Гарадскім бульвары […] Ш. Адаман ударыў гарадавога Войцеха К. па скуле, а пасля схапіў яго і працягваў збіваць, у чым садзейнічаў яму сабраўшыйся натоўп габрэяў. У гэты ж час Ш. Адаман абарваў тасьмы пагонаў на мундзіры гарадавога Войцеха К.*»[52].

Асноўнымі бакамі канфліктаў у горадзе выступала, з аднаго боку, мясцовае насельніцтва (часцей тутэйшыя габрэі), а з супрацьлеглага – вайскоўцы ды іншыя прышлыя элементы. Сутнасць гэтых канфліктаў заключалася ў тым, што гарадзенцы іудзейскага веравызнання часцяком станавіліся аб'ектам агрэсіі з боку «гасцей» горада. Напрыклад: «*8 лістапада* [1876 г.] *а 6-й гадзіне ўвечары афіцэры 101-га пяхотнага палка Халецкі, Львоў і Рамановіч, вяртаючыся з Занеманскага фарштату з ротнага свята і сядаючы на човен, зладжаны на Нёмане для перавозкі пешых асоб […] не дазвалялі размясціцца на чоўне габрэю Александровічу […] Пасля таго як човен адплыў, Раманавіч пачаў лаяць Александровіча, а пасля ўсе ўтраіх збілі яго, а пасля прычальвання зноў збілі Александровіча […]*»[53]. Паказальна, што ў пераважнай большасці выпадкаў улады прымалі бок мясцовых жыхароў, у т. л. габрэяў.

Паколькі часцей суб'ектам дадзенага віду дэвіянтных дзеянняў выступалі вайскоўцы, то ў данясеннях зафіксавана неаднаразовае выкарыстанне імі агнястрэльнай і халоднай зброі. Пры гэтым у некаторых выпадках яе выкарыстанне не паддаецца лагічнаму тлумачэнню. Напрыклад: «*22 лістапада* [1877 г.] *капітан мясцовага батальёна П. Карпуцкі стрэлам з рэвальверу параніў у левую нагу ніжэй калена слесара габрэя Й. Шута ў сувязі з грубым зваротам Шуты, які патрабаваў заплаціць 15 капеек за рамонт замка*»[54].

На жаль, фармат дадзенай публікацыі не дазваляе нам разгледзіць тут іншыя віды злачынстваў, а таксама надзвычайных выпадкаў, метады і спосабы работы паліцыі ды іншыя аспекты штодзённага жыцця гарадзенцаў таго часу.

Падводзячы вынікі даследавання, хацелася б адзначыць, што

рапарты паліцыі з'яўляюцца адной з найбольш каштоўных крыніц па гісторыі штодзённасці Гародні, у т. л. крымінальнай. Нягледзячы на пэўную абмежаванасць, яны даюць даволі поўную карціну гарадской злачыннасці і ствараюць магчымасці для яе тыпалагізацыі, лакалізацыі, гендэрных і нацыянальна-сацыяльных характарыстык ды інш. Наогул, у 70-я – пачатак 80-х XIX ст. назіраўся колькасны рост розных відаў дэвіянтных паводзін у горадзе. Гэты працэс быў абумоўлены, як мадэрнізацыяй грамадства (разбурэнне традыцыйных каштоўнасцей), так і павелічэннем колькасці жыхароў, у першую чаргу за кошт сялянаў.

На ўзровень злачыннасці і яе тыпалагізацыю ўплывала не толькі эпоха і працэсы з ёй звязаныя, але таксама нацыянальна-рэлігійны склад месцічаў і знешнія фактары. Сярод іх найбольш адчувальным быў фактар вайсковай прысутнасці. Менавіта вайскоўцы былі найбольшым крымінагенным фактарам Гародні той эпохі. Таксама пэўную ролю адыгрываў тэхнічны прагрэс, што выявілася ў большай мабільнасці крымінальных элементаў. Але ў цэлым па сваім метадам і формам дзейнасці злачынны свет мала адрозніваўся ад папярэдняй эпохі.

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей НГАБ у Гродне). Ф. 1, воп. 1, адз. з. 1068.
[2] Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб 1845. Ст. 11, 120.
[3] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 716. Арк. 68.
[4] Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб 1845. Ст. 1986.
[5] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 23, адз. з. 661. Арк. 3.
[6] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1496. Арк. 187.
[7] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 1444. Арк. 99.
[8] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 344. Арк. 13.
[9] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 362. Арк. 73.
[10] Тамсама. Воп. 23, адз. з. 583. Арк. 60.
[11] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1497. Арк. 72.
[12] Тамсама. Адз. з. 1502. Арк. 23.
[13] Рабин И. В разные годы. Москва: Советский писатель, 1981.
[14] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 364. Арк. 44.
[15] Тамсама. Адз. з. 1192. Арк. 95.

[16] Тамсама. Адз. з. 1447. Арк. 22.
[17] Тамсама. Адз. з. 367. Арк. 16, 77.
[18] Тамсама. Адз. з. 1446. Арк. 57.
[19] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 344. Арк. 13.
[20] Тамсама. Адз. з. 1502. Арк. 112.
[21] Тамсама. Адз. з. 712. Арк. 5.
[22] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 778. Арк. 42.
[23] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1149. Арк. 4, 5.
[24] Тамсама. Воп. 7, адз. з. 1144. Арк. 103.
[25] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1501. Арк. 27.
[26] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 1192. Арк. 21.
[27] Тамсама. Адз. з. 367. Арк. 19.
[28] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1150. Арк. 2.
[29] Тамсама. Адз. з. 1500. Арк. 62.
[30] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 777. Арк. 49.
[31] Тамсама. Воп. 23, адз. з. 406. Арк. 30.
[32] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1152. Арк. 109.
[33] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 771. Арк. 161.
[34] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1499. Арк. 44.
[35] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 774. Арк. 21.
[36] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1154. Арк. 32.
[37] Тамсама. Адз. з. 1159. Арк. 5.
[38] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1503. Арк. 15.
[39] Тамсама. Воп. 23, адз. з. 400. Арк. 28.
[40] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 771. Арк. 22; Тамсама. Адз. з. 772. Арк. 74.
[41] Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб 1845. Ст. 1943–1947.
[42] Безгин В., Жеребчиков Д. Суицид в городе и деревне Российской провинции конца XIX – начала XX веков // Вестник ТГТУ. 2012. Том 18. № 4. С. 1121.
[43] Тамсама. С. 1124.
[44] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 344. Арк. 31.
[45] Тамсама. Воп. 16, адз. з. 361. Арк. 135.
[46] Глинский Я. Девиантология. Социология преступности, наркотизма, проституции, самоубийств и других «отклонений». СПб., 2004. С. 158.
[47] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 23, адз. з. 587. Арк. 17.
[48] Безгин В., Жеребчиков Д. Суицид в городе и деревне … С. 1128.
[49] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 16, адз. з. 1446. Арк. 48-49.
[50] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1496. Арк. 140.
[51] Тамсама. Воп. 23, адз. з. 585. Арк. 12.
[52] Тамсама. Воп. 15, адз. з. 1496. Арк. 139.

[53] Тамсама. Адз. з. 1156. Арк. 16. Гл. таксама: Радзюк А. Злачныя мясціны Гародні ў другой палове XIX ст. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV–XX ст. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2012. С. 231–259.

[54] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 15, адз. з. 1502. Арк. 55.

*Таццяна Вароніч,*
*канд. гіст. навук (Менск)*

# Афіцыйная хроніка здарэнняў у Гародні напрыканцы XIX – пачатку XX ст.

Адной з вельмі цікавых крыніц па гісторыі штодзённасці гарадскога жыцця канца XIX – пачатку XX ст. з'яўляюцца «Ведамасці аб здарэннях», якія былі адной з форм губернатарскай справаздачнасці. Практыка складання штогадовых губернатарскіх справаздач заканадаўча аформілася на працягу XIX ст. У іх знаходзіла адлюстраванне палітычнае, сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё губерні. Справаздачы прызначаліся імператару і былі своеасаблівай формай даклада[1]. Яны складаліся адзін раз на год мясцовымі губернатарамі на аснове звестак, якія дасылаліся ніжэйшымі адміністрацыйнымі органамі ўлады.

Акрамя агульнай гадавой справаздачы губернатар павінен быў асобна два разы на месяц прадстаўляць імператару «Ведамасці аб здарэннях». У адпаведнасці з «Формой всеподданнейшего рапорта губернатора о происшествиях» Ведамасці ўтрымлівалі 19 раздзелаў, менавіта – 1) «наводнения», 2) «пожары», 3) «кораблекрушения и разбития судов на реках, озерах и каналах», 3) «градобития или появления вредных насекомых», 5) «бури», 6) «повальныя скотский падеж болезни», 7) «скотский падеж», 8) «необыкновенныя рождения», 9) «несчастные смертные случаи», 10) «найденныя мертвыя тела», 11) «подкинутие младенца», 12) «самоубийства», 13) «убийства», 14) «зажигательства», 15) «грабежи и разбои», 16) «воровство-кража и воровство-мошенничество», 17) «делание фальшивой монеты и государственных кредитных билетов», 18) «укрывательство дезертиров и других беглых», 19) «буйство и неповиновение»[2]. Асобна было адзначана, што «*сверх объясненных в сей форме предметов, должно помещать в сей ведомости также и все прочия замечательные поисшествия, которые по роду своему или важности должны быть известны правительству*».

Аднак губернатары амаль ніколі дакладна не прытрымліваліся формы прадстаўлення звестак. Змяняўся парадак раздзелаў, з'яўляліся новыя раздзелы, некаторыя па прычыне адсутнасці інфармацыі выключаліся з справаздачы.

У разглядаемы перыяд гарадзенскія «Ведамасці аб здарэннях» пачыналіся з інфармацыі асобна па губернскаму і павятовым гарадам, а таксама па губерні пра пажары і падпалы (цэркваў, казённых пабудоў, дамоў прыватных асоб, фабрык, заводаў, млыноў ды інш.) і нанесеныя імі страты і чалавечыя ахвяры. Далей ішлі звесткі пра градабой, буры, ураганы, паводкі, раптоўныя і няшчасныя смяротныя выпадкі, знойдзеныя мёртвыя целы, пра падкідышаў (мёртвых і жывых), самазабойствы, забойствы (выпадковыя, ненаўмысныя, наўмысныя, здзейсненыя ўстаноўленымі асобамі, невядомымі асобамі), атручванні, нанясенне ранаў, рабаванні і разбоі, выпадкі крадзяжу (у цэрквах, дамах), згвалтаванні і спробы згвалтавання, канакрадства. Вылучаліся таксама асаблівыя выпадкі, да якіх адносілі «выраб фальшывай манеты», «вытраўленне плоду», «раскопванне магілы», «буйства» ды інш.

Наколькі дакладнай і поўнай была інфармацыя ў «Ведамасцях», вызначыць цяжка. Даследчыкі, якія вывучалі справаводства губернатараў як гістарычную крыніцу, адзначалі, што губернатары нярэдка наўмысна замоўчвалі ці змякчалі негатыўную інфармацыю ў гадавых справаздачах[3]. Аднак справаздачы дазваляюць вызначыць агульны накірунак развіцця сацыяльна-эканамічных працэсаў[4]. Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя дакументы справаводства губернатараў, у тым ліку і «Ведамасці аб здарэннях».

Для вывучэння і аналізу інфармацыі ў дадзеным артыкуле выкарыстаныя «Ведамасці аб здарэннях» за дзесяць апошніх гадоў XIX ст. і першых трох гадоў XX ст., якія захоўваюцца ў фондах Літоўскага Дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні.

## *Пажары, падпалы*

Усе без выключэння «Ведамасці…» пачыналіся з рубрыкі «Пажары». Менавіта пажары былі адной з галоўных праблем беларускіх

гарадоў канца XIX – пачатку XX ст. У гарадах захоўваўся вельмі высокі ўзровень пажарнай небяспекі. Гародня не была выключэннем. У 1904 г. 64 % усіх дамоў тут былі драўляныя, а 50 % дамоў мелі драўляныя дахі[5].

Прыкладна ў 2/3 выпадкаў прычыну пажару ўдавалася выявіць. Зрэдку пажары былі выкліканыя неахайным утрыманнем комінаў, а часцей прычынай было неасцярожнае абыходжанне з агнём або наўмысны падпал.

Часам уладальнікі падпальвалі ўласныя дамы з намерам атрымання страхоўкі або ў нейкіх іншых мэтах. Так, у снежні 1891 г. адбыўся пажар, які знішчыў дом і паветку габрэя Гараля Александровіча. Страты склалі 5 600 руб. Пры гэтым дамы і рухомая маёмасць былі застрахаваныя ў двух страхавых таварыствах на суму 2 000 руб. У падпале былі абвінавачаныя гаспадары[6].

У 1891 г. адбылася цэлая «тэрарыстычная акцыя» па падпалах. З красавіка па верасень хтосьці падпальваў паветкі і прыбіральні гарадзенцаў на Манастырскім і Марыінскім завулках, на Сафійскай, Саборнай і Фабрычнай вуліцах. Падпалы адбываліся позна ўвечары. Першы зафіксаваны падпал адбыўся па Манастырскім завулку 20 красавіка, калі ў двары дома нашчадкаў Вольфса а 10-й гадзіне вечара загарэлася драўляная прыбіральня. Пажар быў адразу патушаны, а каля месца падпалу былі знойдзеныя аблітыя газай пакулле і запалкі.

Страты ад гэтых падпалаў у большасці выпадкаў былі невялікія – ад 1 да 10 руб. З якой мэтай яны рабіліся, дакладна вызначыць цяжка. Магчыма, у той час, як гаспадары тушылі пажар у прыбіральні, абкрадаўся дом, але такая інфармацыя ў дакументах адсутнічае[7].

Часцей за ўсё гарэлі жылыя дамы. Як правіла, пажар удавалася лакалізаваць у межах аднаго ці двух будынкаў. Буйныя па ахопленай тэрыторыі пажары адбываліся рэдка. Так, у ліпені 1891 г. у Гародні ўспыхнуў пажар, якім было знішчана чатыры жылыя дамы, а таксама пашкоджаныя дахі яшчэ двух дамоў. Страта ад пажару склала звыш 12 тыс. руб. У падпале быў абвінавачаны Мордхель Кмоха[8], але, што яго падштурхнула да падпалу, невядома.

Адзін з самых значных па памерах пажар адбыўся 9 ліпеня 1896 г.

На Агароднай і Пральнай (*Прачешной*) вуліцах полымя знішчыла 60 жылых дамоў, а таксама 120 сажаняў дроў на беразе Нёмана. Страты склалі звыш 71 тыс. руб.[9] Прычынай быў няспраўны комін.

Грамадскія, гандлёвыя і прамысловыя будынкі гарэлі радзей. Згадваюцца пажары аптэкаў, а таксама малітоўных дамоў і «цэрквей-школ». Частымі былі пажары на будоўлях, якія маглі схаваць махінацыі і крадзяжы.

Самыя вялікія пажары ў гэты час выпалі на долю Шарашэўскіх. Гарэлі жылыя дамы і вытворчыя будынкі. У верасні 1894 г. адбыўся адзін з самых буйных пажараў апошняга дзесяцігоддзя XIX ст. Ён знішчыў два верхнія паверхі тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага разам з абсталяваннем. Сума стратаў дасягнула 125 тыс. руб. Следства не ўстанавіла прычыну пажару[10]. У студзені 1901 г. адбыўся пажар, які знішчыў будынак тытунёвай фабрыкі разам з машынамі і запасамі тытуню купцоў Шарашэўскага і Русоты. Страты дасягнулі ўжо 170 тыс. руб.[11]

## *Крадзяжы і рабаванні*

Звесткі пра выпадкі крадзяжу чужой маёмасці былі прадстаўленыя ў рубрыках «крадзеж», «рабаванне», «разбойныя напады», «канакрадства». Крадзяжы з хрысціянскіх храмаў уваходзілі ў рубрыку «святатацтва». Па названых відах злачынстваў у 1912 г. судовымі ўстановамі Гарадзенскай губ. было вынесена 59% усіх судовых прысудаў[12]. Трэба прызнаць, што крадзяжы і рабаванні былі неад'емным атрыбутам гарадскога жыцця другой паловы XIX – пачатку XX ст.

Значная частка крадзяжоў здзяйснялася ўначы. Многія злачынцы паходзілі з мясцовых жыхароў, і іх добра ведалі як гараджане, так і паліцыя. Аднак дрэннае начное вулічнае асвятленне, а часцей яго поўная адсутнасць, як і адсутнасць вартаўнікоў на вуліцах горада стваралі амаль ідэальныя ўмовы для здзяйснення крадзяжоў. Акрамя таго злачынцы ўлічвалі і псіхалагічны фактар. Крадзяжы заўсёды здзяйсняліся падчас пажараў, калі гараджане пакідалі свае дамы, каб паглядзець на стыхійнае бедства.

Абкрадаліся часцей за ўсё жылыя дамы, кватэры, склепы гарад-

жан з прадуктовымі запасамі, гандлёвыя лаўкі. Дзеля пранікнення ў памяшканне злодзеі ўзламвалі дзвярныя замкі, разбівалі шыбы і г. д. Нярэдка гараджане самі забяспечвалі злодзеям вольны доступ у свае кватэры, калі бяздумна пакідалі адкрытымі вокны, форткі і дзверы.

Распаўсюджанымі былі крадзяжы з пярэдніх. Злодзеі праз незамкнёныя дзверы пранікалі ў дамы і бралі там, як правіла, верхнюю вопратку. Так, у снежні 1891 г. у чыноўніка паштова-тэлеграфнай канторы Федчанкі з пярэдняй былі скрадзеныя паліто і шуба, якія каштавалі 133 руб.[13] У лютым 1897 г. была абкрадзеная нават пярэдняя губернатара[14].

Кралі ўсё, што можна было скрасці ці што на дадзены момант уяўляла нейкую каштоўнасць для злодзеяў. Кралі адзенне, абутак, рондалі, самавары, падушкі, хатніх канарэек, швейныя машынкі, прадукты з склепаў, здымалі бялізну з гарышча. Аднойчы з паветкі адной гарадзенскай мяшчанкі скралі нават кошык з 340 яйкамі[15]. Але часцей за ўсё кралі залатыя і срэбраныя рэчы, а таксама каштоўныя паперы і дакументы.

Кошт скрадзенага мог быць самым розным. Маглі, напрыклад, скрасці два пуды бульбы на 40 кап. альбо паўбутэлькі віна на 60 кап. А ўначы 17 чэрвеня 1891 г. у Абрама Шварца былі скрадзеныя залатыя і срэбраныя рэчы на суму 87 руб., вэксалі і каштоўныя паперы на 4 тыс. руб.[16] У траўні 1903 г. вядомы гарадзенскі злодзей Хаім Яўрэйскі скраў з кватэры Шмуеля Коткіна працэнтныя паперы і вэксалі на суму 1 600 руб. і залаты гадзіннік коштам 100 руб.[17] Адзін з самых буйных крадзяжоў быў здзейснены 27 чэрвеня 1891 г., калі ў селяніна Льва Гіля было выкрадзена з васьмі куфраў каштоўных папер на 29 000 руб.[18]

Рэгулярна абкрадаліся праваслаўныя, каталіцкія, іудзейскія храмы. Галоўным аб'ектам станавіліся храмавыя «кубкі», што прызначаліся для збору ахвяраванняў. Замкі на «кубках» узломваліся, а грошы забіраліся. Сумы былі звычайна невялікія – да 3 руб. Таксама выкрадаліся рэчы рэлігійнага культу. 4 сакавіка 1903 г. у Фарным каталіцкім касцёле быў затрыманы Восіп Станевіч, у кішэнях якога пры даглядзе былі знойдзеныя залатыя і срэбраныя рэчы, якія ён зняў з абразоў, агульным коштам

200 руб. Дзеля крадзяжу Станевіч схаваўся ў касцёле падчас вячэрняга набажэнства[19].

Штодзённай з'явай Гародні былі рабаванні і разбойныя напады. Гараджанін, які выходзіў з дому, асабліва ўвечары, меў усе шансы стаць ахвярай злачынцаў. Як правіла, злодзеі забіралі ў сваіх ахвяр грошы, кашалькі, залатыя і срэбраныя ўпрыгожанні, гадзіннікі, але маглі таксама зняць верхнюю вопратку, а ў жанчыны – сарваць хустку з галавы. Па вуліцах Гародні было небяспечна хадзіць не толькі ўначы, але і ўдзень.

Кралі і рабавалі, як ужо адзначалася, мясцовыя. Гэта маглі быць рабочыя гарадзенскіх прадпрыемстваў, а таксама салдаты мясцовага гарнізону. Часта крадзяжы здзяйснялі прыслуга і вартаўнікі. Яны вывучалі звычкі сваіх гаспадароў, ведалі, дзе захоўваюцца грошы ды каштоўныя рэчы. А потым ў зручны момант абкрадалі іх. Нярэдка гараджане праяўлялі поўную бяспечнасць, бо наймалі на працу людзей і не ведалі нават іх прозвішчаў. Так, у ноч на 17 траўня 1900 г. быў абкрадзены дом Шварца на Мураўёўскай вуліцы. З кватэры было вынесена рэчаў і адзення на 139 руб. У крадзяжы Шварц западозрыў служанку «Рыўку», прозвішча і паходжання якой ён нават не ведаў[20].

Невялікія заробкі і спакусы губернскага горада падштурхоўвалі канцылярскіх служыцеляў і пісараў да крадзяжу на працы. Кралі, як правіла, наяўныя грошы. Часцей за ўсё падбіралі ключы да шуфлядаў пісьмовых сталоў, дзе яны захоўваліся. Часта падраблялі дакументы. Так, у 1891 г. пісар міравога суддзі Аляксей Палунін па падробленай даверанасці атрымаў на пошце «грашовы пакет» на суму 693 руб. 46 кап., адрасаваны на імя суддзі, а пасля *«ўцёк, пакінуўшы на беразе р. Нёман сваё адзенне»*[21].

Распаўсюджанымі былі кішэнныя крадзяжы. Кралі паўсюдна, але найчасцей у храмах падчас набажэнстваў. Пацярпелыя не заўсёды заяўлялі пра крадзяжы. Часцей за ўсё яны выяўляліся толькі таму, што затрымлівалі злодзеяў. Як правіла, гэта былі дзеці і жанчыны. Былі выпадкі, калі пацярпелыя так і заставаліся невядомымі. Так, 1 лютага 1897 г. падчас вячэрняга набажэнства з кішэні невядомай дамы быў выкрадзены кашалёк. У крадзяжы былі абвінавачаныя салдацкая дачка Птушкіна і мяшчанка Аляксюк[22].

Асаблівай праблемай было «канакрадства». Кралі коней на базарных плошчаў, у дварах шынка ці карчмы. Іх маглі таксама выкрасці і непасрэдна са стайні.

## *Забойствы, няшчасныя смяротныя выпадкі, самазабойствы*

Усе смяротныя выпадкі ў «Ведамасцях…» былі аб'яднаныя ў некалькі груп, галоўныя з іх – «няшчасныя смяротныя выпадкі», «забойствы», «замах на забойства», «самазабойствы», «замах на самазабойства», «атручванне», «знойдзеныя мёртвыя целы».

Забойства з'яўляліся адным з самых цяжкіх злачынстваў. У 1912 г. Гарадзенскім акруговым судом 18% усіх прысудаў было вынесена за забойствы і нанясенне цялесных пашкоджанняў[23]. Галоўнымі ахвярамі ў Гародні разглядаемага перыяду былі дзеці. Забойствы немаўлят складалі 80–100% усіх выпадкаў гвалтоўнага пазбаўлення жыцця[24].

Целы мёртвых дзетак знаходзілі ў самых розных месцах – на тэрыторыі прамысловых прадпрыемстваў, на могілках, на вуліцах горада. Так, у снежні 1897 г. труп немаўляці быў знойдзены на габрэйскіх могілках[25], а ў чэрвені 1898 г. – «на праваслаўных могілках у адтуліне адной з магіл». У сакавіку 1898 г. труп немаўляці знайшлі ў калодзежы на двары аднаго з гарадзенскіх мяшчан, а ў жніўні 1899 г. – у лужыне на Загараднай Слабадзе[26]. Вельмі часта дзяцей як кацянят тапілі ў Нёмане. Так, у лютым 1897 г. «*на Падольнай вуліцы […] мяшчанка Замараева (глуханямая) 30 гадоў, якая жыла ў доме Міністэрства шляхоў зносін, кінула ў раку Нёман незаконнанароджанае сваё дзіця*»[27].

Аднак яшчэ часцей дзяцей тапілі ў прыбіральнях[28]. Дзіцячыя трупы знаходзілі звычайна падчас іх ачысткі асенізатарамі. Адна такая маці «пашкадавала» сваё дзіця і перарэзала яму горла, мабыць, каб тое не захлынулася нечыстотамі: «*на Віленскім завулку ў ноч на 12 кастрычніка пры ачыстцы прыбіральні домаўладальніка Аркіна знойдзены труп невядомага нованароджанага дзіцяці з перарэзаным горлам*»[29].

У траўні 1896 г. адбыўся не менш трагічны выпадак: «*У Гародні*

*на Фабрычнай вуліцы 29 траўня памерла габрэйскае дзіця Сегал, якому маці памылкова замест лекаў дала лыжку карболавай кіслаты»*[30].

Нават лаканічнасць справаздачных радкоў не можа схаваць увесь жах і трагізм, звязаны з забойствам немаўлят, якое стала звычайнай і распаўсюджанай практыкай, элементам штодзённасці. Сухая канстатацыя фактаў пакідае вялікае поле для фантазіі. Жанчына адносна лёгка ішла на забойства свайго толькі што народжанага дзіцяці, бо ведала, што тое ж самае раней зрабіла яе сяброўка, якая пазбегла пакарання. Можна меркаваць, што большая частка такіх злачынстваў засталася нявыяўленай.

Забітыя дзеці не былі пажаданымі для сваіх маці і нярэдка з'яўляліся вынікам фізічнага гвалту над жанчынай. У той жа час і самі жанчыны вельмі часта не былі «абцяжараныя» маральнымі нормамі і прынцыпамі. Да таго ж маленькае дзіця патрабавала клопату і апекі і тым самым пазбаўляла жанчыну магчымасці працаваць.

Ад нежаданых дзяцей таксама імкнуліся пазбавіцца яшчэ да іх нараджэння. Жанчыны рабілі нелегальныя аборты[31], прытым нават на апошніх тэрмінах цяжарнасці. Так, у студзені 1899 г. «*удава губернскага сакратара Стэфанія Зіноўева на апошнім месяцы цяжарнасці вытравіла плод*»[32].

Забойствы дарослых, паводле інфармацыі «Ведамасцяў…», адбываліся значна радзей і не былі тыповай з'явай для гарадскога жыцця.

Ахвярамі ненаўмысных забойстваў, г. зв. «няшчасных смяротных выпадкаў» таксама пераважна былі дзеці. Нярэдка тыя ж немаўляты гінулі падчас сна побач з маці. Жанчыны, стомленыя дзённай працай, клопатамі і абавязкамі мацярынства, засыналі і сваім целам прыціскалі і задушвалі дзяцей[33]. У траўні 1894 г. мяшчанка Шумава «*падчас сну задавіла спаўшага з ёю сына Аляксандра 7 месяцаў*»[34]. Гэтая з'ява была настолькі распаўсюджанай, што нарадзіўся тэрмін «прыспаць дзіця». Так, у жніўні 1899 г. мяшчанка Неха Будкова «*прыспала сваё трохтыднёвае дзіця*»[35].

Але нават калі дзіцяці пашчасціла застацца жывым адразу пасля нараджэння і пражыць хаця б год, то пасля яго актыўна

«выхоўвала» вуліца, якая таксама несла пагрозу ягонаму жыццю. Зразумела, што гэта адбывалася па прычыне недагляду і абыякавасці бацькоў. Але бацькі ў большасці гарадзенскіх сямей не мелі сродкаў, каб наняць прыслугу для нагляду за малымі дзецьмі. Установы па нагляду за маленькімі дзецьмі – першыя яслі і садкі – толькі пачыналі з'яўляцца ў беларускіх гарадах. У выніку часта з дзецьмі адбываліся няшчасныя смяротныя выпадкі.

Так, у чэрвені 1894 г. «*[…] габрэйскія хлопчыкі Янкель і Юдэль Сегаловічы паклалі на зруб дома, які будаваўся, бярвенне і зрабілі гушкалку. Страціўшы раўнавагу, хлопчыкі саскочылі з бярвення, ад чаго яно звалілася на хлопчыка Якава Штамнера 12 год, які знаходзіўся ўнізе, і разбіла яму чэрап. Ад гэтага Штамнер памёр*»[36]. У жніўні 1894 г. быў «*забіты пры падзенні вадасцёкавай рыны сын селяніна Чарэмхі Аляксандр 8 гадоў*»[37]. У красавіку 1896 г. «*на Занеманскім Фарштаце […] падчас катання бялізны […] забітая дачка фельдфебеля Куневіча Вера 4 год, якая ў выніку адсутнасці нагляду трапіла пад дошку катка*»[38]. У чэрвені 1899 г. «*з кватэры, займанай Талочкам, з другога паверха ўпала і забілася дачка ягоная Геня 3½ гадоў*»[39].

Нярэдка дзеці, пазбаўленыя кантролю з боку бацькоў, траплялі пад колы вазоў. Так, у чэрвені 1896 г. «*на Траецкай вуліцы […] задаўленая работнікам рамізніка Крынскага габрэйская дзяўчынка Сара Длугач (?) 2½ год, якая трапіла пад воз*»[40]. У жніўні таго ж самага года «*на Занеманскім Фарштаце […] рамізнік Краузель, які дастаўляў ваду на пажар, пераехаў па неасцярожнасці мяшчанскую дзяўчынку Кімхе, ад чаго яна ў той жа дзень сканала*»[41].

Пакінутыя без нагляду, вельмі часта дзеці гінулі падчас купання ў Нёмане. Так, у чэрвені 1891 г. «*патануў падчас купання ў р. Нёман габрэйскі хлопчык Эўфроім Ласковіч, 14 гадоў*»[42].

У Нёмане гінулі не толькі дзеці, але і дарослыя. Людзі танулі часта па прычыне звычайнай бесклапотнасці. У ліпені 1899 г. «*па неасцярожнасці патануў у р. Нёман гарадзенскі мешчанін Станіслаў Круцінскі*». Але найчасцей ахвярамі Нёмана станавіліся вайскоўцы, якія купалі сваіх коней. У пэўны момант салдаты гублялі асцярожнасць і траплялі на глыбокае месца, дзе і танулі, бо не ўмелі плаваць. Так, у траўні 1891 г. «*запасны шараговы Аўсей Кан-*

*тар падчас купання свайго каня ў рацэ Нёман па неасцярожнасці патрапіў на глыбокае месца і патануў»*[43]. У чэрвені 1894 г. «*кананір 8-й конна-артылерыйскай батарэі Іван Антонаў падчас купання ў рацэ Нёман двух коней патрапіў на глыбокае месца і патануў, бо не ўмеў плаваць*»[44].

Часта прычынай няшчасных смяротных выпадкаў сярод дарослых станавілася празмернае ўжыванне алкаголю. Так, у красавіку 1894 г. «*запасны шараговы Іван Паўнамочны знаходзіўся ў п'яным стане, упаў на маставую і ад атрыманых удараў галавы памёр*»[45]. У лютым 1898 г. «*раптоўна памёр запасны кандуктар Павел Пажыдаеў, 35 гадоў. Смерць надышла ад нецвярозага жыцця*»[46].

Адной з праблем гарадскога жыцця былі псіхічныя і нярвовыя захворванні гараджан. У другой палове XIX – пачатку XX ст. спецыялізаваныя медыцынскія ўстановы для хворых з такім дыягназам былі рэдкай з'явай у Беларусі. Невялікія псіхіятрычныя аддзяленні, якія існавалі ў губернскіх гарадах пры шпіталях, не забяспечвалі неабходнай медыцынскай дапамогай усіх хворых. Псіхічныя і нярвовыя захворванні нярэдка станавіліся прычынай няшчасных смяротных выпадкаў. Так, у лютым 1897 г. «*на Загараднай вуліцы […] мяшчанка Данілеўская, якая жыла ў доме Баткоўскага, падчас прыпадку эпілепсіі ўпала з 6-месячнай Стэфаніяй і цяжарам свайго цела задавіла яе*»[47].

Менавіта псіхічныя захворванні часта падштурхоўвалі гараджан і да самагубства. Падставай для самагубства маглі таксама стаць невылечная хвароба ці няшчаснае каханне. У жніўні 1894 г. «*стрэлам з рэвальвера пазбавіў сябе жыцця мешчанін Ярашэвіч, прычына самагубства – невылечная хвароба*»[48]. У студзені 1898 г. «*атруцілася дачка чыноўніка Марыя Снесэрэ, 23 гадоў. Прычына самагубства – безнадзейнае каханне*»[49]. Моцная палова чалавецтва таксама не вытрымлівала пакут кахання. У 1903 г. у хаце сваёй нявесты Ганны Крэнс атруціўся селянін Восіп Бондар. Прычынай самазабойства стала «*забарона бацькоў на шлюб з Крэнс*»[50]. Аднак далёка не ва ўсіх пералічаных у «Ведамасцях…» выпадках самагубства пазначалася яго прычына.

Спосабы самагубства былі даволі разнастайныя, але на першым месцы ў канцы XIX ст. было атручванне. У якасці атруты выбіралі

карболавую, серную і зрэдку шчаўевую кіслату, а таксама берталетаву соль (прэпарат хлору) і сулему (прэпарат ртуці). На другім месцы як сродак самазабойства была зброя. Звычайна зброяй карысталіся мужчыны, нярэдка гэта былі вайскоўцы. Але ў выпадках з вайскоўцамі таксама фігуравалі нажы. Так, у красавіку 1897 г. шараговы 102-га Вяцкага пяхотнага палка Ахметдзін спачатку зарэзаў прастытутку Ляскулоўшчык у доме цярпімасці Глазавай па Падгорным завулку, а пасля зарэзаўся сам[51]. Таксама пазбаўлялі сябе жыцця праз павешанне, утапленне і самаспаленне.

Некаторыя выпадкі ўражваюць упартым жаданнем людзей развітацца з жыццём. Так, у сакавіку 1891 г. у мясцовай турме падследны Аляксандр Болтуц, якога абвінавачвалі ў забойстве, выліў на сяннік газу, лёг на яго і падпаліў. Ад атрыманых апёкаў ён памёр[52]. У студзені 1897 г. шараговы 103-га Петразаводскага пяхотнага палка Морын у якасці атруты выпіў «раствор фосфарных запалак». Атрута дзейнічала вельмі павольна. Не дачакаўшыся пажаданага выніку, няшчасны абліў сябе газай і падпаліў. Яго адправілі ў мясцовы лазарэт, дзе ён нарэшце і памёр ад атручэння фосфарам[53].

Для беларускіх губерняў у пачатку XX ст. быў характэрны высокі паказчык самазабойстваў. Большасць самазабойстваў здзяйснялася менавіта ў гарадскім асяродку, што было звязана з умовамі жыцця ў горадзе, якія садзейнічалі адасабленню асобы і яе маргіналізацыі, парушэнню традыцыйнага ладу жыцця[54].

Але часам можна толькі здагадвацца, якія жыццёвыя абставіны падштурхоўвалі людзей да самагубства…

Асобную групу здарэнняў складалі выпадкі з рубрыкі «падкідванне немаўлят». Звычайна, іх пакідалі на ганках гарадскіх медыцынскіх ці дабрачынных устаноў і прыватных дамоў, там, дзе дзяцей маглі знайсці і аказаць ім дапамогу. Узрост падкінутых дзяцей звычайна складаў ад некалькіх дзён да двух-трох месяцаў.

Даволі рэдка сустракаецца рубрыка «згвалтаванне» альбо «замах на згвалтаванне». Звычайна ў афіцыйную статыстыку траплялі выпадкі згвалтавання ці спробы згвалтавання маленькіх дзяўчынак і дзяўчат. Так, у 1898 г. у кастрычніку *«мешчанін Лейзар Янкелеў Бордвін спрабаваў згвалціць сялянскую дзяўчынку*

*Леакадзію Іаскевіч 10 гадоў, якая служыла ў якасці нянькі ў габрэя Гізбурга»*[55].

Інфармацыя пра згвалтаванне жанчын сталага ўзросту адсутнічае, але гэта не азначае, што такіх выпадкаў не было. Фізічнае згвалтаванне для жанчыны было ганьбай. У гарадскім патрыярхальным грамадстве віна за згвалтаванне звычайна ўскладалася на саму. жанчыну, а таму пацярпелыя лічылі за лепшае проста маўчаць.

Таксама ў «Ведамасцях…» фіксаваліся ўсе незвычайныя, анамальныя здарэнні. Час ад часу там з'яўляліся рубрыкі, як «бура», «ураган», «градабой», «паводка», «незвычайнае нараджэнне», «раскопванне магілы» і г. д. Але ў разгляданы перыяд падобныя здарэнні ў Гародні не адбываліся.

У заключэнне трэба адзначыць, што «Ведамасці аб здарэннях», выкарыстаныя разам з іншымі дакументамі, з'яўляюцца вельмі карыснай і цікавай крыніцай па гісторыі гарадской штодзённасці. Іх вывучэнне дазваляе вылучыць пэўныя сацыяльна-эканамічныя і псіхалагічныя праблемы, якія існавалі ў беларускіх гарадах. Перш за ўсё, гэта праблема дзяцінства і каштоўнасці дзіцячага жыцця. Самымі безабароннымі групамі гараджан былі дзеці і падлеткі. Па-другое, пастаянная наяўнасць самагубстваў сведчыла пра існаванне пэўнага дыскамфорту ў гарадскім жыцці, пра сур'ёзныя псіхалагічныя і псіхічныя праблемы у гараджан. Па-трэцяе, на гарадскіх вуліцах панавала грубая фізічная сіла, і гараджане (асабліва жанчыны) не былі абароненыя ўладай ад верагоднага рабунку, а жанчыны яшчэ і ад згвалтавання. Адной з найбольш балючых праблем тагачаснай гарадской эканомікі і штодзённага жыцця былі пажары.

---

[1] Минаков А. С. Всеподданнейшие отчеты губернаторов как источник по изучению взаимоотношений центральной и местной власти в России второй половины XIX – начала XX веков // Отечественная история. 2005. № 3. С. 170.

[2] Свод законов Российской империи. Том второй. Свод губернских учреждений. Издание 1892 года. С. 185–186.

[3] Минаков А. С. Губернаторский корпус и центральная власть: проблема взаимоотношений (по материалам губерний Черноземного центра второй половины XIX – начала XX вв.). Орел, 2011. С. 254–255.

[4] Улащик Н. Н. Отчеты губернаторов Литвы и Западной Белоруссии как исторический источник (1804–1861) // Проблемы источниковедения. Т. IX. Москва, 1961. С. 55.

[5] Падлічана паводле: Города России в 1904 году. Санкт-Петербург, 1906. С. 70.

[6] Тамсама. L. 141.

[7] Тамсама. L. 88, 96.

[8] Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). F. 378 b/s, ap. 1891, b. 6 III Б, l. 69.

[9] Тамсама. Ap. 1896, b. 6 III Б, l. 64.

[10] Тамсама. Ap. 1894, b. 6 III Б, l. 78.

[11] ЛДГА. F. 378 b/s, ap. 1901, b. 7, l. 5

[12] Свод статистических сведений о подсудимых, оправданных и осужденных по приговорам общих судебных мест, судебно-мировых установлений и учреждений, образованных по законоположениям 12 июля 1889 года, за 1912 год. Издание Министерства Юстиции в 2-х частях. Часть первая. Статистические сведения по окружным судам и судебным палатам. Петроград, 1915. С. 36–52. Часть вторая. Статистические сведения о подсудимых в судебно-мировых учреждениях, образованных по законоположениям 12 июля 1889 года, за 1912 год. Петроград, 1915. С. 2–11.

[13] ЛДГА. F. 378 b/s, ap. 1891, b. 6 III Б, l. 149.

[14] Тамсама. Ap. 1897, b. 6 III Б, l. 17.

[15] Тамсама. Ap. 1903, b. 7, l. 100.

[16] Тамсама. Ap. 1891, b. 6 III Б, l. 56.

[17] Тамсама. Ap. 1903, b. 7, l. 99.

[18] Тамсама. Ap. 1891, b. 6 III Б, l. 63.

[19] Тамсама. Ap. 1903, b. 7, l. 44.

[20] Тамсама. Ap. 1900, b. 8, l. 39 v.

[21] Тамсама. Ap. 1891, b. 6 III Б, l. 63.

[22] Тамсама. Ap. 1897, b. 6 III Б, l. 13 v.

[23] Свод статистических сведений... Ч. 1. С. 36–52.

[24] Падлічана паводле: Обзор Гродненской губернии за 1896 год. Гродно, 1897; Обзор Гродненской губернии за 1900 год. Гродно, 1901; Обзор Гродненской губернии за 1901 год. Гродно, 1902; Обзор Гродненской губернии за 1902 год. Гродно, 1903; Обзор Гродненской губернии за 1903 год. Гродно, 1904 (Ведомости о насильственных и случайных смертях в Гродненской губернии).

[25] ЛДГА. F. 378 b/s, ap. 1897, b. 6 III Б, l. 34 v.

[26] Тамсама. Ap. 1899, b. 8, l. 36.

[27] Тамсама. Ap. 1897, b. 6 III Б, l. 16 v.

[28] Тамсама. Ар. 1896, b. 6 III Б, l. 89 v.; ар. 1898, b. 8, l. 56 v.
[29] Тамсама. Ар. 1896, b. 6 III Б, l. 109.
[30] Тамсама. L. 44.
[31] Тамсама. Ар. 1903, b. 7, l. 9.
[32] Тамсама. Ар. 1899, b. 8, l. 2 v.
[33] Тамсама. L. 15 v.
[34] Тамсама. Ар. 1894, b. 6 III Б, l. 40 v.
[35] Тамсама. Ар. 1899, b. 8, l. 35 v.
[36] Тамсама. Ар. 1894, b. 6 III Б, l. 50.
[37] Тамсама. L. 75.
[38] Тамсама. Ар. 1896, b. 6 III Б, l. 33.
[39] Тамсама. Ар. 1899, b. 8, l. 21 v.
[40] Тамсама. Ар. 1896, b. 6 III Б, l. 59.
[41] Тамсама. L. 83.
[42] Тамсама. Ар. 1891, b. 6 III Б, l. 60.
[43] Тамсама. L. 41 v.
[44] Тамсама. Ар. 1894, b. 6 III Б, l. 50.
[45] Тамсама. L. 35 v.
[46] Тамсама. Ар. 1898, b. 8, l. 10.
[47] Тамсама. Ар. 1897, b. 6 III Б, l. 12 v.
[48] Тамсама. Ар. 1894, b. 6 III Б, l. 76.
[49] Тамсама. Ар. 1898, b. 8, l. 3 v.
[50] Тамсама. Ар. 1903, b. 7, l. 95 v.
[51] Тамсама. Ар. 1897, b. 6 III Б, l. 30 v.
[52] Тамсама. Ар. 1891, b. 6 III Б, l. 27.
[53] Тамсама. Ар. 1897, b. 6 III Б, l. 3.
[54] Гатальская К. Самоубийства на беларуских землях в начале XX века // Деды. 2011. № 8. С. 238–239.
[55] ЛДГА. F. 378, ар. 1898, b. 8, l. 53 v.

*Вольга Сабалеўская,*
*канд. культуралогіі (Гародня)*

# Настаўнік Маісей Гурвіч: гісторыя вераадступніцтва

Паводле Канфуцыя, няма горш лёсу, чым жыць у эпоху змен. Вернасць старажытнага афарызму ў поўнай меры зведалі на сабе габрэі расійскай мяжы аселасці XIX ст. Капіталізацыя вытворчасці абярнулася для іх заняпадам ці знікненнем некаторых традыцыйных крыніц заробку. Жорсткая, поўная гвалтоўных мерапрыемстваў палітыка расхіствала традыцыйны лад жыцця. Пад прымусам габрэі пачалі наведваць дзяржаўныя навучальныя ўстановы, пераапраналіся ў еўрапейскі строй, пазбаўляліся барод і пэйсаў, заводзілі прозвішчы, ішлі ў армію, вучылі рускую мову. Яны імкнуліся, альбо рабілі выгляд, што імкнуцца стаць «карыснымі» лаяльнымі падданымі расійскай манархіі, не губляючы пры гэтым сваю тоеснасць.

Яскравай прыкметай грамадскага крызісу XIX ст. была нават не сама трансфармацыя ладу жыцця габрэйскай супольнасці, а з'яўленне субкультур, якія адрозніваліся сваім бачаннем будучыні габрэйскага народа ў Расіі. Акрамя кансерватыўнага ладу жыцця па запаветах рэлігіі, калі габрэйская суполка была *«талмудычна-муніцыпальнай рэспублікай»*[1], свайго роду «дзяржавай у дзяржаве» з незразумелай іншаверцам рэлігіяй і мовай, адметнай вопраткай, сістэмай адукацыі і асобным судом, паступова ўзнік новы ідэал. Ён прадугледжваў магчымасць сумяшчэння вернасці іудаізму з пэўнай «раскансервацыяй» жыцця, пад якой у першую чаргу разумелі аваладанне сучаснымі навуковымі ведамі, еўрапейскімі мовамі, змену прафесійнай структуры.

Як і сёння, носьбітам наватарства была моладзь. Рух Гаскала (Асветніцтва) распаўсюдзіўся сярод хедэрнай моладзі ў 1830–1840 гг. *«Дэвізам Асветніцтва была моўная і культурная асіміляцыя з захаваннем рэфармаванага рэлігійнага культу.*

*Асветніцтва ўзмацніла імкненне да грамадзянскай эмансіпацыі габрэяў, абудзіла іх цікаўнасць да спраў краіны, грамадскіх і культурных змен, жаданне паглыбляцца ў грамадскае жыццё, аддаваць свае веды, здольнасці і нават кроў за краіну пражывання. Гэтая грамадзянская актыўнасць не супярэчыла пачуццю ўласнай этнічнай прыналежнасці*», – пісаў пра Гаскалу Артур Айзенбах[2].

Імкненне да еўрапейскай навукі прывяло маладых «рэвалюцыянераў духа» у 1830–1850 гг. спачатку ў казённыя габрэйскія і рабінскія вучылішчы, пазней – у гімназіі і ўніверсітэты. З шэрагаў маскільскай моладзі выйшлі вядомыя на рубяжы XIX–XX стст. расійскія філосафы, юрысты, літаратары і грамадскія дзеячы. Але апроч гэтых славутых постацей, было шмат іншых. Мы зусім мала ведаем пра тых, хто ў пошуку новага шляху аддаліўся ад традыцыйнага габрэйскага свету, але так і не ператварыўся ў зорку першай велічыні на расійскім небасхіле. Іх лёсы нярэдка былі трагічныя, а духоўныя пошукі вялі ў нікуды, але без даследавання матывацыі гэтага «страчанага пакалення» не зразумець, чаму на працягу паловы стагоддзя так моцна змянілася габрэйская культура мяжы аселасці.

Наш герой адыграў істотную ролю ў развіцці сістэмы дзяржаўнай адукацыі для габрэяў на Гарадзеншчыне, зрабіў бліскучую кар'еру, дзякуючы свайму становішчу і знаёмствам меў магчымасць уплываць на фарміраванне палітыкі адносна габрэйскай супольнасці Расіі.

Маісей Сямёнавіч Гурвіч нарадзіўся ў мяшчанскай сям'і ў Менскай губерні ў 1834 г.[3], атрымаў традыцыйную адукацыю, заснаваную на выдатным веданні рэлігійнага закона і талмудычных каментароў. Яго жыццёвы шлях пачынаўся па таму ж сцэнару, як і ў соцень тысяч габрэйскіх хлопчыкаў першай паловы XIX ст. Але ва ўзросце 17 год яго лёс сышоў з рэек звычайнасці. У 1851 г. Маісей Гурвіч трапіў у Віленскае рабінскае вучылішча, якое ў тым годзе зрабіла свой пяты набор.

Заснаванне віленскай і жытомірскай рабінскіх вучэльняў было часткай дзяржаўнай палітыкі па перавыхаванню габрэяў, якая прадугледжвала знешняе і ўнутранае «цывілізаванне» гэтай супольнасці. Для падрыхтоўкі рэформы 22 чэрвеня 1842 г.

была створана «Камісія для адукацыі габрэяў у Расіі»[4]. У яе склад уваходзілі прадстаўнік мітнагдзім – рэб Ісраэль Іцхакі, галава беларускіх хасідаў рэб Мээр Шнэерсон, банкір Гальперын і дырэктар вучылішча Барыс Штэрн. На паседжаннях, якія праходзілі з траўня па жнівень 1843 г., вяліся гарачыя дыскусіі пра выгляд будучай габрэйскай школы. Згодна з вердыктам Камісіі, 13 лістапада 1844 г. у дзеянне ўступіў «Указ аб асвеце габрэйскага юнацтва», сакрэтныя інструкцыі якога тлумачылі: *«Мэта адукацыі – у збліжэнні з хрысціянскім насельніцтвам і вынішчэнні забабонаў, выкліканых вывучэннем Талмуда»*[5].

Адкрыццё казённых школ габрэйскае грамадства сустрэла як чарговае бедства – усеагульнымі пастамі і малітвамі. Дрэнным знакам для габрэйскай масы было ўжо тое, што дырэктарамі і наглядчыкамі рабінскіх вучылішчаў сталі хрысціяне, а габрэі вялі толькі «габрэйскія» (рэлігійныя) прадметы. Сучаснік пісаў: *«Хадзілі розныя чуткі, якія пужалі як бацькоў, так і дзяцей. Бацькі ведалі, што ў школах сядзяць без шапак*[6] *і Тору тлумачаць па-нямецку*[7]*. Дзецям распавядалі, што там караюць так: вучняў прывязваюць галавой і нагамі да лаўкі, а сячэ іх салдат»*[8]. Для ўтрымання новых навучальных устаноў для габрэяў увялі спецыяльны падатак з шабатніх свечак.

Мэта рабінскіх вучылішчаў – выхаванне новага пакалення «нефанатычных» рабінаў, лаяльных падданых, выхаваных у рускім духу, добра знаёмых з «агульнымі прадметамі» (матэматыкай, прыродазнаўствам і г. д.) і рускай мовай. Праграма вучылішчаў адпавядала гімназічнаму курсу. У ненадрукаваных нататках да ўказа прапаноўвалася: *«Габрэйскія прадметы вывучаць на настаўніцкім аддзяленні ў такой ступені, каб выхаванцы яго маглі выкладаць гэтыя прадметы ў вучылішчах 1 і 2 разрадаў, а на рабінскім – наколькі неабходна для адукацыі рабіна, адхіляючы, калі не з самага пачатку, то прынамсі пры першай мажлівасці ўсе залішнія філасофскія абстракцыі каментатараў Талмуда»*[9]. Урад збіраўся на працягу 20 год поўнасцю змяніць склад настаўнікаў у школах для габрэяў на выпускнікоў рабінскіх вучылішчаў.

На момант, калі Маісей Гурвіч трапіў у Віленскае рабінскае вучылішча, яго сцены пакінуў другі выпуск настаўнікаў і рабінаў,

і ён не мог не ведаць пра дрэнную славу, якая замацавалася за выхаванцамі гэтай установы ў традыцыйным асяроддзі. Габрэі-артадоксы глядзелі на іх як на адшчапенцаў, урадавых агентаў і «эпікойрэсаў» (ерэтыкоў), а пра казённых рабінаў казалі, што яны насамрэч больш папы, чым рабіны.

Чым жа прывабіла рабінскае вучылішча традыцыйна выхаванага хлопца? Хутчэй за ўсё, ролю адыгралі тры моманты: наяўнасць ільготы ў выкананні рэкруцкай павіннасці і нядрэннай стыпендыі для выхадцаў з бедных сем’яў, а таксама мажлівасць выхаду за межы талмудычнай вучонасці.

Цікаўнасць да матэматыкі, астраноміі, прыродазнаўства, рускай і нямецкай літаратуры ў 1830–1840 гг. была рысай, уласцівай для дапытлівай габрэйскай моладзі, якая выхоўвалася ў атмасферы культа ведаў. Кнігі, якія ўтрымлівалі гэтую інфармацыю, «духоўная кантрабанда», нягледзячы на суровую забарону настаўнікаў, траплялі ў хедэры і ешывы. Сучаснікі ўзгадвалі, што ім даводзілася хаваць кніжкі за вокладкай Талмуда, і не адзін юнак вывучыў нямецкую мову па мендэльсонаўскаму перакладу Бібліі, выдатна ведаючы сэнс кожнага слова на іўрыце і шукаючы ў нямецкім тэксце адпаведны выраз. Вымаўленне пры гэтым было жудасным, але чытаць і разумець нямецкія тэксты ўсё ж такі атрымлівалася.

У рабінскім вучылішчы Маісей Гурвіч выдатна авалодаў «агульнымі прадметамі», выпрацаваў надзвычайнага хараства каліграфічны почырк, навучыўся выкладаць думкі на рускай мове прыгожым трохі мудрагелістым стылем. Ён абраў для сябе найбольш папулярны сярод навучэнцаў накірунак – настаўніцкую, а не рабінскую дзейнасць. Справа ў тым, што ў 1850 гг. габрэйскія малітоўныя грамадствы мелі права самастойна абіраць казённага рабіна. Ведаючы рэпутацыю выпускнікоў казённых рабінскіх вучылішчаў як апалагетаў дзяржаўнай палітыкі па разбурэнню габрэйскага ладу жыцця, з уласнай волі яны ніколі не абіралі іх сваімі духоўнымі правадырамі. Адпаведна, калі выпускнік рабінскага аддзялення павінен быў рыхтавацца да беспрацоўя, то настаўнік мог разлічваць на пасаду ў адным са шматлікіх казённых вучылішчаў для габрэйскіх дзяцей і мець пастаянную заработную плату.

«Казённакоштных» выхаванцаў правілы абавязалі адпрацаваць

на вызначаных для іх Міністэрствам асветы працоўных месцах два гады. Маісей Сямёнавіч Гурвіч у 1856 г. быў размеркаваны ў Берасцейскае казённае габрэйскае вучылішча, дзе працаваў на пасадзе настаўніка рэлігіі на працягу наступных васьмі год. Тут ён ажаніўся з Вольгай Маісееўнай Хабас, тут нарадзіліся іх старэйшыя дзеці Дар'я і Восіп. Заўважым, што ўжо гэты малы штрых характарызуе русафільскую накіраванасць маладога настаўніка. Для сваіх дзяцей насуперак традыцыі бацькі абралі рускія, а не габрэйскія імёны. У сярэдзіне 1850-х гг. гэта было праявай вальнадумства.

У Берасці Маісей Гурвіч, гарачы прыхільнік распаўсюджання еўрапейскай асветы, на ўласныя грошы адчыніў свецкую прыватную вучэльню для дзяўчат-габрэек. Габрэйскія асветнікі былі ўпэўнены ў значнасці выхавання будучых маці. Неадукаваныя жонкі ў сярэдзіне XIX ст. былі аплотам кансерватызму, таму спроба паўплываць на фарміраванне іх светапогляду і прагі да еўрапейскай адукацыі вельмі актуальная.

Да таго ж у традыцыйным габрэйскім грамадстве рэлігійныя абавязкі ўскладваліся на мужчыну, вызваляючы час жанчыны для выканання хатніх спраў. Адпаведна погляды габрэяў на тое, чаму і як вучыць дзяўчынку былі не такімі непахіснымі і артадаксальнымі, як на адукацыю хлопца, галоўнай мэтаю жыцця якога лічылася вывучэнне рэлігійных тэкстаў. Спробы «еўрапеізацыі» адукацыйных устаноў для дзяўчын не сустракалі такога зацятага супрацьдзеяння, як мерапрыемствы па рэфармаванню школ для хлопцаў. Пэўна, на гэта разлічваў Маісей Гурвіч, калі на ўласныя сродкі адчыняў свецкую жаночую школу ў Берасці.

Вучаніцы Маісея Сямёнавіча – дзяўчаты з бедных сем'яў, таму на матэрыяльную дапамогу з боку бацькоў разлічваць не даводзілася. Настаўнік звярнуўся да Міністэрства асветы з просьбай, каб вучэльні далі грашовую субсідыю, калі праз год поспехі выхаванак будуць задавальняючымі. На жаль, нягледзячы на бліскучыя поспехі габрэяк Берасця, якія яны прадэманстравалі пад час інспекцыі, і прадпісанне апякуна Віленскай навучальнай акругі, абяцаныя ўладамі фінансы так і не выдаткавалі. М. С. Гурвічу, які «*истощил своё здоровье и всё своё состояние более 700 рублей*», прыйшлося зачыніць школу[10].

У 1863 г. сям'я Гурвічаў пераехала ў Наваградак. Маісей Сямёнавіч падняўся на прыступку вышэй на кар'ернай лесвіцы і заняў пасаду наглядчыка (дырэктара) мясцовай казённай габрэйскай вучэльні 1 разраду. Ён не толькі кіраваў гэтай установай, але і інспектаваў прыватныя навучальныя ўстановы габрэяў, хедэры. Як прызнаваўся пазней сам настаўнік, казённая вучэльня павятовага горада выглядала проста мізэрна. На занятkі ў першы дзень з'явіліся толькі 8 хлопцаў-галадранцаў, якія прыходзілі вучыцца толькі таму, што папярэднік Гурвіча час ад часу выдаваў ім па некалькі капеек з 50 руб., выдаткаваных Міністэрствам асветы на дапамогу бедным вучням. Новы кіраўнік прыняўся за справу з вялікім імпэтам і хутка прывёў вучэльню ў квітнеючы стан. Спачатку колькасць вучняў павялічылася да 49, потым да 75, а праз тры гады да 100 чалавек.

Галоўнае, што ў ліку навучэнцаў з'явіліся не толькі беднякі (якіх старшыні суполкі прымушалі наведваць «ерэтычныя» навучальныя ўстановы замест дзяцей з заможных сем'яў), але і прадстаўнікі ўсіх іншых сацыяльных слаёў, нават купцоў 1 гільдыі. Ён адчыніў пры вучэльні курсы «агульных прадметаў» для заможных дзяцей, якія рыхтаваліся да паступлення ў гімназію ці ўніверсітэт. Асабліва відавочнымі былі поспехі ў рускай мове. Вучні маглі свабодна чытаць, тлумачыць і пераказваць тэксты, выдатна пісалі дыктоўку.

У Наваградку ў поўнай меры праявілася самасвядомасць Маісея Гурвіча, які разглядаў сябе як вернападданага, ледзьве не як агента ўрада, які будзе падтрымліваць настаўніка ў барацьбе з цемрашальствам, заснаваным на талмудычных пастановах і ўладзе кагальна-рабінскай алігархіі. Гэтыя надзеі ў некаторай ступені рэалізаваліся. Гурвіч быў на добрым рахунку ў павятовага кіраўніцтва і нават праваслаўнага духавенства, інспектары з Віленскай навучальнай акругі былі задаволеныя ягонымі поспехамі. У «Часопісе Міністэрства народнай адукацыі» два разы з'яўляліся нататкі пра дзейнасць наглядчыка Наваградскага казённага вучылішча з адабрэннем накірунку яго думак і вынікаў працы[11].

Жорсткая пазіцыя Гурвіча ў справе выкаранення «фанатызму» у хедэрах прывяла да канфлікту са старшынямі габрэйскай

суполкі. Сам ён пісаў пра гэты эпізод так: «*Кагалу, конечно, эта благодатная для русскаго дела перемена сильно не понравилась, и он, вооружившись всеми своими доспехами: интригою, ложью, обманом и деньгами, всею своею тяжестью взвалился на меня, чтобы разом задавить меня, молодого смельчака. Но не тут-то было. При Божьей помощи борьбу, самую отчаянную, я выдержал смело, спокойно, без увлечений и без малейшей с моей стороны уступки, как подобает верно служащему и русскому гражданину*»[12]. Кіраўніцтва заўважыла стараннасць наглядчыка Наваградскага вучылішча, пра што сведчыць матэрыяльнае заахвочванне з боку Віленскай навучальнай акругі. У верасні 1865 г. былі асігнаваныя 200 рублёў аднаразовай дапамогі для Гурвіча, што адпавядала яго жалаванню за два месяцы[13].

Верасень 1866 г. пачаўся для сям'і Гурвічаў, якая на той момант павялічылася да шасці чалавек (у Наваградку нарадзіліся малодшыя дзеці Аляксандр і Марыя) з пераезду на новае месца службы. Маісей Сямёнавіч быў прызначаны на пасаду наглядчыка казённага габрэйскага вучылішча ў губернскую Гародню.

Першае ўражанне ад вучылішча было вельмі дрэнным. Нягледзячы на больш высокі статус горада, развіццё культурнага жыцця, наяўнасць заможнай габрэйскай буржуазіі і інтэлігенцыі, справа адукацыі тут была пастаўлена горш, чым у Наваградку. Папярэднік Гурвіча на месцы наглядчыка вучылішча па прозвішчу Гордан быў звольнены «*за нерадение по службе*».

У Гародні адносіны да Гурвіча з боку кіраўнікоў габрэйскай суполкі былі не менш варожымі, чым у Наваградку. Дзякуючы артыкулу гарадзенца Натана Бендэтсона, у якім параўноўвалася стаўленне да казённай сістэмы адукацыі для габрэяў у 1860-я і 1880-я гады, можна зразумець, які прыём чакаў наватараў мяжы габрэйскай аселасці: «*Габрэі адносіліся да ўтрымальнікаў вучылішчаў як да свядомых распаўсюднікаў бязбожжа. У мястэчку Крынкі супраць кіраўніка вучылішча маладога габрэя В. пачаўся сапраўдны паход з боку гэтых рупліўцаў веры. Яго праклялі. А духоўны рабін як годны пастыр годнай паствы палічыў зневажальным для свайго сану займаць памяшканне ў богапрацiўным доме, дзе знаходзілася вучылішча разам з утрымальнікам яго*»[14].

Можна ўявіць, якую вайну за адукацыю новага ўзору прыйшлося весці ў 1866 г. Маісею Гурвічу, калі нават у 1880-я гг. гарадзенскія артадоксы цкавалі кіраўніка мясцовай талмуд-торы Марголіса за спробу ўвесці выкладанне ідыша і павялічыць колькасць заняткаў па рускай мове і арыфметыцы ў гэтай традыцыйнай навучальнай установе для бедных вучняў[15].

Паводле Маісея Гурвіча, ён *«знайшоў вучылішча ў самым дрэнным стане»*, але за сем месяцаў здолеў зрабіць там сапраўдную рэвалюцыю. Праблемай казённых навучальных устаноў для габрэяў з'яўляліся пропускі вучнямі заняткаў. Асноўная колькасць дзяцей была прыпісана да вучняў намінальна, насамрэч яны наведвалі хедэры альбо талмуд-торы. Настаўнікі, не жадаючы псаваць адносіны з суполкай, не звярталі на гэта ўвагі, і ўсе былі задаволеныя, бо за пропуск заняткаў бацькі вучня павінны плаціць вялікі штраф. Гурвіч павёў сябе прынцыпова, і колькасць вучняў, якія рэгулярна наведвалі Гарадзенскае вучылішча, павялічылася з 46 да 175. Таксама быў наведзены парадак у грамадскіх і прыватных школах габрэяў, якія знаходзіліся пад наглядам Маісея Сямёнавіча[16].

У багатым на падзеі для сям'і Гурвічаў 1866 г. убачыў свет навучальны дапаможнік па граматыцы рускай мовы, які Маісей Сямёнавіч напісаў для казённых габрэйскіх вучылішчаў. Падручнік ухваліў Вучоны камітэт Міністэрства адукацыі. Ён выйшаў накладам 3500 асобнікаў, бо ўдала спалучаў сінтаксіс і этымалогію і быў складзены лагічна і проста. Падручнік быў запатрабаваны ў вучылішчах як для габрэйскіх, так і для хрысціянскіх дзяцей.

У Гародні таксама распачалася дзейнасць Гурвіча-публіцыста. У пяці нумарах «Віленскага весніка» за 1866 г. друкаваўся артыкул настаўніка па сакраментальнаму «габрэйскаму пытанню»[17]. У гэтым даследаванні выявілася ідэалагічная пазіцыя маладога маскіла[18]. У адрозненне ад іншых прыхільнікаў «раскансервацыі» жыцця габрэяў, адказнасць за ізаляцыю гэтай часткі падданых расійскай манархіі Гурвіч усклаў на саміх габрэяў. Калі Ілля Аршанскі, браты Віталь і Леў Ляванды і Юлій Гесэн лічылі, што адасобленасць габрэяў Расіі ад іншых народаў выклікана абмежавальнымі законамі і захаваннем мяжы габрэйскай аселасці, то Маісей Гурвіч прыводзіў аргументы на карысць думкі, што гэта

габрэі прыкладаюць усе намаганні для *«отчуждения своего потомства от нееврейскаго мира»*. У гэтым артыкуле фігуруюць традыцыйныя элементы адмоўнага этнічнага стэрэатыпу: габрэйскае багацце, цемрашальства, жудасны Талмуд, усяўладны кагал.

«Правільнае» разуменне праблемы, выкладзенае, да таго ж, самім габрэем, чалавекам новай генерацыі, які атрымаў сучасную адукацыю, было заўважана адміністрацыяй губерні. Лаяльны падданы, які з'яўляўся жывой ілюстрацый дзейснасці намаганняў ураду па перавыхаванню і цывілізаванню габрэяў, Гурвіч у адзін момант зрабіў рэзкі кар'ерны ўзлёт. У жніўні 1866 г. ён перавёз сям'ю ў Вільню, дзе атрымаў месца пазаштатнага настаўніка рускай мовы ў рабінскім вучылішчы, са сцен якога выйшаў 11 год таму. Гэта было не толькі прэстыжна, але і выгадна, бо жалаванне выкладчыка павялічылася са 100 да 392 руб.[19]

Але галоўнае, дзеля чаго адбыўся пераход Гурвіча, *«руплівага і адданага рускім пачаткам дзеяча»*[20], як пра яго пісалі ў Журнале міністэрства народнай адукацыі, гэта ўдзел у працы Віленскай камісіі па паляпшэнню побыту габрэяў, высновы якой павінны скласці падмурак чарговай «габрэйскай рэформы». У склад Камісіі, акрамя Маісея Гурвіча, увайшлі Леў Ляванда, Якаў Брафман, Аляксандр Мурын, пазней – цэнзар габрэйскіх кніг Асір Воль. Узначаліў Камісію сапраўдны стацкі дарадца Уладзімір Тарасаў. Сябры Камісіі займаліся разглядам праектаў па змене статуса габрэяў. Свае меркаванні і заключэнні яны прадстаўлялі генерал-губернатару «Паўночна-Заходняга краю».

Змест Журнала Камісіі пераконвае ў тым, што становішча габрэяў была добра вядома яе сябрам. У іх прамовах менш «хадульных» стэрэатыпаў і беспадстаўных абвінавачванняў у адрас габрэяў, якія былі ўласцівыя чыноўнікам на высокіх пасадах, сябрам сталічных «габрэйскіх камітэтаў», якія і вызначалі напрамак рэфармавання. І гэта не дзіўна, бо апошнія як жыхары Цэнтральнай Расіі маглі ніколі не сустракацца з габрэямі ў рэальным жыцці. Што тычыцца сяброў Віленскай камісіі, то ў ёй былі мясцовыя чыноўнікі-хрысціяне, для якіх габрэі можа і не былі «правільнымі» падданымі, але не з'яўляліся і абстрактнымі фігурамі старазапаветных хрыстазабойцаў.

Пры гэтым большасць сяброў Камісіі складалі габрэі, і хаця сярод іх не толькі не было аніводнага артадокса, але нават прысутнічалі хрышчоныя габрэі накшталт аўтара «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў» Брафмана, ім было зразумела, напрыклад, тое, што дрэнны стан габрэйскага рамяства тлумачыцца не неахайнасцю і лянотай майстроў, а празмернай канкурэнцыяй, абумоўленай захаваннем мяжы аселасці. Адпаведна сябры Камісіі разам з Маісеем Гурвічам у «Дакладзе аб пераўтварэнні кіравання габрэямі» асцярожна тлумачылі, што больш раўнамернае распаўсюджанне габрэйскіх рамеснікаў па тэрыторыі Расіі прынясе шмат карысці. Якасць вырабаў габрэйскіх майстроў і іх прыбыткі (а разам з гэтым здольнасць плаціць падаткі) падвысяцца, а «вялікарасійскія» губерні, дзе не хапае рамеснікаў, будуць імі забяспечаныя. Яны ведалі, што закон ад 16 чэрвеня 1865 г., які даваў права габрэйскім рамеснікам і тэхнікам свабодна мяняць месца жыхарства, не дзейнічаў. Галоўнай прычынай была адсутнасць сродкаў у рамеснікаў, каб разлічыцца з запазычанасцю па падатках на папярэдніх месцах жыхарства і ажыццявіць пераезд у Цэнтральную Расію. Яны бачылі выйсце ў дапамозе аднаверцам з боку заможных габрэяў, якім трэба гарантаваць, што ахвяраванні пойдуць менавіта на гэтую мэту, і не знікнуць у чужых кішэнях[21]. Падыход Камісіі можна ахарактарызаваць як «ліберальна-прагрэсіўны»: выказваліся прапановы на карысць эмансіпацыі габрэяў, паступовага скасавання шматлікіх абмежаванняў дзеля «зліцця» габрэяў з іншымі падданымі шляхам русіфікацыі.

Асяроддзе, прасякнутае асімілятарскімі ідэямі, у якое трапіў Маісей Гурвіч у Вільні, спрыяла канчатковаму адыходу нашага героя ад габрэйства. Пра гэта сведчыць Журнал Камісіі за 1866 г. У канцы верасня сябры Камісіі горача спрачаліся, абмяркоўваючы вялікі праект рэформы, прадстаўлены Якавам Брафманам. Маісей Гурвіч выступіў з прамовай наконт плана аб'яднання габрэйскіх і хрысціянскіх грамадстваў на тэрыторыі мяжы аселасці. У ёй Гурвіч адмаўляў габрэям у статусе асобнай нацыі: «*Признавая несуществующею отдельную еврейскую национальность, так как евреи от падения Второго храма до настоящего времени не имели ни истории, ни языка, находит, что для того, чтобы эта мысль*

*[пра аб'яднанне з хрысціянамі – В. С.] вошла в плоть и кровь всех евреев, в России не должно быть отдельных еврейских обществ»*[22].

Ён выступаў у ролі спрытнага маніпулятара, які ведае правілы бюракратычнай рыторыкі: прамова насычана паняццямі, з якімі з канца XVIII ст. атаясамлівалася «габрэйская фанатычнасць і варожасць да хрысціян» – кагал, фактарства, талмудычныя забароны. І прамоўцы не перашкаджала, што большасць з іх была на той момант анахранізмамі. Так, кагал быў зліквідаваны яшчэ ў 1840 г., фактарства як прафесія практычна звялася да пачатку 1860-х гг.

Маісей Гурвіч быў адным з самых актыўных сяброў Віленскай камісіі па паляпшэнню побыту габрэяў. Ён выступаў ледзьве не на кожным пасяджэнні. 30 кастрычніка 1866 г. ён пазнаёміў прысутных з сваёй пазіцыяй па пытанню пра кіраванне габрэйскімі грамадствамі. У прамове ізноў увесь час узгадваўся ненавісны кагал, у якога, па меркаванню Гурвіча, трэба забраць права абіраць рабіна, інакш гэтая службовая асоба, залежная ад волі кагалу, будзе зброяй распаўсюджання цемрашальства. Ён не верыў у эфектыўнасць нагляду за дзейнасцю «кагалу» з боку чыноўніка-хрысціяніна, бо старшыні будуць дзейнічаць з дапамогай хабару і лёгка схаваюць злоўжыванні, карыстаючыся тым, што наглядчык не ведае габрэйскіх моваў.

З Журнала можна зрабіць выснову, што галоўнай мэтай як заканатворцы для Маісея Гурвіча з'яўлялася «абрусенне» габрэяў, і для яе дасягнення ён абіраў бюракратычны шлях. Прамоўца прапанаваў стварыць у кожным горадзе спецыяльную кантралюючую структуру, менавіта Камісію з «добранадзейных абруселых купцоў-габрэяў», якая б назірала за дзейнасцю чыноўніка гарадскога кіравання, адказнага за нагляд над габрэйскай суполкай. На рэгулярных сходах яны павінны былі абмяркоўваць ход справаў і раіцца пра *«меры па скасаванню замкнёнасці габрэйскага жыцця… Такім чынам справа абрусення габрэяў набыла б за кароткі час самы шырокі маштаб»*. Ізноў ўсю адказнасць за нягоды габрэйскага жыцця Гурвіч ускладаў на сваіх аднаверцаў: *«Прычыны анамальнага габрэйскага жыцця зыходзяць больш з талмудычных патрабаванняў, чым з заканадаўчых абмежаванняў для габрэяў»*[23].

Маісей Гурвіч як паслядоўны прыхільнік ліквідацыі габрэйскай

адасобленасці выступаў супраць спецыяльных падаткаў з габрэяў (напрыклад, «скрыначнага збору»), выказваўся за асабістае выкананне габрэямі рэкруцкай павіннасці і забарону ставіць замест сябе ахвотніка з бедных габрэяў альбо хрысціян. «*Было б грахом дапускаць, каб хрысціяне хадзілі ў салдаты за кашэрных хлопцаў, якія вывучаюць талмудычныя спрэчкі пра тры рады жаніцьбы, скасаванне шлюбу і будаванне кучак*»[24].

Галоўным злом Маісей Гурвіч лічыў высокі аўтарытэт Талмуда: «*Пакуль габрэі тонуць у змроку Талмуда, не можа быць і гаворкі ні пра земляробства, ні пра мануфактуру. Незлічоная колькасць талмудычных абрадаў, забаронаў і абмежаванняў прымушае габрэяў кідацца толькі да такіх заняткаў, якія даюць шмат вольнага часу*». У наступных яго словах гучыць і пафас неафіта, і палымяная вера ў моц асветы, якой ён прысвяціў сваё жыццё: «*Толькі тады габрэі будуць жыць жыццём, карысным для сябе і нашай айчыны, калі мы шляхам выхавання ў пачатковых вучылішчах разгонім талмудычны змрок, разаб'ем цяжкія ланцугі на руках і нагах няшчасных пакутнікаў, прагонім азіятызм і дадзім ім падыхаць свежым паветрам хрысціянскай і свабоднай Еўропы*»[25].

Напэўна, М. Гурвіч з лёгкім сэрцам падпісваў пратакол, у якім сябры Камісіі, разглядаючы пытанне, ці павінны яго аднаверцы, складаючы юрыдычныя дакументы, пазначаць, што яны габрэі, прыйшлі да высновы, што гэта як знак іх ізаляванасці і асаблівага статуса, дапускаць нельга. «*Найважнейшым намаганнем ураду павінна быць абагульненне і зліццё ўсіх асобных плямёнаў, якія ўвайшлі ў склад Імперыі з пяршынствуючым вялікім племенем рускім. Пры такім стане было б дзіўна дапускаць думку, каб габрэі, якія жывуць у Расіі, маглі б складаць асобную нацыянальнасць альбо стаць кім-небудзь іншым акрамя як рускімі не толькі па знешнасці, а але і ўнутрана… Урад наш пры поўнай верацярпімасці ніколі не забароніць ім спавядаць рэлігію сваіх бацькоў*»[26]. Існаванне прававых абмежаванняў для габрэяў сябры Камісіі тлумачылі не сутнасцю іудаізму як асобнай рэлігіі, а наяўнасцю забабонаў у вусным законе, у Талмудзе.

Меркаванні М. Гурвіча не заўсёды супадалі з думкамі іншых сяброў Камісіі, што адлюстроўвалася ў яе пастановах. Генерал-гу-

бернатар Канстанцін фон Каўфман таксама калі-некалі ўступаў у віртуальную дыскусію з Гурвічам. Напрыклад, у пратаколе, дзе былі запісаны словы апошняга пра абавязковае зліццё габрэяў з хрысціянамі ў адно грамадства, але з умовай, што урад аб'явіць усе талмудычныя запаветы па-за абаронай дзяржаўных законаў, фон Каўфман раздражнёна пазначыў чырвоным алоўкам: «*Гэта глупства!*». Ён меў на ўвазе, што дзяржаўныя законы і пастановы Талмуда і так заўсёды існавалі незалежна адны ад другіх. Аднак гэтая крытыка нічога не мяняла ў становішчы М. Гурвіча. Некалькі яго дакладаў у Камісіі выйшлі ў выглядзе брашур і артыкулаў.

Кіраўніцтва было задаволена службовай дзейнасцю і напрамкам думак М. Гурвіча. Пра гэта сведчыць шчодрае прэміраванне настаўніка Віленскага рабінскага вучылішча, які толькі 23 снежня 1866 г. «*за отлично-усердную службу*» атрымаў 120 руб., а ўжо 31 снежня 1866 г. яму ізноў была выпісана аднаразовая дапамога ў памеры 100 руб.[27] 15 лютага 1868 г. здарылася неверагоднае. Пасля дакладу Міністэрства народнай асветы Маісей Гурвіч «*у знак асаблівай манаршай міласці, па-за правіламі ўзведзены ў чын калежскага рэгістратара са старшынствам з правам на пенсію*»[28]. Яму залічылі за службу па Міністэрству асветы працу настаўніка і наглядчыка габрэйскіх вучэльняў. Цяпер М. Гурвіч атрымліваў ужо 460 рублёў за год.

За Маісеем Гурвічам замацавалася рэпутацыя эксперта па габрэйскаму пытанню, таму адразу пасля таго, як скончыла працаваць адна Камісія па габрэйскай рэформе, яго ўключылі ў склад другой – Віленскай камісіі аб пахавальных брацтвах (травень 1868 г.). Справа пачалася з публікацыі ў «Віленскім весніку» вялікага сенсацыйнага артыкула «Габрэйскія брацтвы». У ім распавядалася пра адкрыццё чарговых «габрэйскіх цемрашальстваў». Габрэйскія брацтвы «*існуюць ва ўсіх гарадах і мястэчках мяжы аселасці, дазваляюць сабе злоўжыванні, выклікаюць нараканні і абурэнне народа. Старшыні ўціскаюць асірацелыя сямействы адвольным прызначэннем кошту пахавання, так што кошт гэты калі-некалі дасягае некалькіх тысяч рублёў. Памерлыя хаваюцца амаль заўсёды ў сам дзень смерці, і дзеля гэтага пасведчанні аб смерці выдаюцца старшынямі заднімі датамі*»[29].

Дзеля расследавання была створаная Камісія, куды акрамя настаўніка рабінскага вучылішча М. Гурвіча ўвайшлі чыноўнік для асаблівых даручэнняў пры генерал-губернатары Дамантовіч, цэнзар габрэйскіх кніг Якаў Брафман і стацкі саветнік Спаскі (старшыня). Плён працы Камісіі – статыстыка колькасці габрэйскіх могілак і рабінаў у гарадах і мястэчках «Паўночна-Заходняга краю» і справаздача, дзе чыноўнікі фактычна прызналі сваю поўную бездапаможнасць у справе кантролю над габрэйскімі пахавальнымі кнігамі: «*Присмотревшись ближе к книгам и счетам [Виленского – В. С.] правления за 1867 г., нетрудно убедиться, что они более приспособлены к затмению, чем к разъяснению еврейских дел: умершие записываются за весьма незначительным исключением без фамилий, происхождения и проч. […] Одним словом, книги и счета правления так составлены, чтобы концы всегда были спрятаны и контроль невозможен*»[30].

Камісія прыйшла да высновы, што пахавальныя брацтвы з'яўляюцца цяжкай спадчынай «польскіх часоў» і насамрэч з'яўляюцца зброяй для звядзення парахункаў паміж габрэйскімі сем'ямі. Яна ж рэкамендавала правесці інвентарызацыю могілак, падзяліўшы іх на кавалкі адпаведна прэстыжнасці, і за атрыманне зямлі ў канкрэтным сектары браць пэўную плату. Таксама прапанавалася ўвесці для пахавальных брацтваў шнуравыя кнігі, куды б занатоўваліся прыбыткі і кантраляваць вядзенне дакументацыі[31].

Толькі выканаўшы місію па даследаванню злаўжыванняў пахавальных брацтваў, наш герой 19 жніўня 1868 г. прадпісаннем кіраўніка «Паўночна-Заходняга краю» быў уведзены ў склад пераўтворанай Камісіі па абмеркаванню габрэйскага пытання пры Упраўленні генерал-губернатара.

Трэба адзначыць, што летам 1868 г. адбылася важная падзея, якая чарговы раз змяніла лёс сям'і Гурвічаў. Не жадаючы спыняцца на адных толькі дэкларацыях пра адсутнасць асобнай габрэйскай нацыі ды неабходнасць «абрусення» габрэяў, Маісей Гурвіч 6 чэрвеня 1868 г. звярнуўся да Ковенскага праваслаўнага епіскапа з прашэннем аб хрышчэнні. 9 жніўня адбылася ўрачыстая цырымонія, пасля якой з Мікалаеўскага кафедральнага сабора Вільні выйшаў праваслаўны чалавек 33-гадовы Мікалай Пятровіч Гур'еў.

Гэта быў знак поўнага разрыву з габрэйскім светам, для якога перастаў існаваць Маісей Гурвіч. Як вядома, прыхільнікі іудаізму вельмі жорстка ставяцца да рэнегатаў. З імі перапыняюцца ўсе сацыяльныя сувязі, мужа альбо жонку, якія застаюцца габрэямі, сям'я заахвочвае да скасавання шлюбу, хаця заканадаўству Расійскай імперыі такі саюз не супярэчыў (дзеці павінны былі выхоўвацца ў хрысціянскай веры). Калі-некалі ў габрэйскіх сем'ях па выхрэсту нават чыталі памінальную малітву кадзіш. Прыняцце іншай веры азначала смерць габрэйскай душы. Такі ўчынак выклікаў не толькі сум, бо чалавек назаўсёды паміраў для сваіх былых адзінаверцаў, але таксама быў ганьбай для родзічаў.

Але ў выпадку з Гур'евымі-Гурвічамі распаду сям'і не адбылося. Жонка і дзеці пайшлі ўслед за бацькам. 17 лістапада 1868 г. адбылося хрышчэнне Вольгі Маісееўны Гурвіч і чатырох іх дзяцей. Цырымонія праходзіла з вялікай помпай у Санкт-Пецярбурзе, дзе на той момант у чыне генерал-ад'ютанта пры двары служыў былы Віленскі генерал-губернатар фон Каўфман, які пратэжыраваў Гурвіча апошнія два гады. Хрышчэнне адбылося ў дварцовай царкве Мікалаеўскага палаца, што дэманстравала важны сэнс падзеі, пэўнага доказу вернасці палітыкі «па перавыхаванню і цывілізаванню габрэяў».

Пра палітычны сэнс, кажа і тое, што хроснымі бацькамі сталі Канстанцін Каўфман і Яе Імператарская Высокасць вялікая княгіня Аляксандра Пятроўна, цётка Аляксандра II. У гонар пераемнікаў былая Вольга Маісееўна ўзяла імя Аляксандра Канстанцінаўна. Старэйшым дзецям, 11-гадовай дачцы і 10-гадоваму сыну таксама змянілі імёны. Дар'я стала Кацярынай, а Іосіф – Мікалаем. Малодшым пакінулі іх імёны – Аляксандр і Марыя[32].

Высакародныя хросныя працягвалі дапамагаць сям'і Гур'евых. Старэйшую дачку Кацярыну Гур'еву памясцілі ў сталічны інстытут імя прынца Альдэнбургскага, які славутая філантропка вялікая княгіня Аляксандра Пятроўна заснавала ў гонар свайго бацькі. Сын Мікалай паступіў у 3-ю санкт-пецярбургскую гімназію. Астатнія сямейнікі вярнуліся на радзіму. Мікалай Пятровіч Гур'еў 9 верасня 1869 г. атрымаў пасаду наглядчыка Люцынскага павятовага вучылішча. За тыдзень да гэтага ён здаў

экзамен на званне настаўніка рускай мовы[33]. Далейшы яго лёс невядомы.

Біяграфія гарадзенскага настаўніка Маісея Сямёнавіча Гурвіча – яскравы прыклад жыццёвага шляху прадстаўніка аднаго са шматлікіх у гісторыі Расійскай імперыі «страчаных пакаленняў». «*Людзі новага пакалення, не фанатыкі*»[34], – так з сімпатыяй называлі іх урадавыя чыноўнікі сярэдзіны XIX ст.

Аналізуючы дзейнасць гэтай плеяды «рэвалюцыянераў побыту», Генрых Сліозберг абвінавачваў іх у тым, што яны не змаглі стварыць сувязь паміж асветай і габрэйствам. У выніку з традыцыйнага жыцця вырываліся адзінкі, якія атрымалі «агульную» адукацыю. Яны спадзяваліся, што іх новае жыццё будзе добрым прыкладам для габрэйскіх мас, якія дабраахвотна зробяць выбар на карысць акультурацыі і адмовяцца ад замкнёнасці вызначаных Талмудам канонаў паўсядзённага жыцця. Але атрымалася па-іншаму. Часцей гэтыя «рэвалюцыянеры» ператвараліся ў рэнегатаў[35]. Габрэйскія асветнікі не атрымалі падтрымкі ад габрэйскіх мас, таму іх пратэст супраць састарэлых правілаў прывёў да выдалення саміх наватараў з габрэйскага грамадства, традыцыйны лад жыцця якога яны імкнуліся змяніць. Не дзіўна, што не пачутыя, маладыя радыкалы завяршалі свой адыход ад габрэйства прыняццем хрысціянскай веры. У выніку маладая габрэйская інтэлігенцыя часта ператваралася ў анацыянальную.

---

[1] Maurach M. Russische Judenpolitik. Berlin: Deutscher Verlag, 1939. 440 s.

[2] Eisenbach A. Emansypacja żydów na źemiach polskich 1785-1870 na tle europejskim. Warszawa: PIW, 1988. S. 48.

[3] Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў (далей – ЛДГА). Ф. 577, воп. 1, адз. з. 8. Арк. 113.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў (далей – НГАБ) у Мінску. Ф. 1430, воп. 1, адз. з. 9519. Арк. 2; НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 3, адз. з. 1934. Арк. 2 адв.–3.

[5] Дубнов С. М. Всеобщая история еврейского народа: в 5 т. СПб., 1914. Т. 5. Новейшая история еврейского народа (1789–1881). С. 376.

[6] Мужчыны і хлопцы, згодна з габрэйскай традыцыяй, не павінны здымаць у памяшканні галаўныя ўборы.

[7] Тора як і ўвесь ТаНаХ напісанаz на іўрыце, і пераклад яе на нямецкую мову

быў зроблены ў канцы XVIII ст. у Нямеччыне ідэолагам руху Гаскала Маісеям Мендэльсонам. Артадоксы лічылі яго бязбожным і ерэтычным.

[8] Кандель Ф. Очерки времён и событий из истории российских евреев: в 3 ч. Иерусалим: Тарбут, 1990. С. 163.

[9] Раввинские училища в России // Еврейская энциклопедия Брокгауза и Ефрона [Электронны рэсурс]. 2012. Рэжым доступу: http://ru.wikisource.org/wiki. Дата доступу 13.10.2014.

[10] ЛДГА. Ф. 577, воп. 1, адз. з. 25. Арк. 16.

[11] Хроника // Журнал Министерства народного просвещения. 1863. № 7 (июль). С. 23; Хроника // Журнал Министерства народного просвещения. 1865. № 4 (апрель). С. 27.

[12] ЛДГА. Ф. 577, воп. 1, адз. з. 25, арк. 16 адв.–17.

[13] Тамсама. Арк. 5 адв.-6.

[14] Бендетсон Н. Русско-еврейские училища в местечках // Рассвет. 1880. 28 августа. С. 1377.

[15] Бендетсон Н. Благотворительные учреждения вообще, больница, приют и талмуд-тора в частности // Рассвет. 1880. № 41. С. 1611.

[16] ЛДГА. Ф. 577, воп. 1, адз. з. 25. Арк. 17 адв.

[17] Гурвич М. Еврейский вопрос в действительном его виде // Виленский вестник. 1866. №№ 164, 166, 171, 174, 192.

[18] Маскіл – прыхільнік габрэйскага асветніцкага руху.

[19] ЛДГА. Ф. 577, воп. 1, адз. з. 8. Арк. 113.

[20] Журнал Министерства народного просвещения. 1865. Апрель. С. 16.

[21] ЛДГА. Ф. 378. Агульны аддзел. 1869 г., адз. з. 40. Арк. 111–113.

[22] Тамсама. Арк. 118 адв.

[23] Тамсама. Арк. 127 адв. -128.

[24] Тамсама. А. 142 (Кашэрны – дазволены ў ежу, у пераносным сэнсе – правільны, святы; кучкі – скажонае «кущи» – часовыя буданы, у якіх спажываюць ежу падчас свята Сукот).

[25] Тамсама. Арк. 147–148.

[26] Тамсама. Арк. 202 адв.

[27] ЛДГА. Ф. 577, воп. 1, адз.з. 25. Арк. 5 аб.–6.

[28] Тамсама. Арк. 38 адв.

[29] Еврейские братства // Виленский вестник. 1867. 21 ноября. С. 1.

[30] ЛДГА. Ф. 378. Агульны аддзел. 1867 г., адз. з. 1728. Арк. 15–15 адв.

[31] Тамсама. Арк. 16 адв.

[32] Тамсама. Арк. 21.

[33] Тамсама. Арк. 38 адв.

[34] Тамсама. Арк. 15.

[35] Слиозберг Г. Б. Дела минувших дней // Евреи в России: XIX век; ред. В. Е. Кельнер. М.: Новое литературное обозрение, 2000. С. 314.

*Аэлита Амбралевичюте,*
*PhD (Вильнюс)*

# Нелегальные коммерческие практики виленского купечества в 1824–1862 гг.[1]

Изучение становления виленского купечества и экономической деятельности сословия в 1824–1862 гг. обязывает исследователя обратить внимание на социокультурные, социополитические и социоэкономические процессы, в которых отразились изменения и трансформация общества. Следует заметить, что в этих процессах немаловажную роль сыграло создание законодательной базы. Законы, регулировавшие предпринимательскую деятельность, и контроль над их выполнением влияли на формирование купеческого сословия, на развитие предпринимательства в целом, косвенно воздействовали на выбор сферы деятельности купцов, и, возможно, на их креативность и формы поведения.

В таком контексте важным объектом изучения становится *Дополнительное постановление об устройстве гильдий и о торговле прочих состояний*, изданное 14 ноября 1824 г. Принятые изменения должны были привлечь в гильдии креативных, занимающихся коммерцией людей, повысить доход казны, и главное – создать благоприятные условия для образования среднего класса. Однако слегка измененная система разделения купцов на гильдии, от которых зависела величина налогов, вид и даже сфера деятельности, по-прежнему блокировала самостоятельный выбор формы коммерции, тем самым вынуждая купечество искать альтернативные пути.

*Дополнительное постановление* 1824 г. действовало вплоть до его изменения 1 января 1863 г., когда *Постановлением о пошлинах за право торговли и других промыслов* были внесены существенные поправки в законы, регулирующие коммерческую деятельность. В частности, была сокращена одна из гильдий, торговля разделена на три разряда (оптовую, розничною и мелочную), кото-

рые более строго определили сферы деятельности предпринимательских слоев, уменьшая возможности нелегальной деятельности купечества.

Следует заметить, что исследование создания экономической институциональной системы на макроуровне было бы не полным без контекста ее практического применения. Так же будет неполным исследование отдельных статей закона на микроуровне без контекста их практического действия. Соответственно, изучая действие законов Российской империи, их влияние на экономическое развитие и формирование предпринимательского слоя, важно наблюдать реакцию предпринимателей на вводимые новшества, обращать внимание на то, как законы воспринимались самими предпринимателями.

Иными словами, применяя терминологию Дугласа С. Норта, важно проследить, как на основе формальных правил создаются различные неформальные ограничения поведения[2], которые в свою очередь модифицируют формальные правила и распространяют их действие на различные сферы[3].

В данной статье, рассматривая действие законов Российской империи и их распространение на захваченных территориях с устоявшейся правовой системой через призму взаимодействия *формальных правил и неформальных ограничений поведения*, будет анализироваться формирование нелегальных практик (или нелегальной деятельности) коммерсантов на территории Виленской, Гродненской и Ковенской губерний. Объектом исследования стало виленское купечество, как наиболее яркая группа коммерсантов названных губерний в 1824–1862 гг.

Основным источником для решения выдвинутой проблемы являются протоколы проверок купеческих предприятий, жалобы купцов и другие документы, отражающие экономическую деятельность сословия, хранящиеся в Литовском государственном историческом архиве (Lietuvos valstybės istorijos archyvas). Также немаловажным источником в изучении данного вопроса является *Полное собрание законов Российской империи* (Собрание 1, Санкт-Петербург, 1824 г., Собрание 2, Санкт-Петербург, 1830 г., Собрание 3, Санкт-Петербург, 1886–1898 гг.).

В законодательном праве Российской империи до 1863 г. существовали три купеческие гильдии, а потом остались только две[4]. Разделение купцов на гильдии зависело от объявляемого *по совести* капитала, который с 1807 г. составлял: первой гильдии – 50 000 руб., второй – 20 000 руб., третьей – 8000 руб. В 1839 г. размеры гильдейских капиталов были переведены на серебро (1:3,5), соответственно – 15 000, 6000 и 2400 руб. В 1861 г. размер объявляемого капитала второй гильдии был увеличен до 7500 руб. и до 2750 руб. – третьей[5]. Налоги считались от суммы объявляемого капитала: в 1824 г. купеческие налоги по первой гильдии составляли 2200 руб., по второй – 800 руб., по третьей – 220 рублей (и 132 руб. в льготных губерниях)[6].

В 1839 г. был введен географический коэффициент, а суммы налогов также переведены на серебро. В результате без других налогов купец первой гильдии за свидетельство платил 660 руб. (евреи – 540 руб.), второй гильдии – 264 рубля. Купцы третьей гильдии, в зависимости от местности платили 66 руб. – в столицах, портовых городах и губернских городах, в других городах и местечках – 43 руб., в льготных – 34 руб. Еще был добавлен 0,25% сбор с купеческих капиталов на общие губернские повинности и особый налог на вспомогательный капитал. Также полагалось выкупать особые билеты на предприятия, если их число по одному свидетельству было больше трех (стоимость билета по первым двум гильдиям и крестьянским свидетельствам двух первых разрядов в столицах – 30 руб., в остальных городах – 23 руб., по третьей гильдии или крестьянскому свидетельству третьего разряда: в столицах – 23 руб., в остальных городах – 15 руб.[7] Именным Высочайшим указом от 30 декабря 1861 г. был изменен размер налогов. Цена свидетельства первой гильдии уменьшалась до 600 руб. (для евреев осталась прежней – 540 руб.), второй гильдии – была поднята до 300 руб., третьей – до 150 руб.[8]

До 1863 г. купцам первой гильдии разрешалось заниматься внутренней и заграничной оптовой и розничной торговлей, импортировать и экспортировать товары, содержать фабрики и заводы (кроме винокуренных), иметь собственные корабли и речные суда, неограниченное число промышленных заведений, магазинов, ла-

вок, заниматься финансовыми операциями, учетом векселей, банкирскими делами, содержать страховые конторы, заниматься казенными подрядами и откупами, заключать частные контракты на неограниченную сумму, заниматься розничной торговлей в городе, где были приписаны и в другом городе, выбрав свидетельство купца третьей гильдии.

Купцам второй гильдии разрешалось заниматься теми же делами, но с ограничениями: производить оптовую и розничную внутреннюю и заграничную торговлю (сумма годового оборота последней не должна превышать 300 000 руб., за один раз ввозя товар на сумму не превышающую 50 000 руб.), входить в казенные подряды и откупа, заключать частные контракты на сумму до 50 000 руб. Одновременно запрещалось содержать страховые конторы и банкирские дома.

Купцу третьей гильдии разрешалась розничная торговля в городе и уезде местным и импортным товаром, «*купленным от Российских купцов первых двух гильдий и от крестьян, торгующих по свидетельствам первых двух родов*», содержать только определенные фабрики и заводы (кожевенные, воскобелильные, свечные, салотопильные, маслобойные, поташные, селитряные, табачные, кирпичные, горшечные, гончарные, лесопильные, дегтярные и некоторые другие) с числом работников, не превышающем 32 чел. Также разрешалось содержать корабли для перевозки товаров купцов первых двух гильдий, малые речные суда для собственных перевозок внутри империи, содержать питейные дома и портерные лавки, магазины, трактирные заведения, ренсковые погреба, постоялые дворы, торговые бани и др. торговые заведения, число которых не должно было превышать трех (за остальные купец третей гильдии был обязан платить пошлины в размере 50 руб., а в обеих столицах – по 75 руб.), закупать товар внутреннего производства в уезде, где выкуплено свидетельство и на ярмарках и торговать им на рынках и пристанях близлежащих уездов, вступать в подряды и откупа, заключать частные сделки на сумму, не превышающую 20 000 рублей[9].

Иными словами предпринимательская деятельность купечества первой гильдии не ограничивалась ни в плане выбора формы

деятельности, ни в плане оборотов капитала. Вторая гильдия была несколько ущемлена в выборе деятельности, также ограничивался годовой оборот капитала по некоторым статьям, а третья, как стартовая площадка для передвижения вверх по коммерческой лестнице – удостоилась лишь малой толики дозволенного купцам первых двух гильдий.

Купеческие гильдии также давали право на получение различных социальных привилегий. Так, к купцам первой и второй гильдии не применялось телесное наказание, разрешалось ездить в карете. Купцы всех гильдий освобождались от рекрутской повинности (с 1807 г. была снята и особая плата за рекрутскую повинность), от подушной подати. Купцам первой гильдии было даровано право приезжать к императорскому двору, носить шпагу (при русской одежде – саблю), мундир той губернии, где купец был записан, ездить в карете запряженной четверкой лошадей. Купцы, занимавшиеся только оптовой торговлей или крупными финансовыми операциями, назывались *негоциантами*, занимавшиеся только банковскими операциями – *банкирами*. Купцы избирались в органы местного самоуправления и в торговые депутации[10].

За важные заслуги перед государством лица купеческого звания награждались медалями и орденами[11]. Законами 1800 и 1810 гг. купцы первой гильдии, состоявшие в ней не менее 12 лет, за особые заслуги в области торговли могли быть удостоены звания Коммерции Советников, а за отличия по мануфактурной промышленности – звания Мануфактур Советников[12]. С 10 апреля 1832 г. по манифесту Николая I, купцам была предоставлена возможность добиваться звания почетного гражданина. До 1863 г. звания почетного гражданина удостаивались лица, пробывшие в первой гильдии не менее 10 лет, во второй – не менее 20 лет. Почетный гражданин сохранял те же основные привилегии, как и купец. Это звание не зависело от успехов коммерческой деятельности и передавалось по наследству, давало право называться «Ваше благородие»[13].

Таким образом, различными стимулами и ограничениями правительство пыталось привлечь в купечество как можно больше предприимчивых людей. Однако разделение крупного предпри-

*Валянціна Лебедзева*
*(Гомель)*

# Парадыгма сацыяльнай мабільнасці рэгіянальнай гарадской эліты ў трансфармацыях XIX–XX стст. (*на прыкладзе рэчыцкай дынастыі Рыкаў*)

Адмена прыгоннага права пачала доўгую эпоху мадэрнізацыі Расійскай імперыі, вынікам якой быў у тым ліку злом жорсткай саслоўнай структуры і крокі да фарміравання адкрытай стратыфікацыйнай сістэмы. Запушчаныя ў дзеянне механізмы сацыяльнай мабільнасці выводзілі на грамадскую арэну не толькі імперскага цэнтра, але і рэгіёнаў эліту новай фармацыі – носьбітаў высокай актыўнасці ў розных грамадскіх сферах.

Эканамічную аснову фарміравання гэтай новай фармацыі складала ўжо не манаполія на зямельную ўласнасць і саслоўны патэрналізм, а прадпрымальніцтва буржуазнага тыпу, хаця вырастала яно найчасцей з магчымасцей буйнога землеўладання. Гэты працэс, як вядома, вельмі актыўна развіваўся ў Беларусі і абумовіў дамінаванне ў групе гарадской правінцыяльнай эліты выхадцаў з дваранска-памешчыцкага класа, але ў яе таксама рэкрутаваліся прадстаўнікі мяшчанства, духоўнага саслоўя і т. п. Здабыўшы ключавыя эканамічна-прадпрымальніцкія нішы і ўплыў, прадстаўнікі групы актыўна засвойвалі новыя статусы і ролі, дэманстравалі новыя мадэлі паводзін і самарэалізацыі. Калі на стартавым этапе гэнэзісу рэгіянальнай эліты важным каналам мабільнасці заставалася паходжанне, землеўладанне і дачыненне да дзяржаўнай сферы, то на рубяжы XIX–XX ст. у дзеянне ўступіў фактар асабістай канкурэнтаздольнасці, які прадугледжваў наяўнасць спецыяльнай адукацыі і кампетэнтнасці, уключанасць у грамадскія структуры, арыентацыю на выніковасць уласнай дзейнасці і яе сацыяльны эфект.

Месцам прыкладання намаганняў гэтай групы становіцца менавіта горад, хаця ў рэалізацыі яе прадпрымальніцкіх праектаў даволі часта захоўваюць сваё значэнне маёнткавыя прадпрыемствы.

Выкарыстоўваючы, хаця і ў значнай ступені абмежаваныя для Беларусі, магчымасці палітычных рэформ, прадстаўнікі групы прасоўваліся ў эканамічныя структуры, органы кіравання і самакіравання, адукацыйныя, дабрачынныя ды інш. грамадскія ўстановы. Сцвярджэнне і вага гэтай групы ў значнай ступені з'яўлялася паказчыкам і ўмовай урбанізацыі, а яе сыходжанне з гістарычнай арэны ў савецкі перыяд мела наступствам заняпад перыферыйных гарадоў.

Узыходжанне новай генерацыі дзеячаў было даволі імклівым, а яе патэнцыял у назапашванні «грамадскага капіталу» – надзвычай высокім. Аднак ёй было наканавана надзвычай кароткае гістарычнае існаванне. У савецкую эпоху рэгіянальная эліта была залічаная да «класавага ворага», супраць якога «пралетарская» сістэма вяла барацьбу на фізічнае альбо сацыяльнае вынішчэнне.

Амаль класічным прыкладам гістарычнага лёсу гэтай групы і страчаных разам з ёй сацыяльных магчымасцей служыць радавод рэчыцкай прадпрымальніцкай дынастыі Рыкаў.

Аналіз гэтага прыкладу цікавы тым, што Рэчыцкі рэгіён вызначаўся адметнымі і, на наш погляд, спрыяльнымі ўмовамі для фарміравання новай сацыяльнай страты, а лёс Рыкаў яскрава выяўляе парадыгму і механізмы яе мабільнасці ў гістарычным адрэзку ад расійскай да савецкай мадэрнізацый.

Будучы адным з самых вялікіх па тэрыторыі ў Мінскай губерні, Рэчыцкі павет не мог прэтэндаваць на лідэрства ў сельскагаспадарчай вытворчасці з прычыны малаўрадлівых глебаў і высокай лясістасці. Затое з развіццём прамысловасці лес стаў сапраўдным багаццем рэгіёна. У пачатку ХХ ст. тут з'явілася сапраўдная індустрыя лесараспрацовак і дрэваапрацоўчай вытворчасці. Яе аснову складалі каля дзесятка лесапільных прадпрыемстваў і буйная запалкавая фабрыка «Днепр». У першае дзесяцігоддзе ХХ ст. штогадовае абарачэнне ў лясной галіне складала каля 1,25 млн. руб.[1]

Эканамічная роля Рэчыцы была таксама абумоўлена яе сувяззю

з Дняпроўскім водным шляхам. Горад пераўтварыўся ў значны порт. Прыстані меліся таксама ў Горвалі, Холмечы і Чорным. Па маштабам лесасплаву павет займаў першае месца ў Мінскай губерні. Уніз па Дняпру ад Рэчыцы ішлі галоўным чынам лясныя тавары. Лесаматэрыял масава адпраўляўся на Украіну, дзе выкарыстоўваўся ў якасці крапежнага матэрыялу на шахтах Данецкага вугальнага басейна і ў будаўніцтве. Уверх па Дняпру адпраўляліся цукар, пшаніца, соль, а таксама сыравіна для вытворчасці.

У 1886 г. праз Рэчыцкі павет прайшоў участак Палескіх чыгунак «Лунінец–Гомель», што надало гораду якасна новае транспартнае значэнне. У 1908 г. Рэчыца займала першае месца сярод станцый Палескіх чыгунак па транспартыроўцы лесу (больш 4 млн. пудоў), а Васілевічы – чацвёртае[2], што сведчыла пра інтэнсіўнасць эканамічных сувязей рэгіёна.

Роля важнай камунікацыйнай зоны разам з актыўнай прамысловай распрацоўкай мясцовых рэсурсаў падвысіла прывабнасць Рэчыцкага павета для прадпрымальніцтва, стварыла ўмовы для ўнутрыгарадскіх сацыякультурных мадэрнізацый. У гэтым полі адбывалася фарміраванне і самарэалізацыя мясцовай эліты, у першых шэрагах якой ішла сям'я Рыкаў.

Адметна тое, што ступень паспяховасці і наватарства прадстаўнікоў дынастыі абумовілі іх ўяўленне як нечага не тутэйшага, запазычанага. Да нашых дзён захоўваўся «генеалагічны міф» пра нямецкае паходжанне сям'і і пра вяртанне яе прадстаўнікоў ў Нямеччыну падчас Другой сусветнай вайны. Падставу для гэтага меркавання давала таксама руская форма прозвішча «Рикки», якая, нібыта, мела нямецкую аснову.

Аднак даследаванні развеялі гэты міф. Пра больш глыбокія карані сям'і пакуль вядома мала, аднак заснавальнік дынастыі мешчанін мястэчка Баркулабава Быхаўскага павета Магілёўскай губерні Афанасій Фёдаравіч насіў тыпова беларускую форму прозвішча «Рык». Так ён пазначаны сярод навучэнцаў старэйшай у Беларусі і даволі прэстыжнай Магілёўскай мужчынскай гімназіі[3]. Можна дапусціць, што русіфікацыя прозвішча адбылася ў працэсе ваеннай і дзяржаўнай кар'еры А. Ф. Рыка, хаця ў дакументах савецкага перыяду сустракаецца «кампрамісны» варыянт – «Рыкк».

Службовы шлях заснавальніка дынастыі адбываўся ў межах традыцыйнай для дарэформеннай Расіі мадэлі. «Сацыяльным ліфтам» для многіх прадстаўнікоў яго пакалення стаў удзел у Крымскай вайне і яе галоўнай падзеі – абароне Севастопаля. У 1863–1864 гг. Афанасій Рык выявіў лаяльнасць да царскай улады і быў прыцягнуты да падаўлення паўстання. Урад адзначыў яго асабістыя заслугі ардэнамі св. Станіслава 2-й і 3-й ступені, св. Ганны 3-й ступені[4]. Кар'ернае ўзыходжанне закончылася чынам стацкага саветніка, што азначала набыццё спадчыннага дваранства, уваходжанне ў вышэйшую наменклатуру з адпаведным маёмасным забеспячэннем. Калі А. Рык вярнуўся на радзіму, ён ужо меў значныя землеўладанні на Кіеўшчыне і Чарнігаўшчыне. Неўзабаве ён выкупіў у прыватную ўласнасць роднае Баркулабава, а ў 1891 г. – багаты маёнтак Салтанова ў Рэчыцкім павеце і вёску Маладуша, а таксама частку гарадской зямлі ў самой Рэчыцы.

У 1900 г. Афанасій Рык заклаў у павятовым цэнтры лесапільны завод, які праз дзесяць год даваў прадукцыі на 6 806 руб. Рэчыцкія вінакурны і рэктыфікацыйны заводы мелі гадавую вытворчасць у 14 561 руб. У Салтанове пачаў дзейнічаць млын, а ў Маладушы – яшчэ адзін вінакурны завод. Буйнейшай вытворчасцю Рыка заставаўся рэктыфікацыйны завод у мястэчку Бахмач Канатопскага павета Чарнігаўскай губерні з гадавой вытворчасцю ў 90 тыс. руб.[5] Пераўтварэнне жыхара беларускага мястэчка ў расійскага саноўніка было паказальнікам высокага сацыяльнага ўзыходжання. Але далейшая кар'ера А. Рыка не выйшла за межы даволі традыцыйнай і пашыранай у Беларусі ролі памешчыка-прадпрымальніка ў даволі традыцыйных галінах вытворчасці. Ва ўсялякім выпадку, звесткі пра яго грамадскую чыннасць не захаваліся.

Сыны А. Рыка скарысталі назапашаныя бацькам стартавыя магчымасці, але міжпакаленная мабільнасць гэтай сям'і адбывалася ўжо на новай аснове. Нашчадкі прадэманстравалі новую мадэль паводзін. Яны адмовіліся ад найбольш перспектыўнага і традыцыйнага для першай паловы XIX ст. шляху ваеннай службы. Старэйшы Уладзімір (1869 г. н.) закончыў адну з самых прэстыжных вышэйшых устаноў Расіі – Маскоўскую Пятроўскую сельскагаспадарчую акадэмію. У 1893 г. ён далучыўся да справы

бацькі, каб выкарыстаць набытыя веды па аграноміі і лясной справе ў сямейных уладаннях. Малодшы на пяць гадоў Барыс у 1899 г. скончыў не менш прэстыжную Рыжскую палітэхніку і таксама вярнуўся да бацькоўскай гаспадаркі[6]. Новае пакаленне сям'і дэманстравала дынамічныя і якасныя змены ў ментальнасці і паводзінах рэгіянальнай эліты, якая не абапіралася на дзяржаўна-патэрналісцкі рэсурс, а кіравалася прафесійнымі ведамі, прадпрымальніцкай свядомасцю, прагматычным разлікам і грамадзянскімі каштоўнасцямі.

Адметна, што пры даволі значнай маёмасці ва ўкраінскім Чарназем'і – найбольш прыдатным аграрным рэгіёне – Рыкі абралі месцам свайго пастаяннага пражывання і прыкладання асабістых прадпрымальніцкіх і грамадскіх ініцыятыў менавіта Рэчыцкі павет. У 1891 г. яны перабраліся сюды. Гэта, на наш погляд, сведчыла аб іх арыентацыі на мадэрнізацыйныя і ўрбаністычныя працэсы.

У 1911 г. уся ўласнасць Афанасія Фёдаравіча Рыка пераходзіць да яго сыноў на правах сумеснага валодання. Галоўнай справай братоў становіцца новая і ўнікальная для беларускага Палесся вытворчасць, звязаная з металаапрацоўкай – Рэчыцкі цвікава-дротавы завод.

Стварэнне прадпрыемства запатрабавала значных сродкаў, і браты пайшлі на крок, які яшчэ раз пацвердзіў іх прыярытэт у абранні рэгіёна дзелавой актыўнасці. Яны прадаюць маёнтак Русакі ў Радамысльскім павеце Кіеўскай губерні, Бахмачскі завод, а вось Салтанова і рэчыцкая лесапілка былі захаваныя, хаця і закладзеныя ў Руска-Азіяцкім банку.

У маі 1912 г. паравы цвікава-дротавы завод братоў Рык пачаў вытворчасць пры дзесяці рабочых. Кіраўніцтва прадпрыемствам узяў на сябе Барыс Афанасьевіч. Дзякуючы дняпроўскай артэрыі і дзелавым кантактам з украінскімі губернямі, была вырашана самая складаная праблема. Метал (катанка) баржамі перавозіўся ў Рэчыцу з Кацярынаслаўскай губерні. Станкі былі набытыя ў Нямеччыне, у знакамітых фірм «Кук» і «Кайзер». Дзеля будаўніцтва карпусоў і мантажу абсталявання запрашалі спецыялістаў з усёй Расіі і разам з карпусамі завода ўзводзіліся дамы для персаналу. Прадпрыемства дынамічна развівалася. Ужо напрыканцы 1912 г. колькасць рабочых вырасла да 28 чалавек, а сутачны выпуск прадукцыі – з 30 да 100 пудоў[7].

Прадпрымальніцкая інтуіцыя не падманула братоў. Першая сусветная вайна стала моцным стымулам яго развіцця. Завод крэдытаваўся Галоўным ваенна-тэхнічным упраўленнем Генеральнага штаба Расійскай арміі. Вытворчасць была перапрафіліяваная на выпрацоўку калючага дроту – востра запатрабаванага матэрыялу ў будаўніцтве ваенных умацаванняў, а таксама вялікапамерных цвікоў для вырабу пантонаў.

Да 1917 г. завод братоў Рыкаў пераўтварыўся ў адно з найбольш значных і тэхнічна наватарскіх вытворчасцей Беларусі, а маёмасць яго ўладальнікаў ацэньвалася на суму 120 тыс. руб. У Рэчыцы акрамя цвікава-дротавага заводу ім належалі лесапільны і цагляны заводы, паравы млын, некалькі дамоў. У іх уласнасці заставаліся таксама спіртавыя заводы ў Рэчыцкім і Быхаўскім паветах, Кіеўскай і Чарнігаўскай губернях, прыстані на Дняпры з пад'яздной чыгуначнай веткай. Браты ўвайшлі ў спіс 50 найбольш паспяховых і заможных людзей «Паўночна-Заходняга краю»[8] разам з такімі прадпрымальнікамі, як гарадзенскі «тытунёвы кароль» І. Шарашэўскі, пінскія фанера-запалкавыя магнаты Лур'е, мінска-гомельскія Лекерты ды інш.

Акрамя паспяховага бізнэсу, статусна-ролевы партрэт Рыкаў уключаў разнастайную грамадскую чыннасць, а таксама мецэнацтва.

Барыс Афанасьевіч Рык з 1902 г. уваходзіў у губернскую Апеку дзіцячых прытулкаў, якая забяспечвала сродкамі і кантралявала ўтрыманне сірот усёй Мінскай губерні. У 1915 г. ён быў абраны ў склад Рэчыцкай земскай управы. На працягу 1914–1916 гг. актыўна падтрымліваў дзейнасць мясцовых аддзяленняў «Таццянінскага камітэта» і Чырвонага крыжа.

Уладзімір Афанасьевіч быў абраны ганаровым міравым суддзёй, сябрам Павятовага камітэта па размеркаванню прамысловага падатку, ганаровым папячыцелем рэчыцкай рамеснай школы, уваходзіў у кіраўніцтва мясцовага аддзялення Вольна-пажарнага таварыства. З 1907 г. ён быў дэпутатам Рэчыцкага дваранскага сходу. Таксама быў абраны ў склад Губернскага камітэту па справах земскай гаспадаркі.

Заўважым, што на адміністратыўных і грамадскіх пасадах Рыкі

даволі актыўна абаранялі і лабіравалі інтарэсы свайго рэгіёну. Так, у чэрвені 1908 г. на пасяджэнні губернскага камітэта па справах земскай гаспадаркі Уладзімір Рык рашуча выступаў за будаўніцтва чыгуначнай веткі Жлобін – Кіеў не праз Мазыр, а праз Рэчыцу і аргументаваў гэта інтарэсамі насельніцтва і эканомікі ўсяго Рэчыцкага павета[9].

У. Рык абіраўся галосным Рэчыцкай земскай думы ад яе першай у 1913 г. і да апошняй у 1917 г. кадэнцый, дзе быў ініцыятарам і абаронцам маштабных праектаў сацыяльнага развіцця. Ён неаднаразова даводзіў недапушчальнасць эканоміі на медыцынскай дапамозе насельніцтву і неабходнасць адкрыцця валасных фельчарскіх пунктаў, выступаў з прапановамі па добраўпарадкаванні горада і мясцовых дарог, будаўніцтве каменных мастоў, акультурванні забалочаных глебаў і г. д. У 1913 г. У. Рык увайшоў у земскую школьна-будаўнічую камісію, якая імкнулася да ўвядзення ў павеце ўсеагульнай пачатковай адукацыі і планавала будаўніцтва дзесяці новых школ, у тым ліку за кошт прыцягнення сродкаў заможных грамадзян. У лістападзе 1917 г. разам з іншымі галоснымі Рэчыцкай гарадской думы Уладзімір Рык прагаласаваў за неабходнасць удзелу і абранне дэлегата ад Рэчыцы на Усебеларускі сход, а затым слухаў яго справаздачу[10].

Такім чынам, праз рыначнае мысленне новая рэгіянальная эліта падыходзіла да разумення рэгіянальных інтарэсаў – не толькі эканамічных, але сацыяльных і культурных. На наш погляд, у перспектыве гэтая група была здольная ўзняцца да ўсведамлення неабходнасці нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі і стаць яго апорай.

Невядомыя ацэнка і стаўленне Рыкаў да кастрычніцкага перавароту, але ў адрозненні ад такіх прадстаўнікоў рэчыцкай эліты як прадпрымальнік А. Шышкін ці землеўладальнік і грамадскі дзеяч П. Патон, яны не пакінулі радзіму. У савецкі час грамадскі патэнцыял братоў застаўся незапатрабаваным, але ўлады не адмовіліся ад выкарыстання іх як «буржуазных спецаў» у эканамічных мадэрнізацыях савецкага тыпу.

У лютым 1919 г. уласнасць Рыкаў, у тым ліку і цвікава-дротава завод, была нацыяналізавана. Барыс Рык быў пакінуты на пасадзе

«тэхнарука», г. зн. інжынернага і тэхналагічнага кіраўніка былога ўласнага прадпрыемства. Афіцыйным дырэктарам рэчыцкі рэўкам прызначыў бальшавіцкага актывіста Барыса Ізраілевіча Эвенчыка. На рахунку Б. Рыка ў савецкі час – выратаванне завода ад яго дэмантажу і вывазу ў Польшчу падчас савецка-польскай вайны, калі летам 1920 г. Рэчыца больш за месяц знаходзілася пад акупацыяй. Перамовы аб лёсе завода ён вёў непасрэдна ў Варшаве[11].

Інжынерны досвед Барыса Афанасьевіча быў таксама выкарыстаны пры будаўніцтве і мантажы ў пачатку 1920-х гг. Рэчыцкай гарадской электрастанцыі.

Інтэграцыя ў савецкую сістэму Уладзіміра Рыка, чыя рэпутацыя актыўнага грамадскага дзеяча выклікала падазронасць новых уладаў, адбывалася больш складана, хаця прыход саветаў ён прыняў без пярэчанняў. Як сведчылі сяляне вёскі Салтанова, у 1918 г., калі стала вядома пра нацыяналізацыю зямлі і яе «пераход да працоўнага класа», У. Рык добраахвотна выехаў з маёнтка і пакінуў усю яго ўласнасць некранутай. Ёсць падставы меркаваць, што перыяд нямецкай і польскай акупацыі Рэчыцы Уладзімір Афанасьевіч правёў у сталіцы Украінскай Народнай Рэспублікі Кіеве і толькі пасля заняцця Украіны Чырвонай Арміяй ў чэрвені 1920 г. вярнуўся на радзіму.

Рэчыцкія ўлады ўчынілі следства наконт яго лаяльнасці, прымусіўшы да паказанняў Валасны камітэт в. Салтанова, мясцовага міліцыянера ды інш. Дакументы, звязаныя з эпізодам вяртання У. Рыка, яскрава ілюструюць выніковасць намаганняў рэгіянальнай эліты па назапашванню «сацыяльнага капіталу» і выкрываюць ідэйна-палітычную прыроду бальшавіцкай дактрыны «класавай барацьбы».

На зварот У. Рыка ў «Рабочы камітэт савецкай гаспадаркі Салтанова» за дазволам пасяліцца ў сваім доме часова, «да падшукання працаўладкавання», быў скліканы агульны сход саўгаса вёскі Салтанова. Змест «Прыгавору», вынесенага сходам, хутчэй за ўсё супярэчыў планам яго арганізатараў: *«…1) за час 30-гадовага валодання і кіравання маёнткам Рык не толькі заўсёды быў добрым суседам, але і незаменным нашым абаронцам і дарадцам, нікому не адмаўляючы ў парадзе і дапамозе, якую шырока праяўляў*

*як службовец у былых сялянскіх і судовых установах; 2) ён не вёў грабежніцкай гаспадаркі з мэтай чужым потам набіць свае кішэні, а ўсе прыбыткі з маёнтка ўкладваў у пабудову і ўдасканаленне прамысловых прадпрыемстваў, у значнай ступені даваўшых жыццё мясцовасці; 3) ён выбудаваў для нас школу, ніколі нікога не прыцясняў а, наадварот, рабіў усялякія льготы і уладжваў усё міралюбіва […]».*

Прыгавор падпісалі 80 сялян, з якіх 62 былі непісьменнымі, што можа сведчыць пра іх прыналежнасць да катэгорыі маламаёмасных. Зацвердзіў рашэнне сходу «Рабочы камітэт саўгаса»: «*Усе рабочыя, з якіх некаторыя працавалі з Вамі па 20 год, не толькі нічога не маюць супраць пражывання Вашай сям'і ў Саўгасе, але і лічаць сябе абавязанымі ўсімі сіламі палегчыць яе існаванне ў памяць добрых і справядлівых Вашых да іх адносін у перыяд працяглай сумеснай працы па паляпшэнні Салтанова і па стварэнні у ім заводаў, якія кармілі столькіх людзей і ў такой ступені давалі жыццё мясцовасці*»[12].

У падтрымку У. Рыка выступіў таксама і Рэчыцкі выканкам, які хадайнічаў перад губернскім лясным пададдзелам аб прызначэнні «вучонага агранома» загадчыкам мясцовага лясніцтва. Аргументацыя савецкай структуры амаль супала з прыгаворам сялянскага сходу: «*Былы лесаўладальнік вёў рацыянальную гаспадарку ва ўласных лясах […] і таму служба яго ў гэтым лясніцтве вельмі пажадана, тым больш, што В. А. Рык з навакольным насельніцтвам знаходзіўся ў самых лепшых добразычлівых адносінах*»[13].

Аднак перыяд кампрамісу паміж былой элітай і бальшавіцкай уладай працягваўся нядоўга. У кастрычніку 1921 г. Уладзімір Афанасьевіч быў арыштаваны і пэўны час правёў у гомельскай губернскай турме[14]. На жаль, прычына і абставіны гэтага арышту застаюцца невядомымі. Але гэта быў толькі першы знак трагічнага павароту ў лёсе дынастыі.

Вясной 1924 г. уся сям'я Рыкаў папала ў катэгорыю «лішэнцаў», што азначала не толькі пазбаўлення палітычных правоў, але і непазбежнае звальненне з адказных пасад, што і здарылася ў той жа год. Братам прыгадалі іх «памешчыцка-буржуазнае мінулае», хаця ад іх маёмасці амаль нічога не засталося. Так, у карыстанні

Уладзіміра Афанасьевіча, на руках якога знаходзілася сям'я з шасцю непрацуючымі, было дзве дзесяціны пашы, тры сенакосу і адзін конь – узровень мінімальнай серадняцкай гаспадаркі. Тым не менш, уся сям'я Уладзіміра, уключаючы жонку, сталага веку цешчу, а таксама пецярых дзяцей, старэйшаму з якіх было 18, а малодшаму 5 год, апынуліся ў катэгорыі адрынутых[15].

Барысу Афанасьевічу пасля доўгіх намаганняў удалося ўладкавацца на запалкавую фабрыку «Днепр», дзе ён адпрацаваў інжынерам яшчэ амаль дзесяць гадоў.

Уладзімір Рык палічыў за лепшае «згубіцца». У 1926 г. разам з сям'ёй ён перабіраецца ў Маскву, дзе яшчэ з часоў студэнцтва ў яго захаваліся сувязі. Тут яму ўдалося набыць кватэру для сям'і, але ўладкавацца на працу ў сталіцы «лішэнцу» было немагчыма. Гэта атрымалася зрабіць толькі ў райцэнтры Яфрэмаў Тульскай губерні. Можна меркаваць, што працаваў ён на мясцовым спіртавым заводзе – галоўнай вытворчасці райцэнтра. Гэтая справа была яму добра вядома яшчэ з сямейнага бізнесу. Але і тут злы рок напаткаў Уладзіміра Афанасьевіча. У 1932 г. ён памёр ад сэпсісу ў выніку траўмы нагі[16].

Яшчэ больш страшны канец напаткаў Барыса Афанасьевіча. У лістападзе 1933 г. разам з вялікай групай спецыялістаў і рабочых рэчыцкіх і гомельскіх запалкавых прадпрыемстваў ён быў арыштаваны па абвінавачванню ў *«прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі і здзяйсненні шкодніцкай і дыверсійнай работы ў запалкавай прамысловасці СССР»*. Пастановай Калегіі ОГПУ Б. А. Рык быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання і 22 мая 1934 г. расстраляны. Сям'і, якая засталася без сродкаў існавання, па правілах чэкісцкай гульні было выдадзена пасведчанне аб яго высылцы на Беламорканал, і родныя доўга спадзяваліся на яго вяртанне. Поўнае апраўданне Б. А. Рыка было зроблена ўжо ў першую хвалю рэабілітацый – у кастрычніку 1956 г.[17] Можна амаль з упэўненасцю меркаваць, што такі самы лёс чакаў бы і Ўладзіміра Рыка ў 1930-я гг., калі б не смерць.

Удава Барыса Афанасьевіча разам з трыма малодшымі дзецьмі перажыла акупацыю, а пасля вайны перабралася ў Маскву да ўдавы Уладзіміра (дарэчы, сваёй роднай сястры).

Савецкая рэпрэсіўная сістэма не абышлася вынішчэннем уласна прадстаўнікоў разгляданай групы. Яна прыклала намаганні да разрыву пакаленняў, вынішчэння гістарычнай і сямейнай памяці пра іх саміх і іх чыннасць. Гэта сістэма эфектыўна спрацавала на паніжэнне грамадскіх статусаў усіх нашчадкаў братоў Рыкаў. У 1927 г. былі адлічаныя з вышэйшых навучальных установаў Ленінграда сыны Уладзіміра Аляксандр і Уладзімір. Яны так і не атрымалі вышэйшай адукацыі. Але здолелі застацца з сям'ёй у Маскве як «лішэнцы». Уладзімір пэўны час жыў у Новачаркаску, а пасля вяртання ў Маскву да маці працаваў рабочым на аўтамабільным заводзе імя Сталіна. Аляксандр асеў у Аляксандраўску (напэўна, у тым, што ў Луганскай вобласці), дачка Наталля апынулася аж ва Ўладзівастоку. У Мардовію з'ехала дачка Барыса Тамара, у Ленінград – Ірына[18].

Аднак цалкам вынішчыць закладзены мінулымі пакаленнямі дух грамадзянскай адказнасці і патрыятызму не ўдалося. Пра гэта сведчыць тое, што на савецкі фронт Другой сусветнай вайны пайшлі ўсе чатыры сыны Барыса Афанасьевіча, прычым двое – добраахвотна і не па ўзросце. Рыгор і Барыс былі параненыя, а сярэдні Дзмітрый загінуў у баях. Ваявалі таксама і сыны Ўладзіміра – Аляксандр і Аляксей.

Ніводнага нашчадка рэчыцкіх прадпрымальнікаў і грамадскіх дзеячаў не засталося на радзіме. У часы савецкага «застою» ў Салтанове былі зруйнаваныя магілы Афанасія Фёдаравіча, яго жонкі і дачкі Марыі. Сёння нашчадкі Рыкаў жывуць у Падмаскоўі і толькі ў апошнія гады пачалі аднаўляць сямейную памяць. Важныя крокі па аднаўленні памяці выбітных гарадскіх дзеячаў зробленыя, нарэшце, і ў Рэчыцы. У 2012 г. падчас святкавання 100-годдзя Рэчыцкага метызнага завода была ўсталяваная дошка ў памяць Уладзіміра і Барыса Рыкаў. Таксама матэрыялы пра заснавальнікаў прадпрыемства былі ўключаныя ў юбілейнае выданне, апублікавана некалькі даследчыцкіх і папулярных матэрыялаў[19].

Прыклад адной дынастыі ўсяго толькі аднаго палескага павета сведчыць, што на рубяжы XIX–XX ст. у беларускай правінцыі ішло дынамічнае фарміраванне першага пакалення грамадскай эліты новай якасці, надзеленай значным сацыяльна-стваральным патэн-

цыялам і актыўнасцю. Гэта новая, перш за ўсё гарадская група дэманстравала пошукі адэкватных адказаў на гістарычныя выклікі, звязаныя з эканамічнымі і сацыяльнымі трансфармацыямі і ўзрушэннямі пачатку XX ст. На жаль, савецкая сістэма не здолела ацаніць, развіць і доўгатэрмінова скарыстаць гэты патэнцыял. Трагічныя лёсы асобных прадстаўнікоў рэгіянальнай эліты, таксама як і ўсёй групы сталі безумоўнай нацыянальнай гістарычнай стратай Беларусі.

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей - НГАБ). Ф. 295, воп. 1, адз.з. 5468. Арк. 21.

[2] Очерк 25 лет эксплуатации Полесских казенных железных дорог (1884–1909 гг.). Вильна, 1909. С. 47.

[3] Адрес-календарь Могилевской губернии на 1885 год. Могилевский Губернский статистический комитет. Могилев, 1885. С. 75.

[4] Тамсама.

[5] Список фабрик и заводов европейской части России. СПб., 1903. С. 541–542, 578, 708; Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912. С. 76, 171, 198.

[6] Мой завод – моя гордость : Речицкий метизный завод 1912–2012 / Под общ. ред. А. С. Вашкова; авторы текста О. М. Шандрак, В. М. Лебедева. Минск, 2012. С. 26.

[7] Мой завод – моя гордость : Речицкий метизный завод 1912–2012. С. 36.

[8] НГАБ. Ф. 1237, воп. 1, адз.з. 7. Арк. 213–220.

[9] Тамсама. Ф. 323, воп. 1, адз.з. 15, арк. 10–10 адв.

[10] Тамсама. Ф. 323, воп. 1, адз.з. 6, Арк. 248.

[11] Архіў УКДБ РБ па Гомельскай вобласці. Архіўна-крымінальная справа 10344-С.

[12] Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці (далей – ДАГВ). Ф. 13, воп. 2, адз.з. 921. Арк. 7–7 адв., 8.

[13] Тамсама. Арк. 8.

[14] Тамсама. Арк. 19.

[15] Тамсама. Арк. 33–34.

[16] Звесткі прадстаўлены унучатай пляменніцай Б. А. Рыка Ірынай Цішчанка.

[17] Архіў УКДБ РБ па Гомельскай вобласці. Архіўна-крымінальная справа 10344-С.

[18] Звесткі прадстаўлены Ірынай Цішчанка.

[19] Лебедева В. М. Патоны и Рикки как представители новой региональной элиты

начала XX века / В. М. Лебедева // Беларусь і суседзі : шляхі фарміравання дзяржаўнасці, міжнацыянальныя і міждзяржаўныя адносіны. Зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 1. / Р. Р. Лазько (гал. рэд.) і інш. Гомель, 2012. С. 111–117; Киштымов А. Л. На пороге XX века: социальные и демографические изменения / А. Л. Киштымов // Речица. Дорогой столетий в будущее / под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица: Редакция газеты «Дняпровец», 2013. С. 74–86; Валентина Лебедева, Оксана Шандрак. Как речицкие фабриканты стали врагами народа // Гомельская праўда. 9 лістапада 2012 г.; Валентина Лебедева, Оксана Шандрак Первые предприниматели Речицы. Судьба династии // Дняпровец. 5 снежня 2012 г.

*Володимир Бойко,*
*канд. іст. наук (Чернігів)*

# Національні політичні сили України у виборчій муніципальній кампанії 1917 р.

Серед численних виборчих кампаній, що відбувалися на теренах України (втім так само й Білорусі) муніципальна 1917 р. становить особливий інтерес, адже йдеться про першу спробу демократичного формування місцевої влади у новітній історії наших народів.

На українських теренах вибори до міських дум тривали з червня по вересень 1917 р., найінтенсивніше – у липні-серпні. Закон, ухвалений Тимчасовим урядом у середині квітня 1917 р.[1], встановлював загальне, рівне, пряме і таємне голосування за майже цілковитої відсутності будь-яких цензових обмежень. Автори законопроекту погодилися на пропорційну систему виборів за партійними списками. Це рішення обумовлювалося необхідністю підготовки населення країни до голосування на виборах до Установчих зборів. Щоправда, такі списки могли формувати об'єднання громадян за будь-якою ознакою, а не лише партійною. Враховуючи перехідний характер реформи, гласні обирались терміном до 1 січня 1919 р.[2]

Такі вибори проходили в країні, де право вибору місцевої влади стало абсолютною новиною для більшості городян. До цього додавалася вкрай строката та невідповідна до навколишнього сільського населення етнічна структура тогочасних міст. Так, 33 % міського населення становили євреї, трохи менше – росіяни та українці, кілька відсотків – поляки, німці, румуни, білоруси, кримські татари та ін. Між тим ключові адміністративні посади в містах України обіймали росіяни, а на Волині та Поділлі – також поляки, бо саме вони представляли статечні верстви. Третина ж населення міст – євреї – взагалі мали суто символічне представництво.

Міські вибори стали для національних партій першою спробою легальної політичної боротьби за симпатії своїх ймовірних

прихильників. Втім, в середині останніх існували власні, часом дуже серйозні, протистояння за соціальною ознакою. Така ситуація створювала об'єктивне підґрунтя до жорсткої конкуренції на виборах та виявляла реальні, а не удавані цілі їхніх суб'єктів. Щодо національних політичних угрупувань, то мовиться, насамперед, про єврейські, українські, польські, як такі, що сформували під час муніципальної кампанії найбільшу кількість своїх списків, відповідно 156, 76 та 22. Інші не грали такої помітної ролі за виключенням кримських татар у Криму. Це узагальнення за 105 містами губерній, що згодом увійшли до складу Української Народної республіки.

За всієї різнобарвності українського руху в 1917 р. виділяють, як правило, три провідні партії – його репрезентанти. Це Українська соціал-демократична робітнича партії (УСДРП), Українська партія соціалістів-революціонерів (УПСР), Українська партія соціалістів-федералістів (УПСФ). Існували й інші політичні угрупування, але вагомого впливу вони на той час не мали. Як видно з тогочасних програмних документів провідних українських партій, від початку революції існувала можливість реалізації двох принципових варіантів – єдиного національного блоку та спілки українських партій з ідеологічно близькими російськими та єврейськими партіями на ґрунті класової боротьби. У їх взаємодії формувалася реальна лінія поведінки головних політичних чинників.

Найшвидше загальна тенденція почала вимальовуватися у містах, де від початку революції існували партійні осередки українських соціал-демократів та есерів – Києві, Харкові, Полтаві, Одесі. Тут українські соціалісти при першій ліпшій нагоді підкреслювали свою відмінність від українських лібералів.

В переважній більшості міст України на початку революції не було й мови про існування філій українських політичних партій. З їхнім виникненням у Вінниці, Херсоні, Миколаєві, Ромнах, Кременчузі, Конотопі, Черкасах, Єлісаветграді та деяких інших містах осередки УСДРП та УПСР відхили пропозиції представників консервативно-ліберального напрямку українського руху про утворення національного блоку, мотивуючи це необхідністю класової боротьби. Вимальовувалася тенденція, як тільки від загальної

української організації («Просвіта»), «Українська хата» та ін.) відокремлювалися партосередки соціалістів, відразу вони звинувачували колишніх союзників у найжахливішій на той час ваді – буржуазності (а часом й у чорносотенстві), забуваючи й про спільні цілі, й про спільних політичних противників. У результаті в великих та багатьох середніх за розмірами містах, як правило, хоч і не завжди (відомо, щонайменше, 11 випадків), осередки Української радикально-демократичної партії (ліво-ліберальна партія, згодом – УПСФ) змушені були, всупереч переконанням, утворювати власні блоки. Часто до них залучалися різноманітні професійні та освітні організації.

Українські ж соціалісти у переважній більшості з названих міст прагнули блокуватися з російськими та єврейськими, часом – польськими соціалістами. Однак доволі часто вони стикалися щонайменше з нерозумінням, а то й відвертою ворожістю своїх лівих колег.

Всього відомо про 22 (у 21 місті) самостійних списки українських соціалістів і 18 випадків їх блокування з російськими та єврейськими партіями. Можемо казати про відсутність чіткої концепції пошуку союзників українськими соціалістами під час виборів. УПСР та УСДРП могли утворити український соціалістичний блок, виступати окрема одна від одної, спільно ввійти до соціалістичного блоку з російськими та єврейськими соціалістичними партіями, брати участь у есерівському та есдеківському списках. Вибір того чи іншого варіанту залежав, насамперед, від характеру стосунків у конкретному місті українських та російських соціалістів. Однак простежується загальна тенденція: лише в разі відвертого нехтування національними інтересами з боку російських соціалістів їх українські візаві наважувалися, та й то не скрізь, на самостійний виступ. Здебільше це був не запланований заздалегідь, а вимушений крок. Не завжди він приводив до об'єднання на виборах зусиль УСДРП та УПСР, хоч і сприяв цьому. У будь-якому разі спілка з українськими лібералами вважалася небажаною. Як можна було очікувати, поява кількох списків за участю провідних українських партій призводила часом до гострої боротьби між ними з очікувани наслідками.

Між тим існував принципово інший вибір, реалізований у Чернігові. З самого початку революції у місті активно діяв осередок Товариства українських поступовців (потім – громада автономістів-федералістів) на чолі з Іллею Шрагом. І якщо в інших містах України ця організація досить швидко перетворилася на об'єднання лише українських лібералів, то у Чернігові довгий час до неї входили й визнавали авторитет усі українські діячі. Такий підхід зробив можливою мобілізацію усіх українських організацій міста навколо одного списку. До його складу входили також представники громади автономістів-федералістів, спілка службовців, Товариство поляків. Місцеві українські соціалісти (насамперед, українські есери на чолі з Василем Елланським), не без вагань, але все ж таки підтримали національний список, а не своїх колег – російських соціалістів, з якими мали досить ворожі стосунки.

В результаті, в Чернігові на відміну від інших міст України під час виборів українські соціалісти не звинувачували українських лібералів у буржуазності та недемократичності. Великою мірою така ситуація склалася завдяки особистому авторитету Іллі Шрага. Його вплив на результати виборів належним чином оцінила місцева соціалістична преса: *«Це ім'я настільки популярне в місті, що досить було чернігівському обивателю [...] сказати, що в списку на першому місці І. Шраг, як цей обиватель охоче виявив готовність голосувати за національний блок»*[3]. Чернігів виявився єдиним губернським центром України, де була блискуче реалізована тактика українського національного блоку.

Щоправда позапартійні українські списки створювалися в багатьох повітових містах (всього 34 з виявлених). Це той випадок, коли слабкість була силою. Загальмованість процесу партійної диференціації у провінційних містечках відкривало можливість об'єднання прихильників різних політичних напрямків навколо спільних національних гасел.

Всі українські списки разом отримали на міських виборах 12,15 % (в тому числі український соціалістичний блок у складі УПСР та УСДРП – 5,1 %, УПСР – 0,22 %, УСДРП – 0,81 %, українські соціалісти у блоках з російськими – 1,96 %, УПСФ – 1,01 %, різноманітні позапартійні – 3,05 %)[4].

Результати явно недостатні для того, аби вважати їх перемогою, хоча в окремих містах українці й отримали більшість голосів. Зрозуміло, що без союзників працювати в містах їм було складно. Тому не дивно, що українські політичні чинники висловлювалися за співпрацю з іншими національними силами в разі визнання ними ключових вимог українського руху: надання Україні національно-територіальної автономії, перебудови Росії на засадах федерації. І тут їхніми потенційними спільниками могли бути, насамперед, єврейські та польські політичні сили.

Власне, найбільше складощів виникає, коли ми намагаємось ідентифікувати «єврейський рух». Як влучно зазначив один з єврейських діячів 1917 р. В. Рахер: «*У нас є всі: більшовики, меншовики, есери, трудовики, інтернаціоналісти, націоналісти, сіоністи, цейре-сіоністи, територіалісти, бундівці, сеймівці, комуністи, синдикалісти, індивідуалісти, гербеісти, жаргоністи, асимілятори, ортодокси та просто окси, космополіти і ледь не триглодіти, і все це між собою свариться, ворогує, воює*»[5]. Саме за результатами муніципальної кампанії 1917 р. більш-менш стало зрозумілим, що провідні позиції в єврейському русі займають, насамперед, сіоністи, Бунд, Об'єднана єврейська соціалістична робітнича партія (ОЄСРП), Поалей-Ціон.

Бунд не бажав визнавати за соціалістичні Поалей-Ціон та ОЄСРП і, використовуючи свої тісні зв'язки з РСДРП, зробив на міських виборах все можливе, щоб ізолювати ці партії. Водночас всі єврейські соціалістичні партії (включно з Поалей-Ціон та ОЄСРП) з класових позицій завзято поборювали сіоністів – зазначимо, невдало. Останні, в свою чергу, доклали максимум зусиль, аби об'єднати під національними гаслами єврейську громаду. А ще існували й різноманітні ортодоксальні угрупування. Отже, ставлення провідних єврейських політичних сил до українського руху формувалося опосередковано, через призму бачення майбутнього єврейського народу, а з цим якраз була проблема.

На думку одного з лідерів Бунду Мойсея Рафеса: «*Українська інтелігенція [...] сподівалася приручити найменш небезпечну в державному відношенні частину інтелігенції – єврейську. Але беззастережно могла встати на цей шлях лише партія єврейських сіоніс-*

*тів*»[6]. За його твердженням у 1917 р. найближчою до українських есдеків серед єврейських соціалістичних партій була Поалей-Ціон, яка «*все підпорядкувала інтересам єврейської національної ідеї*»[7].

В муніципальних програмах усіх без винятку єврейських партій обов'язкова присутня низка національних вимог. Головним чином, йшлося про передачу деяких функцій дум єврейській громаді, першочергово порушувалися питання національної освіти. В разі блокування єврейських партій з російськими до спільних платформ вносилися відповідні положення. В цьому сенсі єврейські партії були зручними спільниками для українських, адже їх інтереси співпадали.

Однак під час розробки муніципальних програм жодна з єврейських політичних партій не фіксувала вимоги національно-територіальної автономії України. Тобто це питання для них було неголовним, а ставлення не однозначним. В цьому контексті показовим, на нашу думку, є бачення єврейськими партіями українських як потенційних союзників на міських виборах.

Хоча єврейські соціалісти, в принципі, висловлювалися за бажаність угод з іншими національними партіями, однак жодна з єврейських партій на рівні керівництва серйозно не розглядала можливості самостійної (без росіян) спілки з українськими партіями будь-якого гатунку. Йшлося лише про бажаність їх залучення до соціалістичного блоку чи, як у випадку з Бундом, до есдеківського списку. Це може бути свідченням існування певної недовіри до українських сил та свого роду інерції мислення. Українські партії на той час не сприймалися єврейськими як такі, що в змозі, в разі потреби, захистити їх інтереси.

Не в останню чергу це обумовлено позицією самих українських партій. Їх часом досить сумбурна тактика пошуку політичних союзників, невпевненість у власних можливостях в умовах міста ставили під сумнів доцільність спілки саме з ними. Водночас, єврейські соціалістичні партії, особливо Бунд, були надто тісно зв'язані з російськими, щоб у стислий термін наважитися на рішучу зміну орієнтації. Той факт, що серед російських партій, на відміну від українських, помітні посади обіймали євреї також впливав на позицію єврейських національних партій під час муніципальної кампанії.

Як результат, під час муніципальної виборчої кампанії 1917 р. не було створено жодного українсько-єврейського блоку будь-якого напрямку. І якщо для представників, умовно кажучи, правого крила – це нормально, то для соціалістів з їх класової солідарністю – нелогічно.

Відомий лише один випадок, коли єврейська соціалістична партія, а саме Бунд, свідомо намагалася укласти угоду з відповідною українською партією – УСДРП. У Полтаві філія Бунду, виконуючи вказівки Південного комітету партії, встигла пересваритися зо всіма місцевими соціалістами. Перед загрозою повного провалу на виборах Мойсей Рафес вимушений був надіслати до Полтави телеграму такого змісту: «*В теперішніх умовах допускаємо угоду виключно з українською соціал-демократією. Якщо відмовляться, вважати необхідним виступ суто бундівським списком. Наше рішення остаточне. Просимо провести в життя*»[8]. Однак українські есдеки в Полтаві заради сумнівного блоку з Бундом не мали намір руйнувати вже складений з російськими соціалістами список. Крім того, чернігівська філія ОЄСРП, між іншим, запитувало своє керівництво у Києві чи можуть вони блокуватися з українськими есерами та есдеками. Та через відсутність такого списку в Чернігові питання відпало автоматично.

Натомість, залишилися низка свідчень про не найкращі стосунки між представниками українських сил та єврейських. В цілому, справа виглядає так, що бундівці виявили найбільший нахил серед єврейських партій до конфронтації з українським рухом. Щоправда, після ІІ Універсалу УЦР тональність Бунду змінилася.

Єврейські соціалісти балотувалися по одному списку разом з українськими лише в разі наявності там кандидатів від російської партії. Це міг бути соціалістичний блок, як у Полтаві (ПСР, УПСР, УСДРП, ОЄСРП, Поалей-Ціон), Херсоні (ПСР, РСДРП, Бунд, Єврейський соціалістичний клуб, Дашнакцюцюн, УСДРП, УПСР), Проскурові (УПСР, УСДРП, РСДРП, ПСР, Бунд, ОЄСРП), Ромнах (РСДРП, Бунд, УСДРП, ПСР) чи Бердичеві (Бунд, РСДРП, ПСР, УПСР, УСДРП). Або партійні списки, як у Харкові, де постав есерівський блок (ПСР, УПСР, ОЄСРП), у Луганську – соціал-демократичний (меншовики, Бунд, УСДРП), у Бахмуті есерівський

(ПСР, УПСР, ОЄСРП) та есдеківський (РСДРП, Бунд, УСДРП) блоки тощо. В такому разі відносини між представниками українських та єврейських партій були союзницькими.

У містах, де діяли самостійні українські списки, єврейські соціалісти як союзники російських, насамперед Бунд, доклали чималих зусиль, аби провалити українські партії. Водночас зіткнень із суто єврейськими списками (ОЄСРП, Поалей-Ціон, сіоністів, ортодоксів) у українців не виявлено. І це цілком природно – адже виборець в цьому випадку був різний і грунт для конфронтації зникав.

Бундівський інструктор Андрій Жук звернув увагу на таке: «*Українці, наскільки я помітив, відносяться до цих партій [Поалей-Ціон, ОЄСРП] далеко не так негативно, як Російська с.-д. Так, у Прилуках українець казав про Поалей-Ціон: «[...] У них та ж програма, що й у нас: ми вимагаємо національно-територіальної автономії, й вони те ж саме*»[9].

Найбільше ж симпатії до українського руху виявили не єврейські соціалістичні партії, а праві угрупування, насамперед сіоністи. Так, у містечку Златополь Чигиринського повіту під час українського свята «*сіоністи побажали Україні добути свою автономію, бо добре розуміють і співчувають бажанням українського народу, бо й самі бажають здійснення своїх мрій автономії Сіону*». В свою чергу українці заявили, що «*цілком приєднуються до бажання єврейських сіоністів здобути свого Сіона*»[10].

У Прилуках на свято проголошення І Універсалу запрошення отримали лише бундівці та сіоністи. Доповідаючи в Київ місцева філія Бунду зазначила: у зв'язку з досягненням угоди їх представник не наголошував на негативних, на думку бундівців, моментах цього документу. Бундівець у досить плутаних висловах охарактеризував першу реакцію на Універсал як непорозуміння. А представник сіоністів, за свідченням бундівця, «*у пишномовних висловах вітав українських рух, як зайвий доказ того, що "вони" [сіоністи] завжди кажуть і на завершення висловив надію, що і євреям знайдеться місце у вогнища та трохи тепла від нього*»[11].

Справжнє братання української та єврейської частини населення містечка мало місце під час першотравнях урочистостей у Хоролі. Поштовхом стала така заява представника євреїв на мі-

тингу: *«Українці були довго позбавлені своєї рідної мови, вони багато терпіли від старого уряду [...] В обличчі українців частково відображаються страждання євреїв»*[12]. У відповідь євреї почули вибачення за старі історичні гріхи часів Богдана Хмельницького та пропозицію об'єднатися разом з українцями для того, щоб відстояти свободу.

Не залишалися в боргу й українці. У полтавській міській думі під час формування «шкільної ради» (входила до комісії з народної освіти) більшість спочатку забалотувала кандидатуру сіоністів. І лише після демаршу лідера української фракції Віктора Андрієвського, який рішуче підтримав цю кандидатуру, міське самоврядування змінило своє рішення. За твердженням бундівця у Прилуках саме з ініціативи українця було ухвалено рішення про відкриття єврейської школи.

Водночас розвиток співпраці українських політичних сил із сіоністами та іншими єврейськими несоціалістичними угрупуваннями гальмувався слабкістю правого крила українського руху. Вплив есефів, яких дуже умовно і лише порівняно з есерами та есдеками, можна віднести до правих політичних сил, був явно недостатнім для ефективної взаємодії з сіоністами. А українські соціалісти до несоціалістів всіх націй, включаючи і свою власну, відносилися з підозрою й налагоджувати контакти не поспішали.

Між тим, і це добре видно за результатами міських виборів, саме праве крило домінувало в єврейському русі. Сіоністи, які в більшості міст створювали разом з єврейською громадою національний блок, одержали переконливу перемогу – 8,7 % голосів від їх загальної кількості або трохи більше 50 % єврейського електорату. Для порівняння Бунд (з врахуванням голосів, отриманих у спільних з російськими соціалістами списках) відповідно – 2,4 % та 14 %, ОЄСРП та Поалей-Ціон по всіх можливих списках разом – 4,15 % та 24,4 %[13].

Польські списки не мали та й не могли мати таких успіхів. Щоправда, джерела, які дійшли до нас, містять доволі уривчасту інформацію. Головним чином, там йдеться про польських соціалістів, причому далеко не завжди розрізняється приналежність до певної фракції – ППС-правиці та ППС-лівиці. Ще складніше –

з непартійними організаціями. Про їхні уподобання можна зробити висновок хіба що з гасел, які висувалися, окремих прізвищ, що фігурували у виборчих списках, та з їхніх назв.

Тактику польських об'єднань в Україні різних спрямувань значною мірою визначила низка подій, що сталася в розпал муніципальної кампанії. У другій половині червня в Києві пройшов обласний польський з'їзд, який засвідчив розкол серед польської громади в Україні. Втім резолюцію з українського питання він таки ухвалив. «*З'їзд делегатів організацій на Русі,* – зазначалося в документі, – *вітає прагнення братнього українського народу до політичного визволення і заявляє, що поляки, почуваючи себе споконвічними громадянами цього краю, готові сприяти в улаштуванні основ життя українського народу із забезпеченням прав меншин польського народу на Україні*»[14]. Одночасно ліва частина, ППС та демократичний блок, що утворила Польський демократичний централ, в свою чергу зазначила: «*Для поляків на Україні в суто національних питаннях обов'язково солідаризуються з політикою корінної Польщі, а в місцевих питаннях – солідаризуються з російським революційним та українським визвольним рухами*»[15].

Ці заяви майже співпали у часі з компромісом, досягнутим під час переговорів лідерів українського руху та Тимчасового уряду в Києві. Тоді кожне польське угрупування намагалося забезпечити свій вплив у реорганізованій УЦР. В цілому, позиція з'їзду виглядала прийнятніше для української сторони, ніж Польського демократичного централу. Але ж сама Центральна рада була соціалістичною, що вплинуло на обрання принципу її поповнення репрезентантами національних меншин – через партійні організації. Таким чином, автоматично штучну перевагу отримували ліві сили. У відповідь Польський виконавчий комітет на Русі 7 липня висловив свій протест[16]. Тож склалася ситуація, коли праві польські політичні чинники відкрито висловлювали своє незадоволення політикою Центральною радою, одночасно підкреслюючи всіляко свою лояльність до української ідеї як такої. А представники лівих, соціалістичних партій зайняли позицію, яка могла трактуватися двояко – в залежності від розуміння на місцях польських інтересів.

Це загальні підходи, які звичайно досить суттєво могли корегуватися на місцях. Отже, польські списки балотувалися у 22 з 105 досліджених міст України. І лише в одному випадку маємо справу з соціалістами – в Києві окремо йшла ППС-правиця. Інша справа – різного роду польські списки, об'єднані національними гаслами, а саме «польських виборців», «польська група», «польських громадських організацій», «польського товариства», «польського демократичного клубу», «польського комісаріату», «польський демократичний список», «група осіб польської національності» та інш. Абсолютна їх більшість діяла на Київщині (4), Волині (3), Поділлі (3) та Херсонщині (3). В Катеринославській, Чернігівській, Харківській, Таврійській губерніях балотувалося по одному польському списку, а на Полтавщині – жодного. Тобто, як правило, йдеться про землі, де поляки жили споконвіку, становили суттєву меншість і, вочевидь, так чи інакше пов'язували своє майбутнє з їх долею. Часом вони досягали помітних успіхів – на Волині та Поділлі.

Досить широке за географією представництво польських списків на півдні України значною мірою обумовлене впливом війни на національний склад міст. В найбільшому місті України Одесі діяли численні польські організації – «Дім польський», «Огниско», «Благодійне товариство», «Товариство допомоги жертвам війни», «Союз поляків-педагогів», «Польський робочий союз»[17]. Як і в інших губерніях тут спостерігався розкол лівими і правими у польському стані. В інших регіонах України поява таких об'єднань – виняток. Вони діяли у Катеринославі, Харкові, Шостці.

Крім суто польських, існували списки, укладені на умовах блоку – 9, а саме: на Чернігівщині (3), Волині (3), Київщині (2), Поділлі (1). Серед них – низка українсько-польських. Утворювалися вони там, де польські політичні чинники, як правило, самостійно на перемогу не претендували, а подібні гасла штовхали їх до спілки з українцями. В Чернігові, завдячуючи спілці з українцями, польські представники отримали чотири місця в думі – 6,6 %, що в два з половиною рази перевищувало відсоток етнічних поляків у місті. Показово, що в останньому випадку поляки проявили себе палкими прихильниками українського руху.

Падзеі верасня 1939 г. перарвалі звыклы лад жыцця жыхароў Гародні, і на працягу наступных палутара гадоў яны прыстасоўваліся да новых умоваў працы, вядзення гаспадаркі, жыллёвых умоваў, сістэме адукацыі ды інш. Чарговыя кардынальныя змены не толькі ў штодзённых практыках, але таксама ў светапоглядзе адбыліся з прыходам нямецкіх войскаў.

Трэба адзначыць, што вайна для большасці сведкаў з'яўляецца ключавой падзеяй біяграфічнай нарацыі і нават адпраўной кропкай апісання жыцця. Памяць пра яе – гэта істотная частка самаідэнтыфікацыі[4]. Досвед, атрыманы падчас вайны быў нечаканым і выключным, звязаным з моцнымі эмоцыямі. Трэба ўлічваць, што ажыўленню ўспамінаў пра вайну садзейнічае і сучасная гістарычная палітыка, накіраваная на актуалізацыю гераічных падзей. Мы будзем арыентавацца на асабістыя перажыванні і ўяўленні і той індывідуальны вопыт, які ўключаны ў калектыўную памяць жыхароў Гародні. Трэба адзначыць, што, нягледзячы на канфесійныя і нацыянальныя адрозненні нашых рэспандэнтаў іх памяць абумоўленая прыналежнасцю да жыхароў акупаванай Гародні.

Аналізуючы успаміны сведкаў пра час нямецкай акупацыі, варта адразу адзначыць тое, што іх найбольш узрушвала. Па-першае, гэта першыя дні – бамбёжка, разбурэнне горада, уваход немцаў. Некаторыя рэспандэнты пры гэтым параўноўвалі падзеі чэрвеня 1941 г. з вераснем 1939 г. Па-другое, вобраз «немца», які экстрапаліраваўся на вобраз «улады», і чарговыя змены ў штодзённым жыцці. Гараджанін апынуўся ў новых умовах, на якія ён не мог паўплываць. Трэба было выпрацоўваць новую стратэгію паводзін, якая б гарантавала асабістую бяспеку. Новая ўлада асацыявалася са смерцю. Гэта была як выпадковая смерць падчас вайсковых дзеянняў, так і запланаваная, напрыклад, Халакост.

## *Змены ў гарадской прасторы*

Вайсковыя дзеянні і бамбёжка не толькі змянілі вонкавы выгляд горада, але і парушылі звыклую для гараджан прастору, у якой яны з лёгкасцю арыентаваліся: «*Бомбили Гродно. Сравни-*

*тельно всё-таки […] сильно он не был разбит. Вот Советская площадь была разбитая*»[5].

«*І бачыў таксама ў першы дзень вайны як згарэў... Дзе тэатр наш, там быў калісьці мужскі манастыр до вайны […] Так вот бачыў, як гэтат крыж гарэў […] падал, днём 22-га. Немцы ўжэ ў 2 гадзіны дня былі на ўліцы Пагранічнікаў савецкіх. Прыкладна там, дзе зараз паставілі помнік этым пагранічнікам. І мы бачылі, як яны на веласіпедах, на матацыклах [ехалі] з уліцы Каліноўскага, дзе еврэйскіе могілкі. Мы пайшлі да дзедушкі хавацца. А тады дамоў там не было столькі... Всё была як на ладоні. Значыць, у 2 гадзіны, у 2 гадзіны дня ўжэ былі немцы*»[6].

У найбольш небяспечнай сітуацыі апынуліся тыя, хто страціў сваё жыллё: «*И мы убегали в этот дом, в подвал […] И бомба попала в наш дом, в нашу комнату. У нас всё пропало. Только что под окнами были связаны постели, то вытащили. Хорошо, что мама нас обняла. И мы стаяли на леснице, не побежали туда, где жила семья когда-то, в подвальное помещение, а между... Дом старый, между дверями. Мама нас обняла, так мне как ударило кирпичом в этот бок, мне очень долго балело. Но, что интересное, помню, свист бомбы. Свист бомбы у меня воспроизводился в голове целый год. Вот я сижу занимаюсь чем-нибудь, девочка, и вдруг мне – тюу, в голове. И жарко...*»[7]

Страціць сваё жыллё маглі не толькі ў выніку бамбёжкі, але і прымусовага высялення, ці пераезда да сваіх родзічаў у больш бяспечнае месца.

З усталяваннем новай улады змянілася і гарадская тапаніміка. Быщ перайменаваны сам горад у Гартэн (Garten) і яго вуліцы. Напрыклад, вуліца Элізы Ажэшкі стала вуліцай Гітлера, вуліца Савецкая – Гіндэнбургштрасэ і г. д.

Найбольш адчувальныя змены адбыліся ў прасторавых абмежаваннях – забарона наведвання асобных раёнаў горада: канцлагеры для ваеннапалонных, гета для габрэйскага насельніцтва: «*Ну […] тут ещё немцы два гетто сделали. Так получилось, город […] был разделён*»[8].

## *Вобраз новай улады*

Пасля ўступлення нямецкіх войскаў у Гародню кіраўнічыя функцыі выконвала ваенная камендатура, якая стварыла цывільную ўладу. У яе ўвайшлі даваенныя польскія дзеячы. Але ў верасні 1941 г. польскае кіраўніцтва было адхілена ад улады. А на чале адміністрацыі стаў гарадскі камісар (з 1942 г. бурмістр) немец Штэйн, падпарадкаваны павятоваму камісару і цывільнаму ўпраўленню Беластоцкай акругі, якая была далучаная да Усходняй Прусіі[9].

Першымі фармальнымі прадстаўнікамі ўлады ў горадзе ва ўспрыманні мясцовых жыхароў былі нямецкія вайскоўцы. Вельмі часта рэспандэнты іх параўноваўлі з савецкімі салдатамі, не на карысць апошнім: «*Когда пришли немцы, такие все холёные, такие все одетые... Себе думаю, неужели это наши победят. Знаете, какое-то такое недоверие было к ним, что они победят. Так лично мне казалось. Можа, я ошибаюсь. Ну, я ошибаюся, конечно, потому что наши же победили, а не немцы*»[10].

«*Немцы зрабілі ўражанне выдатнай бялізнай і добрай вопраткай. Адносіліся да нас вельмі добра, нават ласкава, частавалі ўсім, чым маглі. Немцаў мы не баяліся, больш баяліся іспанцаў, якія былі ў Гродне*»[11].

Аднак пасля ўсталявання цывільнага кіраўніцтва, вобраз улады і яе прадстаўнікоў мяняўся: «*Падчас акупацыі ў будынку цяперашняй школы № 4 размясцілася нямецкая жандармерыя. Немцы спявалі і часам ганялі людзей да сябе чысціць бульбу і займацца іншымі гаспадарчымі справамі, але пасля адпускалі*»[12].

«*[Немец Рык у якога працавалі] был гражданский. Але страшный был, высокий, такие зубы у него были вперёд как-то. И на коне ездил. У него не было ни машины, ничего, а на коне. Но с нагайкой всегда. […] Садили капусту, я запомнила, и он пошёл и проверил, как мы садим, и если он потянул и вытянул за листок, то уже этой деуке не поздоровится [...] Или даст нагайкой, или так ругается, вот*»[13].

Непасрэднае сутыкненне з уладай адбывалася таксама пры выкананні ці невыкананні новых законаў і патрабаванняў: «*Немцы ўвялі карткі, усіх замацавалі за крамамі. Больш таго, хто меў ка-*

*рову, а яе мелі на нашай вуліцы амаль усе, то за тымі замацоўвалі маці з малымі дзецьмі. І мая маці, напрыклад, кожны дзень павінна была даваць па 2 літры малака (да яе прыходзілі чатыры жанчыны з цэнтра, і кожнай яна давала па 0,5 літры)*»[14].

«*Мая маці праседзела ў нямецкай турме два тыдні. Наша карова ацялілася. Цялё не было чым карміць, і мы яго зарэзалі. А рэзаць можна было толькі на мясакамбінаце (на вуліцы Камунальнай) і палову трэба было аддаць немцам. Маці мая паклікала пані Палканову і дала ёй два кавалкі мяса (ёй і яе сястры). Тая засунула яго пад мышкі пад хусту і панесла. Тут акурат на вуліцы аказалася паліцыя, якая яе спыніла і знайшла мяса. У выніку пані Палканова паказала на нас, а ў нас у падвале была пячонка цяляці, а пад ложкам тазік з мясам. Маці з пані Палкановай адправілі спачатку ў магістрат на вуліцы Дамініканскай (сучаснай), а пасля ў турму*»[15].

Калі маці рэспандэнткі выпусцілі, то яна вырашыла аддзячыць нямецкаму старасту: «*Ведалі, што немцы любяць уручную зробленыя рэчы. Тады с Селіванаўцаў прывезлі вельмі прыгожы саматканы дыван і пайшлі на [вуліцу] 1 мая да дому старасты дыван дарыць. Паднеслі яго ягонай жонцы, але тая не ўзяла, сказаўшы, што дзецям (тое значыць нам) будзе больш патрэбна*»[16].

Прыстасоўваючыся да новых умоў, жыхары вывучалі ўладу. Пры гэтым не паўставала пытанне пра яе легітымнасць, яна ўспрымалася як дадзенасць. У дачыненні да ўлады часцей выкарыстоўваліся характарысткі – справядлівая/несправядлівая. Справядлівая – не бярэ хабар, дазваляе рэлігійнае жыццё; несправядлівая – прымусовыя працы, Халакост, арышты і забойствы гараджан і інш.

Яшчэ адным маркерам акупацыйнай улады была яе дысцыплінаванасць, як у паводзінах саміх немцаў[17], так і ў патрабаваннях да іншых. Былі ўсталяваны строгія правілы працоўнай дысцыпліны, за парушэнне якой прыцягвалі да адказнасці: «*И моя Стася даже сидела в этом, в концлагере [у раёне сучасных праспекта Касманаўтаў і вуліцы Лідскай]. Там дальше ещё был такой небольшой концлагерь. А за что сидела? Ну, мы ж работали у Рика этого. А у неё умер отец. Ну, естественно, она не пошла на работу. Наверно, дня три. Ну, и не ходила там, ничего ему не говорила. И он посадил её […] на месяц, по-моему. И я ходила, носила ей там […]*

*передачу. А нельзя ж было. То я слежу, где немец ходит этот. Як он идёт туда, так я под эту проволку, такой у меня был портфель школьный, я там положу что-то, или моя мама даст, или её мама даст. И я […] как швырну, так. А там этот, ну, типа асфальта. […] Я нашла такое местечко. Мы уже с ней договорились, что я в такое время буду что-нибудь присылать*»[18].

Такім чынам, нямецкая ўлада была культурна чужой для мясцовых жыхароў. Усталяваная з дапамогай вайсковых дзеянняў, яна ўводзіла новыя парадкі, якія асацыяваліся з жорсткай дысцыплінай і кантролем. Была страчаная самастойнасць у сацыяльных практыках дома, на працы, на вуліцах горада. Публічнае жыццё амаль поўнасцю знікла з гарадской прасторы.

### *Стратэгіі паводзін гараджан*

Асабістая бяспека жыцця і здароўя знаходзіліся на першым месцы ў выпрацоўцы стратэгій паводзін падчас акупацыі. Адразу пасля ўваходу немцаў у Гародню паўстала пытанне прадуктовага забеспячэння. Пачаўся абмен і гандаль паміж горадам і вёскай, квітнела спекуляцыя, а ў першыя дні вайны частымі былі крадзяжы (пазней бандытызм жорстка караўся): «*Значыць, каму вайна, а каму маць радная. […] Калі пачалася эта вайна... Не знаю, немцы былі ўжэ тут в городзе, ці што? Карацей пачалі грабіць склады розные, крамы. І пасля вайны, пасля баёв нічога не купіш, савецкія грошы не хадзілі, разумееце. Всё было на абмен. [Менялі] лішнее в хаце, [менялі] хто там што награбіл, хто папіросы. [...] На Замкавай насупраць этага дома, каторый там побач з пажаркай, стаялі палевые кухні. Немцы кармілі некалькі дзён. Тухлае пшэно і гнілая рыба. Гдзе ані её взялі? «Эта вам аставілі вашы друзья», – яны казалі. Пшэно тухлае, тухлае. Вот мы за этым пшэном хадзілі*»[19].

У хуткім часе ў Гародні былі ўведзены прадуктовыя карткі для тых, хто афіцыйна працаўладкаваўся: «*Пришли немцы. Немцы, значит, оккупировали, три года была оккупация немецкая. Было очень плохо жить, потому что ничего не было в магазинах. Потом нам дали немцы карточки на питание. Ну, это смешно было даже, эти карточки. Мы раз пошли получать... Так, 250 грамм мяса на*

*человека на месяц. Пришли в магазин, то там вместо мяса были какие-то обрезки и кости, и всё. И больше, и больше мы уже и не пошли в эти магазины. Ну, за хлебом, конечно, ходили. На карточки брали. Ну, хлеб тоже был ужасный, мокрый. Ну, что делать? Але кушали, потому что... На базаре было всё. Можно было купить. Но это какие деньги стоило? Булка хлеба, я помню, что-то 100 рублей по-моему стоила*»[20].

Той, хто не ўладкаваўся на працу, шукаў іншыя спосабы матэрыяльнага забеспячэння: «*Страх. Выживание было, между прочим. Каждый старался как-то... Чем мог, тем и выживал. Если кто поступал у немцев на работу, то те получали карточки. У немцев, питались, всё нормально. А так на выживание. То ходили менять по деревням, если одежду или что там, деньги... Пакупали больше у деревенских. [...] Ездили, кто занимался... У меня, допустим, брат, который старше меня, с 14-го года, то он был на железной дороге, работал помощник машиниста. А мы в то время... Я сам лично ездил и в Вильнюс, и в Ново-Вилейку, возили там питьевую соду, соль даже, табак, махорку […] Потому что здесь можно было достать […] Ну, у немца са складов воровали и в мешках вывозили в Вильнюс, там продавали*»[21].

Найбольш упэўнена сябе адчувалі тыя мясцовыя жыхары, якія мелі зямлю і свойскую жывёлу: «*Конечно, магазина не было. А у нас был конь и была корова. И в немецкое время они ездили в Обухово, бо земля то у нас осталась, землю то они давали в аренду, када переехали сюда. А продали только дом и там сарай, одрину там, вот. И они там сеяли. И у нас была корова, был конь и воз. И он занимался извозом. Вот, кому там дрова привезти, кому что. Ну, и вот, на коне они ездили в Обухово. Они в понедельник ехали туда и в субботу приезжали. А уже дома мы с Верой, бо старшая сестра была больная. У неё сердце больное было. А я и Вера доили эту корову, и двое свиней, и кормили, и хозяйством занимались. А они уже там. Зато у нас был хлеб, у нас была корова, у нас было молоко. Мы голода не знали. А некоторые же тяжело переносили это. И у нас в подвале отец, ну, там купил у кого-то, я не знаю подробности, жернова были. И мы все по очереди, хто мог, крутили и мололи это збожжа, вот*»[22].

Афіцыйнае працаўладкаванне было важным не толькі з прычыны атрымання прадуктовых картак, але дзеля таго, каб пазбегнуць адпраўкі на прымусовыя працы ў Германію, на якія з Гародні вывезлі каля 1,5 тыс. Чалавек[23].

«*Я сама получила 6 повесток в Германию. И не поехала. [...] Работали очень тяжело. Тут такой был немец Рик. И он обрабатывал огород, пол-Германии кормил овощами. Вот, где теперь новый парк по Лермонтова, туда. [...] Получалось, что мы работаем на него. […] По-моему он нам ничего не платил. Но работали мы, конечно, с восьми утра до восьми вечера, вот. Але ж в Германию не поехали. И вот, мы с этой Стасей работали у Рика. Я пошла, а потом и она пошла. […] А уже када почувствовали, что война тут не в их пользу, то этот Рик собрал монатки [і ўцёк]*»[24].

Маладыя людзі ўсялякімі спосабамі стараліся пазбегнуць адпраўкі ў Германію: «*Аблавы былі, так называемые, часта рабілі в горадзе. А калі аблавы? Калі з касцёла выходзяць. Бачаць, ацэпят […] ад пачатку Савецкай плошчы по кінатэатр Гродна [...] Ну, вот, трэба была скасіць ва двор, падняцца на чэрдак і патом там былі такіе […] праходы. Трэба было залецець ва двор на чэрдак, а по чэрдаку там былі выбіты паміж дамамі дзюры такіе. І там ужэ спусціцца каля кінацеатра Гродна. А на этай старане, дзе горіспалком так там былі […] паміж падвaламі такіе [хады]*»[25].

Асноўнай дзейнасцю як дарослых, так і дзяцей падчас акупацыі была праца. Яўгенія Шпак 1934 г. нар. узгадвала: «*З-за матэрыяльных праблем, асабліва з харчаваннем працаваць прыходзілася і мне. Напрыклад, мы хадзілі да заможнага селяніна Аніські ў Пярэселку капаць яго бульбу, за што атрымлівалі харчаванне*»[26]. Навучанне як прыярытэтны від дзейнасці для дзяцей адсутнічала пасля забароны польскіх школ і няўдалых спробаў адкрыць беларускія пры Беларускім нацыянальным камітэце.

Праўда, некаторыя рэспандэнты ўзгадвалі пра існаване патаемных школ: «*Вучыцца пры немцах было нельга. Тады арганізавалі школку ў пані Гэлены Ражко [...]. Вучылася ў яе каля 12 чалавек у тры змены. Адзін стаяў на «шухеры». Калі з боку вуліц з'яўляліся нямецкія жандары, то мы беглі на паддашша [...]. Вучыліся так цягам некалькі зімаў*»[27].

Выпрацоўка новых стратэгій паводзін спрыяла паглыбленню гараджан у прыватнае жыццё. Імкненне гарантаваць асабістую бяспеку і адсутнасць магчымасці ўплываць на публічнае жыццё, садзейнічалі амаль поўнаму адасабленню ад яго.

Вобраз смерці

Баявыя аперацыі ў Гародні адбываліся ў першыя дні вайны і падчас уваходу Чырвонай Арміі ў 1944 г. Але смерць пастаянна прысутнічала ў акупаваным горадзе. Часта гэта была «дэманстрацыйная» смерць.

Спачатку гараджане сутыкнуліся з выпадковасцю гібелі падчас бамбёжкі Гародні: «*Так мы убежали. Под нами полуподвальная... Красавец Вася, помочник машиниста, только приехал […] спал. Накрыло его. Под ним подвальное помещение, мужик, чехать хотел на войну, спал. Вот их двое погибло. С Первомайской улицы прибежала Крыся, сирота, жила с тёткой. Прибежала, вроде, хотела купить хлеба или чего... Во двор вбежала и осколками... Погибла. А в подвале, где ресторанчик […] комната, где жила бедота. Он […] двор наш убирал. Сын погиб*»[28].

Усталяванне акупацыйнай улады і яе рэпрэсіі фарміравалі страх і неўпэўненасць: «*Немцы наогул забівалі 10 чалавек з той вуліцы, дзе маглі знайсці забітага немца*»[29].

Расстрэлы мясцовых жыхароў адбываліся на тэрыторыі форта № 2 каля в. Навумавічы Гарадзенскага раёну.

Вобраз смерці быў звязаны таксама і з савецкімі ваеннапалоннымі, якія гінулі ад хваробаў і голада ў лагерах: «*А ещё там казармы, то там были пленные, вот. Ой, так много было! А молодые хлопцы, Боже! […] Они умирали с голоду, бо их там почти не кормили, вот. А потом расстреляли, или... Я уже не знаю, может, увезли? Ну, собственно, потом уже война. Тут уже советы пришли. Они гнали этих пленных туда дальше в Германию. Ну, очень много было пленных! Ну, в Гродно было... Моего отца немцы, ну, как бы мобилизовали, бо у нас был конь и лошадь. Ой, конь и лошадь. И воз. И они ему приказали работать. Ну, он там только за конём ухаживал. А так он там ничего такого не делал. Там всё делали пленные. И на этом возу возили, умирали пленные. И, вот, там было немецкое кладбище такое. [...] Да, вот, туда по левую сторону от этих казармаў, то*

*было немецкое кладбище, вот. […] И там хоронили этих пленных, но так страшно! Это уже отец рассказывал. Пленные выкапывали ров такой и так за ноги, за руки...»*[30].

Вельмі ўзрушана і эмацыйна рэспандэнты прыгадвалі стаўленне немцаў да габрэяў і забойствы: «*Евреи уже ходили – звезда здесь и здесь. Уже нельзя по тротуару идти. Это было ужасно. Для любого трезво мыслящего человека это ужасно. Им нельзя было ходить по тротуару. Они шли около тратуара*»[31].

Нягледзячы на асуджэнне знішчэння габрэяў, рэспандэнты рэдка згадвалі пра спробы дапамагчы ім. Магчыма, гэта было звязана як з культурнай дыхатаміяй «свае-чужыя», якая паглыблялася антысеміцкай прапагандай, так і страхам за сваё жыццё: «*На куце вуліц Горкага і Камунальнай стаяў дом пані Чартковай з крамай, габрэйкі. Я сябравала з яе дачкой, і калі іх адправілі ў гета, то я хадзіла на вуліцу Рабочую і горкай там падымалася, а там гулялі габрэйскія дзеці. І вось я гэтай сваёй сяброўцы давала кавалак хлеба. Маці пра гэта ніколі не ведала, бо, канешне, катэгарычна мне б забараніла гэта рабіць*»[32].

Гета асацыявалася з запланаванай і сістэматычнай смерцю. Але гэта была смерць «чужога».

Рэспандэнты таксама прыгадалі рабунак гета, які адбыўся ўжо пасля яго ліквідацыі, калі будынкі апусцелі: «*В гето гродненские и поляки, и беларусы лазили воровали. [...] То двоих, видно, для показу поймали. Они там залезли и хотели добро жыдоўское забрать, но их поймали и повесили. И три дня они висели. А висели […] как раз напротив автовокзала. [Там] такой новый дом построили, долго-долго строили. То тут были два жыдовских дома. И с такими арками. Так, вот, там две арки было. И одного в одной арке повесили, другого в другой. И три дня они висели. Но после этого нихто не лазил в гето. Немец сказал больше никто не полезет в гето. И так и было*»[33].

У заключэнне трэба адзначыць, што акупаваная Гародня ў памяці яе жыхароў ўяўляла сабой горад з новымі ўмовамі і сацыяльнымі практыкамі. Ва ўспамінах сведкаў – на той час дзяцей ці маладых людзей – дамінуючае месца займае штодзённасць, якая непасрэдным чынам была звязана з выпрацоўкай стратэгій

паводзін і адаптацыйных працэсаў. Праз прыстасаванне да новых умоваў, на стварэнне якіх просты гараджанін не мог паўплываць, адбывалася свайго роду «прызнанне» акупацыйнай улады. Напрыклад, уладкаванне на працу, атрыманне пашпартоў, выкананне законаў і інш. Яе прыкладам можна лічыць падпольнае навучанне. Да паводзінаў, якія выходзілі за межы кантралюемых ці дазволеных, можна аднесці таксама пазбяганне вывазу ў Германію, дапамога ваеннапалонным вязням у лагерах і габрэям у гета. Такія стратэгіі паводзінаў былі звязаны не толькі з імкненнем захаваць жыццё, дапамагчы іншым, але і з жаданнем уплываць на рэчаіснасць, што надавала значнасць існаванню кожнага чалавека. Менавіта таму гэта засталося ў памяці, адной з функцый якой з'яўляецца якраз зацвярджэнне сваёй важнасці.

Яшчэ адной рэчаіснасцю, што існавала па-за законам, была злачыннасць – крадзяжы, рабаванне. Ваенны час выкрываў шматлікія заганы грамадства. У выніку паглыблення ў прыватнае жыццё і засяроджвання на асабістай бяспецы знікала публічная прастора з яе самакантролем за дзейнасцю гараджан.

---

[1] У артыкуле былі выкарыстаны ўспаміны жыхароў Гародні 1919–1934 г. нар., запісаныя на падставе метада біяграфічнага інтэрв'ю ў 2011–2014 гг. Сярод рэспандэнтаў 5 жанчын і 2 мужчыны, па веравызнанню – каталікі, праваслаўныя і адна евангельская хрысціянка-баптыстка, па нацыянальнаму самавызначэнню – беларусы і палякі. Урыўкі з успамінаў прыводзяцца на мове рэспандэнтаў. Скарачэнні, пазначаныя шматкроп'ем у квадратных дужках, не змяняюць сэнсу аповеду.

[2] Успаміны Віктара М., 1928 г. нар. Запіс ад 12.06.2007. г. Гародня // Асабісты архіў аўтараў.

[3] Аўдыёінтэрв'ю Антаніны М., 1919 г. нар. Запіс ад 01.02.2013. г. Гародня // БАГВ. 43(1) – 712 – 2680.

[4] Filipkowski P. Historia mówiona i wojna. Doświadczenie obozu koncentracyjnego w perspektywie narracji biograficznych. Wrocław, 2010. S. 30.

[5] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня // БАГВ. 43(1) – 711 – 2682.

[6] Успаміны Віктара М., 1928 г. нар. Запіс ад 12.06.2007. г. Гародня.

[7] Успаміны Чарнашовай Веры Фёдараўны, 1928 г. нар. Запіс ад 28.07.2014. г. Гародня // Асабісты архіў аўтараў.

[8] Аўдыеінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[9] Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Гародня, 2014. С. 383–385.

[10] Аўдыёінтэрв'ю Антаніны М., 1919 г. нар. Запіс ад 01.02.2013. г. Гародня // БАГВ. 43(1) – 712 – 2680.

[11] Успаміны Валканоўскай Крысціны Станіславаўны, 1932 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 133.

[12] Успаміны Шпак Яўгеніі Леанідаўны, 1934 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 138.

[13] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г.н. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[14] Успаміны Валканоўскай Крысціны Станіславаўны, 1932 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 134.

[15] Тамсама. С. 133.

[16] Тамсама.

[17] Успаміны Чарнашовай Веры Фёдараўны, 1928 г. нар. Запіс ад 28.07.2014. г. Гародня.

[18] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[19] Успаміны Віктара М., 1928 г. нар. Запіс ад 12.06.2007. г. Гародня.

[20] Аўдыёінтэрв'ю Антаніны М., 1919 г. нар. Запіс ад 01.02.2013. г. Гародня.

[21] Аўдыёінтэрв'ю Сальвясюка Казіміра Якубавіча, 1931 г. нар. Запіс ад 09.03.2014. г. Гародня // БАГВ. 43(1) – 958 – 4368.

[22] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[23] Гародня X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Гародня, 2014. С. 388.

[24] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[25] Успаміны Віктара М. 1928 г. нар. Запіс ад 12.06.2007. г. Гародня.

[26] Успаміны Шпак Яўгеніі Леанідаўны, 1934 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 138.

[27] Успаміны Валканоўскай Крысціны Станіславаўны, 1932 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 135.

[28] Успаміны Чарнашовай Веры Фёдараўны, 1928 г. нар. Запіс ад 28.07.2014. г. Гародня.

[29] Успаміны Валканоўскай Крысціны Станіславаўны, 1932 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 134.

[30] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г. нар. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

[31] Успаміны Чарнашовай Веры Фёдараўны, 1928 г. нар. Запіс ад 28.07.2014. г. Гародня.

[32] Успаміны Валканоўскай Крысціны Станіславаўны, 1932 г. нар. // Горад Святога Губерта. Выпуск 6 (2012). Гродна, 2012. С. 135.

[33] Аўдыёінтэрв'ю Клаўдзіі Н., 1926 г.н. Запіс: чэрвень 2012. г. Гародня.

*Андрей Киштымов,*
*канд. ист. наук (Минск)*

# Гродно, 1950: фальшивое дело КПЗБ

Прежде всего, одно объяснение. Каким образом меня из сферы моих научных интересов, из «моего» XIX века занесло в век XX-й? Отвечаю – личный мотив. Что же касается научного мотива, то это моя уверенность в том, что к числу «белых пятен» или «черных дыр» белорусской истории принадлежит история Коммунистической партии Беларуси. Почему так случилось? Это тема для отдельного серьезного разговора. И данный сюжет – лишь красноречивая иллюстрация той истории Беларуси, которой еще нет в научных монографиях и учебниках.

23 августа 1948 г. вторым секретарем Гродненского обкома партии был избран Сергей Осипович Притыцкий, а 13 декабря того же года он стал первым секретарем. «Избран» – это, конечно, стандартная формулировка того времени. Более точно – был назначен. А это означает – прошел все проверки и согласования, и сомнений в его лояльности не существовало. Но уже 30 октября 1951 г. С. О. Притыцкий с явным понижением был отправлен в Минск. Решением ЦК КП(б)Б его утвердили заместителем заведующего отделом партийных, профсоюзных и комсомольских органов ЦК.

Быстрая и весьма неожиданная рокировка партийных кадров – дело достаточно обычное в советской истории. Но в данном случае мы сталкиваемся с явно не простым и не стандартным явлением, за которым даже в партийных документах закрепилось название «дело Притыцкого».

В чем суть этого дела, и каковы его основные действующие лица? По сути – это белорусский аналог общесоюзных послевоенных дел по выявлению «врагов народа». Основные действующие лица – верхи партийно-советского руководства БССР того времени. Хотя кое-какие «нити» этого дела шли выше, в Москву, к Лаврентию Берии и Георгию Маленкову.

Основным архивным источником для нас стала стенограмма Пятого Пленума ЦК КПБ от 24 июля 1953 г. Пленума неординарного. Например, именно на нем в качестве председателя Совета Министров БССР был утвержден К. Т. Мазуров. Но главное, что пленум проходил почти сразу после ареста Л. П. Берии (арестован 26 июня). А в Беларуси недобрую память о себе оставил другой Лаврентий – Лаврентий Цанава. Поэтому пленум стал своеобразным «моментом истины» для белорусской партийно-советской номенклатуры того времени.

Лаврентия «большого» выступающие клеймили скорее ритуально, повторяя формулировки из постановления Пленума ЦК КПСС. А вот про «Лаврентия 2» говорили конкретно, с фактами. Не обошлось и без взаимных обвинений. Вспомнили все. В том числе и главное громкое послевоенное дело – «дело Притыцкого».

Тогдашний первый секретарь ЦК КПБ Николай Семенович Патоличев в своем докладе, открывшем пленум, был краток: «*Цанава сфабриковал клеветнические материалы на товарища Притыцкого, когда он работал первым секретарем Гродненского обкома*»[1].

Более подробную картину дал секретарь Гродненского обкома КПБ Р. Е. Королев: «*Цанава при попустительстве других членов бюро протаскивал угодных ему людей, старался избивать, шельмовать неугодных ему работников. Так, например, возникло «гродненское дело», когда за робкую попытку гродненских коммунистов покритиковать отдельных работников органов МГБ, вроде каким был Фролов – начальник областного управления МГБ, отдельных начальников районных отделений, спившихся и разложившихся в моральном отношении, и еще кое-кого, то за это были избиты, ошельмованы ряд руководящих работников*». Причем самое непосредственное участие в этом приняла присланная в Гродно комиссия ЦК в составе Козлова, Абрасимова и самого Цанавы: «*Методы и приемы этой комиссии: допросы, шантажи, угрозы, оскорбления*»[2].

Подробнее всего, в деталях историю изложил сам С. О. Притыцкий. Он считал, что его столкновение с Цанавой – «правой рукой Берия в его враждебной, антипартийной и антигосударственной деятельности на территории Белоруссии», началось еще

в 1949 г. на XIX съезде КП(б)Б. Тогда Притыцкий выступил против избрания в ЦК начальника Гродненского областного управления МГБ Фролова.

Дело в том, что партийная организация МГБ Гродненской области ранее проголосовала против избрания Фролова делегатом съезда. И лишь после звонка второго секретаря ЦК КПБ М. В. Зимянина Фролова повторно выдвинули в депутаты, причем в нарушение партийного устава от парторганизации кирпичного завода. *«С этого момента началась травля Гродненского обкома партии, которая продолжалась три года. Деятельность Гродненского обкома была парализована, ибо он не успевал отбиваться от атак Цанавы и его прислужников»*[3].

18 июля 1950 г. на пленуме Гродненского обкома партии *«отдельные товарищи: Киштымов – зам. председателя Гродненского исполкома, Сукачев – председатель Гродненского райисполкома выступили с критическими замечаниями в адрес Фролова. И вот что из этого получилось. Пленум еще не закончил свою работу, как по настоянию Цанавы от нас была потребована стенограмма пленума»*.

Дальше – приезд 2 августа той самой *«чрезвычайной комиссии ЦК в составе Козлова, Цанавы, Абрасимова, Макарова»*. Комиссия по отношению к членам бюро обкома партии *«применяла невиданные в партийной практике методы шантажа, третирования и запугивания, а отдельных секретарей райкомов партии держали по два часа навытяжку»*[4].

Комиссия работала два дня, содержание составленной справки в Гродно, вопреки обычной практике, не показала. В итоге Притыцкого вызвали на закрытое бюро ЦК КПБ, где Абрасимов *«внес предложение снять с работы секретарей обкома Притыцкого, Романова, а зам. председателя облисполкома тов. Киштымов к этому времени уже был снят с работы»*[5].

Несколько слов о *«товарище Киштымове»*. Матвей Иванович, мой дед по отцовской линии родился в 1891 г. в деревне Пустуево Брылинской волости Курганского уезда Тобольской губ. в крестьянской семье. С 1913 г. – в царской армии, в Первую мировую войну – в Польше, Галиции и на Румынском фронте. С 1919 г. –

в Красной Армии. С уральскими полками прибыл на советско-польскую войну. Так началась белорусская страница его биография.

В феврале 1920 г. стал членом РКП(б), в 1922–1923 гг. – секретарь Холопеничского волостного комитета. Там и женился на белоруске, моей бабушке Ефросинье Евстафьевне Бибиковой.

В 1923–1926 гг. учился в Коммунистическом университете им. Ленина в Минске. Затем, последовательно, секретарь Луполовского, Могилевского, Белыничского, Шкловского, Слуцкого и Минского сельского РК КП(б)Б. В это время – делегат съездов КП(б)Б, избирался в ЦК и Ревизионную комиссию. Его фотография этого времени публиковалась на страницах «Истории КПСС» в 6-ти тт. (Т. 4. Кн. 2)[6]. В ноябре 1937 г. был арестован и исключен из партии. В феврале 1938 г. реабилитирован. Партийный билет вернули.

Войну встретил в Западной Беларуси, секретарем Ивановского райкома Пинской обл. Воевал, получил звание подполковника Причем еще в 1942 г. был награжден орденом Боевого Красного знамени. В начале войны такие ордена давали скупо. К нему добавились ордена Отечественной войны II-й и I-й степени. А в 1944 г. получил орден Трудового Красного знамени *«за участие в социалистическом строительстве»*, то есть – за довоенные заслуги. Заместителем председателя Гродненского облисполкома он работал с июня 1946 г.[7]

В своем заключительном слове на Пленуме в связи с многочисленными вопросами Н. С. Патоличеву пришлось подробнее остановиться на ситуации вокруг Притыцкого: *«Об этом очень много говорили, но не все в курсе дела»*[8]. О комиссии по рассмотрению «дела» Патоличев сказал так: *«Лучше бы мне самому поехать. Но я работал тогда в Белоруссии всего только 10 дней и, честно говоря, очень многого не знал»*[9].

Комиссией дело не ограничилось. Несмотря на ее негативную оценку, Притыцкого оставили секретарем. Однако в ноябре 1950 г. от Цанавы поступает *«большая записка, ставящая под сомнение политическую ценность и порядочность тов. Притыцкого»*. О ее содержании Патоличев высказался так: *«Вы знаете, как пишут такие записки, в иной и пять лет не разберешься. Так было и с за-*

*пиской о т. Притыцком. А его политическая благонадежность была поставлена под сомнение. Передо мной, как первым секретарем ЦК, встал вопрос очень остро. За этой запиской последовали другие, уже и о родственниках т. Притыцкого, и о родственниках его жены*»[10].

Очевидно, что Л. Цанава весьма последовательно и настойчиво готовил в послевоенной Беларуси новое громкое «дело».

В конечном итоге вопрос решался в Москве, в двух беседах Патоличева с секретарем ЦК Г. М. Маленковым. Он и посоветовал «*отозвать т. Притыцкого в ЦК КПБ с тем, чтобы больше не усложнять обстановку, но и не давать его скомпрометировать*»[11].

В условиях командно-административной системы не только экономика, но и система репрессий носила плановый характер. Более того, репрессии носили характер компаний. Причем регионы шли за центром и копировали его действия. В послевоенном СССР, как мы знаем, было два крупных дела – разгром Еврейского антифашистского комитета и «дело врачей». Как организатор убийства в Минске С. Михоэлса, Лаврентий Цанава отметился в первом деле. Нам представляется, что после этого он не без поддержки из Москвы решил создать свое «белорусское дело» новых «врагов народа», а заодно и проверить на прочность позиции нового первого секретаря ЦК КПБ – Патоличева. В этом деле в качестве главных обвиняемых должны были идти бывшие деятели КПЗБ.

Но вернемся к гродненским событиям начала 1950-х гг.

Почему именно С. О. Притыцкий стал в них знаковой фигурой? И как мог выглядеть «компромат» на него? Свою роль сыграло его довоенное прошлое. Роспуск по решению Коминтерна компартии Польши, КПЗБ и КПЗУ автоматически ставил клеймо недоверия на тех, кто был в их рядах. В том числе и на С. Притыцком, хотя еще перед войной было принято решение считать его партийный стаж с 1931 г.

Уже после ареста Л. Цанавы и окончания следствия по его делу в октябре 1955 г. в справке генерального прокурора СССР отмечалось: «*Цанава развил активную деятельность по собиранию так называемых «компрометирующих материалов» на Притыцко-*

*го: просматривались архивно-следственные дела на лиц, которые в прошлом находились на подпольной работе в Западной Белоруссии; были проверены все родственники как Притыцкого, так и его жены; от незаконно арестованного Анисова вымогались ложные показания для компрометации Притыцкого»*[12].

Сотрудника редакции газеты «Советский крестьянин» Сергея Григорьевича Анисова, коммуниста с 1926 г. по приказу Цанавы арестовали 10 февраля 1950 г. До войны, с мая 1932 г. Анисов был на подпольной работе в Западной Беларуси (с декабря 1934 г. первый секретарь ЦК КСМЗБ, с августа 1935 г. – секретарь Брестского окружного комитета КПЗБ). Цанава добивался от него ложных показаний в отношении Притыцкого и Самутина[13]. Как показал Анисов, его допрашивали также о взаимоотношениях с председателем Совета министров БССР П. К. Пономаренко. Не добившись от Анисова показаний, необходимых для компрометации партийных работников, и не имея доказательств его вины, Цанава направил его дело на Особое совещание. В результате Анисов был заключен в исправительно-трудовой лагерь сроком на 5 лет. Определением Военной коллегии Верховного суда СССР 26 сентября 1954 г. постановление Особого совещания по делу Анисова было отменено, и он был полностью реабилитирован[14].

Нам представляется, что Цанава совсем не случайно в деле С. Г. Анисова действовал так жестко. Ведь Анисов, как и Притыцкий тоже встретил 1939 г. в польской тюрьме. Но в его судьбе этот год означал только смену тюремщиков. Он попал в немецкий лагерь для военнопленных и был освобожден только в 1945 г. Так что новых заслуг перед советской властью у него не было, а вот весьма подозрительное для органов госбезопасности прошлое – присутствовало. Этим и объясняется его судьба – единственного, получившего реальный срок по фальшивому «делу КПЗБ».

Судя по всему, еще одним ближайшим кандидатом на «дело», вместе с С. Притыцким, должен был пойти Владимир Зенонович Царюк. Они были не только соратниками по КПЗБ, но и сокамерниками по польской тюрьме в Равиче, откуда вырвались в сентябре 1939 г.[15] В годы войны их связал Центральный штаб партизанского движения. В. З. Царюк партизанил в Столбцов-

ском районе, С. О. Притыцкий – заместитель начальника ЦШПД, а с марта 1944 г. – еще и начальник Польского штаба партизанского движения.

Здесь, кстати, тоже есть место для исторического поиска. О том, что такой штаб существовал – общеизвестно. Но история его создания, деятельность, роль самого С. О. Притыцкого в этом деле пока не стали объектом внимания исследователей. А жаль. Наличие под эгидой Центрального штаба партизанского движения двух региональных, скажем так, республиканских – Белорусского и Украинского штабов, хотя бы как-то объяснимо и логично. Но ведь кем-то и как-то обосновывалась необходимость существование и «заграничного» Польского штаба партизанского движения?!

С августа 1949 г. двух ветеранов КПЗБ связали и родственные узы. Сестра Притыцкого Ираида, в то время студентка БГУ, вышла замуж за сына Царюка – Александра[16]. С апреля 1947 г. В. З. Царюк – заместитель председателя Барановичского облисполкома. С ноября 1951 г. – председатель Барановичского горисполкома. Еще одним потенциальным кандидатом на планируемое «дело КПЗБ» выглядит Александр Маркович Рябцевич. У него – общее прошлое с Притыцким и Царюком по «партизанке» на необъявленной войне в Западной Беларуси и на «большой войне» 1941–1945 гг. С 1950 г. Герой Советского Союза полковник А. М. Рябцевич в органах Министерства государственной безопасности Белорусской ССР. Однако с 1952 г. – в отставке. Нам представляется, что эта отставка была неслучайной. Фальшивое дело КПЗБ развалилось, но для его «кандидатов» карьерный рост на время был закрыт.

Понятно, что сфабрикованное Цанавой «дело КПЗБ» планировалось как крупная операция общереспубликанского масштаба. Не исключаю, что при определенных обстоятельствах оно могло бы перерасти и в «партизанское дело». Но тут сдерживающим фактором явно выглядит фигура Пантелеймона Кондратьевича Пономаренко, который в то время пользовался особым доверием И. В. Сталина, и, что не исключалось, мог придти на смену вождю.

В конечном итоге тогдашний первый секретарь ЦК КПБ Н. С. Патоличев «спрятал» С. О. Притыцкого в Минске, переведя его из Гродно на место заместителя заведующего отделом партий-

ных, профсоюзных и комсомольских органов ЦК КП(б) Белоруссии.

Лаврентий Цанава после многолетнего (с 1938 г.) руководства карательными органами на белорусской земле в ноябре 1951 г. стал заместителем министра госбезопасности СССР и одновременно начальником 2-го Главного управления МГБ СССР, которое занималось контрразведкой. Его бдительность и настойчивость в выявлении «врагов» в Беларуси явно способствовали новому назначению.

Таким образом, в начале 1950-х гг. Гродно стало ареной партийных аппаратных игр, которые могли иметь весьма долгосрочные последствия.

Карьера Лаврентия Цанавы завершилась арестом в апреле 1953 г. Для него все закончилось смертью в московской тюрьме во время следствия.

В том же 1953 г. с С. Притыцкого была снята опала, и он стал первым секретарем Барановичского обкома партии. Рядом был тесть – В. Царюк. Умер С. Притыцкий будучи Председателем Президиума Верховного Совета Белорусской ССР. Кстати, на этом посту он сменил в 1968 г. В. И. Козлова, члена упомянутой партийной комиссии 1950 г.

Данное сообщение не претендует на сенсационность. Однако отметим, что как в официальных историях КПБ, так и в «Очерках истории Гродненской областной партийной организации»[17], о событиях начала 1950-х гг. – ни слова. Не имея партийного «благословения», без данного сюжета обошелся и сборник о жизни и деятельности С. Притыцкого «Жизнь, отданная народу»[18]. Хотя его составители, безусловно, знали о «деле КПЗБ». Ведь совсем неслучайно, предисловие к этой книге, подписанное П. М. Машеровым, носит заголовок «Народный герой», напрямую отсылающий к событиям начала 1950-х гг. Приведу цитату из выступления министра юстиции БССР И. Д. Ветрова на уже упомянутом V Пленуме ЦК КПБ в июле 1953 г.: *«Здесь правильно выступил тов. Королев. Гродненская партийная организация пыталась призвать к порядку холуя провокатора Цанавы – Фролова. Что же из этого получилось? В угоду Цанаве сняли с работы национального белорусско-*

*го героя, каким является Сергей Притыцкий, а холуй провокатор Фролов стал первым заместителем Цанавы»*[19].

Как нам представляется, впервые о «деле Притыцкого» упомянул в своих воспоминаниях Н. С. Патоличев. Они были изданны в 1995 г., уже после его смерти[20]. Отмечу, что это достаточно стандартный, но далеко не худший образец партийно-советских мемуаров. По крайней мере за явной субъективностью автора весьма отчетливо прослеживаются симпатии и антипатии отдельных группировок внутри советской партийно-государственной «машины». Нашли в них и отражение отголоски внутрипартийной борьбы.

Практически прямым цитированием воспоминаний Н. С. Патоличева ограничился автор параграфа «Пасляваеная ідэалогія сталінізму: асаблівасці ўкаранення» В. Новицкий в последнем томе 6-томной «Гісторыі Беларусі»[21].

Мало что добавляют по сути этого дела и недавно изданные в двух вариантах воспоминания сестры Сергея Притыцкого Ираиды Иосифовны Царюк (Притыцкой)[22]. Доктор исторических наук ограничилась пересказом мемуаров Патоличева и семейных хроник, хотя, казалось бы, у нее были все возможности квалифицированного исторического поиска. При этом даже июльский пленум ЦК КПБ, на котором вспоминали «дело Притыцкого», она почему-то датирует 1959 г., хотя он проходил в 1953 г.[23]

Казалось бы, этот сюжет обязательно должен присутствовать в монографии молодого исследователя Яна Шумского «Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.): Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі»[24]. Ведь там есть глава «Кадравая палітыка»[25], а в ней даже раздел «Вярхушка» ўлады». Однако автор почему-то предпочел не заметить внутрипартийной борьбы в послевоенной Беларуси. Более того, в этой монографии вы не найдете фамилий ни С. Притыцкого, ни В. Царюка. Нет, кстати, в этой монографии и фамилии Л. Цанавы. То есть, весьма заметных, ключевых фигур из той самой «верхушки». Вероятно, даже упоминание о реально существовавшем клане бывших членов КПЗБ и их роли в истории Советской Беларуси, как, впрочем, и сюжет о роли МГБ БССР в проведении этой самой кадровой политики, шли бы в разрез с основными авторскими концептуальными установками.

Молчит про это «дело» и сборник «Гродненская область в документах и материалах (1944–1995)», изданный в 2004 г., но составленный в «лучших» советских традициях: подробно – о достижениях и победах, и ничего – о проблемах.

Таким образом, «фальшивое дело КПЗБ» более чем полувековой давности, нельзя считать закрытым. Тем более, что пока не обнаружены *«более 400 листов»* дела Притыцкого, старательно собранные «Лаврентием 2» и его вторая докладная записка, представленная 27 ноября 1950 г. в ЦК КП(б) Белоруссии. Про них упомянуто в «Справке по делу Л. Ф. Цанава. 10 октября 1955 г.»[26]

---

[1] Национальный архив Республики Беларусь (далее: НАРБ). Ф. 4П, оп. 20, д. 297. Л. 11.

[2] Там же. Л. 41.

[3] Там же. Л. 78.

[4] Там же. Л. 80.

[5] Там же.

[6] История Коммунистической партии Советского Союза: в 6 т. Т. 4: Коммунистическая партия в борьбе за построение социализма в СССР: 1921–1937 гг. Кн. 2: 1929–1937 гг. / Гл. ред. П. Н. Поспелов; Авт. тома Д. М. Кукин. Москва, 1971. С. 424.

[7] НАРБ. Ф. 4П, оп. 106, д. 823.

[8] НАРБ. Ф. 4П, оп. 20, д. 297, л. 143.

[9] Там же.

[10] Там же. Л. 145.

[11] Там же.

[12] Политбюро и дело Берия. Сб. док. М., 2012. С. 837.

[13] Самутин Василий Емельянович (р. 15(28). 06. 1906, с. Волчков Перевоз, ныне Волынская область – 3.08.1981) – советский партийный деятель, один из руководителей партизанского движения в Белпруси в годы Великой Отечественной войны, журналист. Член КПСС с 1926 г. Родился в семье рабочего. С 1927 г. на руководящей комсомольской и журналистской работе в БССР. В 1934 г. на подпольной работе в Западной Белоруссии, секретарь Белостокского окружкома КПЗБ; в 1935 г. арестован, заключён в тюрьму. С 1939 г. на партийной и журналистской работе в БССР. С мая 1943 г. 1-й секретарь Белостокского подпольного обкома КП(б)Б, руководитель партизанского движения в области. В 1944–1946 гг. редактор газет «Звязда», «Советская Белоруссия». В 1946–1950 гг. 2-й, затем 1-й секретарь

Барановичского обкома КП(б)Б. С 1950 г. на ответственной государственной и журналистской работе. В 1949–1952 гг. кандидат в члены ЦК КП(б)Б. Награжден орденом Ленина, 5 другими орденами, а также медалями.

[14] Политбюро и дело Берия. Сб. док. Москва, 2012. С. 843–844.

[15] Жизнь, отданная народу. Статьи и речи С.О. Притыцкого, документы и воспоминания о нем. Минск, 1978. С. 34.

[16] Царюк И. О. Крутые дороги: посвящается Сергею Притыцкому. Минск, 2012. С. 218.

[17] Очерки истории Гродненской областной партийной организации. Минск, 1990.

[18] Жизнь, отданная народу. Статьи и речи С. О. Притыцкого, документы и воспоминания о нем. Минск, 1978.

[19] НАРБ. Ф. 4П, оп. 20, д. 298. Л. 48.

[20] Патоличев Н.С. Совестью своей не поступись. Москва, 1995. С. 194–196.

[21] Гісторыя Беларусі. У 6 тт. Т. 6. Беларусь ў 1946–2009 гг. Мінск, 2011. С. 143–144.

[22] Царюк И. О. От родного порога. Минск, 2011. 168 с.; Она же. Крутые дороги: посвящается Сергею Притыцкому. Минск, 2012. 256 с.

[23] Царюк И.О. Крутые дороги... С. 219–221.

[24] Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953 г.): Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі. 2-е выд. Смаленск, 2014.

[25] Там же. С. 108–128.

[26] Реабилитация: Как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы. Т. 2. Февраль 1956 – начало 80-х годов. Москва, 2003. С. 322; Политбюро и дело Берия. Сб. док. Москва, 2012. С. 837.

*Тадэвуш Гавін,*
*PhD (Гародня)*

# Пісьменнік Аляксей Карпюк і польскае Адраджэнне ў Беларусі падчас Перабудовы

«*У мяне стварылася ўражанне, што некаторыя нашыя ўплывовыя правадыры дагэтуль кіруюцца прынцыпам: утрымліваць, не адпускаць, не дазваляць, падазраваць і нічога не змяняць*».

З пісьма Аляксея Карпюка
да Міхаіла Гарбачова

Жыццёвы і творчы шлях Аляксея Карпюка вельмі багаты. Ёсць у ім узлёты і перамогі, але разам з тым паразы і расчараванні. Да галоўнага вялікага расчаравання пісьменніка адносіцца тое, што беларусы не здолелі ў поўнай меры выкарыстаць перабудову і распад СССР для свайго нацыянальнага Адраджэння. Аляксей Карпюк надзвычай балюча перажываў за беларускую мову і беларускую культуру, якія дыскрымінаваліся ўладамі БССР увесь пасляваенны час.

Разглядаючы ўнёсак пісьменніка А. Карпюка ў польскае нацыянальнае Адраджэнне ў Беларусі падчас Перабудовы (1987–1992 г.), пакіну па-за ўвагай яго жыццёвы і творчы шлях. Біяграфія гарадзенскага пісьменніка дастаткова вывучаная. Бліскуча, у вельмі сціслай форме і практычна ў поўным аб’ёме жыццёвы і творчы шлях знакамітага гарадзенца раскрыла беларуская паэтка Данута Бічэль ў прадмове да яго аўтабіяграфічнай кнігі «Развітанне з ілюзіямі», выдадзенай у 2008 г.[1]

Беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк – чалавек, вельмі блізкі мне, бо ў свой час пэўным чынам паўплываў на мой лёс.

Упершыню я сутыкнуўся з Аляксеем Карпюком, калі служыў ва

Ўладзівастоку ў 1987 г. Ён напісаў мне ліст. Гэта была рэакцыя на мой артыкул, дасланы ў газету «Гродзенская праўда». Я распавядаў пра сітуацыю з польскай нацыянальнай меншасцю на Гарадзеншчыне, пра вывучэнне польскай мовы і навучанне на ёй[2]. Артыкула не надрукавалі, але яго далі пачытаць Карпюку. У сваім пісьме сп. Карпюк прасіў даслаць адрасы палякаў, якія таксама змагаюцца за навучанне на роднай мове. На жаль, тады я такіх людзей у Гародні не ведаў.

Гэта быў пачатак нашага з Карпюком знаёмства, якое пазней перарасло ў сяброўства. Увосень таго ж году я перавёўся на службу ў Гародню. Памятаючы пра Карпюкова запрашэнне, прыйшоў да яго на працу, у Дом-музей Элізы Ажэшкі. Нягледзячы на актыўныя пошукі, Карпюк так і не знайшоў людзей, якіх можна было б уцягнуць у польскую адраджэнскую дзейнасць. Ён вельмі ўзрушыўся, калі ўбачыў мяне. Карпюк адразу прасякнуўся да мяне даверам, нягледзячы на форму афіцэра памежных войскаў, якія падначальваліся КДБ. Напэўна ён вырашыў, што разам з аднадумцам у асобе маладога падпалкоўніка яму будзе прасцей працаваць над вырашэннем польскага пытання.

Беларус Карпюк не хацеў мірыцца з тым, што палякі пазбаўленыя права вучыцца на роднай мове, не маюць сваёй газеты і грамадскай арганізацыі, якая бараніла б іх нацыянальныя інтарэсы. Карпюк паказваў мне ліст па польскім пытанні, які ў красавіку 1987 г. ён даслаў Генеральнаму сакратару ЦК КПСС М. Гарбачову[3]. Не ведаю ці бачыў адрасат той ліст, але з Масквы яго пераадрасавалі ў Гародню «для высвятлення акалічнасцяў». Адказ Карпюк атрымаў па тэлефоне ад намесніка загадчыка Аддзелу ідэалогіі Абкаму партыі Дзмітрыя Аляшкевіча. Той паведаміў, што праблемы, аб якой Карпюк напісаў Генеральнаму сакратару, не існуе, бо палякі ніколі не звярталіся да ўладаў з просьбай адкрыць нацыянальную школу[4].

У снежні 1987 г. абураны Карпюк напісаў наступны ліст Гарбачову, у якім польскае пытанне ў СССР параўнаў з параходам «Адмірал Нахімаў», «*які затануў не толькі праз недагляд капітанаў, а перадусім з прычыны састарэласці. Няма нічога дзіўнага ў тым, што палякі не звяртаюцца да ўладаў па дапамогу. Пытанне ў тым, што самі ўлады ніколі не цікавіліся праблемамі*

*нацменшасцяў. На жаль, сённяшняе грамадства пакуль не здолела пазбавіцца страху праследаў за іншадумства*»[5].

На пачатку 1988 г. Аляксей Нічыпаравіч скардзіўся на адсутнасць падтрымкі па польскім пытанні з боку асобных сяброў Саюзу пісьменьнікаў БССР. Ён параіў мне напісаць лісты да яго і да Васіля Быкава з просьбай дапамагчы ў змаганні за правы палякаў[6].

Летам 1988 г. мы з аднадумцамі стваралі Польскае таварыства[7]. Аляксей Карпюк прапанаваў назваць яго імем Яна Каханоўскага. Калі я сказаў, што мы аддаём перавагу Адаму Міцкевічу, ён пагадзіўся і павіншаваў з добрым выбарам[8].

10 жніўня 1988 г. у канферэнц-зале Гарадзенскага ўніверсітэта адбыўся ўстаноўчы сход Польскага культурна-асветніцкага таварыства. Людзей сабралася многа, але адчувалася нейкая скаванасць. Толькі пасля бліскучага выступу А. Карпюка палякі пачалі адкрыта гаварыць пра набалелае, патрабаваць ад уладаў трымацца правоў, дэкларараваных савецкім заканадаўствам[9].

Напрыканцы жніўня на запрашэнне Аддзела культуры Аблвыканкама ў Гародню прыехала польская пісьменніца Барбара Ваховіч. У праграму яе візіту наўмысна не ўключылі спатканне з мясцовымі палякамі. Абураны Карпюк парушыў план, і сустрэча адбылася[10].

Мы зазвычай бачыліся з Карпюком у ягоным працоўным кабінеце. Калі трэба было пагаварыць пра нешта надзвычай важнае, ён здымаў слухаўку, клаў яе на стол і прапаноўваў выйсці на ганак. Калі мы, размаўляючы, безліч разоў абыходзілі вакол будынка Музея, за намі са здзіўленнем назіралі супрацоўніцы. Напэўна, яны не маглі зразумець, што супольнага можа быць паміж афіцэрам памежных войскаў і паважаным у краіне пісьменнікам[11].

Аднойчы Карпюк прапанаваў паразмаўляць з адным ксяндзом у Гарадзенскім раёне наконт агітацыйнай працы па выкладанню польскай мовы ў школах. Менавіта ў той дзень, калі мы вырашылі паехаць, мяне нечакана прызначылі на службу. Пасля сустрэчы Карпюк пазваніў мне і вымавіў усяго некалькі слоў: «*Слабы ён. Нічога з яго не будзе*»[12].

Дзеля легалізацыі Таварыства ў вачах польскіх уладаў Карпюк сустрэўся з польскім консулам у Менску генералам Абядзінскім,

сябрам Ярузэльскага. На пачатку верасня 1988 г. у хаце маіх бацькоў у вёсцы Ласосна зазваніў тэлефон. Я адказаў, як звычайна: «*Падпалкоўнік Гавін слухае*». У трубцы адказалі: «*Czołem, towarzyszu pułkowniku, z tej strony generał broni Obiedziński*». З гэтага моманту распачаліся афіцыйныя кантакты з прадстаўнікамі польскіх уладаў, бліскуча арганізаваныя А. Карпюком[13].

Праўда, пасля сустрэчы з генеральным консулам вайсковае кіраўніцтва абвясціла мне строгую вымову за «несанкцыянаваны кантакт з замежнікам». Праз паўгода мне забаранілі працаваць з важнымі і сакрэтнымі дакументамі, пазбавіўшы права выконваць мой прафесійны абавязак. І гэта нягледзячы на тое, што мы з генерал-палкоўнікам Абядзінскім былі вайскоўцамі краінаў Варшаўскай дамовы[14]. На паперы – саюзнікі, а на самай справе...

У 1989–1990 гг. я малакантактаваў з пісьменнікам. Ён думаў, што зрабіў усё магчымае для легалізацыі нашай дзейнасці, і назіраў, ці даюць палякі рады ў змаганні за свае правы. Аднак, дазнаўшыся, што я буду вылучацца ў Вярхоўны Савет БССР ад мястэчка Сапоцкіна, прыехаў і выступіў там з прамовай. Ён разумеў, што падтрымліваючы мяне, выступае супраць улады[15]. Прамова Карпюка мела сапраўды вялікае значэнне. Многія ведалі яго як чалавека, які пасля вайны працаваў настаўнікам у мясцовай школе, і паважалі.

Перад устаноўчым з’ездам Саюза палякаў у 1990 г., на якім павінны былі абраць новае кіраўніцтва, я не аднойчы раіўся з Карпюком, як дзейнічаць. Ён заўсёды адказваў аднолькава: «*Кіраваць Саюзам*». Якраз тады камандаванне Заходняй памежнай акругі заявіла, што калі я пакіну грамадскую дзейнасць, дык атрымаю магчымасць працягваць вайсковую кар’еру. Мне падавалася, што я магу адысці ад польскіх справаў, бо працэс пайшоў і не так важна, хто будзе ім кіраваць. Аднак, ведаючы пазіцыю Карпюка і адчуваючы вялікую адказнасць за польскую справу, я зрабіў выбар на карысць апошняй, менавіта застаўся польскім грамадскім дзеячам.

Гэты выбар паставіў кропку ў маёй вайсковай кар’еры. Праз год мяне звольнілі са службы ў прымусовым парадку. Мне было 40 гадоў. Савецкая дзяржава не толькі знішчыла маю вайсковую кар’еру, але і пазбавіла поўнай пенсіі па выслузе гадоў. Праз

некалькі дзён пасля звальнення я спаткаўся з Карпюком, які заўсёды раіў мне спалучаць службу ў арміі і грамадскую дзейнасць. Першы раз ён маўчаў[16].

У 1991–1992 гг. Карпюк шмат хварэў, аднак мы перыядычна сустракаліся. На пачатку ліпеня 1992 г. ён пачуўся вельмі кепска, і я наведаў яго дома. Гэты цяжка хворы чалавек паводзіў сябе настолькі нязмушана, быццам нічога не здарылася[17]. Праз некалькі дзён пасля нашай сустрэчы патэлефанавала яго жонка. Я адразу зразумеў, што здарылася самае страшнае...

Беларусь згубіла аднаго з найлепшых сыноў, а тутэйшыя палякі – свайго лепшага сябра[18]. Усё жыццё Карпюк змагаўся за Бацькаўшчыну, каб зрабіць яе незалежнай і еўрапейскай, у якой людзям розных нацыянальнасцяў жылося б аднолькава ўтульна. Калісьці я запытаў Карпюка, чаму ён дапамагае менавіта палякам. Ён адказаў: «*Можа, калі вы пачняце вывучаць сваю родную мову, будзеце мець польскія школы, тады і беларусы, нарэшце, пачнуць змагацца за свае правы*»[19].

Падчас пахавання Аляксея Карпюка ў Алеі заслужаных на гарадзенскіх могілках я вельмі перажываў. Увесь гэты час я думаў, чым магу аддзячыць за ўсё, што ён зрабіў для нас.

Ён памёр, так і не дачакаўшыся здзяйснення таго, аб чым прасіў у сваім лісце да М. Гарбачова. Пройдзе чатыры гады пасля яго-най смерці, і для польскіх дзетак адчыніць свае дзверы польская школа ў Гародні. Яшчэ праз тры гады пачне працаваць польская школа ў Ваўкавыску. Не ведаю, якімі былі б нашыя поспехі на ніве польскага Адраджэння, калі б не было Аляксея Карпюка. Без яго дапамогі і высокага маральнага аўтарытэту вырашыць усе тыя пытанні, якія паўставалі, было б куды больш складана.

---

[1] Бічэль Д. «Сэрца людское яднаецца з сэрцам сусвету…» // Карпюк А. Развітанне з ілюзіямі. Эсэ, апавяданні, дзённікі. Гародня-Wrocław, 2008. С. 5–27.

[2] GawinT. Zwycięstwa i porażki. Białystok, 2003 . S. 46–48, 52-53.

[3] Архіў Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Адама Міцкевіча. Тэчка нумар 2; Gawin T. Ojcowizna. Grodno-Lublin, 1993. S. 7–9.

[4] Gawin T. Zwycięstwa i porażki. S. 58.
[5] Gawin T. Ojcowizna. S. 14-15.
[6] Гавін Т. Пісьменнік і памежнік // Наша Ніва. 2002, 12 ліпеня. № 26. С. 11.
[7] Гавін Т. Беларус, які хваляваўся за ўсіх // Биржа информации. 2002, 11 ліпеня. № 28 (320).
[8] Тамсама.
[9] Тамсама.
[10] Гавін Т. Пісьменнік і памежнік. С. 11.
[11] Тамсама.
[12] Гавін Т. Беларус, які хваляваўся за ўсіх.
[13] Тамсама.
[14] Gawin T. Ojcowizna. S. 22.
[15] Гавін Т. Пісьменнік і памежнік. С. 11.
[16] ГавінТ. Беларус, які хваляваўся за ўсіх.
[17] Gawin T. Zwycięstwa i porażki. S. 257–258.
[18] Тамсама.
[19] Гавін Т. Пісьменнік і памежнік. С. 11.

*Аляксандр Краўцэвіч*
*доктар гіст. навук (Беласток)*

# І ўсё-такі мы гэта зрабілі...

Найперш хачу падзякаваць сп. Сцяпану Стурэйку за рэцэнзію на калектыўную беларуска-польскую працу «Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам» (рэд. А. Смалянчук. Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2014. – 514 с.)[1]. Рэцэнзія, акрамя цікавых заўвагаў і назіранняў, дае добрую магчымасць яшчэ раз акцэнтаваць унікальнасць нашага выдавецкага праекта, пра якую, на жаль, не здагадваецца шмат хто з яго адрасатаў-чытачоў (у тым ліку і рэцэнзент).

Акрамя таго, у рэцэнзіі нямала спрэчных выказванняў, ацэнак і рэкамендацый, якія правакуюць на дыскусію, да чаго заахвочвае і сам аўтар. Магчыма, дзеля гэтага (ці можа ад маладога запалу) рэцэнзент выкарыстоўвае даволі вострыя, часам на мяжы карэктнасці, фармулёўкі сваіх думак і ацэнак («*дагаварыліся нават да тэрміна «урбіцыд»*» – с. 404; «*няздольнасць супрацьстаяць суб'ектывізму крыніцы*» – с. 406; «*распіл» горада па этнічнай/нацыянальнай прыкмеце ідзе ўжо ў адкрытую*» – с. 406 і інш.).

Тэкст рэцэнзіі цікава, нават забаўна чытаць, бо акрамя жывых моўных зваротаў, у ім уражвае кантраст паміж агульнай мэтраўска-ментарскай танальнасцю, пэўнасцю высноваў, ацэнак і іх наіўнасцю, выкліканай слабымі ведамі гісторыі. У гэтым плане тэкст С. Стурэйкі таксама моцна кантрастуе з іншай рэцэнзіяй значна больш масцітага даследчыка – прафесара Адама Чэслава Дабраньскага з Беластоку, рэцэнзіяй даволі крытычнай, але пазбаўленай якога-небудзь ментарства[2].

Вось адзін з прыкладаў. С. Стурэйка, заўважыўшы, што значная частка кнігі «*напісана менавіта з нацыянальных пазіцый*», выводзіць: «*Улічваючы асабліва апошнія ўкраінскія падзеі,* ***нацыянальна арыентаваная гісторыя*** (выдзяленне маё – А. К.) – *гэта, у прынцыпе, добра*». І тут жа працягвае: «*актуалізуючы нацыянальнае пытанне ў гістарычным даследаванні, мы тым самым аўтаматычна ўключаем сябе ў даволі безперспектыўную ды інтэлектуальна спусташальную дыскусію*» (с. 403).

Цяжка ў гэта паверыць, але С. Стурэйка не чуў, што ў нашым рэгіёне, менавіта ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, прынамсі ўжо два стагоддзі ствараюцца паасобныя нацыянальна арыентаваныя, нават этнацэнтрычныя гістарыяграфіі, а іншых і не бывае[3]. І ўжо больш за дваццаць гадоў існуюць міжнародныя камісіі па справе падручнікаў гісторыі, праца якіх па збліжэнню гістарычнага наратыву суседніх народаў сутыкаецца з вялікімі цяжкасцямі (польска-беларуская не збіралася хіба ўжо з пятнаццаць гадоў). Але ўсё-такі наш рэцэнзент С. Стурэйка, хоць і з агаворкай «у прынцыпе», прызнаў рацыю быту нацыянальным гістарыяграфіям, і гэта цешыць, бо цяпер тысячы іх стваральнікаў – нябожчыкі і яшчэ жывыя гісторыкі – могуць спакойна спаць у сваіх магілах і ложках.

Рэцэнзент не заўважыў самае важнае ў нашай калектыўнай працы, насмелюся сказаць, унікальную з’яву ў гістарыяграфіі цэлага рэгіёну. Менавіта, упершыню ў гісторыі створана супольнае даследаванне мінуўшчыны памежнага горада гісторыкамі суседніх народаў, якія заяўлялі на яго правы. Польскі рэцэнзент праф. Дабраньскі гэта ацаніў і спецыяльна адзначыў, што падобнай працы не ўдалося напісаць ні пра Вільню, ні пра Львоў. Дадам: і доўга яшчэ не ўдасца па прычыне значна вастрэйшых у мінулым польска-украінскіх спрэчак за Львоў і польска-летувіскіх – за Вільню. Цешуся з рэалізацыі ў кнізе выдатнай ідэі праф. А. Смаленчука, менавіта ўшанавання ўкладу ў развіццё горада жыдоўскай супольнасці, раней амаль ігнараванага.

Праф. Дабраньскі трохі прыадкрывае закуліссе падрыхтоўкі да друку нашай кнігі, дзе перамовы, намовы, узгадненні цягнуліся даўжэй, чым пісаліся тэксты. Па гэтай прычыне забракавала часу для грунтоўнага рэдагавання і карэктарства, што відаць па даволі

шматлікіх арфаграфічных і стылёвых недакладнасцях у тэксце кнігі. Магчыма, адсутнасць сярод аўтараў некаторых польскіх калегаў выклікана якраз іх няверай у поспех справы. Спачатку планаваліся два аўтарскія калектывы – беларускі і польскі і, адпаведна, два рэдактары. Меркавалася, што некаторыя раздзелы будуць напісаныя сумесна, а іх суаўтары абазначаць у дужках розніцу ў поглядах і ацэнках. А самыя спрэчныя тэмы: «*напрыклад, перыяд, г. зв. «першых Саветаў» ад верасня 1939 да чэрвеня 1941 г., дзейнасць Арміі Краёвай, першыя пасляваенныя гады*» мелі быць напісанымі асобна беларусамі і палякамі[4].

Аднак удалося так падрыхтаваць, адкарэктаваць і ўзгадніць тэксты (ведаю, пра што кажу, бо перакладаў польскіх калегаў), што яны добра ўклаліся па храналогіі, незалежна ад нацыянальнасці аўтара. Тое няпроста давалася самім аўтарам. Польскі сябар скардзіўся, маўляў, пішу тэкст, стараюся быць максімальна аб'ектыўным, а назаўтра раніцай перачытваю, бачу: «*Polak pisał!*». Беларускі аўтар таксама наракаў на сябе, што ў яго тэксце заўважныя невыкараняльныя беларускія падыходы і ацэнкі. Але, галоўнае, гэтыя падыходы і ацэнкі не прывялі да канфрантацыі, а да «*узаемнага ўшанавання польскага і беларускага ўкладу ў развіццё горада ў прасторы стагоддзяў*». Усё-такі нам гэта ўдалося! Польскі рэцэнзент пахваліў: «*Анансаваная праца добра сведчыць асабліва пра асяродак гарадзенскіх гісторыкаў, якія маюць кантакты з калегамі з іншых асяродкаў (і дзяржаў) і якія адкінулі «высока зацверджаныя» схемы*» (С. 136). А шаноўнаму беларускаму рэцэнзенту С. Стурэйку у кнізе ўбачыўся «*распіл» горада па этнічнай/нацыянальнай прыкмеце*», «*няўдачы канцэптуальнага характару*» (с. 410). Тут ужо, як хто ўмее глядзець.

Калі С. Стурэйка і хваліць працу, то заўсёды з негатыўным падтэкстам: «*Кніга неверагодна добрая для школьнікаў ці студэнтаў, якім неабходна напісаць рэферат*» (але дадае, што непрафесійнага чытача можа адстрашыць «шчыльная факталогія»); ці: атрымаўся «*…зборнік, кампедыум нядрэнных нарысаў, складзены ў храналагічнай паслядоўнасці*» (але не суцэльная і завершаная гісторыя горада) (с. 410).

У рэцэнзента, які вырас у незалежнай Беларусі, выяўляюцца

даўнія савецка-расейскія падыходы адносна напісання і выдання працаў па гісторыі, менавіта, што яны павінны быць справай нейкіх дзяржаўных інстытутаў, а не грамадскай ініцыятывы (с. 402). Адкажу, што ў нас, у Еўропе, тое можа рабіцца інакш. Неяк давялося пазнаёміцца з сістэмай адукацыі Даніі, і выявілася, што там дзяржава не мае дачынення нават да падрыхтоўкі падручнікаў па гісторыі – гэтым займаецца грамадская арганізацыя – асацыяцыя гісторыкаў.

Рэцэнзенту здаецца, што незалежныя гарадзенскія гісторыкі пішуць свае працы ў «*адказ на знешні ціск*» (мае на ўвазе сучасную гарадзенскую ўладу і КДБ) і гэта «*часам перашкаджае ўзважанасці ды аб'ектыўнасці аўтарскіх ацэнак і ўплывае на іх танальнасць*» (с. 403). Лічыць, што «*варта было галоўнаму рэдактару пайсці ў ва-банк* (не разумею, прычым тут «ва-банк?» – А. К.) і *запрасіць да ўдзелу ў выданні не толькі тых, хто не працуе ў дзяржаўных установах, але ўсіх, хто можа напісаць годныя тэксты*» (с. 410).

З гэтым нельга пагадзіцца. Па-першае, з адзінаццаці аўтараў кнігі шэсць працуюць у дзяржаўных установах. Па-другое, напрыклад, я (мяркую, мае калегі таксама) не адчуваю знешняга ціску і не лічу сябе нейкім падпольшчыкам, які вядзе контрпрапаганду праз самвыдат. Мы спакойна працуем, ствараем і друкуем свае кнігі, у тым ліку ў «Гарадзенскай бібліятэцы», выданні якой як па якасці зместу, так і па тэхнічным ўзроўні друку стаяць непараўнальна вышэй за прадукты, напрыклад, выдавецтва дзяржаўнага Гарадзенскага ўніверсітэта. І ў натуральнай канфрантацыі беларускіх гісторыкаў з мясцовай лукашысцкай уладай невядома чый ціск мацнейшы: іх праз службовыя рэпрэсіі ці наш праз якасць і колькасць друкаванай прадукцыі.

Увогуле, С. Стурэйка – патрабавальны і суворы рэцэнзент. Ён нібы хапае аўтараў за каўнер і вытрасае з іх: «*Якая логіка развіцця горада? Дзе аналітыка па масавых крыніцах? Дзе канцэпцыі, інтэрпрэтацыі і гіпотэзы?*», «*Што займала думкі гарадзенцаў? Практычна не раскрыта гісторыя гарадскіх супольнасцяў…*», «*Нарэшце, як змянялася колькасць жыхароў горада? На якія хваробы яны хварэлі?*», «*Чаму не даецца практычна ніякіх адсылак да прыкладаў іншых усходнеславянскіх гарадоў…?*» (с. 408–409)

і г. д. Пры гэтым не заўважае, што паўтарае тыповую памылку рэцэнзента-пачаткоўца, парушаючы правіла: рэцэнзуецца тое, што аўтары напісалі, а не тое, чаго яны не пісалі.

Калі казаць пра заўвагі да маёй часткі тэксту, то яны проста непрафесійныя. Рэцэнзенту «*застаецца незразумелым, чым жа гарадзенцы 11 ст. адрозніваліся ад нас і ці наогул было адрозненне?*» (с. 407). Усё ж такі мы пісалі тэкст для людзей, якія маюць хаця б базавую гістарычную адукацыю на ўзроўні сярэдняй школы. Але паведамляю С. Стурэйку, што гарадзенцы 11 ст. не адрозніваліся ад нас у антрапалагічным плане, бо належалі да таго ж біялагічнага віду *Homo sapiens*, толькі агулам былі драбнейшыя па габарытах. Нейкую асабістую інфармацыю пра іх жыццё мы перадаць не можам, бо з 11 ст. пра Гародню не захавалася ніводнай (!) пісьмовай звесткі. Па дадзеных археалогіі, мы ведаем, у якіх дамах яны жылі, якую мелі рэлігію, да якіх этнічных супольнасцяў адносіліся, пра што я і пішу ў сваім раздзеле.

Для рэцэнзента сувязь пачатку мураванага будаўніцтва ў Гародні з эканамічным уздымам горада сумнеўная, у адрозненне ад людзей, якія атрымалі інфармацыю пра сярэднявечча са школьных падручнікаў. У 12 ст. адбываўся дэмаграфічны і эканамічны ўздым па ўсёй Еўропе, які сваёй вяршыні дасягнуў у першай палове 13 ст. Менавіта тады паўсюдна разгарнулася будаўніцтва мураваных храмаў, якое было вельмі дарагой справай, і не выпадкова перарвалася ў 14 ст., падчас агульнаеўрапейскага крызісу.

«Геапалітычную» арыентацыю гарадзенскіх князёў 13 ст. я не аднаўляю (што прыпісвае мне рэцэнзент), бо тады, па-першае, яшчэ не існавала геапалітыкі; па-другое, невядома, ці існавалі тады гарадзенскія князі (а не прысланыя намеснікі з Галіцка-Валынскага княства, ці можа, з Наваградка), таму нідзе ў тэксце гарадзенскіх князёў 13 ст. не ўпамінаю. Што тычыцца «невыразнасці», на думку рэцэнзента, летапісных запісаў адносна палітычнай арыентацыі гарадзенцаў, то, наадварот, лічу іх вельмі выразнымі, пра што неаднакроць пісаў[5]. Гэтаксама, у 13 ст. «*каштоўнасці адзінаверства*» як і этнічнае сваяцтва былі не менш, а больш трывалымі і актуальнымі, чым у нашыя часы.

Разважанні рэцэнзента перастаюць забаўляць, калі справа

даходзіць да канцэптуальных рэчаў. Бо іх інтэрпрэтацыя стварае ўражанне, нібыта ў сп. С. Стурэйкі цалкам атрафіравана пачуццё патрыятызму і ён атрымлівае задавальненне ад прыніжэння і ахайвання гісторыі свайго гораду. Так, С. Стурэйка, гарадзенец па нараджэнні, крытыкуе аўтараў за «*актуалізацыю тэмы сталічнасці Гародні*». Ён пераконвае, што Гародня пад азначэнне сталічнасці не падыходзіць, маўляў, функцыі сталіцы горад выконваў усяго некалькі разоў і вельмі непрацяглы час. «*Гэта практычна не адбілася на яго абліччы (калі не лічыць руінаў Старога замка)*». Як быццам С. Стурэйка не чуў ні пра Новы замак, спецыяльна збудаваны для правядзення соймаў і прыёму каралёў, ні пра магнацкае будаўніцтва, звязанае з тымі ж соймамі, каралеўскія загарадныя сядзібы і інш.

Па Стурэйку, лепш было б назваць кнігу «*Правінцыйны горад з каралеўскім лёсам*» (с. 403). Але ў той самы час старонні чалавек, польскі рэцэнзент праф. А. Дабраньскі, уступаецца за Гародню і крытыкуе аўтараў, наадварот, за прыніжэнне сталічнага статуса Гародні ў назве кнігі: «*Гародня была таксама сталічным горадам па прычыне правядзення ў ёй соймаў Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, сталіцай вялікай губерні, бо з далучанай Беластоцкай вобласцю. Прымала шмат знакамітасцяў (напрыклад, караля Стэфана Баторыя), захапляла – і надалей захапляе, прыгожым краявідам і пабудовамі, увайшла ў гісторыю культуры некалькіх народаў і ў біяграфіі творцаў (напрыклад, Элізы Ажэшка*)»[6].

Той жа беластаччанін праф. А. Дабраньскі раіць «*папулярызаваць дасягненні гарадзенскай архітэктурнай школы 12 ст.*», а С. Стурэйка ўвогуле адмаўляе існаванне гэтай школы і лічыць, што нельга казаць пра якую-небудзь школу, калі паверыць, што аўтарам усіх гарадзенскіх цэркваў быў адзін чалавек (с. 408) (як быццам адзін чалавек не можа стварыць школу). Мой выраз: «*не мае аналагаў у свеце*», расцэньвае як («*стыль «Советской Белоруссии»!?*»).

Казус вось у чым: буйнейшыя замежныя спецыялісты з сусветнымі імёнамі, у тым ліку праф. Павал Рапапорт, які спецыяльна працаваў у Гародні, не змаглі далучыць яе да ніякай іншай тагачаснай архітэктурнай школы і былі вымушаныя прызнаць асобнай з’явай у архітэктуры: «*И в конце 12 в. внезапно и ярко проявилась*

*совершенно новая архитектурная школа в древнем Городенском (Гродненском) княжестве*»[7]. А малады навуковец, гарадзенец і беларус (прынамсі па грамадзянстве) С. Стурэйка, наадварот, не ўпускае моманту прынізіць сваё. На жаль, гэта не адзінкавы выпадак сярод беларускіх інтэлектуалаў. Магчыма, тут спрацоўвае цяперашняя лукашысцкая сістэма адукацыі, якая фармуе своеасаблівы феномен свядомасці – «сіндром халопства», калі сваё *a priori* ўяўляецца горшым за чужое.

С. Стурэйка чамусьці адчувае крыўду за расейскую спадчыну ў Гародні, недаацэненую, на яго думку, аўтарамі. Папярэдзіўшы, што «*бачыць бог, я не русафіл*» (як быццам гэта нешта заганнае ці непрыстойнае), рэцэнзент нахвальвае расейскія часы (19 – пачатак 20 ст.), прыводзячы сапраўдныя факты: горад стаў амаль мураваным, з'явіліся водаправод, пажарная вежа, лютэранская кірха, вялося будаўніцтва сінагог ды выдатных мастоў (с. 404). Праўда, у еўрапейскіх краінах у той самы час, падобная інфраструктура развівалася нашмат інтэнсіўней, бо там эпоха індустрыялізацыі пачалася раней, чым у Расейскай імперыі.

С. Стурэйка не верыць аўтарам, што расейскія ўлады імкнуліся сцерці ўсе праявы еўрапейскасці. Для яго такая выснова «*Гучыць страшна*!». Але я асабіста ў Ваенна-гістарычным архіве ў Маскве трымаў у руках план перапланіроўкі Гародні з пачатку 20 ст., у якім якраз прадугледжвалася знішчэнне гістарычнай еўрапейскай планіровачнай структуры горада. Расейцы гэта зрабілі ў нашых усходніх гарадах (Полацку, Віцебску, Магілёве і інш.), а ў нас не паспелі, бо пачалася першая сусветная вайна.

Гісторык архітэктуры з Масквы ацаніў тыя часы ў Гародні як хуткае развіццё горадабудаўніцтва (транспарту, сувязі, інжынерныя збудаванні) і пераважна хаатычную забудову з ігнараваннем «мастацкіх патрабаванняў». «*Застройка велась домами с разноликой, большей частью безвкусной архитектурой сообразно с финансовыми возможностями и вкусом заказчиков... Сухостью, официальностью веет от больших казарменных зданий, построенных в последнюю треть 19-го и первые годы 20 в. Близка к ним и архитектура Народного дома*»[8].

С. Стурэйка таксама сцвярджае, што ў савецкі час збудавалі

многа вартага, «*большасць будынкаў у цэнтры горада, пабудаваныя за савецкім часам, нават не будучы шэдэўрамі самі па сабе, упісаныя ў гістарычнае асяроддзе даволі тактоўна*» (с. 405). Гэтае сцверджанне – увогуле нейкі аксюмарон. Савецкія архітэктары Гародні «тактоўна» збурылі «басняцкія дамкі» на вул. Ажэшкі, «тактоўна» ўзарвалі Фарны касцёл, «тактоўна» знеслі квартал гістарычнай забудовы пад будынак аблвыканкама, «тактоўна» засыпалі Гараднічанку, каб паставіць помнік Леніну і будынак гаркаму кампартыі, «тактоўна» збудавалі пачварны панэльны дом за 20 м ад каралеўскай сядзібы ў Станіслававе, «тактоўна» вынішчылі прыгарадныя шляхецкія сядзібы з паркамі і г. д. і г. д. Моўную русіфікацыю гарадзенцаў С. Стурэйка лічыць «*рускім патэнцыялам горада*», які нельга недаацэньваць (с. 406).

Чамусьці яму здаецца, што кніга моцна спазнілася і «*павінна была з’явіцца як мінімум у пачатку 1990-х гг. Сумна, што менавіта з пункту гледжання папулярызацыі гісторыі горада яна ўсё яшчэ захоўвае сваю надзвычайную актуальнасць*» (с. 410). Іншы рэцэнзент праф. А. Даброньскі не сумуе з гэтай нагоды, а, наадварот, радуецца, ды лічыць кнігу каштоўнай і наватарскай, спадзяецца, што яна стане прыкладам для наступных падобных прац[9].

Пасля прачытання рэцэнзіі С. Стурэйкі складваецца ўражанне, быццам гэты малады чалавек, паводле анатацыі: «*гісторык, культурны антраполаг, выкладчык Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта*», з’явіўся да нас з нейкай іншай залюстэркавай краіны з такой самай назвай, як наша Беларусь, але ў якой усё бачыцца наадварот і дзе мала чаго ёсць беларускага.

Увогуле, жанр рэцэнзіі – складаная і адказная справа не толькі для яе аўтара, але і для рэдактара выдання, якое рэцэнзію публікуе. Ці ўкладаецца яе тэкст, хай і напісаны з апломбам самаўпэўненым аўтарам, у рамкі навуковасці? Падобнага роду востра крытычныя рэцэнзіі ў салідных перыёдыках, да якіх адносіцца «Arche», прынята публікаваць разам з адказам аўтара, у нашым выпадку рэдактара, кнігі. Прынамсі, так дыктуе логіка і этыка навуковай дыскусіі.

---

[1] Стурэйка С. Новае люстэрка гарадзенскай гістарыяграфіі // Arche 7–8 (128–129). Ліпень-жнівень 2014. С. 400–410.

[2] Dobroński A. Cz. *Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам*, Гародня 2014, 513 с. [*Grodno X–XX w. Królewskie miasto z prowincjonalnym losem*, Grodno 2014, s. 513] // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2013. S. 135–139.

[3] Ферро М. Как рассказывают историю детям в разных странах мира. Москва, 1992.

[4] Dobroński A. Cz. *Гародня X–XX стст…*S. 135.

[5] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток, 2008. С. 151–152.

[6] Dobroński A. Cz. *Гародня X–XX стст…* S. 135.

[7] Раппопорт П. А. Древнерусская архитектура. Санкт-Петербург, 1993. С. 87.

[8] Кудряшов В. И. Гродно. Москва, 1960. С. 90–92.

[9] Dobroński A. Cz. *Гародня X–XX стст…* S. 139.

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Акудовіч Цімафей,** магістр гістарычных навук. Сфера інтарэсаў: гісторыя апошніх гадоў Рэчы Паспалітай.

Асноўныя публікацыі:

Спроба стварэння аўтаномнай праваслаўнай царквы на Вялікім Сойме Рэчы Паспалітай 1788–1792 гг. // Український історичний збірник, Вып. 11. Кіеў, 2008. С. 92–98;

Унія Польшчы і ВКЛ на Чатырохгадовым сойме: гістарыяграфія пытання // Україна крізь віки: Збірник наукових праць на пошану академіка НАН України професора Валерія Смолія. Кіеў, 2009. С. 845–856;

Прынцып «трох правінцый» і уніфікацыйныя тэндэнцыі на Чатырохгадовым сойме // Беларускі гістарычны агляд. 2009. Т. 16. Сш. 2. С. 403–420.

**Амбралевічутэ Аэліта** (**Aelita Ambrulevičiūtė**), доктор гуманитарных наук (история), научная сотрудница Вильнюсского университета (факультет истории). Сфера интересов: социоэкономическое развитие общества, история повседневности Литвы в XIX веке.

Основные публикации:

Vilnius Jews Merchants 1801–1861 (list). Vilnius, 2011;

Economic Relations between JewishTraders and Christian Farmers in the Nineteenth-Century Lithuanian Provinces // Polin: Studies in Polish Jewry, 2012, Volume 25, pp. 71–91;

Changes in the Vilnius, Kaunas and Grodno Provinces Peasants' Approach To Consumption in the Second Half of the 19th – Early 20th Centuries // Revista Română de Studii Baltice şi Nordice / The Romanian Journal for Baltic and Nordic Studies. Vol. 5, Issue 2 (2013), p. 91–118.

Vartotojų visuomenės užuomazgos Lietuvoje (XIX a. antra pusė – XX a. pradžia) (Зачатки потребительского общества в Литве (вторая половина XIX – начало XIX веков) // Sociologija. Mintis ir veiksmas 2013/2 (33), p. 134–158.

**Бойко Володимир**, кандидат історичних наук, директор Чернігівського центру перепідготовки та підвищення кваліфікації працівників органів державної влади, органів місцевого самовря-

дування, державних підприємств, установ і організацій. Сфера наукових інтересів: діяльність органів місцевого самоврядування періоду Української революції 1917–1921 рр.

Основні публікації:

Участь українських партій у муніципальній кампанії 1917 р. // Укр. іст. журнал. 1997. № 5. С. 25–40;

1917 рік на Чернігівщині: історико-краєзнавчий нарис. Чернігів: Сіверянська думка, 2003. 128 с. (у суаўтарстве);

Владні інституції Чернігово-Сіверщини: ілюстрована історія. Чернігів, 2014. 192 с. (у суаўтарстве).

**Вароніч Тацяна**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Працуе ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Навуковыя інтарэсы – урбаністыка, гістарычная антрапалогія.

Асноўныя публікацыі:

Прастытуцыя ў гарадах Беларусі: другая палова XIX – пачатак XX стст. / ARCHE пачатак. 2011. № 11. С. 347–383;

Город и проституция: из истории повседневности Гродно (вторая половина XIX – начало XX вв.) // Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV–XX ст. / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Мінск, 2012. С. 260–290;

Криминальный мир губернского города Гродно вторая половина 19 – начало 20 веков // Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. / Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. Гародня, 2013;

История проституции в городах Беларуси второй половины XIX – начала XX в. на основе анализа законодательных и нормативно-правовых документов Российской империи // Джерела локальної історії. Культурний побут городян XVIII – першої половини XX ст. Збірник наукових праць. Київ: Інститут української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського НАН України, 2013. С. 404–416.

**Вашкевіч Андрэй**, гісторык і краязнаўца. Сфера інтарэсаў: беларускі нацыянальна-вызваленчы рух перашай паловы XX ст., этнаканфесійная гісторыя Гарадзеншчыны, гісторыя архітэктуры Гародні, гісторыя міжваеннай Гародні.

Асноўныя публікацыі:

Паміж Ласоснай і Чорнай Ганчай. Гісторыя каталіцкіх парафій у паўднёва-усходняй частцы Аўгустоўскай пушчы. Мінск: Зміцер Колас, 2006. 127 с. (у суаўтарстве);

На гродзенскім бруку. Вандроўка па фабрыках і прадпрыемствах старога Гродна. Гродна: ЮрСаПрынт, 2012. 100 с.;

Ад Фартоў да Каложы. Біяграфія Гарадзенскіх вуліц. Гародня-Вроцлаў: Гарадзенская бібліятэка, 2012. 370 с. (у суаўтарстве).

**Гавін Тадэвуш** (**Tadeusz Gawin**), PhD (доктар гуманітарных наук у галіне гісторыі), польскі грамадскі дзеяч. Сфера интарэсаў – гісторыя польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі ў XX–XXI стст.

Асноўныя публікацыі:

Zwycięstwa i porażki. Białystok, 2003. 583 s.;

Związek Polaków na Białorusi 1988-2005. Historia działalności. Białystok, 2007. 586 s.;

O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991. Grodno-Białystok, 2013. 631 s.

**Галубовіч Віталь**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры грамадскіх навук Гарадзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэту. Сфера інтарэсаў: гісторыя ВКЛ XVI–XVIII стст.

Асноўныя публікацыі:

Miscellanea historica polocensia = Даследаванні па гісторыі Полаччыны XII–XVII стст. Гродна : ГДАУ, 2014. 224 с.;

Unus pro omnibus : Валовічы ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага XV–XVIII стст. / склад. А. Я. Янушкевіч; навук. рэд. А. І. Шаланда. Мінск: Медысонт, 2014. 508 с. [у суаўтарстве];

Збіццё як элемент крымінальнай штодзённасці (паводле спраў гарадзенскіх судовых установ 1539–1565 гг.) // Гарадзенскі соцыум 2013. Гісторыя і памяць. XV–XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 9–10 лістапада 2013 г.) / Пад рэд. А. К. Краўцэвіча і А. Ф. Смаленчука. Гародня, 2014. С. 91–101.

**Ганецкая Ірына**, кандыдат гістарычных навук, археолаг, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Навуковыя інтарэсы: горад і замак (XI–XVIII стст.), археалогія помнікаў архітэктуры.

Асноўныя публікацыі:

Маёліка на Беларусі XI – XVIII стст. Мн., 1995;

Будаўнічыя матэрыялы і будаўнічая тэхніка ў культавым дойлідстве Полацкай зямлі XI–XIII стст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. № 6. Мінск, 2003. С. 26–40;

Харчаванне ў беларускіх замках 16–18 стст. // Беларускі гістарычны агляд. Том 19. Сшыткі 1–2 (36–37). 2012. С. 67–91.

**Дабронськi Адам (Adam Czesław Dobroński),** dr hab., profesor Uniwersytetu w Białymstoku. Historyk wojskowości, dziejów Polonii i Polonii poza granicami kraju. Członek honorowy Polskiego Towarzystwa Historycznego i kilku regionalnych towarzystw naukowych, członek kilku rad muzealnych i redakcji czasopism, popularyzator dziejów Podlasia, Mazowsza, byłych Kresów Rzeczypospolitej.

Ostatnie ważniejsze publikacje:

W służbie narodu. Związek Inwalidów Wojennych. Dzieje okręgów. Warszawa, 2014. 600 s.;

Historia Białegostoku. Białystok, 2012. 671 s. (red. i teksty rozdz.);

Historia województwa podlaskiego. Białystok, 2010. 356 s. (red. i teksty rozdz.).

**Зорина Любовь**, искусствовед.

Основные публикации:

Художественный металл в Гродно. Каталог. Гродно, ЮрСаПринт, 2012;

Художник Яков Авксентьевич Зенькович. 1818–1888(?). Гродно, ЮрСаПринт, 2011;

**Зубко Ольга**, кандидат исторических наук, специалист Центра международных связей и деятельности Винницкого национального аграрного университета. Сфера интересов: политическая, социально-экономическая и культурно-образовательная стороны жизни украинской и белорусской эмиграции в ЧСР в 1920-е – 1930-е гг.; украинская диаспора в Беларуси в 1991–2015 гг.

Основные публикации:

Білоруське громадське об’єднання українців «Ватра»: філії «Дніпро» (м. Могилів) та «Заповіт» (м. Мінськ) (1991–2014) // Наукові записки. Серія Історія. Збірник доповідей Шостої міжнародної наукової конференції «Українська діаспора: проблеми дослідження». Острог, 2014. С. 14–21;

Штодзённае (побытовае) жыццё беларускіх пражанаў у 1920-х – 1930-х гг. // Zapisy 37. Belarusan Institute of Arts and Sciennces. New York – Miensk. 2014. S. 627–636.

**Игнатович Галина**, музыковед. Научные интересы: история развития музыки и музыкальной культуры в Беларуси и Гродно.

Основные публикации:

Александр Карлович Тальгейм – врач и руководитель Гродненского общества любителей драматического и музыкального искусства «Муза» // История медицины и здравоохранения Гродненщины: матер. науч. конф. Гродно, 1995. Ч. 1. С. 11–12;

Milosnicy sztuki dramatycznej i muzycznej // Magazyn Polski. 1998. № 2. S. 53–54.

**Игнатович Фёдор**, кандидат медицинских наук. Научные интересы: гигиена и эпидемиология, история медицины, биологии и экологии. Автор 350 научных работ.

Последние из публикаций:

Гродненский врач Б. К. Заблоцкий – участник восстания 1863–1864 гг. // Международная научно-практическая конференция «Медицина на рубеже веков: К 100-летию Первой мировой войны». Сб. матер. Гродно: ГрГМУ, 2014. С. 171–175;

Научная библиотека Гродненской медицинской академии: создание, деятельность и судьба // Журнал Гродненского государственного медицинского университета (ГрГМУ). 2014. № 4. С. 115–119;

**Касатая Таццяна**, магістр гістарычных навук, дактарантка Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук. Сфера навуковых інтарэсаў: рэлігійная палітыка ў БССР у 1940–1980-я гг., вусная гісторыя, гісторыя Гародні XX ст.

Асноўныя публікацыі:

Кінатэатры як публічная прастора Гародні ў 1930-я гг. // Arche № 11, 2014. С. 354–370;

Эвангельскія хрысьціяне-баптысты ў БССР у 1944 – пачатку 1950-х гг. // Arche № 1–2 (112–113). Студзень – люты 2012. С. 138–151;

Вусная гісторыя ў даследаванні евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР // Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі / Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. Мінск: Зміцер Колас, 2015. С. 233–243.

**Киштымов Андрей**, кандидат исторических наук. Занимается вопросами социально-экономической истории, истории предпринимательства Беларуси, истории этнического самосознания, конфессиональной истории, истории науки и техники и проблемами

историографии. Автор более 280 публикаций в научных изданиях Беларуси, Германии, США, Великобритании, Польши, Чехии, России, Украины, Литвы, Эстонии, Киргизии.

**Кондратьєв Ігор,** кандидат історичних наук, доцент кафедри всесвітньої історії Чернігівського національного педагогічного університету імені Т. Г. Шевченка. Коло наукових інтересів – історія дрібношляхетської верстви Київського воєводства Великого князівства Литовського та Речі Посполитої. Сайт дослідника: http://www.igor-condr.narod.ru/.

Основні публікації:

Любецьке староство (XVI – середина XVII ст.). Чернігів, 2014.

Шляхта Любецького староства у 1571 р. // Беларусь і суседзі: шляхі фарміравання дзяржаўнасці, міжнацыянальныя і міждзяржаўныя адносіны. Зборнік навуковых артыкулаў. Вып. 1. Гомель, 2012. С. 6–10.

Древнерусские города-замки как центры формирования военнослужебного сословия Великого княжества Литовского // Древняя Русь и средневековая Европа: возникновение государств. Международная конференция. Материалы. Москва, 2012. С. 93–96.

**Краўцэвіч Аляксандр**, доктар гіст. навук, прафесар Вышэйшай школы публічнай адміністрацыі ў Беластоку. Займаецца гісторыяй сярэднявечнай Беларусі.

Асноўныя публікацыі:

Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377 г. Гародня-Уроцлаў, 2015. 302 с.;

Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс: ЕГУ, 2011. 212 с. (у суаўтарстве);

Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Беларуская навука, 1998. 208 с.;

Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14–18 ст.: Планіроўка, культурны слой. Мн.: Навука і тэхніка, 1991. 171 с., іл.

**Лебедзева Валянціна**, гісторык. Сфера навуковых інтэрэсаў: беларускі нацыянальны рух, гісторыя Гомеля пачатку XX ст., жыццё і навуковая спадчына М. В. Доўнар-Запольскага.

Аўтар больш за 200 публікацый, сярод якіх біяграфічнае даследаванне пра П. Бадунову (Мінск: Тэхналёгія, 2004). Адна з арганізатараў Міжнародных навуковых Доўнараўскіх чытанняў у

Рэчыцы, адказны рэдактар I–VII тамоў зборнікаў «Доўнараўскія чытанні». Сябра рэдакцыі «Беларускай гістарычнай энцыклапедыі».

**Мілеўскі Ян (Jan Jerzy Milewski),** dr. Autor ponad 200 publikacji w tym m. in. «Województwo białostockie. Zarys dziejów (1919–1975). Białystok, 2011; współautor «Wokół Jedwabnego». T. 1, 2. Warszawa, 2002. Redaktor «Biuletynu Historii Pogranicza».

**Міхайлік Ларыса,** PhD (доктар паліталогіі), сакратар рэдакцыі навуковага зборніка Гарадзенскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі «Studia Theologica Grodnensia». Сфера інтарэсаў: гісторыя каталіцкага Касцёла ў Беларусі, гісторыя Гародні перыяду 1921–1939 гг.

Асноўныя публікацыі:

Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956. Warszawa, 2008. 351 c.;
Posłane, by służyć. Grodno, 2009. 192 c.;
Няхай сведчанне іх веры не забудзецца. Непакалянаў, 2000. 154 с.

**Радзюк Аляксандр**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Працуе ў Гарадзенскім Дзяржаўным аграрным універсітэце, загадчык кафедры беларускай і замежных моваў. Сфера навуковых інтарэсаў – нацыянальна-вызваленчы рух на землях Беларусі ў ХІХ ст., рэпрэсіўная палітыка царызму ў гэты ж перыяд, штодзённае жыццё Гародні ў ХІХ ст. Адзін з сааўтараў кнігі «Гародня Х–ХХ стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам» (Гародня, 2014).

**Сабалеўская Вольга,** гісторык і культуролаг, кандыдат культуралогіі, дацэнт кафедры філасофіі, паліталогіі і псіхалогіі Беларускага інстытуту правазнаўства (Гарадзенскі філіял). Сфера інтарэсаў: культура габрэяў мяжы аселасці Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.), гісторыя Беларусі, гістарычная ўрбаністыка.

Асноўныя публікацыі:

Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гарадзенскіх габрэяў. Гародня, 2000. 87 с.

Евреи Гродненщины: Жизнь до Катастрофы. Донецк: Норд-Пресс, 2005. 375 с. (у суаўтарстве);

Повседневная жизнь евреев Беларуси в конце XVIII – перв. пол. XIX века. Гродно: ГрГУ, 2012. 443 с.

**Саяпін Віктар,** историк таможенной службы, краевед, публицист, сценарист, лауреат премии им. Юзефа Иодковского. Изучает историю таможенной службы Беларуси, историю Гродно XIX–XX вв.

Основные публикации:

Таможенная служба. Т. 1, 2. Гродно. 2005;

История гродненских площадей. Гродно, ЮрСаПринт, 2011;

История общественного транспорта в Гродно. Гродно ЮрСаПринт,. 2012;

Ад Фартоў да Каложы. Біяграфія Гарадзенскіх вуліц. Гародня-Вроцлаў: Гарадзенская бібліятэка, 2012. 370 с. (в соавторстве);

*Hrono* Гродно. История Гродно на страницах газет. Гродно, ЮрСаПринт. 2013;

Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам / Пад рэд. А. Смаленчука. Гродна, 2014 (в соавторстве).

**Семянчук Альбіна,** кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры турызму і культурнай спадчыны Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя гістарычнай думкі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVI стст. Наратыўныя крыніцы эпохі ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

Асноўныя публікацыі:

Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гародня, 2000. 161 с.;

Фарміраванне нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі ў ВКЛ: спроба рэканструкцыі // Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. У 6 т. Т. 2. Протарэнесанс і Адраджэнне / С. І. Санько і інш.; НАН Беларусі. Мн., 2010. С. 593–605;

Гістарыясофія Мацея Стрыйкоўскага (1547-1593) // Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думку Беларусі. У 6 т. Т. 2. Протарэнесанс і Адраджэнне / С. І. Санько і інш.; НАН Беларусію Мн., 2010. С. 739–752;

К вопросу об источниках хроники Мацея Стрыйковского // Славяноведение. 2014. № 2. С. 62–77.

**Соркіна Іна,** кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Сфера навуковых зацікаўленняў: гістарычная урбаністыка, гісторыя беларускіх мястэчак, гісторыя габрэяў Беларусі. Аўтар каля 130 навуковых публікацый, у тым ліку манаграфіі «Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.» (Вільня: ЕГУ, 2010)

**Трубчык Алена,** гісторык, выкладчык кафедры філасофіі і гісторыі Беларускага Дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта. Сфера інтарэсаў: школьная адукацыя на тэрыторыі Беларусі ў час польска-савецкай вайны (1919–1921), гісторыя Беларусі навейшага часу, ваенная гісторыя.

Асноўныя публікацыі:

Школьная адукацыя на тэрыторыі Беларусі ў час польска-савецкай вайны (1919–1921 гг.): агляд гістарыяграфіі і крыніц // Гісторыка-археалагічны зборнік. Вып. 25. Мінск, 2010. С. 89–96;

Сістэма польскіх органаў кіравання ў галіне народнай асветы на тэрыторыі Беларусі ў 1919–1920 гг.: адміністрацыйна-прававы аспект // Научные труды Республиканского института высшей школы. Исторические и психолого-педагогические науки: сб. научных статей. В 2 ч. Ч. 1. Вып. 11. / РИВШ; под. ред. В. Ф. Беркова. Минск, 2011. С. 264–270.

**Швед Вячаслаў,** доктар гістарычных навук, прафесар, вольны гісторык.

Сфера навуковых інтарэсаў: палітычная і эканамічная гісторыя Беларусі другой паловы 18–19 ст. Аўтар больш як 300 навуковых публікацый.

Асноўныя публікацыі:

Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. Мн., 1998;

Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. Гродна, 2006 (у суаўтарстве); Масоны і ложы на землях Беларусі. Канец XVIII – першая палова XIX ст. Гродна, 2007.

*Навуковае выданне*

# ГАРАДЗЕНСКІ СОЦЫУМ ЧАЛАВЕК У ПРАСТОРЫ ГОРАДА. XV–XX СТСТ.

Адказны за выпуск *Зміцер Колас*.

Падпісана ў друк 17.08.2015.
Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Усл. печ. л. 22,67. Ул.-выд. арк. 19,21.
Наклад 150 асобнікаў.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.